В. М. Фамін, С. В. Паноў, Н. М. Ганушчанка

# ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ

## другая палова 1940-х гг. — пачатак XXI ст.

Вучэбны дапаможнік для 11 класа
ўстаноў агульнай сярэдняй адукацыі
з беларускай мовай навучання

Пад рэдакцыяй доктара гістарычных навук
прафесара В. М. Фаміна

*Дапушчана*
*Міністэрствам адукацыі*
*Рэспублікі Беларусь*



МІНСК
НАЦЫЯНАЛЬНЫ ІНСТЫТУТ АДУКАЦЫІ
2013

УДК 94(476)(075.3=161.3)
ББК 63.3(4Беи)6я721
Ф20

Р э ц э н з е н т ы:

кафедра гісторыі Беларусі ўстановы адукацыі «Віцебскі дзяржаўны універсітэт імя П. М. Машэрава» (канд. гіст. навук, дац., заг. кафедры *В. У. Акуневіч*, канд. гіст. навук, дац. *М. М. Пархімовіч*);

метадыст выш. катэгорыі аддзела грамадска-гуманітарных і эстэтычных дысцыплін дзяржаўнай установы адукацыі «Мінскі гарадскі інстытут развіцця адукацыі» *Л. У. Жэрка*;

выкладчык гісторыі выш. катэгорыі дзяржаўнай установы адукацыі «Ліцэй Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта» *Т. Ф. Ходзіна*;

д-р гіст. навук, праф., рэктар установы адукацыі «Брэсцкі дзяржаўны універсітэт імя А. С. Пушкіна» *М. Э. Часноўскі*;

д-р гіст. навук, праф., заг. кафедры археалогіі і спец. гістарычных дысцыплін установы адукацыі «Магілёўскі дзяржаўны ўніверсітэт імя А. А. Куляшова» *І. А. Марзалюк*

**Фамін, В. М.**

Ф20 Гісторыя Беларусі, другая палова 1940-х гг. — пачатак XXI ст. : вучэб. дапам. для 11-га кл. устаноў агул. сярэд. адукацыі з беларус. мовай навучання / В. М. Фамін, С. В. Паноў, Н. М. Ганушчанка ; пад рэд. В. М. Фаміна. — Мінск : Нац. ін-т адукацыі, 2013. — 232 с. : іл.

ISBN 978-985-559-258-8.

**УДК 94(476)(075.3=161.3)**
**ББК 63.3(4Беи)6я721**

**ISBN 978-985-559-258-8**

## Як працаваць з вучэбным дапаможнікам

У вучэбным дапаможніку асвятляецца перыяд гісторыі Беларусі ад заканчэння Вялікай Айчыннай вайны да падзей, звязаных з утварэннем і станаўленнем суверэннай Рэспублікі Беларусь. Вучэбны дапаможнік складаецца з трох раздзелаў, якія ахопліваюць адпаведна першае пасляваеннае дзесяцігоддзе, другую палову 1950-х — 1980-я гг., перыяд станаўлення і ўмацавання дзяржаўнага суверэнітэту Рэспублікі Беларусь. Кожны раздзел пачынаецца з уводнага ўрока, які ўяўляе сабой агульную характарыстыку вывучаемых падзей. Такі ўрок уключае схему, якая адлюстроўвае асноўныя кірункі развіцця беларускага грамадства ў разглядаемы перыяд часу.

Кожны параграф пачынаецца з фармулёўкі вучэбнай задачы, якую трэба выканаць у ходзе азнаямлення са зместам параграфа. Для выкарыстання засвоеных раней ведаў пры вывучэнні новага матэрыялу служыць рубрыка «Успомніце». Пры вывучэнні матэрыялу раім вам суадносіць канкрэтныя факты з агульнай характарыстыкай, старацца прасачыць сувязь кожнай падзеі з адпаведным кірункам развіцця.

Пазнаёміцца з гістарычнымі датамі і падзеямі, якія будуць вывучацца, вы зможаце ў агульнай характарыстыцы да кожнага з раздзелаў і тэксце параграфаў. У канцы вучэбнага дапаможніка знаходзіцца хparty храналагічная табліца, у якой размешчаны даты, абавязковыя для запамінання. Падзеі айчыннай гісторыі суаднесены з падзеямі і з'явамі сусветнай гісторыі ў сінхранічнай табліцы, якая размешчана ў канцы вучэбнага дапаможніка.

Канкрэтны матэрыял, які ўдакладняе вучэбную інфармацыю аб вывучаемых падзеях, змяшчае рубрыка «Гістарычная даведка». У рубрыцы «Пункт гледжання» вы маеце магчымасць пазнаёміцца з рознымі меркаваннямі пра гістарычныя падзеі як іх удзельнікаў, так і гісторыкаў. Варта вучыцца ўважліва ставіцца да такіх крыніц інфармацыі.

Усе параграфы, акрамя ўводных урокаў і ўрокаў абагульнення, маюць рубрыку «Вызначым асноўнае ў змесце параграфа». У ёй у сціслай форме сістэматызуецца і падагульняецца змест вучэбнага матэрыялу. Гэта спатрэбіцца вам пры выкананні заданняў, змешчаных ва ўроках абагульнення.

Пры вывучэнні гісторыі немагчыма абысціся без навуковых паняццяў. Азначэнні тых з іх, якія неабходна засвоіць у 11 класе, даюцца непасрэдна ў тэксце параграфаў. У канцы кожнага з іх размешчана рубрыка «Паняцці і тэрміны, якія трэба засвоіць». У слоўніку паняццяў і тэрмінаў размешчаны як новыя для вас, так і тыя, што вывучаліся раней, але патрэбныя для засваення вучэбнага матэрыялу.

Гісторыя як навука грунтуецца на гістарычных дакументах. Вытрымкі з іх прыводзяцца ў рубрыцы «Гістарычны дакумент». Раім абавязкова выкарыстаць хрэстаматыю па гісторыі Беларусі другой паловы 1940-х гг. — пачатку XXI ст. для 11 класа (2009). Спасылкі на яе вы знойдзеце ў пытаннях і заданнях да параграфаў.

У большасці параграфаў змешчаны дадатковыя матэрыялы, спасылка на якія абазначаецца ў тэксце параграфа дзвюма зорачкамі (**). У якасці такога матэрыялу падаецца таксама рубрыка «Культурна-гістарычнае асяроддзе». Яна звязана з асвятленнем шырока вядомых у свеце і ў Беларусі дасягненняў нашых славутых землякоў. У рубрыцы «Гістарычны партрэт» змешчаны кароткія звесткі пра найбольш вядомых гістарычных асоб і дзеячаў культуры — ураджэнцаў Беларусі.

Пры вывучэнні гістарычных падзей звяртайце ўвагу на картасхемы. Пры іх выкарыстанні абавязкова знайдзіце месца вашага жыхарства і вызначце становішча вашага краю ў адпаведны гістарычны перыяд.

У канцы кожнага з параграфаў, а таксама ва ўроках абагульнення да кожнага з раздзелаў і выніковым абагульненні змешчаны рознаўзроўневыя пытанні і заданні. Для іх выканання патрабуюцца ўменні знаходзіць і тлумачыць ключавыя словы, параўноўваць гістарычныя падзеі і раскрываць прычынна-выніковыя сувязі паміж імі, прыводзіць гістарычныя факты ў якасці прыкладаў і аргументаў доказу, вызначаць ролю гістарычных асоб і дзеячаў культуры. У гэтай справе вам дапамогуць метадычныя парады, змешчаныя ў канцы вучэбнага дапаможніка. Пэўная колькасць пытанняў і заданняў арыентавана на правядзенне краязнаўчай дзейнасці, што спатрэбіцца вам у час урокаў «Наш край» пры вывучэнні II і III раздзелаў. Пасля іх прапанаваны тэмы для ажыццяўлення праектнай дзейнасці.

Жадаем настойлівасці ў авалоданні зместам вучэбнага матэрыялу і поспехаў у вывучэнні айчыннай гісторыі, што спатрэбіцца вам у прафесійным самавызначэнні і выбары далейшага жыццёвага шляху, а таксама ў паўсядзённым жыцці.



# БССР У ДРУГОЙ ПАЛОВЕ 1940-х — ПЕРШАЙ ПАЛОВЕ 1950-х гг.

## § 1. БССР у першае пасляваеннае дзесяцігоддзе

**Вучэбная задача**

Вызначыць асноўныя кірункі пасляваеннага аднаўлення БССР.

**Успомніце**

Які быў уклад беларускага народа ў перамогу над ворагам у гады Вялікай Айчыннай вайны?

**Стужка часу**

**1945 г., 9 мая** Перамога савецкага народа ў Вялікай Айчыннай вайне.

**1945 г.** Удзел БССР у заснаванні Арганізацыі Аб'яднаных Нацый.

**1946—1950 гг.** Чацвёртая пяцігодка, пяцігодка аднаўлення разбуранай вайной народнай гаспадаркі БССР і яе далейшага развіцця.

**1951 г.** Зацвярджэнне Дзяржаўнага сцяга БССР.

**Сацыяльна-эканамічнае аднаўленне краіны пасля вайны.** У час Другой сусветнай вайны, развязанай нацысцкім кіраўніцтвам Германіі і яе саюзнікамі, шматлікія народы і дзяржавы апынуліся пад пагрозай зняволення і нават поўнага знішчэння. І толькі нечуваныя мужнасць, гераізм, самаахвярнасць народаў антыгітлераўскай кааліцыі, і перш за ўсё братніх народаў Савецкага Саюза ў час Вялікай Айчыннай вайны, выратавалі народы свету ад пагрозы фашызму. З разгромам нацысцкай Германіі і яе паплечнікаў пачаўся новы этап у гістарычным развіцці Беларусі. Радасць людзей, звязаная з перамогай над смяротным ворагам, азмрочвалася велізарнымі чалавечымі стратамі. За перамогу ў вайне народы Савецкага Саюза заплацілі дарагую цану — 27 млн чалавечых жыццяў. З былых саюзных рэспублік найбольшыя страты (адносна агульнай колькасці насельніцтва) панесла Беларусь: загінуў амаль кожны трэці яе жыхар. Сума матэрыяльных страт

Беларусі ў цэнах 1941 г. склала 75 млрд руб. Для *пасляваеннага аднаўлення,* звязанага з пераадоленнем ваенных разбурэнняў у галіне народнай гаспадаркі, народам СССР патрабавалася прыкласці вялікія намаганні, як фізічныя, так і духоўныя.

Жыццё беларускага грамадства ў першае пасляваеннае дзесяцігоддзе было даволі складаным. Людзі перажывалі вялікія матэрыяльныя цяжкасці. Разам з тым перамога ў вайне натхняла іх на самаадданую працу, вынікам якой сталі высокія тэмпы аднаўлення і развіцця прамысловасці, транспарту, будаўніцтва і іншых галін эканомікі. Народны энтузіязм у аднаўленні разбуранай вайной гаспадаркі стаў характэрнай з'явай тагачаснага перыяду.

Пасляваеннае аднаўленне нашай краіны ўключала ў сябе пераадоленне ваенных разбурэнняў і вяртанне да мадэлі развіцця грамадства, якая вызначылася ў даваенны перыяд. Гэта мадэль развіцця была звязана з паступовым фарміраваннем індустрыяльнага грамадства. Рысы, характэрныя для станаўлення такога тыпу грамадства, выявіліся ў гады першай пасляваеннай (чацвёртай па ліку) пяцігодкі ў апераджальных тэмпах аднаўлення і развіцця цяжкай прамысловасці ў параўнанні з лёгкай. У БССР асабліва высокімі тэмпамі развіваліся машынабудаванне і электраэнергетыка. Прамысловасць цалкам і большасць яе галін (за выключэннем лёгкай і харчовай) ужо ў 1950 г. дасягнулі і пераўзышлі даваенны ўзровень па выпуску прадукцыі.

Вайна, а затым усеагульны ўдзел грамадства ў пасляваенным адраджэнні рэспублікі прывялі да змены сацыяльнай структуры насельніцтва. Узнік вялікі попыт на рабочыя рукі ў гарадах і гарадскіх пасёлках, якія адбудоўваліся і хутка разрасталіся, шмат рабочых патрабавалася для аднаўлення чыгункі, іншых відаў транспарту. Гэтыя праблемы вырашаліся за кошт прыцягнення рабочай сілы з вёскі. Ізаляванасць і пэўная замкнёнасць сялянскага жыцця былі парушаны. Высокія тэмпы стала набываць перамяшчэнне насельніцтва ў маштабе ўсяго Савецкага Саюза. Перамяшчэнне адбывалася пад кантролем органаў улады пераважна ў выглядзе арганізаванага набору рабочай сілы. Трэба заўважыць, што калгаснае сялянства не мела пашпартоў і без дазволу кіраўніцтва калгасаў не магло пакінуць вёску і пераехаць у горад. У другой палове 1950-х гадоў умовы атрымання пашпартоў калгаснікамі былі аблегчаны. Сацыяльнае аблічча грамадства паступова набывала новыя якасныя рысы.

**Асаблівасці грамадска-палітычнага жыцця.** Разам з эканомікай аднаўлялася савецкая грамадска-палітычная сістэма. Яна ўяўляла сабой сістэму адносін у грамадстве, якая ўстанавілася ў СССР яшчэ ў 1920—1930-я гг. і характарызавалася поўным кантролем дзяржавы над грамадскім жыццём, панаваннем дзяржаўнай уласнасці на сродкі вытворчасці, укараненнем марксісцка-ленінскай ідэалогіі. Для грамадска-палітычнага жыцця краіны было характэрна існаванне аднапартыйнай сістэмы.

**Кірункі пасляваеннага аднаўлення БССР**

| Эканамічная сфера | Грамадска-палітычная сфера |
|---|---|
| Аднаўленне разбуранай вайной народнай гаспадаркі.<br>Захаванне цэнтралізаванага планавага кіраўніцтва эканомікай.<br>Пераважнае развіццё цяжкай прамысловасці | Аднаўленне грамадскага жыцця.<br>Узнаўленне дзейнасці савецкай грамадска-палітычнай сістэмы.<br>Захаванне кіруючай ролі камуністычнай партыі |

**Развіццё культуры.** Працэс аднаўлення ў пасляваенныя гады суправаджаўся далейшым павышэннем ролі навукі і адукацыі. Іх хуткае развіццё пасля вайны адкрывала новыя гарызонты для тэхнічнага і грамадскага прагрэсу ў Беларусі. Для пісьменнікаў, дзеячаў культуры Беларусі характэрным было імкненне служыць інтарэсам краіны, спрыяць яе развіццю. Разам з тым жыццё краіны ў творах літаратуры і мастацтва адлюстроўвалася ў адпаведнасці з прадвызначэннямі кіруючай палітычнай партыі.

***Паняцці і тэрміны, якія трэба засвоіць:*** *пасляваеннае аднаўленне.*

## ПЫТАННІ І ЗАДАННІ

1. У чым заключаецца пасляваеннае аднаўленне ў БССР?
2. Растлумачце, з якой гістарычнай з'явай былі звязаны высокія тэмпы развіцця машынабудавання ў БССР у пасляваенны перыяд.
3. У чым заключаліся асаблівасці пасляваеннага развіцця БССР у грамадска-палітычнай галіне? Пры адказе выкарыстайце табліцу «Кірункі пасляваеннага аднаўлення БССР».
4. Чым былі выкліканы змены сацыяльнай структуры насельніцтва БССР?
5. Ахарактарызуйце агульныя тэндэнцыі пасляваеннага аднаўлення БССР.

## § 2. Пераадоленне наступстваў вайны ў галіне эканомікі. Выхад на новы ўзровень развіцця

### Вучэбная задача

Вызначыць асаблівасці аднаўленчага працэсу ў БССР пасля Вялікай Айчыннай вайны і паказаць веліч працоўнага подзвігу, які здзейснілі суайчыннікі ў час аднаўлення.

### Успомніце

Якія людскія страты панесла БССР у гады Вялікай Айчыннай вайны і нямецка-фашысцкай акупацыі?

**Аднаўленне і развіццё прамысловасці і транспарту.** Спачатку правядзём параўнанне аднаўленчых працэсаў 1920-х і другой паловы 1940-х — першай паловы 1950-х гг. у Беларусі. Зрабіць гэта дапаможа параўнальная табліца.

| Прыкметы для параўнання | Перыяд пасля грамадзянскай вайны | Перыяд пасля Вялікай Айчыннай вайны |
|---|---|---|
| Знешнепалітычныя ўмовы працэсу аднаўлення | Эканамічная і палітычная блакада Савецкай краіны з боку капіталістычных краін | Абвастрэнне саперніцтва паміж былымі саюзнікамі па антыгітлераўскай кааліцыі (капіталістычнымі і сацыялістычнымі краінамі) |
| Тэрыторыя, на якой праходзіў працэс аднаўлення | У межах шасці паветаў Мінскай губерні да ўзбуйнення тэрыторыі БССР у 1924 і 1926 гг. | Уся тэрыторыя БССР, але ва ўмовах, калі большая частка тэрыторыі СССР пазбегла разбурэнняў |
| Галіны эканомікі, якія аднаўляліся ў першую чаргу | Сельская гаспадарка | Цяжкая прамысловасць |
| Мадэль эканамічнага развіцця | Шматукладная, з элементамі рынкавых адносін | Цэнтралізаваная планавая адміністрацыйна-камандная |

У гады Вялікай Айчыннай вайны прамысловыя прадпрыемствы і беларуская чыгунка былі амаль поўнасцю знішчаны. Без іх аднаўлення і развіцця немагчыма было забяспечыць нармальнае існаванне краіны і прагрэс грамадства.

### ГІСТАРЫЧНАЯ ДАВЕДКА

У выніку вайны і злачынстваў нямецка-фашысцкіх захопнікаў беларускі народ страціў звыш паловы нацыянальнага багацця. Былі спалены і зруйнаваны 209 гарадоў і гарадскіх пасёлкаў, 9200 вёсак. У краіне было разбурана 10 338 заводаў і фабрык, знішчана 96 % электрычных магутнасцей. Вялікія страты панеслі ўсе віды транспарту і сувязі.

Бытавыя ўмовы большасці жыхароў БССР у гады вайны былі цяжкімі. Вялікая колькасць сем'яў страціла жыллё і вымушана была туліцца ў рознага роду прыстанішчах. Паводле ўспамінаў мінчан, у цэнтральных раёнах горада пасля яго вызвалення ад нямецка-фашысцкіх акупантаў захавалася неразбуранымі усяго каля 70 будынкаў. У іх ліку Дом урада, Дом Чырвонай Арміі, Тэатр оперы і балета. Паўставала нават пытанне аб пераносе сталіцы БССР у Магілёў. У гарадах быў разбураны транспарт, камунальная гаспадарка. Не хапала тавараў першаснага ўжытку. Да 1947 г. захоўвалася картачная сістэма на харчовыя і прамысловыя тавары.

Аднаўленне прамысловасці і іншых галін эканомікі пачалося з восені 1943 г., калі частка тэрыторыі на ўсходзе Беларусі была вызвалена Чырвонай Арміяй ад акупацыі. У працэсе далейшага вызвалення тэрыторыі рэспублікі пашыраўся і фронт аднаўленчых работ. У верасні 1946 г. Вярхоўны Савет БССР прыняў Закон аб пяцігадовым плане аднаўлення і развіцця народнай гаспадаркі рэспублікі на 1946—1950 гг., які з'яўляўся састаўной часткай агульнасаюзнага плана. Да канца чацвёртай пяцігодкі прамысловая прадукцыя БССР павінна была не толькі дасягнуць даваеннага ўзроўню, але і перавысіць яго, прычым найбольш значна па машынабудаванні, энергетыцы, торфаздабычы. Выкананне гэтай задачы ўскладнялася тым, што Беларусь не мела сваіх неабходных разведаных крыніц сыравіны (за



Мінск. Руіны на плошчы Леніна (цяпер плошча Незалежнасці). *1945 г.*

выключэннем багатых запасаў торфу), а яе матэрыяльна-тэхнічная база аказалася амаль поўнасцю знішчанай.

У гэтых умовах выратавальным для Беларусі з'яўлялася тое, што амаль усё неабходнае для разгортвання аднаўленчых работ яна атрымлівала з агульнасаюзных крыніц. Урад СССР выдзеліў значныя грашовыя сродкі на аднаўленне народнай гаспадаркі Беларусі і на дапамогу насельніцтву. Наша рэспубліка атрымала шмат станкоў, металу, будаўнічых матэрыялаў, прадуктаў харчавання, адзення, абутку, медыкаментаў (**).

Дапамогу Беларусі ў аднаўленні яе гаспадаркі аказвалі іншыя рэспублікі СССР, якія пазбеглі гітлераўскай акупацыі. Акрамя таго, згодна з пасляваеннымі міжнароднымі дамоўленасцямі, рэспубліка атрымала пэўную частку германскіх *рэпарацый* — выплат, якія часткова кампенсавалі страты ад вайны.

У выніку выканання 4-й пяцігодкі валавая прадукцыя прамысловасці БССР у параўнанні з 1940 г. павялічылася на 15 % (у цэлым па СССР — на 73 %). Пры гэтым аб'ём машынабудавання павялічыўся ў 3,4 разы. Былі не толькі адноўлены старыя галіны машынабудавання, але і створаны шэраг новых: аўтамабільная, трактарная, дарожных машын, будаўнічых механізмаў. Аўтамабільны і трактарны заводы ў Мінску былі буйнейшымі новабудоўлямі рэспублікі. Машынабудаванне і металаапрацоўка сталі вядучымі галінамі беларускай эканомікі. Упершыню быў асвоены выпуск аўтамабіляў, аўтапрычэпаў, трактароў, веласіпедаў, ліцейнага абсталявання і інш. На 47 % быў перавышаны даваенны ўзровень вытворчасці электраэнергіі.

Ствараліся новыя буйныя прадпрыемствы лёгкай прамысловасці. Сярод іх Віцебскі дыванова-плюшавы камбінат і шаўкаткацкая фабрыка, Мінскі і Гродзенскі тонкасуконныя камбінаты. Асабліва высокімі тэмпамі ішло аднаўленне і развіццё прамысловасці ў заходніх абласцях БССР. У 1950 г. выпуск прамысловай прадукцыі тут амаль удвая перавысіў узровень 1940 г.

Калі па валавым выпуску прамысловай прадукцыі план быў выкананы, то рост лёгкай прамысловасці, якая вырабляла тавары народнага спажывання, адбываўся даволі марудна. У параўнанні з 1940 г. агульны аб'ём яе прадукцыі ў 1950 г. склаў 74 %. У выніку ў структуры эканомікі рэспублікі ўжо ў гады пасляваеннага аднаўлення вызначылася пэўная яе дыспрапорцыя.




Зборка аўтамабіляў на галоўным канвееры МАЗа. *Пачатак 1950-х гг.*



Першы колавы трактар «Беларус». *1953 г.*

### ГІСТАРЫЧНАЯ ДАВЕДКА

У 1947 г. былі выпушчаны першыя аўтамабілі-самазвалы МАЗ-205 на Мінскім аўтамабільным заводзе. У 1950 г. пачаўся серыйны выпуск трактароў на Мінскім трактарным заводзе, а ў 1953 г. з яго галоўнага канвеера сышоў першы колавы трактар «Беларус».

У 1950 г. даўжыня адноўленай чыгункі склала 93 % ад даваеннай. Былі пабудаваны масты, вакзалы, паравозныя дэпо. Развіваўся аўтамабільны транспарт. Поўнасцю была адноўлена сувязь: прадпрыемствы пошты, тэлеграф, тэлефон.

Беларуская эканоміка была поўнасцю адноўлена да 1950 г., аднак узровень яе развіцця заставаўся больш нізкім, чым у цэлым па СССР. Уплывалі надта цяжкія страты, якія нанесла вайна беларускай эканоміцы, а таксама невысокі ўзровень эканамічнага развіцця яе заходніх абласцей. Іх удзельная вага ў валавай прадукцыі прамысловасці БССР у 1950 г. склала толькі каля 15 %. Тым не менш у БССР, дзякуючы паспяховаму аднаўленню народнай гаспадаркі ў 1944—1950 гг., была створана неабходная база для далейшага развіцця.

**Працоўны подзвіг беларускага народа.** Праца па аднаўленні народнай гаспадаркі стала гераічным подзвігам народа-пераможцы. У цяжкіх умовах разрухі патрабаваліся не проста рабочыя рукі, а людзі, адданыя працы, гатовыя да самаахвяравання, пераадолення вялікіх цяжкасцей. Такія людзі ў нашай краіне складалі пераважную большасць. Уласцівыя беларускаму народу працаві-


БССР у другой палове 1940-х — першай палове 1950-х гг.
Заходняя Беларусь — тэрыторыя, на якой у другой палове 1940-х гг. праводзілася калектывізацыя
Манумент Перамогі
Аб'екты культуры і спорту, створаныя да 1954 г.
Граніцы ў канцы 1945 г.
СССР
БССР
абласцей
Полацк
Зах.Дзвіна
Віцебск
Глыбокае
Паставы
Беларуская ДРЭС
Манумент Перамогі
Барысаў
Маладзечна
МІНСК
Горкі
Ліда
Акадэмія навук
Стадыён «Дынама»
Гродна
Нёман
Магілёў
Крычаў
Баранавічы
Бабруйск
Слонім
Бярэзіна
Гомель
Брэст
Пінск
Прыпяць
Дняпро
Мазыр
Аб'екты народнай гаспадаркі
адноўленыя ў 1943—1950 гг.
створаныя ў 1945—1955 гг.
Вытворчасць
грузавых аўтамабіляў
кар'ерных самазвалаў
трактароў
сельскагаспадарчых машын
будаўніча-дарожных машын
торфаздабыўных машын
матацыклаў і веласіпедаў
падшыпнікаў
станкоў
электрарухавікоў
вымяральных прылад
радыёпрыёмнікаў
тэлевізараў
хімічных валокнаў
гумавых вырабаў
Вышэйшыя навучальныя ўстановы
Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт
кансерваторыя
ваеннае інжынернае вучылішча
Інстытуты (ВНУ)
педагагічныя
сельскагаспадарчыя (у тым ліку акадэмія)
медыцынскія
ветэрынарны
політэхнічны і тэхналагічны
народнай гаспадаркі
інжынераў чыгуначнага транспарту
педагагічны замежных моў
тэатральны
фізічнай культуры

тасць, вынаходніцкі талент, цярплівасць і сіла волі ў пасляваенныя гады дапаўняліся ўзрослай яго самасвядомасцю. Гэта стала вынікам перамогі над такім моцным і небяспечным ворагам, якім з'яўлялася фашысцкая Германія. Вера ў сябе і ў свае сілы ўсяляла ў людзей надзею на паспяховае пераадоленне ваенных разбурэнняў і складанасцей пасляваеннага жыцця.

Сярод рабочых краіны было арганізавана спаборніцтва за высокія працоўныя дасягненні. Шырокі размах набыў рух наватараў вытворчасці, рацыяналізатараў і вынаходнікаў. Да ліку перадавікоў і наватараў вытворчасці адносіліся сталявар Мінскага аўтамабільнага завода Д. Барашкін і мінскі муляр Д. Булахаў, якія ў наступным сталі Героямі Сацыялістычнай Працы і Ганаровымі грамадзянамі Мінска. Удасканаленне Д. Барашкіным сталеплавільнай печы зрабіла магчымым атрымаць за адну плаўку больш 6 т вадкага металу. Рацыяналізатары ўнеслі дзясяткі тысяч прапаноў па ўдасканаленні тэхнікі і прылад працы, эканоміі сыравіны і зберажэнні энергарэсурсаў. Іх прапановы ўкараняліся на заводзе «Гомсельмаш», Крычаўскім цэментным заводзе, Гомельскім станкабудаўнічым заводзе імя С. М. Кірава, Магілёўскім металаапрацоўчым камбінаце, мінскіх аўтамабільным і трактарным заводах і многіх іншых.

**Курс на апераджальны рост цяжкай прамысловасці.** Вызначальнай у замацаванні курсу пасляваеннай мадэрнізацыі БССР стала пятая пяцігодка (1951—1955 гг.). У выніку яе выканання аб'ём прамысловай прадукцыі павялічыўся ў 2,1 раза. Гэта быў буйны поспех рэспублікі ў вырашэнні задачы індустрыялізацыі. За гады пятай пяцігодкі было пабудавана і ўведзена ў эксплуатацыю 1010 прамысловых прадпрыемстваў, у тым ліку 150 буйных. На поўную магутнасць выйшлі трактарны, аўтамабільны і мотавеласіпедны заводы ў Мінску, асвойваліся новыя віды машынабудаўнічай прадукцыі.




Плакат «Маладыя мінчане! Аддадзім усе сілы на адбудову роднага горада!». *1945 г.*

У першай палове 1950-х гадоў было пераадолена адставанне лёгкай і харчовай прамысловасці. У 1955 г. выраблена ў 2 разы больш тавараў народнага ўжытку, чым у 1950 г.

**Меры па аднаўленні сельскай гаспадаркі. Калектывізацыя ў заходніх абласцях Беларусі.** Сельская гаспадарка Беларусі, як і ўсёй краіны, у пасляваенныя гады перажывала глыбокі крызіс. Маёмасць калгасаў і саўгасаў была разрабавана ў час вайны. Сельскагаспадарчая тэхніка была поўнасцю знішчана. Прадукцыйнасць адноўленых пасля вызвалення калгасаў і саўгасаў ва ўсходніх абласцях Беларусі заставалася надзвычай нізкай. Для хуткага ўздыму сельскай гаспадаркі неабходны былі значныя сродкі, выдзеліць якія дзяржава аказалася не ў стане.

Адначасова з аднаўленнем ва ўсходніх абласцях калгасна-саўгаснай вытворчасці адбывалася калектывізацыя сельскай гаспадаркі заходніх абласцей, уз'яднаных з БССР у 1939 г. Калектывізацыя праводзілася ў сціслыя тэрміны, вельмі часта з выкарыстаннем прымусовых метадаў. Заможныя гаспадаркі былі ліквідаваны. Звыш 10 тыс. заможных сем'яў высланы ў Сібір і Казахстан. У афіцыйных дакументах такія гаспадаркі называліся кулацкімі. Адзінага крытэрыю для аднясення сялянскай гаспадаркі да ліку заможных, ці так званых кулацкіх, не існавала. Гэта пытанне вырашалі мясцовыя органы ўлады сумесна з вясковым актывам беднаты. Таму сярод раскулачаных і сасланых у аддаленыя раёны апынулася нямала сераднякоў. Лічылася, што гэта паспрыяе паскарэнню калектывізацыі і ўмацаванню калгасаў. У пачатку 1950-х гг. калектывізацыя ў заходніх абласцях Беларусі амаль што завяршылася.

Становішча ў сельскай гаспадарцы рэспублікі было складаным. У параўнанні з даваенным перыядам у 1950 г. пасяўныя плошчы складалі 94 %. Па шэрагу паказчыкаў не ўдалося выканаць заданні пяцігодкі. Чаму так адбылося? Перш за ўсё заставалася недастатковай матэрыяльна-грашовая падтрымка калгасаў з боку дзяржавы. Не існавала і эканамічнага стымулу ў калгаснікаў, якія працавалі за працадні (адзінка ўліку працы калгаснікаў і размеркавання даходаў па працы ў калгасах у 1930—1966 гг.). Абмяжоўваўся гандаль прадуктамі, вы-



Правядзенне сельскагаспадарчых работ у першыя пасляваенныя гады

рашчанымі на прысядзібных участках. Прыходзілася жыць за кошт таго, што мелі з агародаў. Аднак працавітасць нашага народа, імкненне пераадолець усе цяжкасці і нягоды паспрыялі выкананню планаў першай пасляваеннай пасяўной. Толькі восьсеяць калгаснікам, пераважна жанчынам і падлеткам, даводзілася ўручную. Цяглавай сілай былі толькі коні, але іх не хапала.

Аднаўленне сельскай гаспадаркі ішло даўжэй, чым прамысловасці. Момантам яго завяршэння ўмоўна можна лічыць сярэдзіну 1950-х гг. Пераломным стаў верасень 1953 г., калі па рашэнні Пленума ЦК КПСС разам з каманднымі сталі выкарыстоўвацца эканамічныя метады кіравання сельскай гаспадаркай. Павышаліся нарыхтоўча-закупачныя цэны на сельгаспрадукцыю, адмяняліся абавязковыя пастаўкі з уласнай прысядзібнай дапаможнай гаспадаркі і інш. У выніку гэтага з сярэдзіны 1950-х гг. сельская гаспадарка ўступіла ў перыяд адносна стабільнага развіцця.

| **Асаблівасці пасляваеннага аднаўлення народнай гаспадаркі ў БССР** |
| --- |
| Вялікія людскія і матэрыяльныя страты ў выніку вайны |
| Дапамога савецкіх рэспублік. Атрыманне часткі рэпарацый |
| Пераважнае развіццё цяжкай прамысловасці |
| Захаванне калгаснай сістэмы ў сельскай гаспадарцы |
| Правядзенне з 1949 г. суцэльнай калектывізацыі ў заходніх абласцях |

***Вызначым асноўнае ў змесце параграфа.*** Аднаўленне народнай гаспадаркі БССР адбылося ў надзвычай сціслы тэрмін дзякуючы працоўнаму энтузіязму і самаахвярнай працы нашага народа. Вызначальную ролю адыграла дапамога, якую атрымаў беларускі народ ад іншых рэспублік і Урада СССР. Уключэнне тэрыторыі заходняй Беларусі ў гаспадарчую дзейнасць краіны прывяло да павелічэння эканамічнага патэнцыялу рэспублікі. У выніку пасляваеннага аднаўлення змянілася структура прамысловай вытворчасці. Удзельная вага галін, якія пераважалі да вайны (лёгкая, харчовая, лясная, дрэваапрацоўчая), значна знізілася. Асноўнай у прамысловасці стала прадукцыя машынабудавання і металаапрацоўкі. Аграрная палітыка вызначалася падпарадкаваннем сельскай гаспадаркі інтарэсам развіцця прамысловасці.

***Паняцці і тэрміны, якія трэба засвоіць:*** *рэпарацыі.*

## ДАДАТКОВЫ МАТЭРЫЯЛ

**У 1941—1945 гг. Беларусь апынулася ў эпіцэнтры трагічных падзей Вялікай Айчыннай вайны. Наш народ перажыў цяжкія выпрабаванні, якія былі выкліканы акупацыяй, барацьбой з нямецка-фашысцкімі захопнікамі, а затым аднаўленнем разбуранай вайной эканомікі. Прымаючы пад увагу складанасць становішча Беларусі, Урад СССР выдзеліў ёй у якасці датацыі з саюзнага бюджэту 120 млн рублёў. РСФСР і іншыя рэспублікі перадалі ў 1944—1945 гг. больш за 3 тыс. аўтамабіляў, 2 тыс. трактароў, 13 тыс. коней, 224 камбайны, 80 тыс. галоў буйной рагатай жывёлы, 50 тыс. свіней. Савет Народных Камісараў СССР выдзеліў Беларусі для пасяўной кампаніі неабходную колькасць збожжа, насення льну.

*Вызначце крыніцы аднаўлення эканомікі Беларусі пасля вайны.*

## ПЫТАННІ І ЗАДАННІ

1. Растлумачце, чаму арганізацыйнай формай аднаўлення разбуранай вайной народнай гаспадаркі сталі пяцігодкі. Для адказу выкарыстайце свае веды аб правядзенні індустрыялізацыі ў 1930-я гады.
2. Пералічыце з дапамогай атласа найбольш важныя прамысловыя прадпрыемствы цяжкай і лёгкай прамысловасці, пабудаваныя ў БССР у першае пасляваеннае дзесяцігоддзе.
3. У чым заключаліся асаблівасці аднаўлення гаспадаркі БССР пасля Вялікай Айчыннай вайны ў параўнанні з перыядам 1920-х гг.?
4. Вызначце, карыстаючыся табліцай «Тэмпы развіцця асноўных галін прамысловасці БССР», якія галіны прамысловасці ў Беларусі сталі вызначальнымі ў выніку яе пасляваеннага аднаўлення.

**Тэмпы развіцця асноўных галін прамысловасці БССР**

| Галіны прамысловасці | 1950 г. (у працэнтных суадносінах да 1940 г.) | 1955 г. (у працэнтных суадносінах да 1950 г.) | 1955 г. (у працэнтных суадносінах да 1940 г.) |
|---|---|---|---|
| Машынабудаванне і металаапрацоўка | 237 | 360 | 853 |
| Хімічная і нафтахімічная | 214 | 348 | 745 |

| Галіны прамысловасці | 1950 г. (у працэнтных суадносінах да 1940 г.) | 1955 г. (у працэнтных суадносінах да 1950 г.) | 1955 г. (у працэнтных суадносінах да 1940 г.) |
|---|---|---|---|
| Электраэнергетыка | 153 | 294 | 450 |
| Паліўная прамысловасць | 91 | 223 | 204 |
| Прамысловасць будматэрыялаў | 134 | 227 | 304 |
| Лёгкая прамысловасць | 72 | 213 | 154 |
| Харчовая прамысловасць | 85 | 181 | 154 |
| Лясная, дрэваапрацоўчая і цэлюлозна-папяровая | 104 | 128 | 132 |

5. Ахарактарызуйце метады правядзення калектывізацыі ў заходніх абласцях БССР. Выкарыстайце дакумент № 15 хрэстаматыі.
6. Як вы лічыце, чаму першую пасяўную кампанію на вызваленай ад акупацыі тэрыторыі БССР правялі пераважна жанчыны і падлеткі?
7. Растлумачце, чаму праца па пасляваенным аднаўленні эканомікі БССР стала народным подзвігам.

## § 3. Грамадска-палітычнае жыццё БССР

**Вучэбная задача**

Вызначыць, у чым заключаліся асаблівасці грамадска-палітычнага жыцця ў БССР у пасляваенныя гады.

**Успомніце**

Якімі былі галоўныя прыкметы савецкай грамадска-палітычнай сістэмы, якая ўсталявалася ў БССР напрыканцы 1920-х — 1930-я гг.?

**Асаблівасці ўнутрыпалітычнага жыцця ў БССР.** Уклад у барацьбу са смяротна небяспечным ворагам, якім з'яўлялася нацысцкая Германія, быў адзначаны выхадам БССР на міжнародную арэну ў якасці адной з дзяржаў — заснавальніц ААН (** 1, 2). Перамога над ворагам прывяла да прызнання заслуг

Беларусі на міжнародным узроўні і больш глыбокага яднання народа і ўлады ва ўнутрыпалітычным жыцці краіны.

Нягледзячы на цяжкія ўмовы пасляваеннага жыцця, беларускі народ як пераможца ў вайне ў большай ступені стаў адчуваць сваю годнасць. Людзі спадзяваліся, што іх жыццё палепшыцца, а роля ў вырашэнні грамадскіх спраў узрасце. У насельніцтва ўзнікалі таксама спадзяванні на перамены ў палітычным жыцці. Аднак для ўлады галоўным было захаванне палітычнай сістэмы, што склалася ў даваенныя гады.

Своеасабліва складвалася пасляваенная сітуацыя ў заходнім рэгіёне Беларусі. Тут пераважалі аднаасобныя сялянскія гаспадаркі, уладальнікі якіх складалі больш за 80 % насельніцтва. Прымусова ствараліся калгасы, што выклікала антыкалгасныя настроі. Распальванню польскіх нацыяналістычных настрояў сярод насельніцтва заходніх і часткова ўсходніх раёнаў садзейнічалі прыхільнікі Арміі Краёвай, якія працягвалі змагацца супраць савецкай улады за аднаўленне Польшчы ў межах 1939 г. Нацыяналістычнае падполле зрывала мерапрыемствы па аднаўленні народнай гаспадаркі, забівала партыйных актывістаў, а таксама рабочых і сялян, якія падтрымлівалі савецкую ўладу.

У пасляваенныя гады ўзмацніўся ідэалагічны кантроль органаў улады ва ўсіх абласцях навукі, культуры, грамадска-палітычнага жыцця. Органамі дзяржбяспекі ў 1947 г. быў выкрыты шэраг падпольных маладзёжных арганізацый на тэрыторыі Заходняй Беларусі. Удзельнікамі гэтых арганізацый былі ў асноўным беларускія настаўнікі і навучэнцы. Яны ўзнімалі пытанні аб захаванні і развіцці роднай культуры, мовы, гісторыі, стварэнні беларускай нацыянальнай дзяржавы. Па тым часе дзейнасць гэтых арганізацый разглядалася органамі дзяржбяспекі як антысавецкая, а іх удзельнікі былі асуджаны.




Плакат. *1950 г.*

Улада з пэўным недаверам ставілася да насельніцтва, што часова пражывала на акупіраванай тэрыторыі. Насцярожанымі былі адносіны таксама да грамадзян, якія падвергліся *рэпатрыяцыі*, гэта значыць былых ваеннапалонных, грамадзянскіх палонных, бежанцаў і

перасяленцаў, якія вярталіся на Радзіму. У пачатку 1946 г. у Беларусі пражывала больш за 300 тыс. грамадзян БССР, якія былі рэпатрыіраваны з Германіі і акупіраваных ёю краін. Кіраўніцтва краіны лічыла, што гітлераўская прапаганда на акупіраванай тэрыторыі і сярод тых, хто быў вывезены ў Германію, паспела сфарміраваць у часткі насельніцтва антысавецкі настрой і недавер да камуністычнай партыі.

### ГІСТАРЫЧНЫ ДАКУМЕНТ

З дакладной запіскі начальніка ўпраўлення Міністэрства дзяржаўнай бяспекі па Пінскай вобласці ў ЦК КП(б)Б «Аб наяўнасці ў вобласці антысавецкіх настрояў»: «...У вобласці налічваецца да 18 тыс. рэпатрыіраваных, у тым ліку 3700 чалавек з амерыканскай зоны акупацыі, да 3 тыс. — з англа-французскай зоны акупацыі Германіі і астатнія — з Чэхаславакіі, Германіі, Польшчы і іншых дзяржаў. Акрамя таго, 16 470 чалавек маюць пісьмовую сувязь з замежжам... У ліку асоб, якія маюць сувязь з замежжам, нярэдка сустракаюцца члены партыі, адказныя савецкія і партыйныя работнікі».

**Месца камуністычнай партыі ў грамадска-палітычнай сістэме ў БССР.** Грамадска-палітычнае жыццё адлюстроўвае адносіны паміж грамадствам і ўладай і праяўляецца праз розныя формы ўдзелу народа ў кіраўніцтве справамі дзяржавы і грамадства. Такі ўдзел можа быць рэальным, калі народ фарміруе і кантралюе дзейнасць органаў улады, або фармальным, калі існуе толькі імітацыя народаўладдзя, а ўсё грамадска-палітычнае жыццё знаходзіцца пад жорсткім кантролем дзяржавы. Часта існуюць розныя камбінацыі рэальнага і фармальнага ўдзелу насельніцтва ў кіраўніцтве дзяржавай і грамадскім жыццём.

У пасляваенныя гады ў БССР, як і ва ўсім Савецкім Саюзе, поўнасцю захавалася савецкая грамадска-палітычная сістэма. Яна вызначалася існаваннем толькі адной камуністычнай партыі, якая ажыццяўляла як палітычныя, так і адміністрацыйныя функцыі. Структурнымі элементамі тагачаснай грамадска-палітычнай сістэмы з'яўляліся адзіная палітычная партыя і органы дзяржаўнай улады, у тым ліку Саветы дэпутатаў працоўных, а таксама прафсаюзы, розныя грамадскія арганізацыі. Кіруючая роля партыі азначала тое, што яна стаяла над усімі органамі дзяржаўнай улады і грамадскімі арганізацыямі.

Дзяржаўна-партыйнае кіраўніцтва надавала першаснае значэнне аднаўленню на вызваленай тэрыторыі БССР дзейнасці Камуністычнай партыі (бальшавікоў) Беларусі. Яна з'яўлялася саставной часткай ВКП(б), у гады вайны панесла вялікія страты. Яе кіруючыя органы з-за акупацыі вымушаны былі дзейнічаць або ў падполлі, або ў савецкім тыле. Пасля вызвалення рэспублікі ад гітлераўскай акупацыі жыццё партыйнай арганізацыі пачало хутка аднаўляцца. Ужо на 1 студзеня 1946 г. колькасць членаў партыі ў БССР склала 48,2 тыс. чалавек, а ў 1955 г. — 145 тыс. Першым сакратаром ЦК КП(б)Б у пасляваенныя гады з'яўляўся П. К. Панамарэнка.

ГІСТАРЫЧНЫ ПАРТРЭТ

**Панцеляймон Кандратавіч Панамарэнка (1902—1984)** — савецкі партыйны і дзяржаўны дзеяч. Адзін з арганізатараў і кіраўнікоў партыйнага падполля і партызанскага руху ў Вялікую Айчынную вайну. У 1938—1947 гг. — першы сакратар ЦК КП(б) Беларусі. З 30 мая 1942 г. па сакавік 1944 г. — начальнік Цэнтральнага штаба партызанскага руху пры Стаўцы Вярхоўнага Галоўнакамандавання. Адзін з распрацоўшчыкаў і кіраўнікоў аперацыі «рэйкавая вайна». У 1944—1948 гг. Старшыня СНК (з 1946 г. Савет Міністраў) БССР. Пад яго кіраўніцтвам быў распрацаваны і ажыццяўляўся пяцігадовы план аднаўлення і развіцця народнай гаспадаркі Беларусі на 1946—1950 гг.



З'яўляўся адным з даследчыкаў гісторыі партызанскага руху ў час Вялікай Айчыннай вайны.

Пасля П. К. Панамарэнкі першымі сакратарамі ЦК Кампартыі Беларусі былі ў 1947—1950 гг. М. І. Гусараў, а ў 1950—1956 гг. — М. С. Патолічаў, якіх накіравалі ў БССР з Масквы.

**Роля Саветаў дэпутатаў працоўных у грамадска-палітычным жыцці рэспублікі.** У адпаведнасці з Канстытуцыяй БССР 1937 г. Саветам дэпутатаў працоўных належалі галоўныя функцыі дзяржаўнага кіраўніцтва і арганізацыі грамадскага жыцця. Аднаўленне Саветаў на вызваленай ад акупацыі тэрыторыі ажыццяўлялася па ініцыятыве партыйных камітэтаў.

У 1947 г. адбыліся першыя ў пасляваенныя гады выбары ў вышэйшы заканадаўчы орган дзяржаўнай улады рэспублікі — Вярхоўны Савет БССР, а ў 1948 г. — у мясцовыя Саветы. Старшынёй Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР у 1948 г. быў абраны В. І. Казлоў.

ГІСТАРЫЧНЫ ПАРТРЭТ

**Васіль Іванавіч Казлоў (1903—1967)** — савецкі партыйны і дзяржаўны дзеяч. Нарадзіўся ў вёсцы Заграддзе Жлобінскага раёна Гомельскай вобласці. Герой Савецкага Саюза. Адзін з арганізатараў партызанскага руху ў Беларусі ў гады Вялікай Айчыннай вайны. З ліпеня 1941 г. Першы сакратар Мінскага падпольнага абкома КП(б)Б, з сакавіка 1942 г. камандзір Мінскага партызанскага злучэння, Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР у 1948—1967 гг. Унёс значны ўклад у арганізацыю дапамогі насельніцтву ў пераадоленні ваенных разбурэнняў. Гэта быў чалавек, які меў свой асабісты погляд на пытанні дзяржаўнага кіраўніцтва.



У 1950—1960-я гг. праводзілася ўдасканаленне работы Саветаў у Беларусі. Яе вынікам стала павышэнне ролі Вярхоўнага і мясцовых Саветаў БССР у палітычным, эканамічным і культурным жыцці рэспублікі. Да ўдзелу ў рабоце Саветаў прыцягваліся шырокія народныя масы, што спрыяла павышэнню іх грамадска-палітычнай актыўнасці.

Становішча Саветаў у тагачаснай палітычнай сістэме было абумоўлена тым, што рэальная ўлада належала адзінай у краіне камуністычнай партыі, волю якой і выконвалі Саветы. Пры гэтым пэўныя прыкметы дэмакратыі ў рэспубліцы прысутнічалі: наяўнасць грамадскіх арганізацый, галасаванне і выбары ў вышэйшыя і мясцовыя органы ўлады, шэсці і дэманстрацыі.

Дзейнасць Саветаў падпарадкоўвалася задачам аднаўлення і развіцця народнай гаспадаркі, паляпшэння матэрыяльных умоў жыцця насельніцтва. Саветы зацвярджалі планы эканамічнага развіцця на падначаленай ім тэрыторыі і арганізоўвалі працоўных

на іх выкананне. Аднак самі Саветы поўнасцю знаходзіліся пад кантролем партыйнага апарату і рэальнай паўнатой улады не валодалі. Выбары дэпутатаў у Саветы былі безальтэрнатыўнымі.

Выканаўчыя функцыі Савецкай улады належалі Савету Народных Камісараў БССР, які ў 1946 г. быў перайменаваны ў Савет Міністраў. Выканаўчая ўлада ажыццяўляла практычную рэалізацыю рашэнняў, якія зыходзілі ад ЦК КП(б)Б і Вярхоўнага Савета БССР. Яна несла адказнасць за развіццё народнай гаспадаркі, культуры, забеспячэнне дабрабыту насельніцтва і інш. У савецкай палітычнай сістэме органы выканаўчай улады фактычна з'яўляліся прыладамі ў руках Камуністычнай партыі па выкананні ёю сваёй адміністрацыйнай функцыі.

**Прафсаюзы ў грамадска-палітычным жыцці рэспублікі.** У гады вайны ў БССР у сувязі з акупацыяй і разбурэннем эканомікі дзейнасць прафсаюзаў спынілася. Іх адраджэнне ажыццяўлялася ў працэсе вызвалення тэрыторыі рэспублікі і аднаўлення яе эканомікі. Прафсаюзы павінны былі ў першую чаргу разам з кіраўніцтвам прадпрыемстваў актыўна удзельнічаць у забеспячэнні вытворчай дзейнасці працоўных калектываў, займаліся распаўсюджаннем і ўкараненнем перадавога вопыту вытворчасці, прапаноў рацыяналізатараў і вынаходнікаў. Пры гэтым гістарычна ўласцівая прафсаюзам функцыя сацыяльнай абароны правоў і інтарэсаў працоўных адступала на другарадныя пазіцыі.

У першыя пасляваенныя гады прафсаюзы Беларусі ўнеслі свой уклад у аднаўленне эканомікі. Ужо да пачатку 1946 г. у Беларусі была поўнасцю адноўлена структура прафсаюзаў, усе яе звенні, а колькасць пярвічных арганізацый перавысіла 7,7 тыс. У 1950 г. у БССР налічвалася звыш 11 тыс. прафсаюзных арганізацый, якія аб'ядноўвалі 92 % рабочых і служачых рэспублікі. Каб забяспечыць выкананне планаў пасляваеннага аднаўлення народнай гаспадаркі, прафсаюзы арганізоўвалі спаборніцтвы працоўных за лепшыя паказчыкі працы. З мэтай павышэння актыўнасці працоўных яны праводзілі вытворчыя нарады, агульныя сходы, заключалі калектыўныя дагаворы з адміністрацыяй прадпрыемстваў і ўстаноў.

**Камсамол у грамадска-палітычным жыцці рэспублікі.** У грамадскім жыцці моладзі гэтых гадоў вызначальную ролю адыгрываў Ленінскі Камуністычны Саюз Моладзі Беларусі. ЛКСМБ у 1945 г.

быў узнагароджаны ордэнам Чырвонага Сцяга за мужнасць, праяўленую камсамольцамі ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Першыя пасляваенныя кіраўнікі камсамола Беларусі К. Т. Мазураў (1946—1947) і П. М. Машэраў (1947—1954) сталі вядомымі палітычнымі дзеячамі. Камсамол аб'ядноўваў большасць маладых людзей, якія працавалі або вучыліся. У 1948 г. ЛКСМБ налічваў больш за 260 тыс. чалавек. Ад камсамольцаў патрабавалася ўзорная праца і добрасумленная вучоба, адданасць ідэям камуністычнай партыі, актыўнасць жыццёвай пазіцыі. У сваёй большасці яны ўспрымалі сваю дзейнасць як служэнне Радзіме. Таму энтузіязм і натхненне былі адметнай рысай камсамольскага жыцця.

Аднаўленне дзейнасці камсамольскіх арганізацый у пасляваенныя гады адбывалася даволі хутка. Камсамол клапаціўся аб ідэйна-палітычным выхаванні моладзі ў адпаведнасці з партыйнымі прадвызначэннямі. Камсамольскія арганізацыі рэспублікі накіравалі дзясяткі тысяч юнакоў і дзяўчат на будоўлі і прамысловыя прадпрыемствы, стварылі там звыш 2 тыс. камсамольска-маладзёжных брыгад.

У рэспубліцы, як і ва ўсім СССР, ствараліся і дзейнічалі розныя грамадскія арганізацыі: спартыўныя, абаронныя, навуковыя, кааператыўныя і інш. Грамадскія арганізацыі ў пэўнай ступені садзейнічалі актывізацыі грамадскага жыцця. Аднак галоўнай перашкодай актывізацыі грамадскага жыцця было тое, што членства ў іх для большасці працуючага насельніцтва было абавязковым.

***Пункт гледжання.*** Адзінага погляду адносна грамадска-палітычнага жыцця ў першае пасляваеннае дзесяцігоддзе не існуе. Некаторыя з гісторыкаў на падставе вывучэння ўспамінаў сведкаў лічаць, што людзі тады адчувалі сябе нядрэнна, верылі ў заўтрашні дзень, хадзілі на сходы, а ў дні свят — на дэманстрацыі, а наконт рэпрэсій мяркуюць, што былі людзі, якія іх заслугоўвалі. Іншыя гісторыкі мяркуюць, што грамадска-палітычнае жыццё ў СССР, у тым ліку і БССР, у 1945—1953 гг. трэба разглядаць з пункту гледжання яго адпаведнасці працэсу дэмакратызацыі.

**Узаемаадносіны дзяржавы і рэлігійных канфесій.** У гады Вялікай Айчыннай вайны духавенства падтрымала ўсенародную барацьбу супраць ворага. У адказ савецкае кіраўніцтва зрабіла

захады па павышэнні ролі Рускай Праваслаўнай Царквы, да якой належала большасць вернікаў. У верасні 1943 г. па ініцыятыве І. В. Сталіна адбылося аднаўленне Маскоўскай Патрыярхіі і дзейнасці Патрыярха Маскоўскага і ўсея Русі. Гэта азначала новы этап ва ўзаемаадносінах Савецкай улады і праваслаўнай канфесіі.

У пасляваенны час ажывілася рэлігійнае жыццё ў Беларусі. У дзяржаўнай палітыцы больш прыкметнымі сталі тэндэнцыі верацярпімасці. Гэта праявілася ў павелічэнні праваслаўных прыходаў, колькасці цэркваў і святароў. Так, калі ў 1945 г. у Беларусі было зарэгістравана 705 дзеючых цэркваў, то ў 1948 г. іх лічба павялічылася да 1050. Для падрыхтоўкі святароў, якіх не хапала, у 1947 г. была адчынена Мінская духоўная семінарыя ў Жыровічах. На тэрыторыі рэспублікі дзейнічалі тры манастыры: мужчынскі — у Жыровічах і жаночыя — у Полацку і Гродне.

Адносіны ўлады да каталіцкай царквы, якая дзейнічала пераважна ў заходніх абласцях Беларусі, характарызаваліся паступовым закрыццём касцёлаў, якіх у 1946 г. налічвалася 238. У 1951 г. службы адпраўляліся толькі ў 154 касцёлах. З 1945 г. па 1951 г. было арыштавана каля 180 ксяндзоў, што складала амаль 75 % ад іх агульнай колькасці ў Беларусі. Значная колькасць ксяндзоў абвінавачвалася ў падтрымцы дзейнасці Арміі Краёвай і варожых адносінах да Савецкай улады.

***Вызначым асноўнае ў змесце параграфа.*** Грамадска-палітычнае жыццё ў першыя пасляваенныя гады было звязана з планамі і задачамі па аднаўленні і развіцці разбуранай вайной эканомікі. Велічнасць гэтай справы натхняла людзей на плённую працу і актыўны ўдзел у грамадскім жыцці. Аднак поўны кантроль і ўсеагульная рэгламентацыя грамадска-палітычнага жыцця з боку кіраўніцтва кампартыі і органаў дзяржаўнай улады абумоўлівалі яго абмежаванасць. Ва ўмовах існавання аднапартыйнай палітычнай сістэмы існавалі толькі фармальныя прыкметы дэмакратызацыі грамадства. Нягледзячы на матэрыяльна-бытавыя цяжкасці і абмежаванасць грамадска-палітычнага жыцця, народ Беларусі з надзеяй глядзеў у будучыню і верыў, што яна залежыць перш за ўсё ад добрасумленнай працы ўсіх і кожнага.

***Паняцці і тэрміны, якія трэба засвоіць:*** *рэпатрыяцыя.*

## ДАДАТКОВЫ МАТЭРЫЯЛ

### Культурна-гістарычнае асяроддзе


А. А. Грамыка. *Другая палова 1940-х гг.*

****1.** Кіраўніком савецкай дэлегацыі на канферэнцыях па стварэнні Арганізацыі Аб'яднаных Нацый і прыняцці яе Статута з'яўляўся ўраджэнец Гомельшчыны Андрэй Андрэевіч Грамыка (1909—1989) — савецкі партыйны і дзяржаўны дзеяч, двойчы Герой Сацыялістычнай Працы. У 1946—1948 гг. — пастаянны прадстаўнік СССР у Савеце Бяспекі ААН. Ён адыграў значную ролю ў вырашэнні пытання аб уключэнні БССР у склад дзяржаў-заснавальніц ААН, а яго подпіс стаіць пад Статутам ААН. У 1957—1985 гг. — міністр замежных спраў СССР. У гады «халоднай вайны» заходнія журналісты празвалі яго «Містар Не». Ён тлумачыў такое прозвішча так: «Я сабою маніпуліраваць не дазваляў. Хто імкнуўся да гэтага — жадаў маніпуліраваць Савецкім Саюзам. Мы — вялікая дзяржава і нікому гэтага рабіць не дазволім». Прымаў удзел у падпісанні Заключнага акта Нарады па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе (Хельсінкі, 1975 г.). Папярэджваў, што, калі еўрапейскія краіны адмовяцца ад Хельсінскіх дамоўленасцей, у Еўропу зноў прыйдзе вайна. Прытрымліваўся пастулата, што лепш 10 гадоў перагавораў, чым адзін дзень вайны. У Гомелі ўстаноўлены бюст нашага славутага земляка, а яго важнейшыя дыпламатычныя дасягненні складаюць сёння ядро сучаснай знешняй палітыкі Беларусі.

*Нагадайце абставіны, па якіх БССР была ўключана ў склад дзяржаў — заснавальніц ААН.*


Дзяржаўны сцяг БССР. *1951—1991 гг.*

****2.** У сувязі з выхадам БССР на міжнародную арэну ў якасці адной з дзяржаў — заснавальніц ААН у **1951 г.** быў зацверджаны новы Дзяржаўны сцяг рэспублікі. Малюнак сцяга, распрацаваны мастаком М. Гусевым, складаўся з дзвюх гарызантальна размешчаных палос. Верхняя паласа была чырвонага колеру, ніж-

няя — зялёнага. На чырвонай паласе ў левым верхнім вугле былі залатыя серп і молат і чырвоная зорка ў залатым абрамленні. Каля дрэўка вертыкальна размяшчаўся беларускі нацыянальны арнамент белага колеру на чырвоным фоне. Малюнак арнаменту быў узяты з ручніка, вышытага ў 1917 г. сялянкай Матронай Маркевіч з вёскі Касцілішча Сенненскага раёна Віцебскай вобласці. Дзяржаўны сцяг у такім выглядзе існаваў да 1991 г.

*Вызначце, што абазначаюць элементы Дзяржаўнага сцяга БССР.*

### ПЫТАННІ І ЗАДАННІ

1. Ахарактарызуйце савецкую грамадска-палітычную сістэму, якая існавала ў БССР у першыя пасляваенныя гады. Выкарыстайце слоўнік паняццяў і тэрмінаў, а таксама дакумент № 7 хрэстаматыі.
2. Вызначце, чаму існавалі недаверлівыя адносіны ўлады да людзей, якія былі рэпатрыіраваны або пражывалі на часова акупіраванай гітлераўцамі тэрыторыі. Выкарыстайце дакумент № 4 хрэстаматыі.
3. Растлумачце, якія механізмы дазвалялі кампартыі ажыццяўляць кіраўніцтва ўсімі сферамі жыцця беларускага грамадства. Выкарыстайце дакумент № 6 хрэстаматыі.
4. Растлумачце, чаму ў жыцці моладзі вызначальную ролю адыгрываў камсамол.
5. Дайце характарыстыку дзейнасці П. К. Панамарэнкі і В. І. Казлова.
6. Папрацуйце па метадзе ключавога слова са зместам абзаца «Месца камуністычнай партыі ў грамадска-палітычнай сістэме ў БССР».
7. Ахарактарызуйце адносіны ўлады і царквы.

## § 4. Адраджэнне і развіццё адукацыі і навукі ў БССР у пасляваенны перыяд

### Вучэбная задача

Вызначыць ролю адукацыі і навукі ў аднаўленні народнай гаспадаркі і ўсяго жыцця рэспублікі.

### Успомніце

Чаму развіццё адукацыі і культуры ў БССР у 1920—1930-я гг. атрымала назву «культурная рэвалюцыя»?

**Аднаўленне работы агульнаадукацыйнай школы.** Адукаванасць насельніцтва заўсёды адыгрывала важную ролю ў развіц-

ці грамадства. Адраджэнне народнай адукацыі і культуры стала састаўным элементам працэсу стварэння індустрыяльнай дзяржавы.

Паспяховае аднаўленне народнай гаспадаркі БССР пасля выгнання нямецка-фашысцкіх акупантаў было немагчымым без аднаўлення ўсёй сістэмы адукацыі. Яе базай стала агульнаадукацыйная школа.

### ГІСТАРЫЧНАЯ ДАВЕДКА

У час вайны на акупіраванай тэрыторыі Беларусі працавала каля 3 тыс. школ, у якіх навучалася 270 тыс. дзяцей. Па колькасці школ гэта ў 4 разы менш, чым да вайны, а па колькасці вучняў — у 6 разоў. Сярод іх пераважалі пачатковыя школы.

У час фашысцкай акупацыі школьныя будынкі, а таксама абсталяванне былі амаль поўнасцю знішчаны, шмат чаго проста пайшло на дровы.

Каб аднавіць працу школ, трэба было адрамантаваць ці нанава пабудаваць школьныя будынкі, наладзіць выпуск школьнага абсталявання, вучэбнай літаратуры, падрыхтаваць настаўнікаў. Рамонтам і будаўніцтвам школ займаліся не толькі будаўнікі, але і настаўнікі, бацькі вучняў і нават ваеннаслужачыя. Гэта дазволіла ўжо ў 1945/1946 навучальным годзе ўвесці ў дзеянне 80 % ад даваеннай колькасці школ. Палова з іх, пераважна на сяле, была адноўлена настаўнікамі, вучнямі і бацькамі.

У 1950/1951 навучальным годзе школьная сетка ў рэспубліцы не выйшла на даваенны ўзровень, таму што адбывалася ўзбуйненне школ. Але колькасць вучняў была меншай, чым у перадваенныя гады, што з'явілася вынікам вялікіх страт насельніцтва Беларусі ў гады вайны.

Каб прыцягнуць да вучобы дзяцей, якія ў сувязі з вайной не наведвалі школу на працягу трох гадоў і сталі пераросткамі, у пачатковыя школы прымалі дзяцей да 15-гадовага ўзросту, а ў першы і другі класы — 11-гадовых. Не ўсе школы, асабліва на сяле, размясціліся ў прыдатных для навучання памяшканнях. Шмат якія працавалі ў прыватных дамах і нават у зямлянках.

ГІСТАРЫЧНЫ ДАКУМЕНТ

З дакладной запіскі загадчыка Магілёўскага абласнога аддзела адукацыі: «Калі ў школах не было парт, дык з дошак збівалі даўжынёй на 5—6 месцаў нешта падобнае на парту, якая ў будучым як экспанат павінна трапіць у музей. Калі ў вокнах захаваліся некалькі шыбаў, дык яны вымаліся і імі зашклялася адно акно, а астатнія забіваліся дошкамі. Калі не было класнай дошкі — рабілася рама, а на яе набіваўся ліст абгарэлай бляхі, на якой добра захоўваўся след ад цвёрдага кавалка белай гліны, якая замяняла крэйду».

У першы навучальны год у адноўленых школах працавала толькі каля паловы даваеннай колькасці настаўнікаў. Таму рабіліся захады, каб хутчэй забяспечыць вяртанне педагагічных кадраў з усходніх раёнаў краіны. У школы на працу накіроўваліся дэмабілізаваныя з арміі былыя настаўнікі. У выніку ўжо ў 1946 г. колькасць настаўнікаў у Беларусі склала звыш 80 % ад даваеннай.

Пераадольваючы шматлікія цяжкасці першых пасляваенных гадоў, агульнаадукацыйная школа Беларусі ў сціслы тэрмін забяспечыла ўсеагульнае пачатковае навучанне. А на працягу 1949—1952 гг. уводзілася абавязковае сямігадовае навучанне.

Ствараліся ўмовы для адукацыі працоўнай моладзі. Для яе адкрываліся школы рабочай і сельскай моладзі. Адбыўся пераход да навучання з 7-гадовага ўзросту замест 8-гадовага, была ўведзена здача экзаменаў у 4-х і 7-х класах, а ў 10-м класе — экзамен на атэстат сталасці. У выніку да сярэдзіны 1950-х гг. пераход да ўсеагульнага 7-гадовага навучання быў у асноўным завершаны, што сведчыла пра паспяховае пераадоленне наступстваў вайны ў школьнай адукацыі. У заходніх абласцях БССР грамаце было навучана больш за 370 тыс. непісьменных і звыш 500 тыс. малапісьменных.

**Вышэйшая і сярэдняя спецыяльная школа Беларусі ў першыя пасляваенныя гады.** У час вайны многія студэнты і выкладчыкі, супрацоўнікі Акадэміі навук БССР пайшлі ў армію. У 1943 г. пачалі дзейнічаць у эвакуацыі толькі Беларускі дзяржаўны універсітэт на станцыі Сходня пад Масквой і Мінскі медыцынскі інстытут у г. Яраслаўлі. Матэрыяльная база ВНУ, тэхнікумаў, навуковых устаноў амаль поўнасцю была знішчана. Яе аднаўленне пачалося адразу пасля вызвалення БССР ад нямецка-фашысцкай акупацыі.

ГІСТАРЫЧНАЯ ДАВЕДКА

Ужо ў 1944 г. пачаў сваю дзейнасць Беларускі політэхнічны інстытут. У гэтым жа годзе ў Мінск з-пад Масквы пераехаў БДУ, а з Яраслаўля — медыцынскі інстытут (**). У 1944—1945 гг. аднавіў заняткі Беларускі інстытут народнай гаспадаркі і іншыя ВНУ. У 1945 г. быў створаны Беларускі тэатральны інстытут (у 1953 г. перайменаваны ў тэатральна-мастацкі). У 1948 г. адкрыўся Мінскі педагагічны інстытут замежных моў.

Усяго ў 1950/1951 навучальным годзе ў рэспубліцы дзейнічала 29 вышэйшых навучальных устаноў, у якіх займалася на 10 тыс. студэнтаў больш, чым перад вайной. Праўда, у 1950-я гг. колькасць ВНУ ў БССР скарацілася, што было звязана з закрыццём настаўніцкіх інстытутаў.



Студэнты. Мастак В. Волкаў. *1947 г.*

Аднак патрэбнасці аднаўлення народнай гаспадаркі ВНУ задавальнялі не ў поўнай меры. Асабліва не хапала інжынерных кадраў. Таму ў першай палове 1950-х гг. былі адкрыты Гродзенскі сельскагаспадарчы інстытут, Беларускі інстытут інжынераў чыгуначнага транспарту ў Гомелі, Беларускі інстытут механізацыі і электрыфікацыі сельскай гаспадаркі ў Мінску. Сталі працаваць Брэсцкі, Мазырскі і Полацкі педагагічныя інстытуты. У выніку выпуск спецыялістаў з вышэйшых навучальных устаноў у 1955 г. перавысіў даваенны 1940 г. амаль у 2,5 раза.

Значная ўвага надавалася аднаўленню і развіццю сярэдняй спецыяльнай школы.

ГІСТАРЫЧНАЯ ДАВЕДКА

Ужо ў 1944/1945 навучальным годзе аднавілі работу 66 тэхнікумаў і вучылішчаў, праз год іх колькасць дасягнула 94, а ў 1955 г. — 123. Гэта было крыху менш, чым да вайны, але даваенная колькасць навучэнцаў была перасягнута ўжо ў 1950 г. За 10 першых пасляваенных гадоў было падрыхтавана каля 90 тыс. спецыялістаў з сярэдняй спецыяльнай адукацыяй, а іх колькасць у народнай гаспадарцы БССР у сярэдзіне 1950-х гг. перавысіла даваенную амаль удвая.

Разам з тым у першыя пасляваенныя гады ВНУ працавалі ў цяжкіх умовах. Не хапала памяшканняў, абсталявання, падручнікаў, метадычных распрацовак, карт і г. д. Цяжкімі былі і ўмовы працы выкладчыкаў, якіх да таго ж таксама не хапала. Вышэйшая і сярэдняя спецыяльная школа ў сярэдзіне 1950-х гадоў не паспявала забяспечыць узрастаючыя патрэбнасці ў кадрах спецыялістаў. З агульнай колькасці настаўнікаў 8—10-х класаў мелі вышэйшую адукацыю менш за 70 %. У прамысловай вытворчасці на пасадах інжынераў і тэхнікаў працавала значная колькасць практыкаў. Гэта патрабавала далейшага пашырэння і ўдасканалення падрыхтоўкі кадраў спецыялістаў у рэспубліцы.

Акрамя аб’ектыўных цяжкасцей пасляваеннага часу вышэйшая школа адчувала жорсткі ідэалагічны прэс, характэрны для ўсяго грамадска-палітычнага жыцця першага пасляваеннага дзесяцігоддзя. Вучэбна-выхаваўчая работа насіла палітызаваны характар. Аб’ёмы вывучэння нацыянальнай гісторыі і культуры скарачаліся. Сярод выкладчыкаў вядучых ВНУ БССР у першыя пасляваенныя гады прадстаўнікі карэннай нацыі складалі каля 30—40 %. Не ў апошнюю чаргу менавіта таму выкладанне на беларускай мове было згорнута. Тых жа, хто выступаў за беларускамоўную адукацыю, абвінавачвалі ў нацыяналізме.

**Адраджэнне і выхад на новыя рубяжы беларускай навукі.** Пасля вайны ў Беларусі хуткімі тэмпамі аднаўлялася матэрыяльна-тэхнічная база навукі. У 1944 г. узнавіла сваю дзейнасць Акадэмія навук БССР. У яе складзе ствараліся новыя навукова-даследчыя інстытуты: механізацыі і электрыфікацыі сельскай гас-



Герой Савецкага Саюза А. Р. Мазанік (злева на фотаздымку), студэнтка бібліятэчнага факультэта Мінскага педагагічнага інстытута імя А. М. Горкага, разам з аднакурснікамі рыхтуецца да заняткаў у кабінеце марксізму-ленінізму. *1952 г.*

падаркі, філасофіі і права, фізіка-тэхнічны, энергетыкі, фізікі і матэматыкі і інш. Колькасны склад Акадэміі навук папаўняўся за кошт як маладых, так і тых навукоўцаў, што пераехалі ў Беларусь з вядучых навуковых цэнтраў СССР. У 1951 г. навуковых супрацоўнікаў АН БССР было нават больш, чым да вайны. У развіццё Акадэміі навук у пасляваенныя гады значны ўклад унёс яе прэзідэнт В. Ф. Купрэвіч.

ГІСТАРЫЧНЫ ПАРТРЭТ

**Васіль Феафілавіч Купрэвіч (1897—1969)** — беларускі навуковы дзеяч. Акадэмік АН БССР. Член-карэспандэнт АН СССР. Доктар біялагічных навук, прафесар, заслужаны дзеяч навукі БССР, якога шырока ведалі ва ўсім свеце. Герой Сацыялістычнай Працы. Абараніў доктарскую дысертацыю ў 1942 г. у блакадным галадаючым Ленінградзе, што само па сабе было жыццёвым подзвігам. Асноўнымі кірункамі яго навуковай дзейнасці былі батаніка, глебазнаўства, фізіялогія. Займаўся філасофскай праблемай жыцця і смерці з пункту гледжання біялогіі, што ставіць яго імя ў адзін рад з выдатнымі мысліцелямі XX ст. Падчас яго кіраўніцтва Акадэміяй навук з 1952 па 1969 г. пачаліся даследаванні па новых для Беларусі навуковых напрамках. В. Ф. Купрэвіч прыклаў шмат намаганняў для аднаўлення даследаванняў у галіне генетыкі.



Дасягненні навукі ў пасляваенны перыяд пачалі пастунова ўкараняцца ў вытворчасць. Шмат для гэтага зрабілі нашы вучоныя. У 1951 г. Дзяржаўную прэмію СССР атрымаў П. І. Альсмік за вывядзенне і ўкараненне ў вытворчасць высокапрадукцыйных гатункаў бульбы, у 1952 г. — Г. В. Багамолаў за разведку і адкрыццё Старобінскага радовішча калійных солей.

На шляху развіцця навукі ў гэтыя гады было нямала і перашкод. Адмоўна ўплывала слабасць яе матэрыяльна-тэхнічнай базы. Навуковых прыбораў і абсталявання не хапала, шмат з іх састарэла. Адмоўна дзейнічалі і адміністрацыйныя метады кіравання, вынікам чаго з'явілася прызнанне неперспектыўнымі такіх навуковых кірункаў, як генетыка і кібернетыка. Вучоныя, якія

займаліся распрацоўкай гэтых галін навукі, пазбаўляліся магчымасці весці даследаванні. Такі лёс напаткаў, у прыватнасці, вядомага вучонага-генетыка і селекцыянера, прэзідэнта Акадэміі навук БССР у 1947 г. А. Р. Жэбрака. Партыйнае кіраўніцтва ўгледзела ў яго навуковай публікацыі ў амерыканскім часопісе «Science» паклёп на савецкіх вучоных, а сама публікацыя была названа антыпатрыятычнай акцыяй.

У грамадскіх навуках крытыкаваліся палажэнні аб дзяржаўнасці на тэрыторыі Беларусі ў час існавання Вялікага Княства Літоўскага, аб «залатым веку» ў гісторыі беларускай культуры ў эпоху Адраджэння і інш.

***Вызначым асноўнае ў змесце параграфа.*** Пасляваеннае аднаўленне ў сціслыя тэрміны работы навучальных устаноў стварыла ўмовы для неабходнай адукацыі ўсіх дзяцей і моладзі. Гэта стала важным крокам у будучыню Беларусі, паколькі рост адукацыі моладзі з'явіўся перадумовай паспяховага пасляваеннага аднаўлення. Забеспячэнне высокакваліфікаванымі кадрамі ўсіх галін эканомікі БССР і развіццё беларускай навукі стварылі рэальныя ўмовы для паступовага станаўлення індустрыяльнага грамадства.

## ДАДАТКОВЫ МАТЭРЫЯЛ

### Культурна-гістарычнае асяроддзе



Г. І. Сідарэнка

** Адным са студэнтаў Мінскага медыцынскага інстытута стаў Георгій Іванавіч Сідарэнка (нарадзіўся ў 1925 г.). 19-гадовым хлопцам, закончыўшы 9 класаў, ён добраахвотнікам пайшоў на фронт. Удзельнічаў у баях за вызваленне Беларусі, быў узнагароджаны медалём «За адвагу». У баі на тэрыторыі Польшчы быў цяжка паранены. Яго імя было выбіта на помніку загінуўшым, аднак ён застаўся ў жывых. Ужо ў шпіталі запытаўся ў хірурга, ці будзе размаўляць і спяваць, на што ўрач адказаў, што пакуль не ведае, ці будзе ён жыць. Пачуўшы па рэпрадуктары канцэрт для фартэпіяна з аркестрам № 1 Чайкоўскага, Георгій падумаў, што пад такую музыку

нельга паміраць. У юнака, які назіраў за самаахвярнай працай урачоў і санітараў, нарадзілася мара стаць медыкам. У 1945 г., закончыўшы з залатым медалём школу, паступіў у медінстытут. У наступным стаў адным з першых вучоных-медыкаў у СССР, які заснаваў кардыялагічныя брыгады, садзейнічаў развіццю медыцынскага прыборабудавання. Зрабіў значны ўклад у дыягностыку сардэчна-сасудзістых хвароб на аснове мікрапрацэсарных і камп'ютарных тэхналогій. Акадэмік Г. І. Сідарэнка за сваю навуковую дзейнасць зрабіў больш за 160 вынаходніцтваў, падрыхтаваў 76 дактароў і кандыдатаў медыцынскіх навук. Стаў заслужаным дзеячам навукі БССР.

*Праслухайце згаданы музычны твор П. І. Чайкоўскага. Якім чынам гэты твор, а таксама жыццёвы шлях Г. І. Сідарэнкі паўплывалі на яго веру ў жыццё і прафесіянальны выбар?*

## ПЫТАННІ І ЗАДАННІ

1. Пералічыце з дапамогай атласа вышэйшыя навучальныя ўстановы, якія былі адкрыты ці пачалі дзейнічаць у БССР у першай палове 1950-х гг.
2. Ахарактарызуйце дзейнасць В. Ф. Купрэвіча.
3. Вызначце, чаму асаблівая ўвага надавалася падрыхтоўцы інжынерных кадраў.
4. Растлумачце, што стала перашкодай для таго, каб навукоўцы працавалі з большай творчай аддачай.
5. Вызначце дасягненні і цяжкасці ў працэсе аднаўлення народнай адукацыі.
6. Складзіце ў сшытку параўнальную табліцу «Развіццё адукацыі і навукі БССР у 1920—1930-я гг. і ў першае пасляваеннае дзесяцігоддзе».

| Прыкметы для параўнання | «Культурная рэвалюцыя» | Пасляваеннае адраджэнне |
|---|---|---|
| Унутрыпалітычныя ўмовы | | |
| Эканамічныя ўмовы | | |
| Асноўныя дасягненні | | |

7. Вызначце, якімі былі ўмовы пасляваеннага навучання. Выкарыстайце дакумент № 62 хрэстаматыі.
8. Калі б вам прыйшлося быць вучнем школы адразу пасля вайны, якімі былі б вашы адносіны да вучобы? Свой адказ аргументуйце.

# § 5. Літаратура і мастацтва

**Вучэбная задача**

Вызначыць дасягненні і цяжкасці ў развіцці беларускай літаратуры і мастацтва ў першае пасляваеннае дзесяцігоддзе.

**Успомніце**

Што азначае метад сацыялістычнага рэалізму?

**Умовы развіцця беларускай літаратуры.** Вайна прывяла да скарачэння пісьменніцкага асяроддзя. У 1945 г. у складзе Саюза савецкіх пісьменнікаў БССР налічвалася ўсяго 47 чалавек. Гэта было значна менш, чым у даваенны час. Пераход да мірнага жыцця спрыяў таму, што ў літаратуру прыйшлі новыя таленты. Ужо ў 1950 г. Саюз пісьменнікаў БССР налічваў у сваіх радах каля 120 чалавек. Сярод іх І. Мележ, І. Шамякін, А. Макаёнак, Я. Брыль.



Удзельнікі 3-га з'езда пісьменнікаў БССР (злева направа на першым плане Я. Колас, П. Броўка, І. Шамякін). *1954 г.*

У 1947 г. з'явілася партыйная пастанова аб рабоце Саюза пісьменнікаў, літаратурна-мастацкіх часопісаў, газеты «Літаратура і мастацтва». Ад пісьменнікаў патрабавалася прытрымлівацца ў сваёй творчай дзейнасці *прынцыпу партыйнасці.* Гэта азначала, што дзеячы культуры павінны былі кіравацца ідэалогіяй камуністычнай партыі, зыходзіць з яе патрабаванняў і прадвызначэнняў. Літаратурныя героі абавязкова падзяляліся на станоўчых і адмоўных, з асуджэннем апошніх як носьбітаў аджыўшага, таго, што перашкаджала руху наперад. Непажаданых для ўлады пісьменнікаў рэпрэсіравалі. Былі беспадстаўна арыштаваныя і асуджаныя пісьменнікі У. Дубоўка, С. Грахоўскі і інш. Аднак і ў такіх умовах літаратура і мастацтва служылі не толькі партыі, але і народу.

**Тэма вайны і адлюстраванне мірнага жыцця ў творах беларускіх пісьменнікаў.** Беларуская літаратура пасляваенных гадоў была прысвечана пераважна мінулай вайне. Асэнсаваннем вайны па яе гарачых слядах стаў раман «Млечны Шлях» К. Чорнага. У ім — роздум пісьменніка пра лёс народа ў час вайны. Найбольш поўна ваенныя падзеі выяўлены ў рамане-эпапеі М. Лынькова «Векапомныя дні». Адзін з галоўных герояў рамана Канстанцін Заслонаў паўстае і як рэальная асоба, і як легендарны герой.



К. Чорны



М. Лынькоў

Увагу чытачоў прыцягнулі творы І. Шамякіна. За раман «Глыбокая плынь» пісьменнік быў узнагароджаны Дзяржаўнай прэміяй СССР. Гэты першы беларускі «партызанскі» раман стаў значнай падзеяй у літаратуры свайго часу. Вызваленню БССР ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у тым ліку падзеям аперацыі «Баграціён», прысвечаны раман І. Мележа «Мінскі напрамак». У ім паказаны рэальныя гістарычныя асобы, у прыватнасці камандуючы 3-м Беларускім фронтам І. Д. Чарняхоўскі.

У першае пасляваеннае дзесяцігоддзе ў большасці твораў аб вайне ўвага канцэнтравалася пераважна на гераізме яе ўдзельнікаў. У іх знайшоў адлюстраванне настрой народа-пераможцы, які насуперак усім цяжкасцям і стратам дачакаўся вялікага шчасця мірнага жыцця.

У гэты час плённа працаваў Я. Колас. У 1947 г. выйшла яго паэма «Рыбакова хата», за якую ён атрымаў Дзяржаўную прэмію СССР. А ў 1954 г. пісьменнік завяршыў работу над трылогіяй «На ростанях».

Беларускія пісьменнікі зрабілі першыя спробы адысці ад традыцыйнай для беларускай літаратуры вясковай тэматыкі. А. Кулакоўскі сваю аповесць «Гартаванне» прысвяціў паказу будаўніцтва Мінскага трактарнага завода, а М. Паслядовіч свой твор «Цёплае дыханне» — узвядзенню аўтамабільнага завода.

У першае пасляваеннае дзесяцігоддзе паспяхова развівалася беларуская паэзія. Яна прасякнута пачуццём гонару народа за здабытую перамогу ў вайне, верай у яго вялікія стваральныя магчымасці.

У гэтыя гады ў росквіце творчых сіл знаходзіліся такія вядомыя паэты, як П. Броўка, М. Танк, П. Панчанка, П. Глебка, А. Куляшоў.

ГІСТАРЫЧНЫ ПАРТРЭТ

**Аркадзь Аляксандравіч Куляшоў (1914—1978)** — беларускі паэт, грамадскі дзеяч. Народны паэт Беларусі. Друкавацца пачаў з 1926 г. Яго даваенныя творы — гэта глыбокі роздум пра лёс маладога пакалення, якое ўвайшло ў жыццё ў 1930-я гг. Барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў прысвечана яго паэма «Сцяг брыгады», што выйшла ў 1943 г. і за якую аўтар атрымаў Дзяржаўную прэмію СССР. Такой жа ўзнагароды ён удастоены за паэму «Новае рэчышча», прысвечаную мірнай працы першых пасляваенных гадоў. Барацьба працоўных Заходняй Беларусі адлюстравана ў паэме «Грозная пушча». З'яўляецца суаўтарам сцэнарыя фільма «Першыя выпрабаванні» паводле трылогіі Я. Коласа «На ростанях».



Беларуская проза паступова пазбаўлялася рыторыкі і схематычнасці, адкідала бесканфліктнасць, паглыбляла свой гуманістычны змест. Агульным для беларускай літаратуры пасляваенных гадоў быў пошук цесных сувязей з рэчаіснасцю, вялікая ўвага надавалася праблеме героя сучаснасці. Але не ўсё атрымлівалася належным чынам. Даволі часта галоўны герой твора станавіўся рупарам ідэй, у процівагу прыгладжаным і прыхарошаным абставінам. Аднак уплыў літаратуры на жыццё быў несумненным.

**Беларускі тэатр. Музычнае жыццё. Выяўленчае мастацтва.** Адразу пасля вызвалення Беларусі ад акупантаў пачалося аднаўленне тэатра і адраджэнне беларускай драматургіі. На радзіму вярнуліся тэатры, якія знаходзіліся ў эвакуацыі. Распачалі сваю дзейнасць тэатральныя калектывы, якія спынілі працу ў сувязі з

вайной. Ужо ў сезоне 1944/1945 гг. у Беларусі працавала 12 тэатраў. Пры тэатрах імя Я. Купалы і імя Я. Коласа былі створаны студыі для падрыхтоўкі акцёраў.

Рэпертуар тэатраў у гэты час складалі як лепшыя пастаноўкі мінулых гадоў, так і спектаклі ваеннай тэматыкі. У 1945 г. у Купалаўскім тэатры была пастаўлена п'еса А. Кучара «Заложнікі» пра партызана Бацьку Міная і яго сям'ю. У наступныя гады ставіліся п'есы «Канстанцін Заслонаў» А. Маўзона, «Брэсцкая крэпасць» К. Губарэвіча і інш. Значнае месца ў рэпертуары беларускіх тэатраў займала руская і замежная класіка. У тэатры імя Я. Купалы ішлі п'есы «Рамэо і Джульета» У. Шэкспіра, «Вішнёвы сад» і «Чайка» А. Чэхава. Тут працавалі артысты, якія праславілі беларускі тэатр: Г. Глебаў, Л. Ржэцкая, Б. Платонаў, С. Станюта. У 1951 г. Беларускі тэатр імя Я. Коласа ў Віцебску аднавіў пастаноўку драмы Я. Купалы «Раскіданае гняздо».

Буйной мастацкай з'явай стала сатырычная камедыя А. Макаёнка «Выбачайце, калі ласка!». У ёй выкрываліся недахопы тагачаснай сельскай рэчаіснасці. Вяршыняй творчасці К. Крапівы лічыцца п'еса «Мілы чалавек». Пасляваеннаму жыццю вёскі была таксама прысвечана яго камедыя «Пяюць жаваранкі».

У 1944 г. адкрыў сезон Дзяржаўны тэатр оперы і балета БССР. Гледачы ўбачылі оперу Я. Цікоцкага «Алеся», якая ў новай рэдакцыі стала называцца «Дзяўчына з Палесся». У 1940—1950-я гг. ставіліся оперы «Надзея Дурава» А. Багатырова, прысвечаная гераіні вайны 1812 г., «Кастусь Каліноўскі» Д. Лукаса і інш.

Аднаўлялася музычнае жыццё ў рэспубліцы. З эвакуацыі вярнуўся Беларускі ансамбль песні і танца, які быў пераўтвораны ў Дзяржаўную харавую капэлу БССР на чале з Р. Шырмам. Дзейнічаў Дзяржаўны народны аркестр БССР пад кіраўніцтвам І. Жыновіча. У 1952 г. быў створаны новы музычны калектыў — Дзяржаўны акадэмічны народны хор БССР на чале з Г. Цітовічам. Творчая дзейнасць беларускіх кампазітараў характарызавалася непарыўнай сувяззю з народным мастацтвам, асаблівай увагай да тэмы Вялікай Айчыннай вайны, уslаўленнем працоўнага энтузіязму народа, яго адданасці камуністычным ідэалам.

Тэма вайны цікавіла ў гэтыя гады і мастакоў Беларусі. Сярод найбольш значных прац — карціны «Палонных вядуць» А. Шыбнёва, «Канстанцін Заслонаў» У. Хрусталёва і інш. Мастак Я. Зай-

цаў стварыў глыбока эмацыянальнае палатно «Абарона Брэсцкай крэпасці ў 1941 годзе». Адлюстраваннем гераічнага духу савецкага народа ў гады вайны з’явілася карціна «За родную Беларусь» У. Сухаверхава. Моманту сустрэчы насельніцтвам Мінска воінаў Савецкай Арміі прысвечана палатно В. Волкава «Мінск. 3 ліпеня 1944 года».

Шэраг буйных работ у гэтыя гады стварылі беларускія скульптары. Заір Азгур прысвяціў свае работы прадстаўнікам культуры Беларусі: Ф. Скарыну, А. Пашкевіч (Цётцы), Я. Коласу, К. Крапіве, народнаму герою славутаму дзеду Талашу.

3 ліпеня 1954 г. на тагачаснай Круглай плошчы ў Мінску быў адкрыты Манумент Перамогі ў гонар воінаў Савецкай Арміі і партызан, якія загінулі ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Помнік быў створаны па праекту архітэктараў Г. Заборскага і У. Караля. Аўтарамі бронзавых гарэльефаў, размешчаных на чатырох гранях манумента, сталі скульптары З. Азгур, А. Бембель, С. Селіханаў, А. Глебаў.

***Вызначым асноўнае ў змесце параграфа.***

Беларуская літаратура першага пасляваеннага дзесяцігоддзя зрабіла пэўны крок у сваім развіцці. Хуткае аднаўленне і развіццё пасля вайны ў Беларусі тэатральнага, музычнага і выяўленчага мастацтва з’явілася вынікам захавання народам высокай духоўнасці. Вайна прынесла вялікія чалавечыя і матэрыяльныя страты, але не зламала народнай волі, не знішчыла імкненне людзей да прыгожага, унутранай узнёсласці. Нягледзячы на складанасць умоў жыцця, у БССР ажыццяўлялася культурнае будаўніцтва, рабіліся навуковыя распрацоўкі, ствараліся цікавыя творы ў галіне літаратуры, жывапісу, музыкі.

***Паняцці і тэрміны, якія трэба засвоіць:*** *прынцып партыйнасці.*

## ПЫТАННІ І ЗАДАННІ

1. У чым заключаліся асноўныя прынцыпы дзяржаўнай палітыкі ў галіне літаратуры і мастацтва?
2. Як паўплывала існуючая палітычная сістэма на творчую пазіцыю беларускіх пісьменнікаў?

3. Чаму, на вашу думку, тэма Вялікай Айчыннай вайны стала вядучай у беларускай літаратуры?
4. Вызначце асаблівасці адлюстравання тэмы Вялікай Айчыннай вайны ў пасляваенных творах беларускіх пісьменнікаў.
5. Ахарактарызуйце творчасць вядучых мастакоў БССР у першае пасляваеннае дзесяцігоддзе.
6. Якой была тэматыка тэатральных пастановак? Пералічыце прозвішчы вядомых беларускіх артыстаў тэатра.
7. Раскрыйце сюжэт аднаго з твораў літаратуры або мастацтва, з якім вы пазнаёміліся. Выкарыстайце свае веды па беларускай літаратуры.

## § 6. Вынікі аднаўленчага перыяду *Урок абагульнення*

***Знайдзіце і растлумачце ключавыя словы:***

у вытрымках са справаздачы сакратара ЦК КП(б)Б П. К. Панамарэнкі ў ЦК ВКП(б) аб праведзенай рабоце ў заходніх абласцях БССР (1946 г.):

«...Важнейшым палітычным фактарам з'явілася вырашэнне зямельнага пытання (ліквідацыя памешчыцкага землеўладання і нацыяналізацыя зямлі). На гэтай аснове была праведзена вялікая праца па згуртаванні працоўных вакол Савецкай улады...

Практычна распачата вырашэнне пытання аб сацыялістычнай перабудове сельскай гаспадаркі...

Нямецкія захопнікі ў заходніх абласцях падверглі сур'ёзным разбурэнням народную гаспадарку. Асабліва жорстка знішчалі ўсе парасткі новага, савецкага: прамысловасць, калгасы, саўгасы і МТС, установы культуры і г. д. ...

Уключыўшы значную тэрыторыю заходніх абласцей рэспублікі ў склад Усходняй Прусіі, немцы спрабавалі, абапіраючыся на польскія нацыяналістычныя і кулацкія элементы, стварыць для свайго панавання палітычную базу... распальвалі нацыянальную варожасць паміж палякамі і беларусамі...

У заходніх абласцях захаваліся сур'ёзныя палітычныя наступствы нямецкай акупацыі...

Насельніцтва Заходняй Беларусі толькі на кароткі тэрмін пасля ўз'яднання было далучана да сацыялістычнага будаўніцтва і

не прайшло школы перавыхавання, не прайшло этапаў класавай барацьбы супраць памешчыкаў, капіталістаў і кулакоў, якія прайшлі працоўныя ўсходніх абласцей у гады рэвалюцыі, грамадзянскай вайны і ў гады калектывізацыі...».

***Параўнайце:***

- аднаўленне народнай гаспадаркі Беларусі пасля грамадзянскай і Вялікай Айчыннай войнаў;
- грамадска-палітычную сістэму ў БССР у 1920—1930-я гг. і ў першае пасляваеннае дзесяцігоддзе;
- ролю перадавікоў сацыялістычнага спаборніцтва на прамысловых прадпрыемствах БССР у гады пасляваеннага аднаўлення народнай гаспадаркі з роляй, якую адыгрывалі выдатнікі вучобы ў тагачаснай школе.

***Прывядзіце гістарычныя факты, якія адлюстроўваюць:***

- працоўны подзвіг беларускага народа ў гады пасляваеннага аднаўлення народнай гаспадаркі;
- узаемаадносіны паміж уладай і грамадствам у першае пасляваеннае дзесяцігоддзе;
- уплыў, які аказалі прынцып партыйнасці і метад сацыялістычнага рэалізму на развіццё літаратуры і мастацтва.

***Раскрыйце прычынна-выніковыя сувязі паміж гістарычнымі падзеямі, з'явамі, працэсамі:***

- пасляваеннае аднаўленне народнай гаспадаркі і прыняцце курса на развіццё цяжкай прамысловасці ў БССР і яе пераўтварэнне ў індустрыяльна развітую краіну;
- развіццё вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай школы ў першае пасляваеннае дзесяцігоддзе, станаўленне індустрыяльнага тыпу грамадства ў БССР.

***Дакажыце, што:***

- значнае месца ў пасляваенным развіцці народнай гаспадаркі БССР належала цяжкай прамысловасці (выкарыстайце для доказу карціну мастака М. Манасзона «Мінскі трактарны — палям»);
- насельніцтва нашай краіны здзейсніла працоўны подзвіг пры пасляваенным аднаўленні народнай гаспадаркі;
- карціна мастака У. Сухаверхава «За родную Беларусь» адлюстроўвае пачуццё гонару за перамогу беларускага народа ў Вялікай Айчыннай вайне.




Мінскі трактарны — палям.
Мастак М. Манасзон. *1957 г.*



За родную Беларусь.
Мастак У. Сухаверхаў. *1948 г.*

***Рашыце гістарычныя задачы:***

1. Міжнароднае становішча, якое склалася пасля заканчэння Вялікай Айчыннай вайны ва ўзаемаадносінах паміж краінамі — былымі саюзніцамі па антыгітлераўскай кааліцыі, характарызавалася як «халодная вайна». Якім чынам такое становішча паўплывала ў першыя пасляваенныя гады на вызначэнне кірунку развіцця прамысловасці ў БССР?

2. Выбары ў прадстаўнічыя органы дзяржаўнай улады рэспублікі — Вярхоўны Савет БССР і мясцовыя Саветы дэпутатаў працоўных — у першае пасляваеннае дзесяцігоддзе лічыліся прыкметай дэмакратызму савецкай грамадска-палітычнай сістэмы. Аднак частка сучасных даследчыкаў лічыць, што грамадска-палітычнае жыццё рэспублікі мела абмежаваны характар. Чаму так?

***Вызначце ролю гістарычных асоб і дзеячаў культуры:***

- В. І. Казлова ў наладжванні дзейнасці Саветаў дэпутатаў працоўных;
- В. Ф. Купрэвіча ў развіцці беларускай навукі;
- А. Куляшова ў развіцці беларускай літаратуры.

***Падрыхтуйце паведамленне па адной з наступных тэм:***

1. Шлях БССР да індустрыяльнага грамадства: дасягненні і складанасці першага пасляваеннага дзясяцігоддзя.

2. Аднапартыйнасць і народаўладдзе ў БССР: узаемаадносіны КП(б)Б і Саветаў дэпутатаў працоўных.

3. Беларуская літаратура і мастацтва: прынцып партыйнасці і яго ўплыў на свабоду творчасці.



# БССР У ДРУГОЙ ПАЛОВЕ 1950-х — 1980-я гг.

## § 7. Беларусь ва ўмовах рэфармавання грамадска-палітычнага і сацыяльна-эканамічнага жыцця

**Вучэбная задача**

Вызначыць этапы і напрамкі развіцця БССР у другой палове 1950-х — 1980-я гг.

**Успомніце**

Якімі былі вынікі пасляваеннага аднаўлення рэспублікі?

**Стужка часу**

**1956—1965 гг.** Перыяд «адлігі». Дзейнасць К. Т. Мазурава на пасадзе Першага сакратара ЦК КПБ.

**Другая палова 1950-х — 1970-я гг.** Станаўленне індустрыяльнага грамадства. Наладжванне вытворчасці аўтамабіляў на МАЗе і БелАЗе, трактароў на МТЗ, электронна-вылічальных машын і халадзільнікаў у Мінску, угнаенняў на калійным камбінаце ў Салігорску. Стварэнне нафтахімічнай і радыётэхнічнай прамысловасці ў БССР. Правядзенне меліярацыі, хімізацыі, будаўніцтва буйных адкормачных жывёлагадоўчых комплексаў у сельскай гаспадарцы.

**1965—1980 гг.** Дзейнасць П. М. Машэрава на пасадзе Першага сакратара ЦК КПБ.

**Другая палова 1960-х — першая палова 1980-х гг.** Перыяд паступовага наспявання застойных з'яў у палітычным і эканамічным жыцці грамадства.

**1978 г.** Прыняцце Канстытуцыі БССР.

**1985—1991 гг.** Палітыка перабудовы.

**1986 г., 26 красавіка.** Аварыя на Чарнобыльскай АЭС.

**Курс на рэфармаванне савецкага грамадства ў другой палове 1950-х — першай палове 1960-х гг.** Перыяд другой паловы 1950-х — першай паловы 1960-х гг. у гісторыі называюць *хрушчоўскай «адлігай»*. Ён вызначаўся змякчэннем палітычнага рэжыму, пачаткам аднаўлення добрага імя нявінна пацярпелых ад палітычных рэпрэсій, пераменамі ў грамадскім і культурным жыц-

ці. Аднак гісторыкі пакуль так і не выпрацавалі агульнапрынятай ацэнкі дадзенага перыяду ў развіцці нашай краіны. У сувязі з гэтым паспрабуем асэнсаваць тое, што адбылося, раскрыць сутнасць гістарычных працэсаў і падзей.

Пасля смерці І. В. Сталіна ў 1953 г. узнікла магчымасць змены курсу развіцця. Сістэма кіравання краінай, якая склалася ў 1930-я гг., была непрымальнай для грамадства. За ёй стаялі абмежаванні правоў чалавека, неабгрунтаваныя рэпрэсіі, поўны кантроль над усімі сферамі жыцця грамадства. Такая мадэль кіравання краінай не магла быць дастаткова працяглай. Самі стваральнікі лічылі яе часовай, разлічанай толькі на перыяд пабудовы сацыялізму ў СССР у той час, калі ён з’яўляўся адзінай сацыялістычнай краінай у акружэнні капіталістычных краін.

У развіцці савецкай краіны пасля заканчэння Вялікай Айчыннай вайны існавала альтэрнатыва (магчымасць выбару): або захаваць палітычны рэжым, або ажыццявіць яго рэфармаванне на дэмакратычных прынцыпах. На справе абмежаваліся паўмерамі. Характар палітычнага рэжыму, які існаваў пры Сталіне, быў прызнаны рэпрэсіўным, а культ яго асобы асуджаны. Аднак карэннай ломкі рэжыму не адбылося. Пры М. С. Хрушчове (з 1953 г. — Першы сакратар ЦК КПСС, а з 1958 па 1964 г. — адначасова і Старшыня Савета Міністраў СССР) былі зроблены спробы рэформ з мэтай паступовага пераходу да формы ўлады, што грунтуецца на дэмакратычнай аснове. Рэформы закранулі таксама эканоміку і садзейнічалі стварэнню больш спрыяльных умоў для індустрыяльнага развіцця БССР. Але правядзенне рэформ спалучалася з валюнтарызмам М. С. Хрушчова, пры якім аб’ектыўныя законы развіцця грамадства нярэдка ігнараваліся, а яго ўласныя погляды станавіліся вызначальнымі. Так, у 1961 г. на ХХІІ з’ездзе Камуністычнай партыі Савецкага Саюза была прынята Праграма партыі, якая паставіла ілюзорную мэту завяршыць пераход да камунізму ў 1980-я гг. У БССР рэформы праводзіліся пад кіраўніцтвам Першага сакратара ЦК КПБ К. Т. Мазурава.

**Узмацненне ролі партыйных органаў і нарастанне кансерватызму ў кіраўніцтве краінай. Паступовае зніжэнне тэмпаў гаспадарчага развіцця.** Перыяд развіцця БССР у 1965—1984 гг. характарызаваўся асаблівасцямі, звязанымі з прыходам да ўлады ў СССР Л. І. Брэжнева. Новае кіраўніцтва сканцэнтравала нама-



Дзяржаўныя ўзнагароды БССР: ордэны Леніна (1935, 1958 гг.), ордэн Кастрычніцкай рэвалюцыі (1968 г.), ордэн Дружбы народаў (1972 г.)

ганні на захаванні сваёй улады і, па магчымасці, вяртанні да даваеннай савецкай сістэмы кіравання. У выніку схільнасць да захавання і падтрымання старых форм грамадска-палітычнага жыцця стала асновай дзяржаўнай палітыкі. Разам з тым унутрыпалітычнае становішча ў БССР заставалася стабільным. Для беларускага грамадства былі характэрныя больш выразныя жыццёвы аптымізм людзей, іх упэўненасць у заўтрашнім дні, сімпатыі да ідэй сацыялізму. Гэтаму спрыяла і дзейнасць на пасадзе Першага сакратара ЦК КПБ П. М. Машэрава.

Сацыяльна-эканамічнае развіццё БССР было звязана з далейшым фарміраваннем індустрыяльнага грамадства. Для яго характэрныя паглыбленне падзелу працы, спецыялізацыя вытворчасці і яе аўтаматызацыя, арыентацыя вытворчасці на рынак, навукова-тэхнічная рэвалюцыя, урбанізацыя. З сярэдзіны 1960-х гг. гэты працэс значна паскорыўся. Накоплены ў 1970-я гг. эканамічны патэнцыял дазваляе характарызаваць БССР у гэты перыяд як індустрыяльную краіну.

Аднак сацыяльна-эканамічнае развіццё БССР, як і СССР у цэлым, стала паступова замаруджвацца. Гэта асабліва адчувалася ва ўмовах сусветнай навукова-тэхнічнай рэвалюцыі, якая ўяўляла сабой карэнныя змены ў вытворчасці ў выніку масавага ўкаранення дасягненняў навукі ў прамысловасць і сельскую гаспадарку. Абвастрылася праблема матэрыяльнага забеспячэння насельніцтва, хоць жыхары БССР адчулі на сабе вынікі пагаршэння эканамічнага жыцця пазней, чым у іншых рэспубліках СССР.

**Прыняцце курсу на паскарэнне сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны. Дэмакратызацыя грамадска-палітычнага жыцця ў перыяд перабудовы.** У СССР к сярэдзіне 1980-х гг. сталі праяўляцца прыкметы *стагнацыі*, звязанай з прыпыненнем у сацыяльна-эканамічным развіцці. Забяспечваць далей высокія тэмпы развіцця эканомікі на экстэнсіўнай аснове за кошт колькаснага

павышэння паказчыкаў стала немагчымым. Спробы перавесці гаспадарку на шлях інтэнсіўнага развіцця, звязаныя з ростам вытворчасці на аснове паляпшэння якасных паказчыкаў, найперш, павышэння прадукцыйнасці працы за кошт укаранення ў вытворчасць дасягненняў навукі і тэхнікі, аказаліся безвыніковымі.

Становішча, якое склалася ў краіне, патрабавала энергічных дзеянняў. Будуць яны ажыццёўлены ці не, залежала ва ўмовах існавання аднапартыйнай сістэмы ад партыйна-дзяржаўнага кіраўніцтва. Ініцыятарам рэформы стаў М. С. Гарбачоў — кіраўнік КПСС у 1985—1991 гг. Яму належала ідэя ўдасканалення тагачаснага грамадскага ладу. Перыяд другой паловы 1980-х гг. атрымаў у гісторыі назву «перабудова».

**Этапы развіцця БССР у складзе СССР у другой палове 1950-х — 1980-я гг.**

| Другая палова 1950-х — першая палова 1960-х гг. | Другая палова 1960-х — першая палова 1980-х гг. | Другая палова 1980-х гг. |
|---|---|---|
| Пераадоленне наступстваў сталінскіх рэпрэсій у час хрушчоўскай «адлігі».<br>Эканамічныя рэформы, звязаныя з праявамі валюнтарызму пры іх ажыццяўленні | Схільнасць да захавання старых формаў грамадска-палітычнага жыцця.<br>Ператварэнне БССР у індустрыяльна развітую краіну.<br>Паступовае наспяванне застойных з'яў у палітычным і эканамічным жыцці | Правядзенне палітыкі перабудовы.<br>Курс на паскарэнне сацыяльна-эканамічнага развіцця.<br>Пазбаўленне КПБ манаполіі на ўладу і паступовае фарміраванне шматпартыйнасці |

Аснову абнаўлення павінна было забяспечыць паскарэнне сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны. Пры гэтым у эканоміцы захоўвалася камандна-адміністрацыйная сістэма кіравання, а таксама дзяржаўная ўласнасць на сродкі вытворчасці, а ў грамадска-палітычным жыцці — кіруючая роля камуністычнай партыі.

Задачай перабудовы стала ліквідацыя скажэнняў у будаўніцтве сацыялізму і вяртанне да ленінскага бачання адносін паміж людзьмі ў сацыялістычным грамадстве. Пераход да дэмакратычных прынцыпаў кіравання разглядаўся ў якасці пераважнага над

эканамічнымі рэформамі, якім надавалася другараднае значэнне. Увага перш за ўсё накіроўвалася на забеспячэнне поўнаўладдзя Саветаў. Вынікам стала скліканне ў 1990 г. З'езда народных дэпутатаў СССР, які скасаваў канстытуцыйнае палажэнне аб кіруючай і накіроўваючай ролі КПСС. Камуністычная партыя Беларусі пазбаўлялася дзяржаўных функцый, якія былі замацаваны выключна за Саветамі. Адбывалася паступовае фарміраванне шматпартыйнасці. Распачалася адкрытая і вострая крытыка камандна-адміністрацыйнай сістэмы.

**Напрамкі і асаблівасці развіцця БССР
у другой палове 1950-х — 1980-я гг.**

| Народная гаспадарка | Грамадска-палітычнае жыццё |
|---|---|
| Паступовае фарміраванне індустрыяльнага грамадства.<br>Развіццё эканомікі БССР у складзе народнагаспадарчага комплексу СССР пераважна на экстэнсіўнай аснове.<br>Захаванне цэнтралізаванага планавага кіраўніцтва і спроба яго рэфармавання на аснове выкарыстання інтэнсіўных фактараў.<br>Пераважнае развіццё цяжкай прамысловасці, узнікненне новых галін вытворчасці, у тым ліку нафтаперапрацоўкі і радыёэлектронікі, хімізацыя народнай гаспадаркі.<br>Паступовае разгортванне навукова-тэхнічнай рэвалюцыі, спроба пераадолення адставання ад дасягненняў сусветнай НТР.<br>Механізацыя, хімізацыя, меліярацыя ў сельскай гаспадарцы.<br>Урбанізацыя | Асуджэнне культу асобы і паступовая дэсталінізацыя грамадства ў перыяд хрушчоўскай «адлігі».<br>Праявы суб'ектывізму ў час кіравання М. С. Хрушчова.<br>Схільнасць да захавання савецкай грамадска-палітычнай сістэмы ў нязменным выглядзе ў другой палове 1960-х — 1980-я гг.<br>Захаванне аднапартыйнай сістэмы і канстытуцыйнае замацаванне кіруючай ролі КПСС (КПБ).<br>Прыхільнасць беларускага насельніцтва да ідэі сацыялістычнага грамадства, заснаванага на прынцыпе сацыяльнай справядлівасці.<br>Жыццёвы аптымізм і ўпэўненасць большасці беларускага насельніцтва ў заўтрашнім дні.<br>Спроба рэфармавання савецкай грамадска-палітычнай сістэмы ў час перабудовы |

***Паняцці і тэрміны, якія трэба засвоіць:*** *хрушчоўская «адліга», стагнацыя.*

## ПЫТАННІ І ЗАДАННІ

1. Вызначце этапы развіцця БССР у другой палове 1950-х — 1980-я гг. і ахарактарызуйце іх. Выкарыстайце табліцы.
2. Якія абставіны, на ваш погляд, выклікалі неабходнасць правядзення рэформ у краіне пасля смерці І. В. Сталіна?
3. Вызначце сэнс выразу «хрушчоўская “адлiга”».
4. У чым заключаліся асаблівасці грамадска-палітычнага жыцця ў БССР у час хрушчоўскай «адлігі»?
5. У чым заключаліся характэрныя рысы індустрыяльнага развіцця БССР у 1960—1970-я гг.?
6. Вызначце, навошта была патрэбна перабудова існаваўшай сацыяльна-эканамічнай і палітычнай сістэмы?

# § 8. Грамадска-палітычнае жыццё ў другой палове 1950-х — першай палове 1960-х гг.

### Вучэбная задача

Вызначыць характэрныя рысы грамадска-палітычнага жыцця ў БССР у другой палове 1950-х — першай палове 1960-х гг.

### Успомніце

Якімі былі характэрныя рысы грамадска-палітычнай сістэмы, што існавала ў БССР у першыя пасляваенныя гады?

**Змены ў грамадска-палітычным жыцці.** Пасля смерці І. В. Сталіна ў 1953 г. унутрыпалітычнае становішча ў краіне пачало паступова змяняцца. Спыніліся праследаванні невінаватых людзей, пачаўся перагляд спраў незаконна асуджаных. Быў адменены абавязковы мінімум выпрацоўкі працадзён у калгасах, уведзены ў 1939 г. Але ажыццяўлялася гэта марудна і з абмежаваннямі. Адным з ініцыятараў пераўтварэнняў выступіў М. С. Хрушчоў, абраны ў верасні 1953 г. Першым сакратаром Камуністычнай партыі Савецкага Саюза (так стала звацца з 1952 г. ВКП(б)). Буйной падзеяй на шляху да змены ўнутрыпалітычнага курсу з’явіўся ХХ з’езд КПСС, які адбыўся ў 1956 г. У канцы работы з’езда на закрытым пасяджэнні дэлегаты заслухалі даклад «Аб кульце асобы і яго вы-

ніках», з якім выступіў М. С. Хрушчоў. І хоць даклад не быў апублікаваны, яго агульная скіраванасць стала вядомая грамадству.

Змены, якія адбыліся ў грамадска-палітычным жыцці, былі накіраваны на пераадоленне наступстваў палітычнага рэжыму, які існаваў пры Сталіне, культу яго асобы. Гэта паспрыяла адноснай дэмакратызацыі і аздараўленню маральна-палітычнай атмасферы ў грамадстве. Пачалася частковая *рэабілітацыя* — аднаўленне добрага імя і правоў нявінна асуджаных у папярэднія гады. Аднак змены праводзіліся непаслядоўна. Асуджаліся здзейсненыя рэжымам злачынствы найперш супраць партыі, а не народа.

**Кіраўнічая роля камуністычнай партыі.** Паколькі, як і раней, захоўвалася аднапартыйная сістэма, магчымасці для поўнай дэмакратызацыі грамадска-палітычнага жыцця ў краіне заставаліся абмежаванымі. У гэтых умовах пасаду кіраўніка Кампартыі Беларусі ў 1956 г. заняў К. Т. Мазураў.

ГІСТАРЫЧНЫ ПАРТРЭТ



**Кірыла Трафімавіч Мазураў (1914—1989)** — савецкі партыйны і дзяржаўны дзеяч. Нарадзіўся ў вёсцы Рудня-Прыбыткоўская Гомельскага раёна. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. Герой Сацыялістычнай Працы. Старшыня Савета Міністраў БССР у 1953—1956 гг. Першы сакратар ЦК КПБ у 1956—1965 гг. Пад яго кіраўніцтвам партыйная арганізацыя Беларусі ажыццяўляла меры па пераадоленні наступстваў культу асобы Сталіна. Рэгулярна праводзіліся партыйныя з’езды і сходы партыйных арганізацый. Дзейнічаў прынцып выбарнасці на кіруючыя партыйныя пасады.

Узмацненне ўплыву партыі на жыццё рэспублікі забяспечвалася перш за ўсё праз рост колькасці членаў партыі. З 1953 па 1965 г. колькасць камуністаў у БССР павялічылася амаль у 3 разы. Рэгулярнымі сталі сустрэчы партыйнага і дзяржаўнага кіраўніцтва з насельніцтвам. Абавязковымі былі справаздачы кіраўнікоў партыйных арганізацый перад радавымі членамі партыі.

Але савецкая грамадска-палітычная сістэма засталася фактычна нязменнай. Адбываліся толькі спробы павышэння яе эфектыўнасці і прыстасавання да новых умоў.

**Саветы дэпутатаў працоўных у грамадска-палітычным жыцці.** Згодна з Канстытуцыяй Беларускай ССР 1937 г. абвяшчалася, што ўся ўлада ў БССР належыць Саветам дэпутатаў працоўных, якія складаюць палітычную аснову рэспублікі. Вышэйшым заканадаўчым органам дзяржаўнай улады быў Вярхоўны Савет БССР, які выбіраўся на 4 гады (**). Аднак на справе Саветы дзейнічалі пад непасрэдным кіраўніцтвам камуністычнай партыі, якой фактычна і належала ўлада.

У гады дэсталінізацыі пытанне аб забеспячэнні Саветам іх канстытуцыйнага поўнаўладдзя не ставілася. Увага была сканцэнтравана на актывізацыі і паляпшэнні іх дзейнасці.

Рэальным вынікам пашырэння ролі Саветаў у гэтыя гады з'явілася рэгулярнае правядзенне іх сесій (сходаў). На сесіях Вярхоўнага Савета БССР абмяркоўваліся ўсе пытанні жыццядзейнасці рэспублікі: народнагаспадарчыя планы пяцігодак, бюджэт, ахова здароўя і адукацыя, пенсійнае і бытавое забеспячэнне, развіццё культуры, гандлю і інш. Сярод функцый заканадаўчай улады асабліва важнай з'яўлялася зацвярджэнне дзяржаўнага бюджэту. Ён уяўляе сабой зводны план збору даходаў дзяржавы і выкарыстання атрыманых сродкаў на пакрыццё ўсіх відаў дзяржаўных расходаў.

Адбывалася ўмацаванне сувязі Саветаў з працоўнымі калектывамі і ўвогуле з выбаршчыкамі. Да ўдзелу ў рабоце Саветаў прыцягвалася вялікае кола людзей, якія не з'яўляліся дэпутатамі. На гэтай падставе ўкараненне дэмакратычных прынцыпаў у дзейнасць Саветаў значна пашырылася.

Выбары ў Саветы праводзіліся на безальтэрнатыўнай аснове. Вынікі галасавання за вылучанага кандыдата на выбарах заўсёды былі амаль што аднагалоснымі.

Выканаўчым органам дзяржаўнай улады з'яўляўся Савет Міністраў БССР, які дзейнічаў пад непасрэдным кіраўніцтвам з боку ЦК КПБ. Органы мясцовай улады (абласныя, раённыя, гарадскія, сельскія і пасялковыя Саветы дэпутатаў працоўных) знаходзіліся пад кантролем адпаведных тэрытарыяльных структур партыйных органаў.

**Камсамол і прафсаюзы ў грамадска-палітычным жыцці.** У тагачаснай грамадска-палітычнай сістэме даволі ўплывовай арганізацыяй быў Ленінскі Камуністычны Саюз Моладзі Беларусі. Камсамол з'яўляўся масавай арганізацыяй, якая аб'ядноўвала моладзь ва ўзросце ад 14 да 28 гадоў. У 1948 г. у радах ЛКСМБ налічвалася 262,5 тыс. маладых людзей, у 1960 г. — 608,7 тыс., у 1970 г. — 916 тыс. Колькасць камсамольцаў у БССР у пасляваенныя гады пастаянна павялічвалася. Камсамол праводзіў значную работу па выхаванні моладзі, павышэнні яе адукацыі і культуры. Партыя лічыла камсамол сваім памочнікам і рэзервам.

Камсамол Беларусі прымаў удзел у вырашэнні практычна ўсіх народнагаспадарчых задач, якія ставіла камуністычная партыя. У другой палове 1950-х — 1960-я гг. ЛКСМБ аб'явіў падшэфнымі ўсе найважнейшыя новабудоўлі Беларусі. Сярод іх Салігорскі калійны камбінат, Васілевіцкая, Бярозаўская і Лукомская ДРЭС, Полацкі і Мазырскі нафтаперапрацоўчыя заводы, Беларускі шынны камбінат у Бабруйску, прадпрыемствы хімічнай прамысловасці ў Гродне, Гомелі, Полацку. На іх будаўніцтве па пуцёўках ЛКСМБ працавала больш за 20 тыс. маладых людзей. Камсамол Беларусі ўнёс значны ўклад у вырашэнне агульнасаюзнай задачы па асваенні цалінных і абложных зямель Казахстана. Туды выехала з Беларусі больш за 60 тыс. юнакоў і дзяўчат.



Камсамольцы з Гродзенскай вобласці ад'язджаюць на ўборку цаліннага ўраджаю. *1956 г.*

Палітыка-выхаваўчую і культурна-асветніцкую работу камсамол будаваў у адпаведнасці з рашэннямі і пад кантролем партыйных арганізацый. ЛКСМБ кіраваў таксама работай піянерскай арганізацыі ў БССР.

Дэмакратызацыя грамадскага жыцця пасля XX з'езда партыі закранула і самую масавую ў краіне арганізацыю — прафесійныя саюзы. У іх склад уваходзіла ўсё працоўнае насельніцтва краіны, акрамя калгаснікаў. Павышэнне ролі прафсаюзаў у грамадстве было звязана найперш з пашырэннем іх вытворча-эканамічных функцый. Яны зай-

маліся арганізацыяй сацыялістычнага спаборніцтва, удзельнічалі ў распрацоўцы гаспадарчых планаў, забяспечвалі развіццё масавай тэхнічнай творчасці працоўных, ажыццяўлялі кантроль за гандлем, дзейнасцю прадпрыемстваў бытавога абслугоўвання насельніцтва. Аднак гэта адцягвала ўвагу прафсаюзаў ад выканання іх галоўнай задачы — сацыяльнай абароны працоўных. Пашыраючы функцыі прафсаюзаў, камуністычная партыя разглядала іх як своеасаблівыя «прывадныя рамяні» да народа. Тым не менш роля прафсаюзаў у грамадскім жыцці краіны ў гады хрушчоўскай «адлігі» істотна ўзрасла. Яны з большай актыўнасцю сталі сачыць за выкананнем заканадаўства аб працы. Вялікае значэнне для членаў прафсаюзаў мела забарона звальняць рабочых і служачых без згоды прафсаюзных камітэтаў.

**Палітыка дзяржавы ў адносінах да канфесій.** У сярэдзіне 1950-х — першай палове 1960-х гг. узнялася новая антырэлігійная хваля. Напрамак гэтага наступу вызначаўся пастановай ЦК КПБ ад 28 ліпеня 1954 г. «Аб стане і мерах паляпшэння навукова-атэістычнай прапаганды ў рэспубліцы». На яго падставе ўжо ў першай палове 1960-х гг. былі зачынены многія храмы, манастыры, духоўныя семінарыі. Так, за адзін толькі 1960 г. у Беларусі перасталі дзейнічаць 219 цэркваў. Нярэдка справа даходзіла да адкрытых пратэстаў вернікаў супраць закрыцця і разбурэння храмаў, аднак перавага заставалася на баку ўлады. На 1 студзеня 1965 г. у Беларусі дзейнічала толькі 508 праваслаўных храмаў, тады як у 1948 г. іх налічвалася 1050. Амаль напалову скарацілася і колькасць свяшчэннаслужыцеляў. Аднак дзеянні ўлад не давалі чакаемых вынікаў па скарачэнні колькасці праваслаўных вернікаў.

Ад ганенняў пацярпела таксама і каталіцкая царква. На 1 студзеня 1965 г. дзейнічалі толькі 90 парафій, большасць з іх у Гродзенскай вобласці. Мясцовыя ўлады адмаўлялі каталіцкім аб'яднанням у рэгістрацыі на права правядзення набажэнстваў, многія з каталіцкіх святароў былі арыштаваны і асуджаны.

Былі зачынены жаночыя манастыры ў Полацку і Гродне. Застаўся толькі Жыровіцкі мужчынскі манастыр. Разам з храмамі знішчаліся і помнікі архітэктуры. Так, у Віцебску ў 1957 г. быў узарваны Мікалаеўскі сабор, а ў 1961 г. — адзін са старажытнейшых храмаў XII ст. — Дабравешчанская царква. У гэтым жа

годзе быў зруйнаваны касцёл Прачыстай Маці Божай у Гродне, вядомы як «Фара Вітаўта».

Разбуральная палітыка ўлад у гады хрушчоўскай «адлігі» вялася пад сцягам хутчэйшага пераадолення рэлігійных перажыткаў у свядомасці людзей. Лічылася, што яны быццам бы стрымліваюць паспяховы рух да камунізму.

ГІСТАРЫЧНАЯ ДАВЕДКА

Праграма КПСС, прынятая ў 1961 г., ставіла за мэту пабудову камунізму ў Савецкім Саюзе ўжо ў пачатку 1980-х гг. Камунізм разглядаўся як вышэйшая ступень развіцця грамадства, што прыходзіць на змену капіталізму і для якой характэрныя грамадская ўласнасць, роўнасць людзей, сацыяльная справядлівасць, народаўладдзе, гуманізм. Аднак такі курс, абвешчаны М. С. Хрушчовым на XXII з'ездзе КПСС, аказаўся беспадстаўным.

***Вызначым асноўнае ў змесце параграфа.*** Найбольш важным кірункам дэмакратызацыі грамадства ў гады «адлігі» стала павышэнне ролі Саветаў дэпутатаў працоўных, камсамола, прафсаюзаў. Аднак ва ўмовах існавання Камуністычнай партыі Беларусі як кіруючай і накіроўваючай сілы ў савецкай грамадска-палітычнай сістэме прынцып падзелу ўлад поўнасцю не рэалізоўваўся. Становішча Саветаў у грамадска-палітычнай сістэме засталося нязменным. Саветы не маглі стаць поўнаўладнымі заканадаўчымі органамі, як гэта было запісана ў Канстытуцыі БССР.

Галоўным здабыткам перыяду «адлігі» сталі частковая рэабілітацыя рэпрэсіраваных, крытыка культу асобы, вызваленне людзей ад страху быць бязвінна пакаранымі. Адбылося больш цеснае яднанне ўлады і народа на глебе павышэння ўзаемадавер'я паміж імі.

***Паняцці і тэрміны, якія трэба засвоіць:*** *рэабілітацыя.*

## ДАДАТКОВЫ МАТЭРЫЯЛ

### **Культурна-гістарычнае асяроддзе

У 1955 г. на пасяджэнні Вярхоўнага Савета БССР пасля адпаведнай перапрацоўкі быў абмеркаваны і зацверджаны Дзяржаўны гімн БССР. Варта адзначыць, што даволі доўга БССР не мела свайго Дзяржаўнага

гімна. У 1943 г. быў зацверджаны Дзяржаўны гімн СССР. У пасляваенныя гады ён гучаў і на тэрыторыі Беларусі як сімвал яднання розных народаў у шматнацыянальнай дзяржаве. Аўтарамі Дзяржаўнага гімна БССР былі паэт М. Клімковіч і кампазітар Н. Сакалоўскі. Іх патрыятычная песня «Мы — беларусы» сярод іншых музычных твораў удзельнічала ў конкурсе на стварэнне Дзяржаўнага гімна БССР:

Мы — беларусы, з братняю Руссю
Разам шукалі к шчасцю дарог.
У бітвах за волю, у бітвах за долю
З ёй здабылі мы сцяг перамог.

Нас аб'яднала Леніна імя,
Партыя к шчасцю вядзе нас у паход.
Партыі слава! Слава Радзіме!
Слава табе, беларускі народ!

Гэты гімн існаваў да 1991 г.

*Вызначце, якія асаблівасці гістарычнага шляху беларускага народа і грамадска-палітычнага жыцця краіны ўвасобіў Дзяржаўны гімн БССР.*

## ПЫТАННІ І ЗАДАННІ

1. Дайце азначэнне паняццю «рэабілітацыя». Прывядзіце канкрэтныя яе прыклады, якія грунтуюцца на мясцовым матэрыяле.
2. Папрацуйце па метадзе ключавога слова са зместам абзаца, які пачынаецца словамі «Змены ў грамадска-палітычным жыцці».
3. Вызначце, якім чынам камуністычная партыя рэалізоўвала сваю кіруючую ролю ў савецкай грамадска-палітычнай сістэме.
4. Падрыхтуйце кароткае паведамленне пра жыццё і дзейнасць К. Т. Мазурава.
5. Ахарактарызуйце ролю ЛКСМБ у вырашэнні народнагаспадарчых задач.
6. Растлумачце, чаму прафсаюзы пераважна выконвалі неўласцівыя ім вытворча-гаспадарчыя функцыі.
7. Раскрыйце прычынна-выніковую сувязь паміж курсам XX з'езда і аздараўленнем палітычнай атмасферы ў грамадстве.
8. Ахарактарызуйце ўзаемаадносіны дзяржавы і рэлігійных канфесій на рубяжы 1950—1960-х гг. Выкарыстайце дакументы № 47, 48 хрэстаматыі. Падрыхтуйце адпаведнае паведамленне на аснове мясцовага матэрыялу.

# § 9. Сацыяльна-эканамічнае развіццё ў другой палове 1950-х — першай палове 1960-х гг.

**Вучэбная задача**

Вызначыць, якім чынам сацыяльна-эканамічнае развіццё БССР садзейнічала далейшаму фарміраванню індустрыяльнага грамадства.

**Успомніце**

З якімі галінамі вытворчасці звязана развіццё цяжкай і лёгкай прамысловасці?

**Фарміраванне прамысловага комплексу БССР.** Эканамічнае развіццё БССР у другой палове 1950-х — першай палове 1960-х гг. было звязана з паступовым разгортваннем навукова-тэхнічнай рэвалюцыі. Яна ўяўляла сабой карэнныя змены вытворчасці ў выніку пераўтварэння навукі ў непасрэдную вытворчую сілу і ўкаранення дасягненняў навукі ў вытворчасць. У 1957 г. для вырашэння задачы паскарэння навукова-тэхнічнага прагрэсу ўводзілася новая сістэма кіравання прамысловасцю і будаўніцтвам па тэрытарыяльным прынцыпе на аснове эканамічных адміністрацыйных раёнаў. Дзеля гэтага ў кожным з такіх раёнаў ствараліся саветы народнай гаспадаркі (саўнаргасы). Быў таксама ўтвораны Савет народнай гаспадаркі БССР. Аднак саўнаргасы праіснавалі да 1965 г., пасля чаго зноў вярнуліся да галіновай сістэмы кіравання. Вырашыць пастаўленую задачу з дапамогай толькі адміністрацыйных мер не ўдалося.

У другой палове 1950-х гг. М. С. Хрушчоў паставіў задачу ў сціслы тэрмін дагнаць і перасягнуць буйныя капіталістычныя краіны па вытворчасці найважнейшай прадукцыі на душу насельніцтва. Такой прадукцыяй лічыліся чыгун, сталь, вугаль, нафта, газ, машыны, станкі, абсталяванне. Першачарговая ўвага па-ранейшаму надавалася развіццю цяжкай прамысловасці.

Удзел БССР у вырашэнні пастаўленай задачы быў звязаны з апераджальным развіццём машынабудавання. Выйшлі на поўную магутнасць пабудаваныя ў першае пасляваеннае дзесяцігоддзе буйныя машынабудаўнічыя заводы саюзнага значэння.

### ГІСТАРЫЧНАЯ ДАВЕДКА

У 1958 г. пачаўся выпуск першых кар'ерных самазвалаў на Беларускім аўтамабільным заводзе (БелАЗ) у Жодзіне. У 1960 г. упершыню ў СССР у Мінску на заводзе электронных вылічальных машын была зроблена ЭВМ «Мінск-1». У 1962 г. пачаў выпускаць прадукцыю Мінскі завод халадзільнікаў.

Наяўнасць кваліфікаванай рабочай сілы і геаграфічнае становішча Беларусі стваралі выгадныя ўмовы для развіцця вытворчасці. Былі пабудаваны новыя прамысловыя прадпрыемствы: Бабруйскі завод аўтатрактарных дэталей, мінскія маторны, электратэхнічны і гадзіннікавы заводы, Магілёўскі металургічны завод і інш. Такіх тэмпаў развіцця машынабудавання раней рэспубліка не ведала.

Кіраўніцтва БССР таксама ўзяло курс і на развіццё хімічнай прамысловасці. Адкрыццё вялікіх запасаў калійных солей у Салігорскім раёне дазволіла разгарнуць у рэспубліцы шырокамаштабную вытворчасць мінеральных угнаенняў. Былі пабудаваны першы і другі салігорскія калійныя камбінаты, Гомельскі суперфасфатны і Гродзенскі азотна-тукавы заводы. У 1964 г. была здабыта першая прамысловая нафта ў раёне Рэчыцы. Але запасы яе аказаліся невялікімі. Таму ўласная нафта забяспечвала патрэбнасці БССР не больш як на 10 %. Астатняя частка неабходнай нафты, а таксама прыродны газ пастаўляліся па трубаправодах з Расіі, якія праз Беларусь ішлі ў краіны Еўропы. З улікам гэтага ў БССР быў пабудаваны шэраг буйных хімічных прадпрыемстваў. Сярод іх: Полацкі нафтаперапрацоўчы завод, Светлагорскі завод штуч-




Першы самазвал, які сышоў з канвеера БелАЗа. *1958 г.*

нага валакна. У 1965 г. выпуск прадукцыі хімічнай і нафтахімічнай прамысловасці ў рэспубліцы павялічыўся ў параўнанні з 1950 г. у 27 разоў.

**Галіны прамысловасці ў БССР, звязаныя з разгортваннем НТР**

| Машына-будаванне | Радыётэхнічная прамысловасць | Хімічная прамысловасць | Хімічная і нафтахімічная прамысловасць |
|---|---|---|---|
| МАЗ, МТЗ, БелАЗ | Завод ЭВМ у Мінску | Гомельскі супер-фасфатны завод | Полацкі нафта-перапрацоўчы завод (пазней Наваполацкае ААТ «Нафтан») |
| Мінскі завод аўтаматычных ліній | Мінскі прыборабудаўнічы завод | Гродзенскі азотна-тукавы завод | Полацкі хімічны камбінат (пазней аб'яднанне «Палімір») |
| Мінскі завод халадзільнікаў | Мінскі механічны завод (пазней оптыка-механічнае аб'яднанне) | Салігорскі калійны камбінат | |
| | Навукова-вытворчае аб'яднанне «Інтэграл» | Светлагорскі завод штучнага валакна | |

У 1964 г. БССР абганяла некаторыя капіталістычныя краіны па вытворчасці на душу насельніцтва такой прадукцыі прамысловасці, як металарэзныя станкі, аўтаматычныя лініі, трактары, калійныя ўгнаенні, некаторыя віды хімічных валокнаў, абутак і інш.

Развіваліся лёгкая, харчовая, лясная, дрэваапрацоўчая і цэлюлозна-папяровая галіны прамысловасці. Аднак па тэмпах развіцця яны істотна саступалі галінам, якія адносіліся да цяжкай прамысловасці. Разам з тым у 1964 г. у БССР на душу насельніцтва выраблялася шарсцяных тканін больш, чым у ЗША і ФРГ, бялізнавага трыкатажу больш, чым у Англіі і Францыі.

Адбывалася бесперапыннае тэхнічнае ўдасканаленне прамысловай вытворчасці. Ва ўсіх яе галінах ствараліся механізаваныя і аўтаматызаваныя лініі, участкі, цэхі. Тым не менш ручная праца ў прамысловасці працягвала складаць каля 25 %.


Найважнейшыя аб'екты прамысловасці, транспарту, навукі, адукацыі і сродкаў інфармацыі, створаныя ў БССР у 1955—1964 гг.
Салігорск 1963
Пасёлкі, якія ўзніклі і сталі буйнымі гарадамі ў выніку прамысловага будаўніцтва, і даты надання статусу горада
Граніцы ў 1965 г.
СССР
БССР
абласцей
Полацк
Наваполацк 1963
Зах. Дзвіна
Віцебск
Орша
Маладзечна
Жодзіна 1963
Барысаў
Мінскі тэлецэнтр (1956)
Ліда
МІНСК
Магілёў
Гродна
Нёман
Бярэзіна
Ядзерны доследны рэактар (1962)
Сосны
Баранавічы
Здабыча калійнай солі
Салігорск 1963
Бабруйск
Івацэвічы
Бярозаўская ДРЭС
Гомель
Светлагорск 1961
Брэст
Пінск
Прыпяць
Дняпро
Мазыр
з Дашавы (Львоўская вобл., УССР)
Вытворчасць
грузавых аўтамабіляў
кар'ерных самазвалаў (вытворчасць пераведзена з Мінска)
камплектуючых для аўтамабіле- і трактарабудавання
шматколавых цягачоў
сельскагаспадарчых машын
меліярацыйных машын
суднаў
рухавікоў унутранага згарання
станкоў
ліфтаў
вымяральных прылад
электронных вылічальных машын
радыёдэталей
электратэхнічных вырабаў
халадзільнікаў
газавых пліт
гадзіннікаў
пластмасавых і гумавых вырабаў
мінеральных угнаенняў
шкловалакна
Нафтаперапрацоўчы завод
Першы газаправод (1960)
Інстытуты (ВНУ)
медыцынскі
радыётэхнічны
машынабудаўнічы

Аднак у першай палове 1960-х гг. адбылося зніжэнне прыбытковасці прадпрыемстваў, знізіліся тэмпы прыросту прадукцыйнасці працы. У гэтым праявілася неэфектыўнасць каманднаадміністрацыйнага кіравання надзвычай складаным народнагаспадарчым комплексам СССР, адсутнасць рыначных механізмаў рэгулявання эканамічных адносін.

**Вынікі развіцця сельскай гаспадаркі рэспублікі.** З сярэдзіны 1950-х гг. сельская гаспадарка БССР упершыню за пасляваенныя гады стала прыносіць прыбыткі. У рэспубліцы ўзрасла ўраджайнасць збожжавых культур, павялічылася пагалоўе жывёлы, нарыхтоўка мяса і малака. З мэтай павышэння матэрыяльнай зацікаўленасці калгаснікаў у выніках сваёй працы з 1956 г. ім пачалі кожны месяц выплачваць грашовыя авансы на працадні. З 1958 г. сельскагаспадарчая тэхніка перадавалася калгасам і саўгасам, якія павінны былі яе выкупіць у МТС (машынна-трактарных станцый). Некаторыя калгасы ператвараліся ў буйныя шматгаліновыя гаспадаркі. У іх ліку — калгас «Рассвет» Кіраўскага раёна Магілёўскай вобласці. Яго высокімі дасягненнямі ў галіне сельскагаспадарчай вытворчасці ганарылася ўся краіна. Заслуга ў гэтым належала калгаснікам, якія сваёй цяжкай самаадданай працай паднялі пасля вайны калгас з руін і ператварылі яго ў магутную гаспадарку. Кіраваў калгасам К. П. Арлоўскі.

ГІСТАРЫЧНЫ ПАРТРЭТ



**Кірыла练Пракопавіч Арлоўскі (1895—1968)** нарадзіўся ў вёсцы Мышкавічы Бабруйскага павета (цяпер Кіраўскі раён). Адзін з арганізатараў і кіраўнікоў партызанскага руху ў Беларусі ў гады грамадзянскай і Вялікай Айчыннай войнаў. Герой Савецкага Саюза і Сацыялістычнай Працы. У 1943 г. у баі быў цяжка паранены, страціў правую руку, пальцы на левай руцэ і слых. У 1944 г. калгаснікі абралі свайго земляка старшынёй калгаса «Рассвет» Кіраўскага раёна. Дзякуючы яго вялікім намаганням і ўменню арганізаваць калектыўную працу вяскоўцаў калгас пад яго кіраўніцтвам у сціслы тэрмін выйшаў у лік вядучых у рэспубліцы.

Важнае значэнне для развіцця сельскай гаспадаркі ў гэтыя гады мела яе інтэнсіўная механізацыя і электрыфікацыя. Значна павялічылася колькасць збожжаўборачных камбайнаў, грузавых аўтамабіляў. У выніку прадукцыйнасць працы ўзрасла, а прадукцыя сельскай гаспадаркі павялічылася.

З мэтай асушэння забалочаных зямель і павелічэння пасяўных плошчаў шырокі размах набыла распачатая на Палессі меліярацыя — прыстасаванне зямлі для сельскагаспадарчага выкарыстання. На асушаных землях арганізоўвалася вытворчасць сельскагаспадарчай прадукцыі.

БССР разам з іншымі савецкімі рэспублікамі ўнесла свой уклад у асваенне цалінных і абложных зямель Казахстана. Рэспубліка пастаўляла туды сельскагаспадарчую тэхніку. На асваенне цаліны выехала 50 тыс. сямей (амаль 180 тыс. чалавек). Дзякуючы самаадданай працы цалiннікаў Савецкі Саюз атрымаў істотную прыбаўку збожжа. Асваенне цаліны стала значным гаспадарчым дасягненнем савецкага народа.

У пачатку 1960-х гг. адбылося пагаршэнне становішча ў сельскай гаспадарцы. На яе развіцці адмоўна адбіўся *валюнтарызм* у кіраванні пры М. С. Хрушчове, калі ігнараваліся аб'ектыўныя законы развіцця грамадства і вызначальнымі з'яўляліся воля і імкненне асобы кіраўніка. Калгасы і саўгасы атрымлівалі ўказанні кіруючых органаў без уліку мясцовых асаблівасцей. Так, ва ўсіх раёнах БССР, незалежна ад іх прыродна-кліматычных умоў, прымушалі вырошчваць кукурузу. Механізацыя прывяла да значнага скарачэння колькасці коней, бо меркавалася, што як цяглавая сіла яны аджылі сваё і на змену ім прыйшло выкарыстанне трактара. Адмоўнымі былі адносіны кіраўніцтва да сялянскай падсобнай гаспадаркі, вядзенне якой фактычна забаранялася. На працягу першай паловы 1960-х гг. сярэднегадавыя тэмпы росту валавай прадукцыі сельскай гаспадаркі рэспублікі



М. С. Хрушчоў уручае залаты медаль «Серп і Молат» Героя Сацыялістычнай Працы старшыні калгаса «Аснежыцкі» Пінскага раёна У. А. Ралько. *1958 г.*

склалі толькі 4 %. Гэта было ніжэй за тэмпы росту насельніцтва БССР і вяло да пагаршэння яго прадуктовага забеспячэння.

**Умовы жыцця насельніцтва.** 1950—1960-я гг. засталіся ў памяці нашага народа як час відавочнага павышэння матэрыяльнага дабрабыту. Асноўнай крыніцай гэтага павышэння з'явілася паспяховае развіццё ўсіх галін эканомікі. Формамі павышэння дабрабыту з'яўляліся павелічэнне рэальных даходаў насельніцтва, удасканаленне сацыяльнага забеспячэння, развіццё гандлю і бытавога абслугоўвання, паскарэнне жыллёвага будаўніцтва, паляпшэнне аховы здароўя.

Рэальныя даходы насельніцтва павялічваліся дзякуючы неаднаразоваму зніжэнню рознічных цэн на прадукты харчавання і прамысловыя тавары. Адначасова сістэматычна змяншаліся падаткі з рабочых, служачых і калгаснікаў. Хутка расла заработная плата рабочых і служачых. Выраслі рэальныя даходы сельскіх жыхароў. У 1964 г. дзяржаўнае пенсійнае забеспячэнне было распаўсюджана на калгаснікаў. Раней яны ўвогуле пенсіі не атрымоўвалі. Памеры пенсій значна павысіліся.

Асабліва хуткімі тэмпамі развівалася жыллёвае будаўніцтва. За кошт узвядзення так званых хрушчовак (буйнаблочнага і панэльнага будаўніцтва) за перыяд 1959—1965 гг. у БССР амаль 2,7 млн чалавек палепшылі свае жыллёвыя ўмовы. Вялікая колькасць дамоў была пабудавана ў сельскай мясцовасці. У гэтыя гады ў Беларусі з'явіліся новыя добраўпарадкаваныя гарады: Салігорск, Наваполацк, Светлагорск. Дадзены факт сведчыў аб актывізацыі працэсa *ўрбанізацыі* — колькасным росце гарадоў і павелічэнні гарадскога насельніцтва.

**Рост жыллёвага фонду ў БССР**

| Год | Карысная плошча, млн м$^2$ |
|---|---|
| 1952 | 13,6 |
| 1960 | 24,4 |
| 1965 | 32,5 |

Значна палепшылася ахова здароўя людзей. Дзяржаўныя расходы на яе ў 1950—1960-я гг. павялічыліся ў некалькі разоў. Вы-

нікам гэтага з'явіўся рост насельніцтва і ўзрастанне працягласці яго жыцця. Па выніках Усесаюзнага перапісу 1959 г. насельніцтва БССР склала крыху больш за 8 млн чалавек. У сярэдзіне 1960-х гг. працягласць жыцця ў БССР складала ў сярэднім 73 гады і была адной з самых высокіх у свеце.

| Асноўныя кірункі паляпшэння матэрыяльнага становішча насельніцтва БССР |
|---|
| Павышэнне мінімальнага ўзроўню зарплаты |
| Павышэнне пенсій, назначэнне іх калгаснікам |
| Паляпшэнне жыллёвых умоў гарадскіх жыхароў |
| Забеспячэнне насельніцтва таварамі народнага спажывання |

***Вызначым асноўнае ў змесце параграфа.*** У перыяд з сярэдзіны 1950-х да сярэдзіны 1960-х гг. БССР стала адным з цэнтраў машына-, станка- і прыборабудаўніцтва, электронікі, хімічнай вытворчасці і нафтаперапрацоўкі. Гэта сведчыла аб паскарэнні фарміравання індустрыяльнага грамадства, для якога характэрны спецыялізацыя вытворчасці і яе аўтаматызацыя, арыентацыя вытворчасці на рынак, навукова-тэхнічная рэвалюцыя, урбанізацыя. Сельская гаспадарка БССР развівалася на аснове меліярацыі, механізацыі і электрыфікацыі, унясення ў глебу штучных угнаенняў. За кошт дастаткова паспяховага развіцця ўсіх галін эканомікі палепшыўся матэрыяльны дабрабыт працоўных рэспублікі.

***Паняцці і тэрміны, якія трэба засвоіць:*** *валюнтарызм, урбанізацыя.*

## ПЫТАННІ І ЗАДАННІ

1. Папрацуйце па метадзе ключавога слова са зместам абзаца, які пачынаецца словамі «Фарміраванне прамысловага комплексу БССР».
2. Растлумачце, які ўплыў на будаўніцтва прадпрыемстваў машынабудавання і нафтахімічнай прамысловасці, а таксама размяшчэнне новабудоўляў 1950-х — першай паловы 1960-х гг. у БССР аказалі крыніцы сыравіны, геаграфічнае месцазнаходжанне рэспублікі, кваліфікацыя працоўнай сілы.
3. Прывядзіце прыклады праяўлення валюнтарызму ў кіраўніцтве сельскай гаспадаркай.
4. Ахарактарызуйце асобу і дзейнасць К. П. Арлоўскага.

5. Ахарактарызуйце вынікі паляпшэння жыцця насельніцтва БССР.
6. Якое значэнне для развіцця сельскай гаспадаркі мелі механізацыя, меліярацыя, унясенне ў глебу штучных угнаенняў?
7. Вызначце, ці адпавядала фарміраванне прамысловага комплексу БССР развіццю навукова-тэхнічнай рэвалюцыі.
8. Дакажыце, што ў БССР адбываўся працэс фарміравання індустрыяльнага тыпу грамадства.

## § 10. Грамадска-палітычнае становішча ў другой палове 1960-х — першай палове 1980-х гг.

### Вучэбная задача

Вызначыць характэрныя рысы грамадска-палітычнага жыцця ў БССР у другой палове 1960-х — першай палове 1980-х гг.

### Успомніце

У чым заключаліся спробы дэсталінізацыі грамадства?

**Грамадска-палітычная сістэма і яе характар.** У 1964 г. М. С. Хрушчоў быў вызвалены ад пасады Першага сакратара ЦК КПСС. Курс рэформ, якія ён праводзіў, хоць і змяніў унутрыпалітычны клімат у Савецкай краіне, аднак да карэнных пераўтварэнняў не прывёў. У эканоміцы панавалі дзяржаўная і калгасная формы ўласнасці. У выбарчай сістэме працягвала існаваць практыка безальтэрнатыўных выбараў дэпутатаў.

Такім чынам, хрушчоўская «адліга» не вывела краіну на прынцыпова новы шлях развіцця. Праблема пошуку аптымальных кірункаў развіцця заставалася надзённай. Тым не менш новае кіраўніцтва СССР на чале з Л. І. Брэжневым прызнала для сябе за лепшае не ўзрушваць краіну новымі рэформамі, а абапірацца пераважна на вопыт выкарыстання адміністрацыйна-камандных метадаў кіравання.

У грамадска-палітычным жыцці такі курс абазначаў перш за ўсё далейшае ўмацаванне ролі камуністычнай партыі ва ўсіх сферах жыцця грамадства. Такое становішча было афіцыйна замацавана ў прынятай у 1977 г. Канстытуцыі СССР, якая атрымала неафіцыйную назву «Канстытуцыя развітога сацыялізму».

## ГІСТАРЫЧНАЯ ДАВЕДКА

У сувязі з неабгрунтаванасцю курса на будаўніцтва камунізму, прынятага яшчэ ў 1961 г., была распрацавана канцэпцыя *«развітога сацыялізму»*. У 1971 г. на XXIV з'ездзе КПСС адзначалася, што ў СССР пабудавана развітое сацыялістычнае грамадства. У Канстытуцыі СССР 1977 г. было дадзена вызначэнне паняцця «развіты сацыялізм». Ён разглядаўся як вышэйшае дасягненне сацыяльнага прагрэсу. Была зроблена выснова аб тым, што ў СССР узнікла новая гістарычная супольнасць — савецкі народ. Сюды ўключалася і ўсё насельніцтва БССР. Узнікненне супольнасці стала вынікам развіцця нацый і нацыянальных адносін у Савецкім Саюзе. Пры гэтым фарміраваліся такія агульныя прыкметы савецкага народа, як савецкі патрыятызм і агульная камуністычная ідэалогія.

Камуністычная партыя Беларусі, у адпаведнасці з шостым артыкулам Канстытуцыі БССР 1978 г., абвяшчалася кіруючай і накіроўваючай сілай у грамадстве, ядром палітычнай сістэмы. Адзяржаўленне камуністычнай партыі суправаджалася яе хуткім колькасным ростам. У 1970-я гг. практычна не заставалася прадпрыемстваў, устаноў, калгасаў і саўгасаў, у якіх не было б партыйных арганізацый. У 1964 г. камуністаў у БССР налічвалася 266 тыс., а ў 1986 г. — 670 тыс.

Першым сакратаром ЦК КПБ у 1965—1980 гг., а значыць, фактычна кіраўніком рэспублікі, быў П. М. Машэраў.

## ГІСТАРЫЧНЫ ПАРТРЭТ

**Пётр Міронавіч Машэраў (1918—1980)** — партыйны і дзяржаўны дзеяч Беларусі. Нарадзіўся ў вёсцы Шыркі Сенненскага павета (цяпер Сенненскі раён Віцебскай вобласці). Адзін з арганізатараў і кіраўнікоў патрыятычнага падполля і партызанскага руху ў Беларусі ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Герой Савецкага Саюза, Герой Сацыялістычнай Працы. Прайшоў жыццёвы шлях ад настаўніка сярэдняй школы да кіраўніка партыйнай арганізацыі БССР. На гэтай пасадзе працаваў з 1965 г. да трагічнай смерці ў 1980 г. Карыстаўся вялікай павагай сярод насельніцтва за разважлівасць у абыходжанні, даступнасць, дэмакратычнасць. У перыяд яго кіраўніцтва БССР дасягнула значных поспехаў у стварэнні індустрыяльнага патэнцыялу, стала адной з найбольш развітых рэспублік СССР.



**Удзел насельніцтва БССР у грамадскім жыцці краіны.** Грамадская актыўнасць насельніцтва БССР у другой палове 1960-х — першай палове 1980-х гг. была дастаткова высокай. Тлумачылася гэта тым, што ў гады «адлігі» ў людзей з'яўлялася вера ў магчымасць устанаўлення сапраўднага народаўладдзя і аднаўлення справядлівасці. Немалаважнае значэнне мела і дзейнасць партыйных і ўрадавых кіраўнікоў. У жыхароў Беларусі існавала і існуе дагэтуль пачуццё павагі да кіраўніка рэспублікі П. М. Машэрава. Гэта таксама спрыяла росту грамадскай актыўнасці.

Асноўнай формай грамадскага жыцця з'яўляўся ўдзел у выбарах і рабоце Саветаў народных дэпутатаў, партыйных, прафсаюзных, камсамольскіх і іншых грамадскіх арганізацый. Жыхары БССР удзельнічалі ў масавых сходах, мітынгах, грандыёзных вулічных шэсцях, прысвечаных святкаванню дзён Кастрычніцкай рэвалюцыі і Першага мая, Перамогі і вызвалення БССР ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. З вялікай урачыстасцю адзначаліся ленінскія дні, знамянальныя даты ў гісторыі КПСС, выбары Саветаў народных дэпутатаў, прыняцце новай Канстытуцыі СССР 1977 г. і Канстытуцыі БССР 1978 г.

У адпаведнасці з новай Канстытуцыяй узрастала роля грамадскіх арганізацый. Колькасць іх удзельнікаў значна павялічылася. Напрыклад, камсамол Беларусі ў 1972 г. аб'ядноўваў у сваіх радах больш за 1 млн маладых людзей. Гэта адпавядала ідэалогіі «развітога сацыялізму», якая азначала адмаўленне ад нерэальных планаў будаўніцтва камунізму да 1980-х гг. і тэзіса аб адміранні дзяржавы. У той жа час напрамак руху да камунізму



Мітынг, прысвечаны 100-годдзю з дня нараджэння У. І. Леніна. Мінск. *1970 г.*

захоўваўся, а павышэнне ролі грамадскіх арганізацый павінна было адпавядаць пашырэнню ўдзелу грамадства ў кіраўніцтве БССР.

Трэба мець на ўвазе, што грамадска-палітычнае жыццё ў БССР у другой палове 1960-х — першай палове 1980-х гг. — з'ява складаная і пакуль што недастаткова вывучаная. Яе складанасць абумоўлена тым, што ўзмацненне ролі Камуністычнай партыі Беларусі адбывалася ва ўмовах дастаткова стабільнага эканамічнага развіцця, калі яшчэ не праявіліся крызісныя з'явы. На гэтай аснове адбывалася павышэнне жыццёвага ўзроўню насельніцтва, што служыла спрыяльнай базай для фарміравання станоўчых адносін да палітыкі партыі, да ўдзелу ў грамадска-палітычным жыцці.

Адлюстраваннем пачуцця савецкага патрыятызму сталі адносіны большасці беларускага насельніцтва да ўводу савецкіх войскаў у Афганістан у 1979 г., якое ўспрымалася як выкананне інтэрнацыянальнага абавязку. Ён тлумачыўся неабходнасцю дапамогі паўднёваму суседу СССР у яго барацьбе за самастойнае развіццё. На самай справе гэта была падтрымка савецкім кіраўніцтвам палітычнага рэжыму ў Афганістане. У далейшым увод войскаў у Афганістан быў прызнаны палітычнай памылкай, умяшаннем ва ўнутраныя справы іншай дзяржавы (**).

**Узаемаадносіны дзяржавы і рэлігійных канфесій.** Другая палова 1960-х — першая палова 1980-х гг. характарызаваліся далейшым наступам дзяржавы на рэлігійнае жыццё. Прыярытэтным кірункам у дзейнасці КПБ з'яўлялася атэістычная работа. Яе тэарэтычным абгрунтаваннем стала палажэнне аб стварэнні ў СССР к 1970-м гг. «развітога сацыялістычнага грамадства». Магчымасць рэлігійнага жыцця ў такім грамадстве не прадугледжвалася. Таму праводзіліся мерапрыемствы па закрыцці цэркваў, касцёлаў, малітоўных дамоў, дзеючых рэлігійных абшчын. Такія дзеянні з'яўляліся парушэннем правоў вернікаў з боку ўлады. У 1985 г. у БССР засталося толькі 369 праваслаўных цэркваў. На пачатак 1986 г. у Беларусі налічвалася 86 зарэгістраваных каталіцкіх парафій, многія з іх пасля адмовы ў рэгістрацыі працягвалі працаваць без ксяндзоў.

З сярэдзіны 1980-х гг. усё большая колькасць вернікаў сталі адкрыта выступаць у абарону сваіх правоў на свабоду веравы-

знання. Нягледзячы на масіраваную атэістычную прапаганду, актывізавалася дзейнасць рэлігійных абшчын і святароў. Гэта сведчыла аб укараненні сярод насельніцтва рэлігійнай свядомасці.

***Вызначым асноўнае ў змесце параграфа.*** Перыяд другой паловы 1960-х — першай паловы 1980-х гг. характарызаваўся, з аднаго боку, дастаткова актыўным і свядомым удзелам насельніцтва БССР у грамадскім жыцці, а з другога боку — поўным кантролем Камуністычнай партыі Беларусі за жыццём грамадства. Ва ўмовах адсутнасці дэмакратычных пераўтварэнняў выспяванне крызісу ў краіне было непазбежным. Пасля хрушчоўскай «адлігі» і валюнтарызму сталі праяўляцца прыкметы стагнацыі — прыпыненне ў развіцці сацыяльна-эканамічнай сферы.

***Паняцці і тэрміны, якія трэба засвоіць:*** *«развіты сацыялізм».*

## ДАДАТКОВЫ МАТЭРЫЯЛ

### ** Культурна-гістарычнае асяроддзе

Першым у Афганістан увайшло падраздзяленне, якое лічылася адным з лепшых у СССР, — 103-я гвардзейская асобная паветрана-дэсантная дывізія, што з 1947 г. базіравалася ў Віцебскай вобласці (цяпер мабільная брыгада спецыяльнага прызначэння). За выкананне інтэрнацыянальнага абавязку дывізія была ўзнагароджана ордэнам Леніна, а восем яе байцоў сталі Героямі Савецкага Саюза. У складзе абмежаванага кантынгенту савецкіх войскаў у Афганістане служыла каля 30 тыс. беларусаў і ўраджэнцаў Беларусі. Горам і болем адгукнулася ў сэрцах



Храм-помнік загінуўшым у войнах. «Востраў мужнасці і смутку» ў Мінску

беларускіх маці, жонак і сясцёр гібель некаторых з іх родных, якія выконвалі інтэрнацыянальны абавязак у Афганістане. Самалёты, якія называлі «чорны цюльпан», прывозілі на радзіму «груз 200» — загінуўшых салдат і афіцэраў у цынкавых трунах. Сярод іх — ураджэнец Пухавічшчыны старэйшы сяржант Мікалай Чэпік. Пры выкананні баявога задання ён трапіў у засаду і быў паранены. Узарваў міну, знішчыўшы праціўніка, але загінуў і сам. Яму пасмяротна ў 1980 г. прысвоена званне Героя Савецкага Саюза. Напамінам аб гэтай вайне стала адкрыццё ў 1996 г. у Мінску помніка «Сынам Айчыны, якія загінулі за яе межамі». Ён узведзены побач з праспектам Пераможцаў на рацэ Свіслач на «Востраве мужнасці і смутку». Туды сёння ідуць маладыя, каб ушанаваць памяць суайчыннікаў, якія загінулі за яе межамі. А ў народзе гэты востраў празвалі Вострам Слёз. У яго цэнтры — помнік-храм з імёнамі 771 загінуўшага ці пахаванага ў Беларусі воіна-інтэрнацыяналіста і анёл — помнік воінам-афганцам. Анёл плача, бо не змог выканаць сваю святую місію — зберагчы воінаў ад смерці.

*Растлумачце свае адносіны да ўводу савецкіх войскаў у Афганістан з пункту гледжання грамадзяніна Рэспублікі Беларусь.*

## ПЫТАННІ І ЗАДАННІ

1. Ахарактэрызуйце асноўныя дзяржаўныя святы, якія адзначаліся ў БССР у 1970—1980-я гг.
2. Складзіце параўнальную табліцу «Асноўныя рысы грамадска-палітычнага жыцця ў БССР» і зрабіце выснову аб яго асаблівасцях.

| **Прыкметы для параўнання** | **Другая палова 1950-х — першая палова 1960-х гг.** | **Другая палова 1960-х — першая палова 1980-х гг.** |
|---|---|---|
| З'явы, якія сведчылі аб дэмакратызацыі | | |
| З'явы, якія сведчылі аб захаванні савецкай грамадска-палітычнай сістэмы | | |

3. Вызначце, якія фактары ўплывалі на абмежаванасць грамадска-палітычнага жыцця.
4. Вызначце, якімі прычынамі тлумачылася грамадская актыўнасць насельніцтва БССР у другой палове 1960-х — першай палове 1980-х гг.

5. Ахарактарызуйце асобу і дзейнасць П. М. Машэрава. Выкарыстайце метадычныя парады, рэкамендаваную літаратуру, дакумент № 53 хрэстаматыі.
6. Ці варта пагадзіцца з высновай аб тым, што ў СССР, у тым ліку ў БССР, напрыканцы 1970-х гг. быў пабудаваны «развіты сацыялізм»? Правядзіце дыскусію па гэтым пытанні, па магчымасці запрасіўшы на яе прадстаўнікоў тагачаснага беларускага грамадства.

## § 11. Сацыяльна-эканамічнае становішча рэспублікі ў другой палове 1960-х — першай палове 1980-х гг.

**Вучэбная задача**

Вызначыць супярэчнасці ў правядзенні эканамічнай рэформы 1965 г. і асноўныя кірункі эканамічнага развіцця БССР у 1966—1985 гг.

**Успомніце**

Асноўныя дасягненні ў развіцці эканомікі БССР у пачатку 1960-х гг.

**Асноўныя прынцыпы эканамічнай рэформы 1965 г.** Першая палова 1960-х гг. у СССР, у тым ліку і ў БССР, вызначылася пагаршэннем эканамічнай сітуацыі. Знізіліся сярэднегадавыя паказчыкі прыросту прадукцыі і прадукцыйнасці працы ў прамысловасці. Эканоміка Беларусі, як і ўсяго СССР, працягвала адставаць ад найбольш развітых капіталістычных краін. Калі на Захадзе назіраўся бум выпуску спажывецкіх тавараў — аўтамабіляў, тэлевізараў, моднага адзення, то для савецкіх людзей усё гэта было маладаступна. Адной з прычын гэтага з'яўлялася існуючая сістэма планавання і кіравання з адзінага цэнтра надзвычай складанай народнай гаспадаркай усяго СССР, дзе налічвалася больш за 1,5 млн прадпрыемстваў. З мэтай пераадолення адмоўных з'яў у эканоміцы ў 1965 г. па ініцыятыве тагачаснага старшыні Савета Міністраў СССР А. М. Касыгіна была распачата эканамічная рэформа.

Прынцыповыя падыходы да рэалізацыі рэформы былі наступныя. Прадугледжвалася ўдасканаліць сістэму планавання ў прамысловасці. Замест 100 абавязковых планавых паказчыкаў, якія вызначала дзяржава, заставалася толькі 8, а астатнія планавалі

самі прадпрыемствы. Ранейшы галоўны паказчык работы прадпрыемства — аб'ём валавой (усёй выпушчанай) прадукцыі — саступіў месца аб'ёму рэалізаванай (прададзенай) прадукцыі. На прадпрыемствах уводзіўся *гаспадарчы разлік* — метад гаспадарання, пры якім даходы, што атрымлівае прадпрыемства ад рэалізацыі сваёй прадукцыі, павінны пакрываць і перавышаць яго выдаткі на вытворчасць. У пачатку 1970-х гг. першым у рэспубліцы на гасразлік перайшло Міністэрства аўтамабільнага транспарту, якім з 1963 па 1984 гг. кіраваў А. Я. Андрэеў.

ГІСТАРЫЧНЫ ПАРТРЭТ

**Анатоль Яўгенавіч Андрэеў (1916—2005)**, ураджэнец Рагачова, быў адным з кіраўнікоў партызанскага руху ў Беларусі ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Сярод эпізодаў яго баявой біяграфіі — дзейнасць у складзе дыверсійнай групы К. Заслонава на Аршанскім чыгуначным вузле, кіраўніцтва паветрана-дэсантным партызанскім атрадам імя Камсамола Беларусі, які дзейнічаў на тэрыторыі Беласточчыны. Пасля вайны знаходзіўся на гаспадарчай і партыйнай рабоце. У 1976 г. за заслугі ў развіцці аўтамабільнага транспарту і актыўную грамадскую дзейнасць яму было прысвоена званне Героя Сацыялістычнай Працы. Пасля выхаду на пенсію ў 1987—1994 гг. узначальваў Беларускі рэспубліканскі савет ветэранаў вайны і працы.



Працоўныя на прадпрыемствах, што перайшлі на гасразлік, атрымалі права самастойна распараджацца часткай свайго прыбытку, выкарыстоўваць атрыманыя ад продажу прадукцыі грошы на набыццё новай тэхнікі, матэрыяльнае заахвочванне ўдзельнікаў вытворчасці, паляпшэнне ўмоў працы. Усё гэта азначала пэўнае пашырэнне сферы дзеяння эканамічных метадаў кіравання народнай гаспадаркай. У выніку адбылося павышэнне эфектыўнасці вытворчасці, паляпшэнне спраў у эканоміцы. Сведчаннем з'явілася паспяховае выкананне 8-й пяцігодкі (1966—1970 гг.). Яна была выканана па ўсіх асноўных паказчыках і аказалася ў пасляваенны перыяд самай выніковай. У БССР было ўведзена ў дзеянне

78 буйных прамысловых прадпрыемстваў, у тым ліку Брэсцкі электралямпавы завод, Гомельскі чыгуналіцейны завод «Цэнтраліт», Салігорская фабрыка бялізнавага трыкатажу і інш.

Да пачатку 1970 г. было амаль поўнасцю пераадолена адставанне Беларусі ад сярэднесаюзнага ўзроўню вытворчасці, нацыянальнага даходу на душу насельніцтва. У цэлым савецкая эканоміка на рубяжы 1960—1970-х гг. дасягнула піка свайго развіцця. Аднак першапачатковы поспех рэформы быў непрацяглым. Хутка яна фактычна перастала дзейнічаць. Рэформа аказалася наборам супярэчлівых мер. Было немагчыма, напрыклад, спалучыць пашырэнне самастойнасці прадпрыемстваў і ўзмацненне паўнамоцтваў цэнтральных органаў выканаўчай улады — міністэрстваў. Рэформа не ліквідавала старую каманднa-адміністрацыйную сістэму. На думку партыйнага кіраўніцтва краіны, метады кіравання, заснаваныя на таварна-грашовых адносінах, супярэчылі сацыялістычнай эканоміцы. Гэта азначала, што рэформа была асуджана на няўдачу, паколькі не падмацоўвалася неабходнымі мерамі, якія б спрыялі пераводу эканомікі на рыначныя адносіны. Імпульс, які дала развіццю эканомікі рэформа, паступова зышоў на нішто ўжо ў пачатку 9-й пяцігодкі, хоць спыненне рэформы стала адчувальным толькі ў сярэдзіне 1980-х гг.

**Прамысловае развіццё краіны ў 1970-я — першай палове 1980-х гг.** Пяцігадовыя планы развіцця прамысловасці БССР у цэлым выконваліся. Ствараліся і новыя яе галіны. Апераджальнымі тэмпамі расла вытворчасць прадукцыі тых галін, якія вызначалі навукова-тэхнічны прагрэс: прыборабудаўніцтва, электроннай і радыётэхнічнай прамысловасці, вытворчасці сродкаў сувязі. Прынцыпова новым кірункам з’явілася выкарыстанне ў вытворчасці робататэхнікі.

### ГІСТАРЫЧНАЯ ДАВЕДКА

У БССР паказчыкі развіцця прамысловасці ў 1970-я — першай палове 1980-х гг. былі аднымі з самых высокіх у СССР. За гэтыя гады прадукцыя прамысловасці рэспублікі павялічылася больш чым у 3 разы. У гады 9-й пяцігодкі (1971—1975) было ўведзена ў строй больш за 90 новых буйных прамысловых прадпрыемстваў. Сярод іх нафтаперапрацоўчы завод у Мазыры, металургічны завод у Жлобіне, шынны камбінат у Бабруйску, чацвёрты калійны камбінат у Салігорску.

У сярэдзіне 1980-х гг. Беларусь была адной з самых эканамічна развітых рэспублік СССР. Пры гэтым развіццё эканомікі Беларусі, як і раней, адбывалася *экстэнсіўным шляхам*, гэта значыць за кошт апераджальнага прыцягвання матэрыяльных і працоўных рэсурсаў пры істотным падзенні тэмпаў росту прадукцыйнасці працы. Аднак рэсурсы экстэнсіўнага развіцця хутка вычэрпваліся, бо магчымасці выкарыстання прыросту занятасці ў матэрыяльнай вытворчасці аказаліся абмежаванымі. У 1966—1970 гг. у Беларусі сярэднягадавыя тэмпы прыросту колькасці рабочых і служачых складалі 4,8 %, а ў 1981—1985 гг. — 1,1 %.

Развіццё цяжкай прамысловасці было звязана з усё большым ператварэннем яе ў галіну вытворчасці для абслугоўвання *ваенна-прамысловага комплексу*. ВПК уяўляе сабой саюз абароннай прамысловасці, арміі і звязаных з імі дзяржаўнага апарату і навукі. Перадавы ўзровень у абароннай галіне прамысловасці, які адпавядаў навукова-тэхнічнай рэвалюцыі, спалучаўся з захаваннем састарэлага абсталявання і тэхналогій у большасці іншых галін. Значныя сродкі, якія маглі б палепшыць матэрыяльны ўзровень насельніцтва, выдаткоўваліся ва ўмовах супрацьстаяння СССР з капіталістычнымі краінамі на развіццё цяжкай і абароннай прамысловасці (**1, 2). У прыватнасці, большасць колавых шасі для мабільных ракетных комплексаў была створана ў спецыяльным канструктарскім бюро МАЗа. У той жа час выпуск якасных прадуктаў народнага спажывання набыў другараднае значэнне. Узрастаў *дэфіцыт* (недахоп) тавараў першай неабходнасці.

Развіццё новых галін вытворчасці прывяло да павелічэння колькасці гарадскога насельніцтва. Большая частка моладзі з вёсак перасялялася ў гарады, дзе ўзровень жыцця быў вышэйшым. Калі ў 1966 г. гарадскіх жыхароў налічвалася 3,3 млн чалавек (39 % ад агульнай колькасці насельніцтва БССР), дык у 1985 г. — 6,2 млн (62 %). Развіваліся новыя гарады: Наваполацк, Салігорск, Светлагорск. Усё гэта сведчыла пра пашырэнне ў рэспубліцы ўрбанізацыі.

Для большасці гарадоў Беларусі былі распрацаваны схемы жыллёвага будаўніцтва паводле прынцыпу планіроўкі і забудовы жылых раёнаў і мікрараёнаў, якія размяшчаліся звычайна на свабодных тэрыторыях. Імкненне да памяншэння кошту жылля прывяло да манатоннасці і аднастайнасці забудовы. Аднак з пачатку 1970-х гг. пачалі распрацоўвацца і ўкараняцца новыя се-



Мінск. Мікрараён Усход

рыі тыпавых праектаў. У 1970—1980-я гг. на аснове індустрыяльнага буйнапанэльнага домабудавання створаны новыя жылыя раёны з высокімі архітэктурна-планіровачнымі і кампазіцыйнымі характарыстыкамі.




Электрапоезд на чыгуначным вакзале Мінска

Другая палова 1960-х — першая палова 1980-х гг. былі адзначаны далейшым развіццём транспарту. У 1984 г. была здадзена ў эксплуатацыю першая лінія Мінскага метрапалітэна. Адбылася электрыфікацыя асноўнай чыгуначнай лініі Брэст — Масква. Камсамол Беларусі прыняў самы актыўны ўдзел у будаўніцтве чыгуначнай Байкала-Амурскай магістралі (БАМа). Хутка развіваўся і самы малады і эканамічны від транспарту — трубаправодны. Праз тэрыторыю БССР яшчэ ў 1963 г. прайшоў нафтаправод «Дружба». Агульная працягласць газа- і нафтаправодаў у Беларусі ў 1985 г. дасягнула амаль 3 тыс. км.

### ГІСТАРЫЧНАЯ ДАВЕДКА

Трэба адзначыць, што разам з поспехамі тэмпы эканамічнага развіцця БССР запаволіліся. Калі сярэднегадавыя тэмпы росту прадукцыі прамысловасці ў БССР у 1971—1975 гг. складалі 10,4 %, то ў 1981—1985 гг. — 5,4 %, а прадукцыйнасць працы — адпаведна 7,4 % і 4,0 %.




Праводзіны атрада беларускай моладзі на будаўніцтва БАМа

Падзенне тэмпаў эканамічнага росту сведчыла пра тое, што ў эканоміцы склаўся механізм тармажэння. Прычыны яго ўзнікнення заключаліся ў існаванні тагачаснай эканамічнай мадэлі. Характэрныя для яе дзяржаўная ўласнасць на сродкі вытворчасці, каманднa-адміністрацыйныя метады кіравання, цэнтралізаванае планаванне і размеркаванне ператварыліся ў тормаз на шляху развіцця вытворчасці. Прычына тармажэння заключалася таксама ў нежаданні кіраўніцтва СССР праводзіць рэфармаванне метадаў гаспадарання, каб яны садзейнічалі матэрыяльнай зацікаўленасці працоўных і развіццю прадпрымальніцтва.

Тагачасны гаспадарчы механізм арыентаваўся пераважна на экстэнсіўны шлях развіцця, гэта значыць за кошт колькасных фактараў — будаўніцтва новых прадпрыемстваў, павелічэння колькасці працоўных і выдаткаваных грошай з дзяржаўнага бюджэту.

**Сельская гаспадарка.** Пастанова сакавіцкага 1965 г. Пленума ЦК КПСС «Аб неадкладных мерах па далейшаму развіццю сельскай гаспадаркі СССР» паклала пачатак гаспадарчай рэформе ў гэтай галіне. У адпаведнасці з ёю была зменена сістэма нарыхтовак сельскагаспадарчай прадукцыі. Замест гадавых планаў нарыхтовак уводзіліся нязменныя пяцігадовыя. Закупачныя цэны на сельскагаспадарчую прадукцыю павялічваліся ў 1,5—2 разы. Прадугледжвалася значнае ўмацаванне матэрыяльна-тэхнічнай базы сельскай гаспадаркі.

Паскарэнне навукова-тэхнічнай рэвалюцыі ў 1960—1970-я гг. адкрыла новыя магчымасці для ўкаранення ў сельскагаспадарчую вытворчасць дасягненняў навукі і тэхнікі. Распачалася хімізацыя сельскай гаспадаркі — унясенне ў глебу штучных угнаенняў. Аднак празмерная хімізацыя выклікала абвастрэнне экалагічных праблем (экалогія — навука аб узаемаадносінах раслінных і жывёльных арганізмаў з навакольным асяроддзем, у тым ліку ўзаемаадносінах чалавека і прыроды).




Свінагадоўчая ферма ў калгасе «Чырвоная змена» Любанскага раёна Мінскай вобласці

Сельская гаспадарка ў БССР спецыялізавалася на развіцці мясной і малочнай жывёлагадоўлі, вытворчасці бульбы, ільну-даўгунцу, цукровых буракоў. У рэспубліцы ў другой палове 1960-х гг. разгарнулася будаўніцтва буйных механізаваных ферм, комплексаў па адкорме буйной рагатай жывёлы і птушкафабрык. Працягвалася меліярацыя. Было асушана каля 1 млн га зямельных плошчаў. Аднак каля 1/3 усіх меліяраваных плошчаў аказаліся перасушанымі і малаэфектыўнымі для земляробства. Павялічыўся збор збожжа, узрасла прадукцыйнасць жывёлагадоўлі.

### ГІСТАРЫЧНАЯ ДАВЕДКА

Значна палепшылася забеспячэнне сельскай гаспадаркі адпаведнай тэхнікай. У 1985 г. яе колькасць у БССР павялічылася ў параўнанні з 1970 г. у сярэднім напалову. На кожны калгас і саўгас рэспублікі прыходзілася ў сярэднім 26 трактароў і 15 камбайнаў рознага прызначэння. У 1972 г. імянны трактар «Беларус» з завадскім нумарам 1 000 000 асабіста П. М. Машэравым быў уручаны славутаму механізатару саўгаса «Лагаза» Лагойскага раёна, Герою Сацыялістычнай Працы Надзеі Куніцкай, якая працавала на ім аж да 80-гадовага ўзросту. Былі электрыфікаваны ўсе калгасы, саўгасы, сельскія населеныя пункты. У сельскай гаспадарцы дастаткова высокім быў узровень механізацыі вытворчасці. 99 % усіх энергетычных магутнасцей прыходзілася на машыны, і толькі 1 % — на коней.

Аднак тэмпы росту прадукцыі сельскай гаспадаркі не адпавядалі патрэбнасцям рэспублікі і тым грашовым сродкам, якія накіроўваліся ў гэтую галіну народнай гаспадаркі. Паказчыкі вытворчасці шэрагу відаў сельскагаспадарчай прадукцыі ў разліку на душу насельніцтва пагоршыліся. У 1982 г. была нават распрацавана і прынята Харчовая праграма СССР. У выніку яе ажыццяўлення БССР у пачатку 1980-х гг. мела некалькі лепшыя паказчыкі развіцця сельскай гаспадаркі ў параўнанні з большасцю іншых савецкіх рэспублік.



Найважнейшыя аб'екты прамысловасці, транспарту, адукацыі, культуры і спорту, створаныя ў БССР у 1965—1984 гг.
Вышэйшыя навучальныя ўстановы
політэхнічныя і тэхналагічныя інстытуты
Кааператыўны інстытут
Інстытут культуры
Вышэйшая школа міліцыі
Вышэйшае ваеннае каманднае вучылішча
Граніцы ў 1984 г.
СССР
БССР
абласцей
Наваполацк
Зах. Дзвіна
Даламіт
Віцебск
Лукомская ДРЭС
Смаргонь
Вілейскае вдсх. (1975)
Мемарыяльны комплекс «Хатынь» (1969)
Спартыўны комплекс «Раўбічы» (1974)
Барысаў
Магілёў
Ліда
Гродна
Нёман
Мінскі метрапалітэн (1984)
МІНСК
Курган Славы (1969)
Аэрапорт «Мінск-2» (1983)
Бабруйск
Ваўкавыск
Баранавічы
Асіповічы
Жлобін
Мемарыяльны комплекс «Брэсцкая крэпасць-герой» (1971)
Светлагорск
Гомель
у Польшчу
Лунінец
Нафта
з РСФСР
Пінск
Будаўнічы камень
Прыпяць
Мазыр
Брэст
Дняпро
Каменная соль
ва УССР і Чэхаславакію
Завод чорнай металургіі (пераробны)
Нафтаперапрацоўчы завод
Вытворчасць
камплектуючых для аўтамабіле- і трактарабудавання
станкоў
ліфтаў
электрарухавікоў
электралямпаў
вымяральных прылад
персанальных камп'ютараў
тэлевізараў
радыёпрыёмнікаў
хімічных валокнаў
сінтэтычных смол і пластычных мас
пластмасавых вырабаў
шын
мінеральных угнаенняў
лакаў і фарбаў
тавараў бытавой хіміі
штучнага футра
Нафтаправод «Дружба» (пачатак уводу ў эксплуатацыю — 1964 г.)
Нафта
Аб'екты здабыўной прамысловасці
Асноўныя раёны правядзення меліярацыі

Велізарныя сродкі, якія дзяржава накіроўвала на патрэбы сельскай гаспадаркі, выкарыстоўваліся ва ўмовах адміністрацыйна-каманднай эканомікі не заўсёды мэтазгодна. Дзяржава пастаянна павышала закупачныя цэны на мяса, малако, збожжа. Прадаваліся ж тыя прадукты па вельмі нізкай цане, што кампенсавала даволі невялікія заробкі працоўных. Доўга так працягвацца не магло. Розніца паміж высокай закупачнай цаной і нізкай цаной пры продажы вяла да страт з боку дзяржавы. У сельскай гаспадарцы БССР паступова наспявалі крызісныя з’явы.

**Узровень жыцця народа.** Паступова паляпшаліся ўмовы працы насельніцтва БССР, якое па выніках Усесаюзнага перапісу 1979 г. складала 9 млн 532,5 тыс. чалавек. У 1967 г. рабочыя і служачыя былі пераведзены на 5-дзённы працоўны тыдзень з двума выхаднымі днямі. Павелічэнне заработнай платы, а таксама памераў пенсій і льгот вяло да росту грашовых даходаў насельніцтва. Аднак яно адбывалася ва ўмовах зніжэння тэмпаў эканамічнага развіцця. Таму рост грашовай масы стаў апераджаць вытворчасць тавараў. У выніку ў канцы 1970-х — пачатку 1980-х гг. узрос агульны дэфіцыт прадметаў спажывання. Шмат якія тавары трапілі ў разрад дэфіцытных. Прычынай дэфіцыту стала таксама пераважнае развіццё цяжкай прамысловасці ў параўнанні з лёгкай. У канцы 1970-х гг. рост рэальных даходаў насельніцтва ўвогуле спыніўся. Рабочы ў БССР у гэты час атрымліваў у выглядзе заработнай платы толькі каля трэці вартасці прадукту, які ён ствараў.

У другой палове 1950-х — сярэдзіне 1960-х гг. абсалютная большасць насельніцтва БССР абыходзілася без кватэрных тэлефонаў, радыёпрыёмнікаў, тэлевізараў і халадзільнікаў. З развіццём адпаведных галін прамысловасці ў 1970—1980-я гг. сталі распаўсюджвацца пральныя машыны, халадзільнікі і пыласосы, газавыя і электрычныя пліты. Разам з тым вытворчасць звыклых для нас сёння каляровых тэлевізараў, персанальных камп’ютараў, відэатэхнікі знаходзілася ў пачатковым стане.

Да пачатку 1980-х гг. не ўдалося ў поўнай меры забяспечыць высокі ўзровень жыцця насельніцтва БССР. Вострай заставалася, напрыклад, жыллёвая праблема. Аднак у параўнанні з іншымі савецкімі рэспублікамі БССР лічылася адной з лепшых у плане забеспячэння харчовымі і прамысловымі таварамі.

| Прыкметы наспявання крызісных з'яў у гаспадарцы БССР у першай палове 1980-х гг. |
|---|
| Захаванне састарэлага абсталявання і тэхналогій у большасці галін прамысловасці |
| Прымяненне каманднa-адміністрацыйных метадаў кіравання эканомікай |
| Перавага экстэнсіўнага шляху развіцця эканомікі |
| Расходаванне значных сродкаў на развіццё ваенна-прамысловага комплексу (абароннай прамысловасці) |
| Абвастрэнне экалагічных праблем у выніку правядзення меліярацыі і хімізацыі сельскай гаспадаркі |
| Страты дзяржаўных сродкаў у выніку розніцы паміж высокай закупачнай і нізкай цаной пры продажы сельскагаспадарчай прадукцыі насельніцтву |
| Узрастанне дэфіцыту тавараў першай неабходнасці |

***Вызначым асноўнае ў змесце параграфа.*** Эканамічнае развіццё БССР у другой палове 1960-х — першай палове 1980-х гг. было звязана з далейшым фарміраваннем індустрыяльнага грамадства на аснове механізацыі і аўтаматызацыі вытворчасці з улікам выкарыстання дасягненняў НТР. Асаблівасцю народнай гаспадаркі БССР было яе развіццё ў асноўным па экстэнсіўным шляху з перавагай цяжкай і абароннай прамысловасці. Захоўвалася каманднa-адміністрацыйная мадэль эканамічнага развіцця. Спроба яе частковага рэфармавання ў другой палове 1960-х гг. скончылася няўдачай. Аграрная палітыка грунтавалася на пераважна састарэлых вытворчых адносінах у сельскай гаспадарцы. Гэта не дазваляла вырашыць глыбінную праблему — пераадолець адчужэнне калгасніка ад зямлі і вынікаў сваёй працы. У эканоміцы паступова нарасталі застойныя з'явы, звязаныя з падзеннем тэмпаў росту вытворчасці і ігнараваннем матэрыяльнай зацікаўленасці працоўных.

***Паняцці і тэрміны, якія трэба засвоіць:*** *гаспадарчы разлік, экстэнсіўны шлях развіцця эканомікі, ваенна-прамысловы комплекс, дэфіцыт.*

## ДАДАТКОВЫ МАТЭРЫЯЛ

### Культурна-гістарычнае асяроддзе

****1.** Адным з галоўных стваральнікаў савецкага ядзернага шчыта стаў ураджэнец Мінска, тройчы Герой Сацыялістычнай Працы Якаў Зяльдовіч (1914—1987). Чалавек, які не меў вышэйшай адукацыі, у 25-гадовым узросце стаў доктарам фізіка-матэматычных навук, вывучыўшы самастойна вышэйшую матэматыку. Гэта ўнікальны выпадак у гісторыі савецкай навукі. Займаўся даследаваннем гарэння пораху рэактыўных снарадаў для легендарнай «кацюшы». Адзін са стваральнікаў савецкай атамнай бомбы, выбух якой быў праведзены ў 1949 г. У 1950—1960-я гг. актыўна ўдзельнічаў у стварэнні савецкай вадароднай бомбы. Дыяпазон яго навуковых заняткаў шырокі. Напрыклад, як астрафізік даследаваў пачатковыя стадыі пашырэння Метагалактыкі і стварыў тэорыю зараджэння Сусвету.



Я. Б. Зяльдовіч

У практычнай рэалізацыі ідэй Я. Зяльдовіча прымаў удзел таксама ўраджэнец Мінска, Герой Сацыялістычнай Працы Аркадзій Брыш (нарадзіўся ў 1917 г.). У яго жыццёвым лёсе спалучыліся вайна і навука. Два гады ў Мінскім падполлі і яшчэ год разведчыкам у партызанскай брыгадзе, удзел у знакамітым партызанскім парадзе ў Мінску ў 1944 г. А потым праца над савецкай атамнай бомбай, раскрыццё сакрэту яе дэтанацыі пры падрыве, забеспячэнне бяспекі ядзерных боепрыпасаў, што стаяць на ўзбраенні.



А. А. Брыш

****2.** Вялікі ўклад ва ўмацаванне абараназдольнасці СССР унёс ураджэнец Віцебшчыны, савецкі авіяканструктар, двойчы Герой Сацыялістычнай Працы Павел Восіпавіч Сухі (1895—1975). У свае маладыя гады, у 1918—1919 гг., ён працаваў настаўнікам матэматыкі ў школах Лунінца і Гомеля, а затым інжынерам-канструк-

тарам. У гады Вялікай Айчыннай вайны прымяняліся для барацьбы з ворагам сканструяваныя ім франтавыя бамбардзіроўшчыкі, штурмавікі, знішчальнікі. Шэраг унікальных самалётаў са стрэлападобнымі і трохвугольнымі крыламі пад маркай СУ сталі асновай савецкай авіяцыі, а таксама Ваенна-паветраных сіл Рэспублікі Беларусь. У 1995 г. імя П. В. Сухога прысвоена Гомельскаму політэхнічнаму інстытуту (цяпер універсітэт).

*У чым заключаецца ўклад Я. Зяльдовіча, А. Брыша, П. Сухога ў развіццё ВПК і забяспячэнне бяспекі савецкай краіны?*



П. В. Сухі

## ПЫТАННІ І ЗАДАННІ

1. Ахарактарызуйце прамысловы патэнцыял БССР у другой палове 1960-х — першай палове 1980-х гг.
2. Вызначце, ці існавала на прадпрыемствах, якія пераводзіліся на гаспадарчы разлік, зацікаўленасць працоўных у выніках сваёй вытворчай дзейнасці.
3. Растлумачце, чаму БССР у народзе называлі «зборачным і адкормачным цэхам Савецкага Саюза».
4. Прывядзіце прыклады развіцця гаспадаркі па экстэнсіўным шляху.
5. Складзіце ў сшытку параўнальную табліцу «Асноўныя рысы эканамічнага развіцця БССР» і зрабіце выснову аб іх асаблівасцях.

| **Прыкметы для параўнання** | **Другая палова 1950-х — першая палова 1960-х гг.** | **Другая палова 1960-х — першая палова 1980-х гг.** |
|---|---|---|
| Метады кіравання эканомікай | | |
| Галіны прамысловасці, якія пераважна развіваліся | | |
| Кірункі развіцця сельскай гаспадаркі | | |

6. Падрыхтуйце, карыстаючыся дакументам № 36 хрэстаматыі, паведамленне аб узроўні дабрабыту насельніцтва БССР.

7. Раскрыйце прычынна-выніковую сувязь паміж развіццём ВПК і дэфіцытам тавараў народнага спажывання; паміж правядзеннем хімізацыі сельскай гаспадаркі і ўскладненнем экалагічных праблем.
8. Прааналізуйце прычыны, па якіх рэформа 1965 г. фактычна перастала дзейнічаць да пачатку 1970-х гг.
9. У чым заключаліся прыкметы складвання механізма тармажэння сацыяльна-эканамічнага развіцця БССР у першай палове 1980-х гг.?

## § 12. Спробы паскарэння сацыяльна-эканамічнага развіцця БССР у другой палове 1980-х гг.

### Вучэбная задача

Вызначыць, у чым заключаліся прычыны і асноўныя кірункі партыйна-дзяржаўнага курсу на паскарэнне сацыяльна-эканамічнага развіцця.

### Успомніце

1. Што такое стагнацыя?
2. Што ўяўляе сабой экстэнсіўны шлях развіцця гаспадаркі?

**Курс на паскарэнне сацыяльна-эканамічнага развіцця.** Спробы паскарэння сацыяльна-эканамічнага развіцця БССР, як і СССР у цэлым, былі выкліканы перш за ўсё зніжэннем яго паказчыкаў у 1970-х — першай палове 1980-х гадоў. Назіралася адставанне эканомікі ад дасягненняў навукова-тэхнічнай рэвалюцыі, якая паступова ахоплівала ўсе сферы жыцця грамадства. У 1971—1985 гг. беларуская эканоміка, як і ўся савецкая, усё больш адставала ад эканамічна развітых капіталістычных краін па эфектыўнасці, тэхнічным і тэхналагічным узроўні, большасці іншых паказчыкаў. Эканоміка СССР, за выключэннем сыравінных галін і вытворчасці ўзбраення, была неканкурэнтаздольнай.

У той жа час узнікла ценявая эканоміка — усе віды эканамічнай дзейнасці, якія афіцыйна дзяржавай не ўлічваліся і даходы ад якіх скрываліся ад падаткаабкладання. Узнікненне ценявой эканомікі сведчыла пра аслабленне дзяржаўнай манаполіі ў эканамічнай галіне.

Праяўленні застою ў эканоміцы, нарастанне крызісных з'яў у сярэдзіне 1980-х гг. прымусілі кіраўніцтва дзяржавы шукаць

шляхі пераўтварэння гаспадарчага механізма. Неабходнасць новай эканамічнай рэформы стала відавочнай і для кіраўніцтва. Існавала два магчымыя шляхі яе правядзення: пераход гаспадаркі да выкарыстання таварна-грашовых адносін або чарговая спроба ўдасканалення тагачаснай камандна-адміністрацыйнай сістэмы. Партыйным кіраўніцтвам быў прадэклараваны першы варыянт. Ён атрымаў назву «курс на паскарэнне сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны». Гэты курс прадугледжваў пераход на *інтэнсіўны шлях развіцця эканомікі* на аснове павелічэння якасных паказчыкаў за кошт выкарыстання навейшых дасягненняў навукі і тэхнікі, прыярытэтнага развіцця машынабудавання як базы гэтага працэсу, росту прадукцыйнасці працы.

**Шляхі развіцця эканомікі БССР**

| Экстэнсіўны | Інтэнсіўны |
|---|---|
| За кошт павелічэння колькасных паказчыкаў | За кошт паляпшэння якасных паказчыкаў |

**Рэалізацыя курсу на паскарэнне сацыяльна-эканамічнага развіцця. Перавод прадпрыемстваў на самафінансаванне і гасразлік.** У адпаведнасці з курсам на паскарэнне сацыяльна-эканамічнага развіцця быў распрацаваны план развіцця народнай гаспадаркі БССР на 1986—1990 гг. Асноўнай задачай стаў пераход ад пераважна адміністрацыйных метадаў кіравання да эканамічных. Але праграма такога пераходу яшчэ не была распрацавана. Планавалася спалучыць адміністрацыйныя метады кіравання «зверху» з самакіраваннем «знізу» на месцах. Для гэтага прадугледжвалася пашырэнне правоў прадпрыемстваў і іх самастойнасці, укараненне гаспадарчага разліку і *самафінансавання*. Пры самафінансаванні прадпрыемства само зарабляе грошы за кошт даходаў ад рэалізацыі сваёй прадукцыі і не мае патрэбы ў дзяржаўным фінансаванні.

Дзякуючы гэтым эканамічным метадам прадпрыемствы атрымалі магчымасць большую частку прыбытку пакідаць у сябе і выкарыстоўваць яе ў сваіх інтарэсах. Пераход прадпрыемстваў да гаспадарчага разліку і самафінансавання садзейнічаў у 1986—1989 гг. росту аб'ёму прамысловай прадукцыі ў Беларусі на 27 % і павышэнню прадукцыйнасці працы на 26 %.

Найбольш істотным крокам па рэалізацыі курсу на паскарэнне сацыяльна-эканамічнага развіцця з'явіўся Закон «Аб дзяржаўным прадпрыемстве», які быў прыняты ў 1987 г. Згодна з законам роля цэнтральных міністэрстваў абмяжоўвалася падрыхтоўкай кантрольных лічбаў развіцця і вызначэннем дзяржзаказу. Прадпрыемствы атрымалі большую эканамічную і вытворчую самастойнасць. Прадукцыя, якая выраблялася звыш дзяржзаказу, магла рэалізоўвацца па рыначных цэнах.

Аднак ажыццяўленне гэтага закона замест забеспячэння эфектыўнасці вытворчасці прывяло толькі да разбалансавання сістэмы кіравання ўсім народнагаспадарчым комплексам. Галоўнай прычынай з'явілася тое, што абмежаванне функцый міністэрстваў адбывалася ва ўмовах адсутнасці ў краіне неабходных рынкавых структур, пасрэдніцкіх арганізацый, таварна-сыравінных біржаў. Магчымасць выжыць для прадпрыемства пры такіх умовах — гэта дабіцца як мага большага дзяржзаказу. Так кола замкнулася. Прадпрыемствы самі імкнуліся вярнуцца пад апеку міністэрстваў.

У канцы 1980-х гг. народная гаспадарка СССР, у тым ліку і БССР, па-ранейшаму заставалася ва ўладзе адміністрацыйна-каманднай сістэмы кіравання, хоць і аслабленай пастаяннымі эксперыментамі з эканамічнымі паўрэформамі. Непахіснай заставалася сацыялістычная (дзяржаўная) уласнасць на сродкі вытворчасці.

Галоўным дасягненнем эканамічнага развіцця БССР у другой палове 1980-х гг. стала паступовая пераарыентацыя з выпуску тавараў цяжкай прамысловасці (машын, станкоў, абсталявання) на выпуск тавараў лёгкай прамысловасці. Упершыню тавары народнага спажывання па аб'ёме сваёй вытворчасці сталі выпускацца апераджальнымі тэмпамі.

Зробленыя партыйна-дзяржаўным кіраўніцтвам захады не змаглі спыніць пагаршэння сацыяльна-эканамічнага становішча. Яно працягвала абвастрацца. Нарастала *інфляцыя* — абясцэньванне папяровых грошай, гэта значыць падзенне іх пакупной здольнасці ў выніку павышэння цэн на тавары і паслугі. Пошукі шляхоў перабудовы эканамічных адносін у другой палове 1980-х гг. рэальных вынікаў не далі.

**Пагаршэнне становішча ў сельскай гаспадарцы.** Больш марудна ажыццяўляліся пераўтварэнні ў сельскай гаспадарцы. Існавала розніца паміж высокімі цэнамі на прамысловыя тавары і

нізкімі дзяржаўнымі закупачнымі цэнамі на сельскагаспадарчую прадукцыю. У выніку калгасы амаль перасталі купляць неабходную тэхніку. Скарацілася выкарыстанне ўгнаенняў. Пачалося падзенне вытворчасці прадуктаў харчавання. Для забеспячэння імі насельніцтва была ўведзена сістэма талонаў. У гэтых умовах больш настойліва сталі ўзнімацца пытанні аб неабходнасці пераходу да разнастайных формаў гаспадарання на зямлі. У 1990 г. быў прыняты Закон «Аб уласнасці», які прадугледжваў прыватную, калектыўную і дзяржаўную ўласнасць. У 1991 г. быў прыняты Закон «Аб сялянскай (фермерскай) гаспадарцы». Аднак фермерскіх гаспадарак у Беларусі было створана вельмі мала.

| **Асноўныя кірункі курсу на паскарэнне сацыяльна-эканамічнага развіцця БССР у другой палове 1980-х гг.** |
|---|
| Спроба інтэнсіфікацыі вытворчасці на аснове выкарыстання дасягненняў НТР |
| Забеспячэнне апераджальнага росту вытворчасці прадметаў народнага спажывання |
| Перавод прадпрыемстваў на гаспадарчы разлік і самафінансаванне |
| Спробы пераходу да разнастайных формаў гаспадарання на зямлі |

**Чарнобыльская катастрофа.** Эканамічнае становішча БССР пагоршылася ў сувязі з аварыяй на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі 26 красавіка 1986 г. (**). Чарнобыльская катастрофа лічыцца адной з самых маштабных тэхналагічных катастроф XX ст., наступствы якой былі вельмі цяжкімі для Беларусі.

У ліпені 1986 г. Вярхоўны Савет БССР прызнаў усю тэрыторыю Беларусі зонай экалагічнага бедства. Аднак першапачаткова ў БССР не распаўсюджвалася інфармацыя аб аварыі, і грамадства не ведала масштабаў катастрофы і не ўяўляла небяспекі, якую несла ў сабе радыяцыя. Толькі ў 1989 г. з інфармацыі аб радыяцыйным становішчы ў Беларусі быў зняты рэжым сакрэтнасці.



Чарнобыльская мадонна. Мастак М. Савіцкі. *1986—1990 гг.*




## ГІСТАРЫЧНАЯ ДАВЕДКА

Радыеактыўнаму забруджванню ў выніку аварыі падвергліся 17 еўрапейскіх краін. Асноўны ўдар прыпаў на Беларусь, Украіну, Расію. Аварыя нанесла Беларусі страты, роўныя 32 рэспубліканскім бюджэтам 1985 г. Па даных Камітэта па праблемах наступстваў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС, 23 % тэрыторыі нашай рэспублікі былі забруджаны доўгажывучымі радыеактыўнымі ізатопамі (для параўнання 4,8 % тэрыторыі Украіны і 0,5 % тэрыторыі Расіі). Ад радыеактыўнага забруджвання пацярпела 2,3 млн чалавек, гэта значыць кожны пяты жыхар Беларусі. З гаспадарчага абароту было выведзена 20 % зямель.

У 1988 г. у беларускім сектары 30-кіламетровай зоны адсялення вакол станцыі быў створаны Палескі радыяцыйна-экалагічны запаведнік. Урадам БССР была распрацавана і ў 1989 г. прынята доўгатэрміновая дзяржаўная праграма ліквідацыі вынікаў аварыі. З забруджаных тэрыторый на новае месца жыхарства было адселена больш за 135 тыс. чалавек. Для перасяленцаў было пабудавана шмат жылля. У 1991 г. затраты на чарнобыльскія патрэбы склалі 16,8 % рэспубліканскага бюджэту.



Саркафаг над разбураным энергаблокам Чарнобыльскай АЭС

Адсяленне, лячэнне і аздараўленне людзей, стварэнне належных умоў для працы і жыцця на пацярпелых тэрыторыях застаюцца адной з найважнейшых задач у развіцці нацыянальнай эканомікі і ў наш час.

***Вызначым асноўнае ў змесце параграфа.*** Пошукі шляхоў пераадолення крызісу і забеспячэння развіцця народнай гаспадаркі БССР былі звязаны са спробамі партыйна-дзяржаўнага кіраўніцтва рэфармаваць камандна-адміністрацыйную сістэму кіравання эканомікай. Аднак сфера эканамічных адносін, якія складалі сацыялістычную сістэму гаспадарання, захоўвалася нязменнай. Гэта і стала галоўнай прычынай таго, што курс на паскарэнне сацыяльна-эканамічнага развіцця спалучаў адміністрацыйна-камандныя і гаспадарчыя метады. Укараняўся гаспадарчы разлік і самафінансаванне. Прадугледжвалася інтэнсіфікацыя вытворчасці на аснове выкарыстання дасягненняў НТР. Былі ўведзены розныя формы ўласнасці. Аднак план развіцця народнай гаспадаркі БССР не ставіў за мэту пераход да рынавых адносін. Няўдалыя спробы рэфармавання сістэмы кіравання эканомікай прывялі да далейшага нарастання негатыўных тэндэнцый. Паскорылася зніжэнне тэмпаў росту прамысловай і сельскагаспадарчай прадукцыі,

прадукцыйнасці працы. У выніку эканоміку ахапіў глыбокі крызіс, што выклікала развіццё цэнтрабежных тэндэнцый і ў канчатковым выніку — распад савецкай дзяржавы і адзінага народнагаспадарчага комплексу.

***Паняцці і тэрміны, якія трэба засвоіць:*** *інтэнсіўны шлях развіцця эканомікі, самафінансаванне, інфляцыя.*

## ДАДАТКОВЫ МАТЭРЫЯЛ

** Пажар, які ўзнік на адным з блокаў Чарнобыльскай АЭС, удалося лакалізаваць дзякуючы самаахвярнасці атрада пажарных, які ўзначаліў жыхар Брагіна В. Ігнаценка. У вогненным пекле ён атрымаў вострае паражэнне прамянёвай хваробай. 25-гадовы пажарны быў пасмяротна ўзнагароджаны ордэнам Чырвонага Сцяга. Яму ўстаноўлены помнік у Брагіне. А тысячы ўдзельнікаў пераадолення наступстваў аварыі атрымалі ў народзе назву ліквідатараў.

## ПЫТАННІ І ЗАДАННІ

1. Пералічыце мерапрыемствы, звязаныя з ажыццяўленнем курсу на паскарэнне сацыяльна-эканамічнага развіцця БССР у другой палове 1980-х гг.
2. Параўнайце экстэнсіўны і інтэнсіўны шляхі развіцця эканомікі; гаспадарчы разлік і самафінансаванне.
3. Вызначце, чаму Закон «Аб дзяржаўным прадпрыемстве» не паспрыяў паскарэнню эканамічнага развіцця.
4. Што, па вашым меркаванні, стала прычынамі ўзнікнення дэфіцыту тавараў народнага спажывання і інфляцыі?
5. Да якіх наступстваў прывяло існаванне нажніц цэн на прамысловыя тавары і сельскагаспадарчую прадукцыю?
6. Ці варта характарызаваць аварыю на Чарнобыльскай АЭС як маштабную экалагічную і тэхнагенную катастрофу, у тым ліку для Беларусі? Правядзіце дыскусію па гэтым пытанні. Выкарыстайце дакументальныя матэрыялы хрэстаматыі.
7. Вызначце, чаму курс на паскарэнне сацыяльна-эканамічнага развіцця не прынёс жаданых вынікаў.

# § 13. Палітыка перабудовы і вынікі яе ажыццяўлення ў БССР

**Вучэбная задача**

Вызначыць, у чым заключалася палітыка перабудовы ў грамадска-палітычным жыцці БССР у другой палове 1980-х гг.

**Успомніце**

Што азначае дэмакратызацыя?

**Рэфармаванне грамадска-палітычнай сістэмы. Выбары народных дэпутатаў.** У 1985 г. Генеральным сакратаром ЦК КПСС быў абраны М. С. Гарбачоў. Палітыка, распачатая з сярэдзіны 1980-х гг. часткай кіраўніцтва СССР на чале з М. С. Гарбачовым, атрымала назву *«перабудова»*. Яна ахоплівала амаль усе бакі жыццядзейнасці краіны і прывяла да значных змен ва ўнутрыпалітычным і міжнародным жыцці, якія былі звязаны з дэмакратызацыяй, спробамі паскарэння сацыяльна-эканамічнага развіцця. Аднак у выніку супярэчлівасці і непаслядоўнасці ў рэалізацыі палітыкі перабудовы адбылося абвастрэнне крызісу ва ўсіх сферах жыцця савецкага грамадства.

Перабудова закранула ўсіх і кожнага паасобку. Адным з яе рэальных дасягненняў у грамадска-палітычным жыцці ў другой палове 1980-х гг. стала *галоснасць* — прынцып адкрытасці інфармацыі пра мінулае і сучаснасць краіны, магчымасць выказваць крытычныя адносіны да ўлады і тагачаснай ідэалогіі, рэалізоўваць на справе абвешчаныя Канстытуцыяй БССР 1978 г. дэмакратычныя свабоды слова і друку. Важным крокам на шляху пашырэння ролі народа ў вырашэнні дзяржаўных спраў у Беларусі стала прыняцце ў 1988 г. Закона «Аб народным абмеркаванні важных пытанняў дзяржаўнага жыцця Беларускай ССР».

Часткай партыйнага кіраўніцтва была ўсвядомлена задача карэннай перабудовы грамадскага ладу. Перабудова прадугледжвала пазбаўленне партыйных органаў дзяржаўных функцый, пераход да шматпартыйнасці, забеспячэнне ўсеўладдзя Саветаў народных дэпутатаў. Было вырашана стварыць новы вышэйшы орган

заканадаўчай улады — З'езд народных дэпутатаў СССР. У выбарчую сістэму былі ўнесены адпаведныя змены. У 1989 г. адбыліся выбары народных дэпутатаў СССР. Яны ўпершыню праводзіліся *на альтэрнатыўнай аснове,* гэта значыць на кожнае месца ва ўсесаюзным парламенце прэтэндавалі некалькі кандыдатаў, а канчатковае рашэнне было за выбаршчыкамі. Пры такой выбарчай сістэме кожны кандыдат павінен быў сам удзельнічаць у выбарчай кампаніі, распрацаваць і прапанаваць сваю выбарчую праграму.

У 1990 г. згодна з новым выбарчым законам адбыліся выбары народных дэпутатаў у Вярхоўны і мясцовыя Саветы народных дэпутатаў БССР. На 310 месцаў у беларускім парламенце прэтэндавала 1769 кандыдатаў. Аднак ва ўмовах аднапартыйнасці большасць месцаў атрымалі прыхільнікі Камуністычнай партыі Беларусі. Разам з тым упершыню ў гісторыі Вярхоўнага Савета БССР у ім узнікла *парламенцкая апазіцыя* — група (фракцыя) дэпутатаў, чые погляды не супадалі або супярэчылі думкам дэпутацкай большасці. У гэтых умовах замест фармальнага аднагалоснага зацвярджэння законаў у Вярхоўным Савеце БССР праходзіла іх вострае абмеркаванне.

**Фарміраванне шматпартыйнасці. Грамадскія арганізацыі і аб'яднанні.** Ва ўмовах, калі запісаныя ў Канстытуцыі дэмакратычныя свабоды атрымалі рэальнае ўвасабленне, побач з існуючымі сталі нараджацца новыя грамадскія аб'яднанні. Утварэнне грамадскіх рухаў і фарміраванне шматпартыйнасці сталі магчымымі толькі ва ўмовах аслаблення кіруючай ролі КПБ. Аднак партыйнае кіраўніцтва ў Беларусі было схільнае да адстойвання аднапартыйнай сістэмы. Кампартыя Беларусі працягвала лічыць сябе кіруючай і накіроўваючай сілай грамадства, нягледзячы нават на тое, што ў 1990 г. Трэці Нечарговы з'езд народных дэпутатаў СССР адмяніў шосты артыкул Канстытуцыі СССР, у якім замацоўвалася кіруючая і накіроўваючая роля КПСС. Галоўным для КПБ у гэтых умовах было не дапусціць утварэння новых палітычных партый. Таму зараджэнне і фарміраванне шматпартыйнасці ў Беларусі праходзіла вельмі складана і супярэчліва. І ўсё ж спыніць працэс утварэння палітычных партый і грамадскіх аб'яднанняў кіраўніцтва рэспублікі не здолела.

### ГІСТАРЫЧНАЯ ДАВЕДКА

Рост грамадскай і палітычнай свядомасці насельніцтва прывёў да ўзнікнення ў 1989 г. грамадска-палітычнага руху пад назвай Беларускі народны фронт за перабудову «Адраджэнне» (БНФ). У 1990 г. быў прыняты Закон СССР «Аб грамадскіх аб’яднаннях», які замацаваў права грамадзян на свабоднае аб’яднанне і стварэнне палітычных партый, рухаў. Таму адкрыта супрацьстаяць гэтаму працэсу для КПБ станавілася практычна немагчыма. У 1991 г. адбыўся І з’езд Беларускай сялянскай партыі. У праграмнай заяве партыі адзначалася, што яна ёсць палітычная арганізацыя парламенцкага тыпу, створаная з мэтай абароны палітычных і эканамічных інтарэсаў сялянства. У пачатку 1990-х гг. у Беларусі ўзнікла каля 10 палітычных партый. Сярод іх Беларуская сацыял-дэмакратычная Грамада, Аб’яднаная дэмакратычная партыя Беларусі і інш.

Па меры таго як у рэспубліцы складвалася шматпартыйнасць, КПБ страчвала манаполію на ўладу. Яе аўтарытэт у грамадстве хутка падаў, і многія радавыя члены партыі пачалі выходзіць з яе радоў. Пад уздзеяннем гэтых працэсаў унутры партыі ўзнікла ідэя яе рэфармавання і пераўтварэння ў партыю парламенцкага тыпу. Аднак вышэйшае партыйнае кіраўніцтва курс на дэмакратызацыю партыі звязвала толькі з прыстасаваннем да новых умоў, каб захаваць камуністычную партыю ў якасці сілы, якая павінна стаяць над грамадствам.

Апошняй спробай вярнуць краіну ў даперабудовачны час стаў так званы жнівеньскі путч 1991 г. Ён быў арганізаваны групай вышэйшых партыйных і дзяржаўных кіраўнікоў у Маскве ў той час, калі кіраўнік краіны М. С. Гарбачоў знаходзіўся на адпачынку ў Крыме. Няўдача путчу паскорыла крах КПСС і КПБ. У сувязі з гэтымі падзеямі 25 жніўня 1991 г. Вярхоўны Савет БССР, большасць якога складалі камуністы, прыняў пастанову «Аб часовым прыпыненні дзейнасці КПСС — КПБ на тэрыторыі Беларусі». Гэта пастанова дзейнічала да 1993 г. КПБ была забаронена і заканадаўча адхілена ад улады, якая ў поўным аб’ёме перайшла ў рукі Вярхоўнага Савета.

Фарміраванне шматпартыйнасці з’явілася буйным крокам на шляху да ўсталявання дэмакратыі ў рэспубліцы. Аднак большасць створаных партый заставаліся невялікімі па сваёй колькасці. Практычна яны ўяўлялі сабой аб’яднанні вузкага кола аднадумцаў, якія не мелі шырокай падтрымкі. Адной з прычын гэтага

з'яўлялася непадрыхтаванасць грамадскай свядомасці да ўвядзення шматпартыйнасці ва ўмовах адсутнасці вопыту і навыкаў удзелу насельніцтва ў грамадска-палітычным жыцці краіны.

Перабудова спрыяла актывізацыі дзейнасці прафсаюзаў, перш за ўсё ў абароне інтарэсаў шырокіх мас насельніцтва, а таксама ў фарміраванні дэмакратычнага грамадства. Былі ўведзены новыя прынцыпы аб'яднання прафесійных саюзаў. У 1990 г. была створана Федэрацыя прафсаюзаў Беларусі (ФПБ), якая аб'яднала асноўную частку членаў прафесійных саюзаў Беларусі. Яшчэ адным аб'яднаннем прафсаюзаў стаў Беларускі Кангрэс дэмакратычных прафсаюзаў, удзельнікі якога склалі нязначную колькасць членаў прафсаюзаў.

Са стратай камуністычнай партыяй кіруючай ролі ў глыбокім крызісе апынуўся і яе рэзерв — камсамол. Колькасць членаў камсамола ў 1990 г. скарацілася ўдвая, няпэўным стала і прызначэнне яго ў грамадстве, таму ў 1991 г. ён быў перайменаваны ў Саюз моладзі Беларусі.

| **Напрамкі дэмакратызацыі грамадска-палітычнага жыцця БССР у другой палове 1980-х — пачатку 1990-х гг.** |
|---|
| Прыняцце курсу на перабудову савецкай палітычнай сістэмы |
| Правядзенне палітыкі галоснасці |
| Правядзенне выбараў на альтэрнатыўнай аснове і ўтварэнне парламенцкай апазіцыі |
| Паступовае фарміраванне шматпартыйнасці |

***Вызначым асноўнае ў змесце параграфа.*** Найважнейшымі зменамі ў грамадска-палітычным жыцці БССР у час перабудовы сталі галоснасць, магчымасць рэалізоўваць на справе дэмакратычныя свабоды слова і друку, страта КПБ манаполіі на ўладу і стварэнне шматпартыйнасці, правядзенне выбараў народных дэпутатаў на альтэрнатыўнай аснове і ўзнікненне парламенцкай апазіцыі ў Вярхоўным Савеце БССР, пазбаўленне партыйных органаў дзяржаўных функцый і забеспячэнне ўсеўладдзя Саветаў народных дэпутатаў.

***Паняцці і тэрміны, якія трэба засвоіць:*** *перабудова, галоснасць, выбары на альтэрнатыўнай аснове, парламенцкая апазіцыя.*

## ПЫТАННІ І ЗАДАННІ

1. Як вы разумееце выраз «манаполія на ўладу»?
2. Параўнайце становішча народных дэпутатаў, выбраных на безальтэрнатыўнай і альтэрнатыўнай асновах. Выкарыстайце дакументы № 52, 56 хрэстаматыі.
3. Растлумачце, аб чым сведчыла скасаванне шостага артыкула Канстытуцыі БССР 1978 г.
4. Ахарактарызуйце працэс складвання ў БССР шматпартыйнасці.
5. Растлумачце, чаму для пераўтварэння савецкай палітычнай сістэмы было неабходна найперш пазбавіць камуністычную партыю ўладных паўнамоцтваў.
6. Складзіце параўнальную табліцу «Асноўныя рысы грамадска-палітычнага жыцця ў БССР» і зрабіце выснову аб іх адрозненні.

| **Прыкметы для параўнання** | **Другая палова 1960-х — першая палова 1980-х гг.** | **Другая палова 1980-х — пачатак 1990-х гг.** |
|---|---|---|
| Выбары ў органы дзяржаўнай улады | | |
| Становішча палітычных партый | | |

7. Раскрыйце прычынна-выніковую сувязь паміж увядзеннем галоснасці і развіццём дэмакратычных працэсаў.

# § 14. Развіццё адукацыі і навукі ў другой палове 1950-х — 1980-я гг.

### Вучэбная задача

Вызначыць ролю адукацыі і навукі ў разгортванні НТР у БССР і развіцці грамадства.

### Успомніце

Якое значэнне мела «культурная рэвалюцыя» ў працэсе станаўлення новага ўкладу жыцця і фарміраванні савецкага чалавека ў 1920—1930-я гг.?

**Развіццё народнай адукацыі.** Рост ведаў пра навакольны свет, чалавека, грамадства стаў неабходным для далейшага развіцця БССР ва ўмовах разгортвання навукова-тэхнічнай рэвалюцыі.

У працэсе фарміравання індустрыяльнага грамадства значную ролю адыграла агульнаадукацыйная школа. Вялікім дасягненнем стала ўвядзенне з 1958 г. абавязковай 8-гадовай адукацыі. Былі створаны сярэднія агульнаадукацыйныя працоўныя політэхнічныя школы з вытворчым навучаннем. Працавалі школы рабочай і сельскай моладзі, пашыралася прафесійна-тэхнічнае навучанне. Былі створаны прафесійна-тэхнічныя вучылішчы (ПТВ), якія рыхтавалі кваліфікаваных рабочых.

У першай палове 1970-х гг. быў завершаны пераход да ўсеагульнай сярэдняй адукацыі. 98 % выпускнікоў 8-х класаў прадоўжылі вучобу для атрымання сярэдняй адукацыі ў 10-гадовай школе, а таксама ў сярэдніх спецыяльных навучальных установах. Сярэднюю адукацыю давалі таксама прафесійна-тэхнічныя вучылішчы. У працэсе набыцця адукацыі вучняў рыхтавалі да ўдзелу ў прадукцыйнай працы. Галоўная роля ў гэтым належала міжшкольным вучэбна-вытворчым камбінатам. Аднак з-за недастатковай аснашчанасці матэрыяльнай базы яны не маглі забяспечыць вучняў ведамі і навыкамі, неабходнымі для свядомага выбару прафесіі.

Якасць адукацыі і ўзровень падрыхтоўкі выпускнікоў сярэдняй школы не заўсёды адпавядалі патрабаванням вытворчасці. У развіцці адукацыі галоўным лічыўся ўсеагульны ахоп моладзі вучобай і атрыманне ёю атэстата сталасці. Павышэнне якасці адукацыі часта было немагчымае з-за недахопу сродкаў для развіцця матэрыяльна-тэхнічнай базы навучання.

Пашыралася падрыхтоўка спецыялістаў з вышэйшай адукацыяй. Былі адкрыты новыя навучальныя ўстановы: Магілёўскі машынабудаўнічы інстытут, Віцебскі тэхналагічны інстытут лёгкай прамысловасці, Мінскі радыётэхнічны інстытут, Магілёўскі тэхналагічны інстытут і інш.

Каб падрыхтаваць спецыялістаў для новых галін прамысловасці БССР — радыёфізікі, электронікі, радыётэхнікі і інш., прыём у вышэйшыя і сярэднія спецыяльныя навучальныя ўстановы з 1958 па 1965 г. павялічыўся больш чым у 2 разы. У наступныя гады колькасць вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў павялічвалася.

ГІСТАРЫЧНЫ ПАРТРЭТ

**Міхаіл Афанасьевіч Дзмітрыеў (1921—2001)** — таленавіты педагог і вучоны. З 1974 па 1985 гг. рэктар Мазырскага педагагічнага інстытута імя Н. К. Крупскай. Узначаліўшы Кармянскую школу-інтэрнат для дзяцей-сірот, якіх любіў не менш, чым трох сваіх, пераўтварыў яе ва ўзорную ў БССР у 1960—1970-я гг. Стаў заслужаным настаўнікам БССР. Устанавіў сувязі з калектывам школы, дзе дырэктарам быў славуты савецкі педагог В. А. Сухамлінскі. У гады Вялікай Айчыннай вайны стаў кавалерам салдацкага ордэна Славы і медаля «За адвагу», а за сваю самаадданую настаўніцкую працу пасля вайны быў удастоены звання Героя Сацыялістычнай Працы. Доўгі час плённа працаваў прафесарам у Гомельскім дзяржаўным універсітэце імя Ф. Скарыны.



Шмат вучняў выхавала настаўніца сярэдняй школы № 28 г. Мінска Арыядна Іванаўна Казей, сястра Марата Казея. Гэта жанчына ўвасобіла ў сваім жыцці бязмежную сілу духа нашага народа, яго веру ў жыццё і ў сябе. Застаўшыся ў 17 год пасля ваеннага ліхалецця без ног, якія адмарозіла, будучы ў партызанах, яна змагла не проста выжыць, а і ўпэўнена прайсці свой жыццёвы шлях, стаўшы заслужанай настаўніцай БССР. За сваю працу была ўдастоена звання Героя Сацыялістычнай Працы. Музей, прысвечаны яе дзейнасці, створаны ў мінскай школе, дзе яна працавала.


А. І. Казей

Трэба адзначыць, што развіццё адукацыі ў БССР у 1960—1980-я гг. ішло разам з паслядоўным скарачэннем беларускамоўнага навучання. У сярэдзіне 1980-х гадоў толькі 21,3 % школ працавалі на беларускай мове. На рубяжы 1980—1990-х гг. вызначылася станоўчая тэндэнцыя з укараненнем беларускай мовы ў вучэбна-выхаваўчы працэс.

ГІСТАРЫЧНАЯ ДАВЕДКА

Сістэма народнай адукацыі садзейнічала значнаму росту ведаў насельніцтва БССР. Калі ў 1959 г. у рэспубліцы на 1 тыс. чалавек вышэйшую і сярэднюю (поўную і няпоўную) адукацыю мелі 304 чалавекі, то ў 1985 г. — 662. У 1965 г. у краіне дзейнічала 27 вышэйшых навучальных устаноў, у якіх налічвалася каля 100 тыс. студэнтаў, а ў 1990 г. колькасць навучальных устаноў павялічылася да 33, у іх навучалася 188 тыс. студэнтаў. Па гэтым паказчыку у разліку на душу насельніцтва БССР займала адно з першых месцаў сярод савецкіх рэспублік. У 1960—1980-я гг. вялікая ўвага надавалася развіццю фізічнай культуры і спорту (**1).

**Развіццё беларускай навукі. Дасягненні вучоных Беларусі.** Беларуская навука развівалася як састаўная частка агульнасаюзнай. Вядучая роля ў яе развіцці належала Акадэміі навук БССР, якую ўзначальваў у 1969—1987 гг. М. А. Барысевіч. Па пэўных навуковых кірунках рэспубліка дасягнула вялікіх поспехаў. За распрацоўкі ў галіне матэматыкі, фізікі, электронна-вылічальнай тэхнікі, біялогіі, медыцыны многія вучоныя сталі лаўрэатамі Ленінскай і Дзяржаўных прэмій СССР і БССР, 12 з іх былі ўдастоены звання Героя Сацыялістычнай Працы. Так, ураджэнец Мазыршчыны акадэмік АН БССР М. Я. Мацапура стаў лаўрэатам Ленінскай прэміі за распрацоўку і ўкараненне ў сельскагаспадарчую вытворчасць высокаэфектыўных тэхналогій механізаванага асваення забалочаных зямель і ўборкі бульбы. Званне Героя Сацыялістычнай Працы было прысвоена мінчанцы, члену-карэспандэнту АН БССР, выдатнаму хірургу-афтальмолагу, таленавітаму вучонаму ў галіне вочных хвароб Т. В. Бірыч. Героем Сацыялістычнай Працы стаў Г. А. Ілізараў, які нарадзіўся на тэрыторыі сучаснай Брэстчыны. Акадэмік АН СССР, вядомы ва ўсім Савецкім Саюзе хірург-артапед, ён распрацаваў універсальны апарат фіксацыі для лячэння пераломаў і дэфармацый касцей. У хімічнай навуцы найбольш важнымі былі дасягненні ў галіне палімераў, якія з'явіліся асновай для атрымання пластмасы і сінтэтычных валокнаў. У біялогіі асаблівае значэнне мелі адкрыцці ў галінах генетыкі і геннай інжынерыі,



М. А. Барысевіч

якія знайшлі выкарыстанне ў вывядзенні новых сартоў сельскагаспадарчых раслін і парод жывёл.

Ва ўмовах навукова-тэхнічнай рэвалюцыі вырашальнае значэнне набыло ўкараненне навуковых адкрыццяў. Яно садзейнічала павышэнню прадукцыйнасці і паляпшэнню ўмоў працы, якасці прадукцыі. У БССР хуткімі тэмпамі ішло развіццё радыёэлектронікі і інтэгральнай мікраэлектронікі, вылічальнай тэхнікі. На прадпрыемствах быў наладжаны выпуск станкоў асабліва высокай дакладнасці.

П. Клімук і У. Кавалёнак першымі сярод беларусаў сталі лётчыкамі-касманаўтамі СССР і двойчы Героямі Савецкага Саюза. Яны ўнеслі вялікі ўклад у асваенне космасу. Кожны з іх здзейсніў па тры касмічныя палёты. Нават і на каляземнай арбіце сустрэліся нашы землякі. У 1978 г. П. Клімук у час свайго трэцяга касмічнага палету разам з польскім касманаўтам М. Гермашэўскім сустрэўся на арбітальнай станцыі «Салют-6» з У. Кавалёнкам, які правеў у бязважкасці ў сукупнасці 214 сутак (**2).



П. І. Клімук з маці

Аднак укараненне навуковых распрацовак у вытворчасць сутыкалася з пэўнымі цяжкасцямі. У 1980-я гг. ва ўмовах замаруджвання тэмпаў сацыяльна-эканамічнага развіцця знізілася і эфектыўнасць навукі. У сувязі са скарачэннем расходаў на яе развіццё СССР, у тым ліку БССР, пачаў губляць ранейшыя пазіцыі ў галінах касмічных распрацовак, тэлебачання, камп'ютараў, робататэхнікі (**3).



У. В. Кавалёнак з маці

***Вызначым асноўнае ў змесце параграфа.*** Тое, што сярэдзіна 1950-х — 1980-я гг. былі даволі супярэчлівым перыядам у гісторыі Беларусі, не магло не адбіцца і на развіцці адукацыі і на-

вукі. Заўсёды выйграе тая краіна, якая не шкадуе сродкаў на адукацыю. Узровень развіцця адукацыі ў БССР адпавядаў патрабаванням індустрыяльнага грамадства. Пад канец 1980-х гг. вышэйшыя і сярэднія спецыяльныя ўстановы мелі сучасную на той перыяд матэрыяльна-тэхнічную базу. Істотна пашырылася падрыхтоўка кадраў па спецыяльнасцях, якія вызначалі навукова-тэхнічны прагрэс. Была створана і дзейнічала сістэма прафесійна-тэхнічнага навучання. Пераход да ўсеагульнай 8-гадовай, а затым і сярэдняй адукацыі ў БССР з'явіўся важнай умовай паспяховага вырашэння праблемы падрыхтоўкі кваліфікаваных кадраў. БССР стала краінай суцэльнай пісьменнасці. І ўсё ж фінансаванне адукацыі заставалася недастатковым.

Станаўленне індустрыяльнага грамадства ў БССР ва ўмовах разгортвання НТР патрабавала павелічэння ролі навукі, якая ператварылася ў непасрэдны сродак развіцця вытворчасці. Для Беларусі была характэрна высокая ступень інтэграванасці ў агульную навуковую і тэхнічную прастору СССР. Навуковы патэнцыял краіны паспяхова выкарыстоўваўся ў інтарэсах росту вытворчасці, павышэння сацыяльнага і культурнага ўзроўню жыцця беларускага народа. Аднак укараненне навуковых распрацовак у вытворчасць заставалася складанай справай.

## ДАДАТКОВЫ МАТЭРЫЯЛ



Плакат XXII летніх Алімпійскіх гульняў 1980 г. у Маскве

### Культурна-гістарычнае асяроддзе

****1.** Значны ўклад у развіццё савецкага спорту ўнеслі беларускія спартсмены, якімі і сёння ганарыцца наша краіна. З 1956 г., калі беларусамі была заваявана першая алімпійская ўзнагарода, і да 2006 г. 60 беларускіх спартсменаў заваявалі званне алімпійскіх чэмпіёнаў, выйграўшы 71 залаты медаль. 54 атлеты сталі сярэбранымі прызёрамі алімпіяд, а 67 маюць бронзавыя ўзнагароды. Чатырохразовымі алімпійскімі чэмпіёнамі станавіліся на трох алімпіядах фехтавальшчыкі В. Сідзяк і А. Бялова, імя якой занесена ў Кнігу рэкордаў Гінеса. Тройчы ўздымаўся на вышэйшую прыступку алімпійскага п'едэстала чэмпіён XVIII, XIX, XX Алім-


А. Мядзведзь


В. Корбут

пійскіх гульняў па вольнай барацьбе, неаднаразовы чэмпіён свету і СССР А. Мядзведзь. Ён прызнаны лепшым барцом вольнага стылю XX ст. і ўдастоены спецыяльнай узнагароды ЮНЕСКА «За высакароднасць у спорце». «Цудам з коскамі» называлі балельшчыкі беларускую гімнастку В. Корбут — чэмпіёнку XX і XXI Алімпійскіх гульняў, якая ў 1972 г. была прызнана лепшай спартсменкай свету.

*Падрыхтуйце паведамленні аб выдатных спартсменах — вашых земляках.*

****2.** Вялікі ўклад у распрацоўку ракетных рухавікоў зрабіў ураджэнец Слуцка, канструктар, Герой Сацыялістычнай Працы С. Косберг (1903—1965). Працаваў у канструктарскім бюро С. П. Каралёва. Першы савецкі касманаўт Ю. Гагарын у час старту сказаў вядомую фразу «Паехалі!», а потым дадаў: «Косберг спрацаваў». Менавіта пад яго кіраўніцтвам была створана серыя ракетных рухавікоў, якія ўстанаўліваліся на ступенях ракета-носьбітаў, што выводзілі ў космас пілатуемыя караблі, штучныя спадарожнікі, аўтаматычныя міжпланетныя станцыі. Яго імем названы кратар на адваротным баку Месяца.

*Вызначце, чаму інфармацыя аб удзеле нашых землякоў у асваенні космасу лічылася сакрэтнай.*


С. Косберг


А. Азімаў

****3.** Тэрмін «робататэхніка», як навука аб робатах, увайшоў ва ўжытак дзякуючы сусветна вядомаму амерыканскаму пісьменніку-фантасту, ураджэнцу Магілёўшчыны А. Азімаву (1920—1992). У 1923 г. сям'я пераехала ў ЗША. Пісаць пачаў у 11 гадоў. Стаў аўтарам больш як 500 кніг, створаных у жанры навуковай фантастыкі, некаторыя з якіх былі экранізаваны ў Галівудзе. У англійскую і іншыя мовы таксама ўвайшоў ужыты ім тэрмін «псіхагісторыя» — навука аб паводзінах вялікіх груп людзей.

*Падрыхтуйце паведамленне аб творчасці А. Азімава.*

## ПЫТАННІ І ЗАДАННІ

1. Раскрыйце прычынна-выніковую сувязь паміж разгортваннем НТР і стварэннем сярэдніх агульнаадукацыйных працоўных політэхнічных школ з вытворчым навучаннем.
2. Якую ролю ў падрыхтоўцы кадраў для патрэб індустрыяльнага грамадства адыграла стварэнне сістэмы ПТВ?
3. Дакажыце, што адукацыйны ўзровень насельніцтва БССР у 1980-я гг. быў даволі высокім.
4. Як вы лічыце, ці забяспечвала вышэйшая адукацыя запатрабаванасць у спецыялістах для новых галін прамысловасці ў БССР? Свой адказ аргументуйце.
5. Ахарактарызуйце ўдзел беларусаў у асваенні касмічнай прасторы.
6. Ахарактарызуйце практычную значнасць навуковых распрацовак беларускіх вучоных.
7. Падрыхтуйце паведамленне аб развіцці ў БССР спорту і дасягненнях беларускіх спартменаў. Выкарыстайце мясцовы матэрыял.

# § 15. Беларуская літаратура ў другой палове 1950-х — 1980-я гг.

**Вучэбная задача**

Вызначыць, як умовы развіцця культуры паўплывалі на адлюстраванне ў творчасці беларускіх пісьменнікаў гістарычнага мінулага нашай краіны і тагачаснай рэчаіснасці.

**Успомніце**

Што азначаў прынцып партыйнасці?

**Умовы развіцця беларускай літаратуры.** Частковая дэмакратызацыя грамадска-палітычнага жыцця стала найбольш істотнай з'явай у культурным жыцці БССР у гады «адлігі» (другая палова 1950-х — першая палова 1960-х гг.). Пачаўся працэс дэсталінізацыі грамадства і выкрыцця культу асобы. У БССР былі рэабілітаваны такія вядомыя дзеячы культуры, як У. Галубок, Ц. Гартны, М. Гарэцкі і інш. Аднак рэабілітацыя вялася выбарачна.

Умовы развіцця культуры ў другой палове 1960-х — першай палове 1980-х гг. вызначаліся захаваннем ролі камуністычнай партыі як кіруючай і накіроўваючай сілы грамадства. Крытыкаваліся творы, у якіх вызначаліся новыя рэалістычныя падыходы да асэнсавання і паказу грамадскіх працэсаў. Партыйныя органы імкнуліся сарыентаваць дзеячаў культуры на праслаўленне вялікіх здзяйсненняў Савецкай краіны і вырашэнне задачы пабудовы камунізму. У адпаведнасці з метадам сацыялістычнага рэалізму савецкая рэчаіснасць разглядалася як найвышэйшае дасягненне чалавецтва. У цэнтры ўвагі літаратараў знаходзілася новая гістарычная супольнасць людзей — савецкі народ. Гэтыя абставіны абумовілі недастатковую ўвагу да адлюстравання ў літаратуры нацыянальна-культурных асаблівасцей беларускага народа.

Перабудова другой паловы 1980-х гг. аказала станоўчы ўплыў на ўсе бакі культурнага жыцця краіны. Прынцып галоснасці, страта КПБ манаполіі на ўладу садзейнічалі паступоваму змякчэнню адміністрацыйна-камандных метадаў кіраўніцтва культурай. У галіне літаратуры і мастацтва надышоў час доўгачаканай творчай свабоды. Дзеячы беларускай літаратуры атрымалі магчымасць

праяўляць свой талент. Сваёй першаснай задачай яны лічылі выхаванне гуманістычных адносін да чалавека, сцвярджэнне велічы чалавека-працаўніка. Пафас чалавечнасці напаўняў амаль усе творы беларускіх пісьменнікаў. Паглыбленне ва ўнутраны, духоўны свет чалавека стала найважнейшым дасягненнем беларускай літаратуры.

**Тэма Вялікай Айчыннай вайны ў творах беларускай літаратуры.** Для беларускіх пісьменнікаў тэма Вялікай Айчыннай вайны стала вызначальнай на дзесяцігоддзі. У мастацкіх творах гэта тэма разглядалася як выпрабаванне чалавека ў цяжкіх ваенных умовах, яго годнасці, адданасці гуманістычным ідэалам. Гэта найбольш ярка ўвасобілася ў раманах І. Чыгрынава «Плач перапёлкі», «Апраўданне крыві», І. Навуменкі «Сасна пры дарозе», «Вецер у соснах», «Сорак трэці». Сярод твораў беларускай літаратуры, прысвечаных ваеннай тэме, — дылогія А. Адамовіча «Партызаны» і «Хатынская аповесць», дакументальная кніга «Я з вогненнай вёскі...» (разам з Я. Брылём і У. Калеснікам). Значнае месца займае Вялікая Айчынная вайна ў творчасці В. Быкава.

ГІСТАРЫЧНЫ ПАРТРЭТ

**Васіль Уладзіміравіч Быкаў (1924—2003)** — беларускі пісьменнік, грамадскі дзеяч. Народны пісьменнік Беларусі, Герой Сацыялістычнай Працы, лаўрэат Ленінскай прэміі. Вучыўся ў Віцебскім мастацкім вучылішчы. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны, быў двойчы паранены. Родным нават прыйшла пахавальная на яго. Сваю творчасць прысвяціў пераважна тэме вайны. Кнігі Быкава напоўнены верай у вялікія духоўныя магчымасці чалавека, яны служаць выхаванню патрыёта сваёй Радзімы. Пісьменнік асуджае хлусню, здрадніцтва. У яго творах паказаны звычайны чалавек ва ўмовах вайны, для якога штодзённы гераізм стаў нормай паводзін, перадумовай перамогі над ворагам. Кнігі пісьменніка надрукаваны на 35 мовах свету, а іх агульны тыраж склаў звыш 3 млн экзэмпляраў.



У першай палове 1960-х гг. выйшла кніга В. Быкава «Жураўліны крык», аповесці «Здрада», «Трэцяя ракета». У канцы 1960-х гг. В. Быкаў у аповесцях «Круг-

лянскі мост», «Сотнікаў», «Абеліск» звярнуўся да тэмы партызанскай і падпольнай барацьбы беларускага народа. У 1970—1980-я гг. з'явіліся творы «Дажыць да світання», «Пайсці і не вярнуцца», «Знак бяды».

Новае асэнсаванне ваенных падзей, аналіз псіхалогіі простага салдата, набліжэнне да праўды жыцця характэрныя і для творчасці вядомага беларускага пісьменніка Я. Брыля. Ён адным з першых у рамане «Птушкі і гнёзды» ўвёў у беларускую ваенную прозу тэму духоўных каштоўнасцей і праблему выбару паводзін чалавека на вайне, у цяжкіх умовах.

**Гістарычная тэматыка ў беларускай літаратуры.** Дасягненнем у творчасці беларускіх пісьменнікаў стала тое, што яны імкнуліся адлюстроўваць падзеі тагачаснага жыцця ва ўзаемасувязі з гістарычным мінулым і перспектывамі будучага развіцця рэспублікі.

У шэрагу твораў знайшлі мастацкае ўвасабленне шматлікія гістарычныя падзеі. У іх ліку раманы І. Мележа «Людзі на балоце», «Подых навальніцы», «Завеі, снежань», якія склалі трылогію «Палеская хроніка». У гэтых творах пісьменнік раскрыў лёс беларускага сялянства ў 1920—1930-я гг. на Палессі. Трылогія з'яўляецца гімнам беларускаму народу і роздумам над яго гісторыяй.


І. Мележ

Падзеяй у беларускай літаратуры гэтага часу стаў выхад цэлага шэрагу твораў У. Караткевіча.

У. Караткевіч планаваў напісаць трылогію, прысвечаную падзеям 1863—1864 гг. Але паспеў стварыць толькі першы раман «Каласы пад сярпом тваім». Тэме паўстання 1863—1864 гг. прысвечана героіка-рамантычная драма «Кастусь Каліноўскі». Аповесць «Дзікае паляванне караля Стаха», створаная ў жанры гістарычнага дэтэктыва, апісвае падзеі 1880-х гг. у адным з куткоў Беларусі.

Гістарычная тэматыка адлюстравана ў рамане У. Караткевіча «Хрыстос прызямліўся ў Гародні». Асновай для напісання паслужыў запіс хронікі Вялікага княства Літоўскага аб з'яўленні ў XVI ст. чалавека, які прысвоіў сабе імя Хрыста. Гэты раман — філасофскі роздум аб прызначэнні чалавека на Зямлі. У дэтэк-

ГІСТАРЫЧНЫ ПАРТРЭТ



**Уладзімір Сямёнавіч Караткевіч (1930—1984)** — беларускі пісьменнік, перакладчык, кінасцэнарыст. Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя І. Мележа, Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Коласа. Працаваў настаўнікам. Друкавацца пачаў з 1955 г. Свае творы прысвяціў айчыннай гісторыі, раскрыў багаты духоўны свет герояў і звязаў іх асабісты лёс з лёсам Бацькаўшчыны. Для пісьменніка характэрна рамантычнае, фальклорна-легендарнае асэнсаванне мінуўшчыны, заглыбленне ў беларускую міфалогію, выкарыстанне і мастацкая інтэрпрэтацыя біблейскіх сюжэтаў, антычных вобразаў. В. Быкаў ахарактарызаваў У. Караткевіча як высакароднага рыцара духу.

тыўным жанры створаны раман «Чорны замак Альшанскі», за які пісьменнік быў удастоены Дзяржаўнай прэміі БССР. Раман адлюстроўвае непарыўную сувязь паміж гістарычным мінулым і сучаснасцю. Пачуццём любові да Радзімы і павагі да яе гісторыі напоўнены нарыс «Зямля пад белымі крыламі». У. Караткевіч з'яўляецца аўтарам п'ес «Званы Віцебска», «Маці ўрагану» і інш.

Асабліва плённа працаваў у галіне літаратуры І. Шамякін.

ГІСТАРЫЧНЫ ПАРТРЭТ

**Іван Пятровіч Шамякін (1921—2004)** — беларускі празаік, драматург, публіцыст, грамадскі дзеяч, народны пісьменнік Беларусі, акадэмік Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, Герой Сацыялістычнай Працы. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. Творы І. Шамякіна перакладзены на многія замежныя мовы. Яго імя прысвоена Мазырскаму дзяржаўнаму педагагічнаму ўніверсітэту.

Літаратурную дзейнасць пачаў у 1941 г. з нарысаў і вершаў. У рамане «Крыніцы» сцвярджаюцца актыўныя адносіны чалавека да свету, паэтызуецца грамадзянская непрымірымасць да праяў кансерватызму. У аповесці «Трывожнае шчасце» лёс герояў Пятра Шапятовіча і Сашы Траянавай асацыіруецца з лёсам усяго пакалення, якое прайшло праз цяжкія выпрабаванні вайны, змагаючыся з ворагам на франтах,

у партызанскіх атрадах, і якое ў цяжкіх пасляваенных умовах актыўна ўдзельнічала ў аднаўленні народнай гаспадаркі.

Раман І. Шамякіна «Сэрца на далоні» ставіць важныя праблемы грамадскага жыцця: выхаванне моладзі, станаўленне чалавека як асобы. Раман «Снежныя зімы» вызначаецца глыбінёй мастацкага асэнсавання складаных грамадскіх працэсаў сучаснасці. Праблемы Чарнобыля раскрыты ў рамане «Злая зорка». Шэраг твораў пісьменніка прысвечаны гісторыка-рэвалюцыйным падзеям: аповесць «Бранепоезд “Таварыш Ленін”», раман «Петраград—Брэст».



**Беларуская паэзія.** Духоўнае абнаўленне адбылося ў беларускай паэзіі. Адлюстраванне агульначалавечых каштоўнасцей праз асабістыя перажыванні герояў стала адной з яе галоўных тэм. Асабліва ярка яно праявілася ў творчасці народнага паэта Беларусі П. Броўкі — яго зборніках «Пахне чабор», «Далёка ад дому», «А дні ідуць...» і інш. Ён быў удастоены Дзяржаўнай прэміі БССР за паэму «Заўсёды з Леніным», а таксама за ўдзел у выданні Беларускай Савецкай Энцыклапедыі. Талент народнага паэта Беларусі М. Танка з найбольшай сілай выявіўся ў зборніках вершаў «Нарачанскія сосны», «Прайсці праз вернасць» і інш. Адной з самых яскравых паэтычных зорак Беларусі XX ст. стаў П. Панчанка. Яго зборнікі «Пры святле маланак», «Маўклівая малітва» і інш. прысвечаны змаганню за годнасць чалавечай асобы, за нашу нацыянальную самасвядомасць, мову і культуру.

***Вызначым асноўнае ў змесце параграфа.*** Беларускія пісьменнікі і паэты стварылі яскравыя творы, напоўненыя пафасам гераізму і стваральнай дзейнасці, любові да Радзімы. Дзеячы беларускай літаратуры, распрацоўваючы тэму Вялікай Айчыннай вайны ва ўмовах адноснай дэмакратызацыі тагачаснага грамадска-палітычнага жыцця, значна пашырылі абмежаваныя партыйнымі прадвызначэннямі рамкі метаду сацыялістычнага рэалізму і нават выходзілі за яго межы. Яны ўнеслі вялікі ўклад у адлюстраванне суровай праўды вайны, маральных прынцыпаў, якіх прытрым-

ліваліся на фронце і ў тыле. Пісьменнікаў цікавіла сувязь сучаснасці з мінулым і будучыняй. Гісторыя разглядалася імі як аснова для выхавання павагі да чалавека і асэнсавання яго жыццёвага лёсу, для фарміравання ў чытачоў любові да Радзімы. У творах, прысвечаных жыццю беларускай вёскі і яе праблемам, каштоўнасці сацыялістычнага грамадства, якія адлюстроўваліся ў асабістых перакананнях герояў, усё больш саступалі месца агульначалавечым.

**ПЫТАННІ І ЗАДАННІ**

1. Якім чынам змены ва ўмовах грамадска-палітычнага жыцця паўплывалі на развіццё беларускай літаратуры.
2. Ахарактарызуйце творчасць І. Мележа і І. Шамякіна. Пры падрыхтоўцы да адказу выкарыстайце матэрыял § 5, а таксама свае веды па беларускай літаратуры.
3. У чым заключаюцца асаблівасці асвятлення падзей Вялікай Айчыннай вайны ў творчасці В. Быкава.
4. Вызначце асаблівасці адлюстравання гістарычных падзей у творах У. Караткевіча.
5. У сваім вершы «Васілю Быкаву» У. Караткевіч зазначыў: «Калі сонца выб'ецца з туману, толькі іх і ўспомніць хор народаў, воінаў сваіх, святых і зраненых, рыцараў сумлення і свабоды». Растлумачце такую пазіцыю.

## § 16. Тэатральнае, музычнае і выяўленчае мастацтва ў другой палове 1950-х — 1980-я гг.

**Вучэбная задача**

Вызначыць, як адлюстравана ў творах беларускага мастацтва памяць аб гістарычных асобах і падзеях.

**Успомніце**

Пералічыце прозвішчы найбольш вядомых у першае пасляваеннае дзесяцігоддзе артыстаў тэатра, кампазітараў, мастакоў.

**Тэатральнае мастацтва.** Дэмакратызацыя грамадскага жыцця, якая адбылася ў гады «адлігі», спрыяла пераарыентацыі ўвагі дзеячаў культуры на асвятленне маральных праблем і ўнутранага свету чалавека. Набыў вядомасць як пачынальнік новага этапу

ў развіцці беларускай сатырычнай камедыі А. Макаёнак. Вялікую цікавасць у гледачоў выклікалі яго камедыі «Святая прастата», «Лявоніха на арбіце». Ён стаў лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі БССР за п'есу «Трыбунал» і камедыю «Таблетку пад язык».

У 1970—1980-я гг. належнае месца ў рэпертуары беларускіх тэатраў заняла нацыянальная тэматыка. Як і раней, вядучым быў Беларускі дзяржаўны акадэмічны тэатр імя Я. Купалы. Найбольш значнымі работамі купалаўцаў сталі спектаклі па п'есах І. Чыгрынава «Плач перапёлкі», А. Дударава «Радавыя». У гэтых творах аўтары паказалі не толькі гераізм людзей у гады Вялікай Айчыннай вайны, але і тое, якой цаной была заваявана перамога. У Беларускім дзяржаўным акадэмічным тэатры імя Я. Коласа ў Віцебску былі пастаўлены спектаклі «Снежныя зімы» паводле рамана І. Шамякіна, «Званы Віцебска» паводле п'есы У. Караткевіча. У Дзяржаўным рускім драматычным тэатры БССР імя М. Горкага ажыццёўлены пастаноўкі «Вяртанне ў Хатынь» паводле аповесці А. Адамовіча, «Пайсці і не вярнуцца» паводле аповесці В. Быкава і інш.

**Музычнае мастацтва.** У беларускай музычнай культуры адбываўся пераход да больш глыбокага адлюстравання духоўнага жыцця грамадства, яго патрабаванняў і інтарэсаў. У 1955 г. быў зацверджаны Дзяржаўны гімн БССР. Кампазітар А. Багатыроў на аснове народнай песеннасці стварыў арыгінальную шматчасткавую кампазіцыю «Беларускія песні», за якую атрымаў Дзяржаўную прэмію БССР.

А. Туранкоў напісаў оперу «Яснае світанне», прысвечаную тэме ўз'яднання Заходняй Беларусі з БССР. У Дзяржаўным тэатры музычнай камедыі БССР, які адкрыўся ў 1971 г. у Мінску, была пастаўлена першая беларуская аперэта «Паўлінка» Ю. Семянякі. Яму належыць опера «Зорка Венера», прысвечаная жыццю і творчасці М. Багдановіча. Беларускі кампазітар Д. Смольскі стварыў оперы «Сівая легенда» і «Францыск Скарына».


У. Мулявін

Станаўленню песеннай творчасці ў рэспубліцы садзейнічаў вакальна-інструментальны ансамбль «Песняры» пад кіраўніцтвам

У. Мулявіна. Шырокай папулярнасцю карысталіся апрацоўкі беларускімі кампазітарамі народных песень, якія абуджалі пачуццё гонару за Бацькаўшчыну. Не меншую вядомасць мае ансамбль «Сябры». Яго мастацкім кіраўніком і вядучым салістам стаў А. Ярмоленка, выканаўца многіх знакамітых песень беларускіх кампазітараў. Сярод іх «Вы шуміце, бярозы» Э. Ханка, «Алеся» І. Лучанка. За больш чым 35-гадовую кампазітарскую дзейнасць І. Лучанком быў створаны шэраг сачыненняў, сярод якіх музычныя кантата «Курган» і паэма-легенда «Гусляр» на вершы Я. Купалы і інш. Шырокаму колу беларускіх слухачоў вядомы імёны спевакоў В. Вуячыча, Я. Еўдакімава, Л. Барткевіча, Т. Раеўскай і інш.

**Жывапіс.** Развіццё выяўленчага мастацтва было звязана са станаўленнем прафесіяналізму мастакоў. Яны паступова пераходзілі да філасофскага асэнсавання гістарычных падзей, адлюстраваных у іх творчасці. Тэма партызанскай барацьбы супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў стала вызначальнай у творчасці М. Савіцкага.

ГІСТАРЫЧНЫ ПАРТРЭТ



**Міхаіл Андрэевіч Савіцкі (1922 — 2010)** — ураджэнец Віцебшчыны, беларускі жывапісец, акадэмік, народны мастак СССР і Беларусі, першы кавалер ордэна Францыска Скарыны. М. А. Савіцкі — удзельнік Вялікай Айчыннай вайны, удзельнік абароны Севастопаля, вязень фашысцкіх канцлагераў, дзе цудам застаўся ў жывых. Жахі фашысцкай няволі апісаны ў яго славутым цыкле карцін «Лічбы на сэрцы», які адкрываецца аўтапартрэтам «Вязень 32815». Хрысціянскія матывы ў творчасці мастака знайшлі ўвасабленне ў карціне «Мадонна Біркенаў», у якой адлюстраваны вобраз маці з дзіцем, якія лунаюць над комінам крэматорыя ў канцлагеры Асвенцым. У мастацкім цыкле «Беларусь партызанская» ў карцінах «Партызанская мадонна» і «Партызанская мадонна (Мінская)» упершыню ў савецкім мастацтве створаны ясны і прывабны вобраз маці-партызанкі, поўнай надзеі, спачування, цярплівасці. Тэме працы прысвечаны карціны «Ураджай», «Сказ пра хлеб» і інш. У 1990-я гг. у творчасці мастака знайшла

адлюстраванне чарнобыльская трагедыя. Ім створаны цыкл карцін «Чорная быль», прысвечаных гэтай тэме, у тым ліку «Чарнобыльская мадонна». Цэнтральнай карцінай у цыкле «XX век» стала «Забойства праўды». Наконт яе сам мастак сказаў так: «Я пражыў складанае жыццё і вырашыў, што магу сумленна сказаць веку, які ён у маім разуменні... Мой кодэкс гонару — мае творы, у якіх я як на далоні». За больш чым 65-гадовую творчую дзейнасць мастак стварыў калекцыю патрыятычных твораў, якія сталі гонарам беларускай культуры. За свае творы мастак удастоены Дзяржаўных прэмій СССР і БССР. У 2006 г. яму першым з айчынных дзеячаў культуры прысвоена званне «Герой Беларусі». У Мінску ў 2012 г. расчыніла свае дзверы для гледачоў мастацкая галерэя М. Савіцкага.



Партызанская мадонна. Мастак М. Савіцкі. *1967 г.*

Сваімі творамі мастакі папоўнілі культурны фонд Беларусі. Карціны Л. Шчамялёва «Навала. 22 чэрвеня 1941 года», «Першы дзень міру», «Край мой Міншчына» — гэта ўвасабленне памяці пра гераічнае мінулае краіны і адлюстраванне сучаснасці. Надзвычайнай разнастайнасцю вызначаюцца палотны мастака М. Данцыга. Ён аўтар шэрагу карцін, на якіх паказана будаўніцтва Салігорска. Многія з яго палотнаў прысвечаны Мінску.

З'явілася новае пакаленне мастакоў, якія адлюстроўвалі культурна-гістарычную спадчыну Беларусі. У. Басалыга стварыў серыю графічных твораў «Помнікі дойлідства Беларусі». З імем Ф. Янушкевіча звязана паглыбленая распрацоўка гістарычнай тэматыкі. Ён — стваральнік карцін, прысвечаных К. Каліноўскаму. Мастак А. Марачкін — аўтар партрэтаў Рагнеды, Вітаўта, М. Гусоўскага, Ф. Скарыны, Я. Драздовіча і інш.

Своеасаблівае месца заняў у беларускім жывапісе А. Ісачоў, які памёр ва ўзросце 32 гадоў праз два дні пасля заканчэння яго першай у жыцці персанальнай выставы ў роднай Рэчыцы ў 1987 г. Творы мастака прысвечаны пераважна біблейскім сюжэтам і выкананы ў тэхніцы вельмі працаёмкага і карпатлівага гладкага

пісьма. На жаль, прызнанне да мастака прыйшло ўжо пасля таго, як ён пайшоў з жыцця, а большасць яго карцін знаходзіцца па-за межамі Беларусі.

**Кіно.** Шырокай папулярнасцю ў гледачоў карысталіся фільмы кінастудыі «Беларусьфільм». У сярэдзіне 1950—1960-х гг. на экранах з'явіліся вядомыя дзіцячыя гісторыка-прыгодніцкія кінастужкі рэжысёра Л. Голуба «Міколка-паравоз», «Дзяўчынка шукае бацьку», «Паланэз Агінскага» і інш. У кінафільме «Гадзіннік спыніўся апоўначы» рэжысёра М. Фігуроўскага расказваецца пра аперацыю падпольшчыкаў па ліквідацыі фашысцкага гаўляйтэра Кубэ. Дакументальныя стужкі ўяўлялі сабой фільмы-нарысы пра герояў Вялікай Айчыннай вайны: «Дачка партыі» — прысвечаны гераічнай дзейнасці В. З. Харужай, «Бацька Мінай» — М. Ф. Шмырова, «Марат Казей» — Марата Казея і інш. У 1970—1980-я гг. студыя «Беларусьфільм» кожны год выпускала на экраны да 70 мастацкіх, дакументальных і навукова-папулярных стужак. Сярод іх гісторыка-рэвалюцыйныя: «Крушэнне імперыі» (рэжысёр У. Корш-Саблін) і «Масква—Генуя» (рэжысёр А. Спешнеў пры ўдзеле У. Корш-Сабліна і П. Арманда); вельмі папулярны фільм «Белыя Росы» (рэжысёр І. Дабралюбаў); шматсерыйны тэлефільм «Дзяржаўная граніца» (рэжысёры В. Нікіфараў і Б. Сцяпанаў).

Кінамастаком з яркім нацыянальным аблічцам стаў В. Тураў.

ГІСТАРЫЧНЫ ПАРТРЭТ



Віктар Тураў. Мастак М. Савіцкі. *1988 г.*

**Віктар Цімафеевіч Тураў (1936 — 1996)** — ураджэнец Магілёва, беларускі кінарэжысер, народны артыст БССР і СССР. Асноўная тэматыка яго карцін звязана з адлюстраваннем дзяцінства, абпаленага вайной, сувязі ваеннага і пасляваеннага пакаленняў, барацьбы з фашызмам, сучаснасці. У кожным з 25 тураўскіх фільмаў, нават прысвечаных вайне, сцвярджаецца толькі прыгожае і добрае, як, напрыклад, у дылогіі «Вайна пад стрэхамі» і «Сыны ідуць у бой» па аднайменных раманах А. Адамовіча. Мастацкая кінастужка «Праз могілкі», знятая рэжысёрам у 1964 г., па рашэнні ЮНЕСКА праз 30 гадоў (у 1994 г.) увайшла ў лік

100 лепшых фільмаў свету пра вайну. Паводле трылогіі І. Мележа «Палеская хроніка» стварыў кінаэпапею з дзвюх стужак — «Людзі на балоце» і «Подых навальніцы». У гэтых творах рэжысёр прызнаецца ў любові да бацькоўскага краю і яго людзей, расказвае аб чысціні іх пачуццяў і думак. Яго карціна «Я родам з дзяцінства», створаная яшчэ ў 1966 г., была названа кінакрытыкамі ў 1995 г. лепшым фільмам за ўсю гісторыю беларускага кінематографа.

Па творах беларускага пісьменніка і кінематаграфіста А. Адамовіча «Хатынская аповесць» і «Карнікі» была знята мастацкая кінастужка «Ідзі і глядзі» (рэжысер Э. Клімаў). У 1985 г. на Маскоўскім кінафестывалі яна была адзначана прызам Міжнароднай федэрацыі кінапрэсы, а ў 1986 г. прызнана часопісам «Савецкі экран» лепшым фільмам года. Дадзеная карціна да гэтага часу займае першыя радкі ў сусветных рэйтынгах лепшых фільмаў аб Другой сусветнай вайне.

Гістарычныя падзеі сталі адной з тэм у творчасці прадстаўніка старэйшага пакалення беларускіх кінарэжысёраў М. Пташука.

ГІСТАРЫЧНЫ ПАРТРЭТ

**Міхаіл Мікалаевіч Пташук (1943—2002)** — ураджэнец Брэстчыны, народны артыст Беларусі, з імем якога звязана цэлая эпоха ў беларускім кіно. Яго дыпломная работа — фільм «Пра Віцю, пра Машу і марскую пяхоту», у якім яшчэ будучы студэнтам здымаўся славуты кінаакцер А. Абдулаў, — заваявала шэраг прэстыжных міжнародных прэмій. Ім знята звыш 30 фільмаў. Сярод іх кінастужкі паводле твораў І. Шамякіна — «Вазьму твой боль» (1980 г.), У. Караткевіча — «Чорны замак Альшанскі» (1983 г.). Нягледзячы на патрабаванне з боку партыйных структур, рэжысёр не выразаў сцэну раскулачвання з фільма «Знак бяды» (1986 г.) па творы В. Быкава. Толькі дзякуючы М. С. Гарбачову, якому фільм спадабаўся, ён выйшаў на шырокі экран. З гэтым фільмам М. Пташук сабраў мноства прызоў.



**Скульптура.** Плённа працавалі беларускія скульптары. Тэма Вялікай Айчыннай вайны стала галоўнай у творчасці А. Анікейчыка. Подзвігу беларускіх партызан прысвечаны створаны ім мемарыяльны комплекс «Прарыў» ва Ушацкім раёне. Уражвае яго скульптурны комплекс «Праклён фашызму» на месцы спаленай вёскі Шунеўка Докшыцкага раёна. А. Анікейчык — аўтар вялікай колькасці скульптурных партрэтаў, у тым ліку П. М. Машэрава. Разам з Л. Гумілеўскім і А. Заспіцкім ён стварыў помнік Я. Купалу ў Мінску.

Сусветна вядомым стаў адкрыты ў 1969 г. мемарыяльны архітэктурна-скульптурны ансамбль на ўшанаванне памяці ахвяр фашызму «Хатынь», створаны сумесна з групай архітэктараў скульптарам С. Селіханавым. Мастацкай выразнасцю вызначаюцца мемарыяльныя комплексы «Брэсцкая крэпасць-герой», «Курган Славы Савецкай Арміі — вызваліцельніцы Беларусі» пад Мінскам, мемарыяльны комплекс савецка-польскай баявой садружнасці ў вёсцы Леніна Горацкага раёна.

Падзеяй у мастацкім жыцці Беларусі стала адкрыццё ў 1975 г. у Жодзіне Манумента ў гонар маці-патрыёткі Настассі Фамінічны Купрыянавай і яе пяці сыноў, якія ўдзельнічалі ў барацьбе з ворагам у гады Вялікай Айчыннай вайны. Аўтары манумента — скульптары А. Заспіцкі, І. Міско, М. Рыжанкоў.

***Вызначым асноўнае ў змесце параграфа.*** У цэнтры ўвагі дзеячаў беларускага мастацтва доўгі час знаходзілася новая гістарычная супольнасць людзей — савецкі народ. Дэмакратызацыя грамадска-палітычнага жыцця ў гады «адлігі» і «перабудовы» стварыла спрыяльныя ўмовы для адлюстравання творчай інтэлігенцыяй маральных праблем і ўнутранага свету чалавека-воіна і чалавека-працаўніка. Гераізм беларускага народа ў гады Вялікай Айчыннай вайны і цана перамогі над ворагам сталі сюжэтамі твораў мастацтва. Жыццёвыя лёсы нашых далёкіх продкаў і патрыятызм беларускага народа ў гады ваеннага ліхалецця сталі асновай гістарычнай тэматыкі. Пры гэтым асаблівая ўвага надавалася адлюстраванню нацыянальна-культурных асаблівасцей і захаванню культурна-гістарычнай спадчыны беларускага народа.

## ПЫТАННІ І ЗАДАННІ

1. Запоўніце табліцу «Творы беларускага мастацтва, прысвечаныя падзеям Вялікай Айчыннай вайны».

| Тэатр | Жывапіс | Кіно | Скульптура |
|---|---|---|---|
| | | | |

2. Якім чынам творы беларускага мастацтва спрыяюць адраджэнню культурна-гістарычнай спадчыны беларускага народа?
3. Вызначце матывы творчасці М. Савіцкага.
4. Ахарактарызуйце творчасць В. Турава.
5. Як на матывы творчасці М. Пташука паўплывалі гістарычныя падзеі?
6. Падрыхтуйце паведамленні пра прадстаўнікоў песеннай творчасці ў БССР у 1970—1980-я гг.
7. Распрацуйце сцэнарый тэатральнай пастаноўкі на тэму «Ад прадзедаў спакон вякоў нам засталася спадчына».
8. Падрыхтуйце паведамленні пра вашых землякоў — дзеячаў культуры Беларусі.

## Наш край

Тэмы праектнай дзейнасці (па калектыўным выбары вучняў)

1. Пачніце стварэнне «Сямейнага альбома», у якім будзе адлюстравана гісторыя вашай сям'і, прадстаўленая ў фотаздымках, зробленых у перыяд другой паловы 1950-х — 1980-я гг., напрыклад, вучоба ў школе ці інстытуце, удзел у будаўнічых студэнцкіх атрадах ці новабудоўлях, служба ў Савецкай арміі, заключэнне шлюбу і выхаванне дзяцей, працоўная дзейнасць, святкаванне дзяржаўных і сямейных святаў, адпачынак і інш.
2. Правядзіце даследаванне па тэме «Лёс чалавека», якое раскрывае абставіны жыцця аднаго з вашых землякоў, звязаныя з уплывам падзей сацыяльна-эканамічнага ці грамадска-палітычнага жыцця БССР.
3. Пачніце збор калекцыі прадметаў, у тым ліку віртуальнай, са складаннем адпаведных каментарыяў да іх (бытавых рэчаў, цацак, адзення, прадметаў хатняга ўжытку, кніг, грампласцінак, значкоў і інш.), якія з'яўляюцца своеасаблівымі атрыбутамі свайго часу і адлюстроўваюць дасягненні ў развіцці гаспадаркі і культуры вашага краю ў другой палове 1950-х — 1980-я гг., а таксама ўзровень жыцця мясцовых жыхароў.

4. Падрыхтуйце артыкул ці эсэ ў газету або часопіс пра адну з гістарычных падзей у сацыяльна-эканамічным ці грамадска-палітычным жыцці БССР, якая адбылася ў вашай мясцовасці.
5. Падрыхтуйце пытанні для ўмоўнага інтэрв'ю з адным з вашых славутых землякоў, які вызначыўся ў другой палове 1950-х — 1980-я гг.
6. Правядзіце апытанне, прысвечанае вызначэнню сярод вашых землякоў «імя Беларусі», г. зн. асвятленню вынікаў дзейнасці пэўнай асобы ў перыяд другой паловы 1950-х — 1980-я гг. з адпаведнай аргументацыяй свайго выбару.
7. Складзіце план-праспект экскурсіі (падарожжа) па сваім родным краі (населеным пункце) з апісаннем маршруту і славутасцей, якія сведчаць аб дасягненнях вашых землякоў у перыяд другой паловы 1950-х — 1980-я гг.

## § 17. Вынікі развіцця БССР на шляху ўсталявання індустрыяльнага грамадства *Урок абагульнення*

***Знайдзіце і растлумачце ключавыя словы:***

- у вытрымцы з даклада П. М. Машэрава на нечарговай дзявятай сесіі Вярхоўнага Савета БССР 13 красавіка 1978 г.:

«...працаўнікі гарадоў і вёсак праяўлялі высокую актыўнасць, сапраўдную зацікаўленасць у тым, каб Асноўны Закон БССР абвяшчаў і замацоўваў усе найбольш істотныя і важныя бакі нашых дасягненняў і заваёў у братняй сям'і савецкіх народаў, забяспечваў новыя магчымасці для эканамічнага і сацыяльнага прагрэсу рэспублікі...

Вялікае задавальненне ў рабочых, калгаснікаў, інтэлігенцыі рэспублікі выклікалі артыкулы праекта Канстытуцыі, дзе сфармуляваны асноўныя правы і свабоды грамадзян. У выступленнях падкрэслівалася вялікая важнасць канстытуцыйнага замацавання правоў на ахову здароўя, на жыллё, на карыстанне дасягненнямі культуры, свабоды навуковай, тэхнічнай і мастацкай творчасці...»;

- у вытрымцы з Указа Прэзідэнта СССР М. С. Гарбачова ад 13 жніўня 1990 г.:

«Цяжкай спадчынай мінулага з'явіліся масавыя рэпрэсіі, самавольства і беззаконнасць, якія чыніліся сталінскім кіраўніцтвам...

Выказваючы прынцыповае асуджэнне масавых рэпрэсій, лічачы іх несумяшчальнымі з нормамі цывілізацыі... пастанаўляю:

1. Прызнаць незаконнымі, якія пярэчаць асноўным грамадзянскім і сацыяльна-эканамічным правам чалавека, рэпрэсіі, што праводзіліся ў адносінах да сялян у перыяд калектывізацыі, а таксама ў адносінах усіх іншых грамадзян па палітычных, сацыяльных, нацыянальных, рэлігійных і іншых матывах у 20—50-я гады, і цалкам аднавіць правы гэтых грамадзян».

***Параўнайце:***

- грамадска-палітычнае жыццё ў БССР у перыяд «адлігі» і ў другой палове 1960-х — першай палове 1980-х гг.;
- вынікі і сутнасць экстэнсіўнага і інтэнсіўнага шляхоў развіцця эканомікі БССР у другой палове 1960-х—1980-я гг.;
- умовы развіцця беларускай літаратуры і мастацтва ў другой палове 1960-х — першай палове 1980-х гг. і ў другой палове 1980-х гг.

***Прывядзіце гістарычныя факты, якія адлюстроўваюць:***

- працэс дэмакратызацыі грамадска-палітычнага жыцця ў БССР у гады «адлігі»;
- індустрыяльнае развіццё БССР у другой палове 1950-х — 1980-я гг.;
- спробы ажыццяўлення ў БССР курсу на паскарэнне сацыяльна-эканамічнага развіцця ў другой палове 1980-х гг.;
- павышэнне адукацыйнага ўзроўню насельніцтва БССР у другой палове 1950-х — 1980-я гг.;
- асэнсаванне падзей Вялікай Айчыннай вайны ў творах беларускіх пісьменнікаў і мастакоў (выкарыстайце выяву карціны М. Данцыга «Спадчына»).

***Раскрыйце прычынна-выніковыя сувязі паміж гістарычнымі падзеямі, з'явамі, працэсамі:***

- XX з'ездам КПСС і дэсталінізацыяй грамадска-палітычнага жыцця ў БССР у сярэдзіне 1950-х — сярэдзіне 1960-х гг.;



Спадчына. Мастак М. Данцыг. *1973 г.*

- правядзеннем меліярацыі і хімізацыі сельскай гаспадаркі ў БССР і ўскладненнем экалагічных праблем;
- пераважным развіццём ВПК і цяжкай прамысловасці і існаваннем дэфіцыту тавараў народнага спажывання;
- індустрыяльным развіццём БССР і арганізацыяй сістэмы прафесійна-тэхнічнага навучання;
- кіруючай роллю КПБ і рэалізацыяй прынцыпу сацыялістычнага рэалізму ў беларускай літаратуры і мастацтве.

***Дакажыце, што:***

- палітыка перабудовы садзейнічала дэмакратызацыі грамадска-палітычнага жыцця ў БССР у другой палове 1980-х гг.;
- экстэнсіўны шлях развіцця пераважаў у эканамічным развіцці БССР у другой палове 1960-х — першай палове 1980-х гг.;
- урбанізацыя была адной з прыкмет індустрыяльнага развіцця БССР у 1960—1980-я гг.;
- у развіцці сельскай гаспадаркі БССР у другой палове 1950-х — першай палове 1960-х гг. выконваліся ўказанні кіруючых органаў па масавым вырошчванні пэўных відаў сельскагаспадарчых культур, нярэдка без уліку прыродна-кліматычных умоў;
- матэрыяльны дабрабыт насельніцтва БССР у 1960—1980-я гг. палепшыўся ў параўнанні з папярэднім перыядам развіцця;
- прадстаўнікі культуры садзейнічалі захаванню і адраджэнню культурна-гістарычнай спадчыны Беларусі.

***Рашыце гістарычныя задачы:***

1. Ці існавала альтэрнатыва працэсу дэсталінізацыі беларускага грамадства? Сваё меркаванне абгрунтуйце.

2. Насельніцтва БССР у другой палове 1960-х — першай палове 1980-х гг. прыхільна ставілася да палітыкі КПБ, актыўна і свядома ўдзельнічала ў грамадска-палітычным жыцці краіны. Якія фактары забяспечвалі станоўчы імідж камуністычнай партыі сярод насельніцтва БССР?

3. Перабудова прывяла да значных змен у грамадска-палітычным жыцці БССР, звязаных з дэмакратызацыяй. Аднак у выніку супярэчлівасці і непаслядоўнасці палітыкі перабудовы адбылося абвастрэнне крызісу ва ўсіх сферах жыцця савецкага грамадства. Ці прадугледжвала перабудова пазбаўленне КПБ манаполіі на ўладу

і забеспячэнне ўсеўладдзя Саветаў народных дэпутатаў? Вызначце, што першапачаткова прадугледжвалася зрабіць у выніку дадзенай палітыкі — часткова рэфармаваць савецкую палітычную сістэму ці карэнным чынам перабудаваць савецкі грамадскі лад.

4. Эканоміка БССР з'яўлялася арганічнай часткай адзінага народнагаспадарчага комплексу СССР. Якую ролю адыгрывалі ва ўнутрысаюзнай гаспадарчай спецыялізацыі машынабудаўнічая, нафтаперапрацоўчая, хімічная галіны прамысловасці БССР? Пры адказе выкарыстоўвайце матэрыял па сусветнай гісторыі.

5. Эканамічная рэформа 1965 г. прадугледжвала пашырэнне самастойнасці прамысловых прадпрыемстваў, у прыватнасці, увядзенне на прадпрыемствах гаспадарчага разліку і іх права распараджацца часткай свайго прыбытку. Адначасова ва ўмовах цэнтралізаванай эканомікі захоўваліся паўнамоцтвы міністэрстваў, напрыклад, вызначэнне імі абавязковых планавых паказчыкаў, звязаных з выпускам прадпрыемствамі прадукцыі і яе рэалізацыяй. Да пачатку 1970-х гг. рэформа фактычна перастала дзейнічаць. Растлумачце, чаму поспех рэформы быў непрацяглым, а яе няўдача непазбежнай.

6. Расходная частка дзяржаўнага бюджэту БССР прадугледжвала фінансаванне сельскагаспадарчай вытворчасці. Дзяржава пастаянна павышала закупачныя цэны на мяса, малако, збожжа, якія прадаваліся па вельмі нізкай цане. Вызначце, да якіх наступстваў магло прывесці такое становішча. Растлумачце, за кошт чаго пакрывалася розніца паміж высокай закупачнай і нізкай цаной пры продажы сельскагаспадарчай прадукцыі.

7. У 1971 г. была зроблена выснова аб тым, што ў СССР узнікла новая гістарычная супольнасць — савецкі народ. У гэту супольнасць уключалася і ўсё насельніцтва БССР. Кім лічылі сябе жыхары рэспублікі — савецкімі людзьмі ці беларусамі?

***Вызначце ролю гістарычных асоб і дзеячаў культуры:***

- К. Т. Мазурава ў дэмакратызацыі ўнутрыпартыйнага жыцця Камуністычнай партыі Беларусі;
- П. М. Машэрава ва ўтварэнні індустрыяльнага патэнцыялу БССР;
- К. П. Арлоўскага ў арганізацыі калгаснай вытворчасці і развіцці сельскай гаспадаркі БССР;

- В. Быкава ў асвятленні псіхалогіі чалавека на вайне;
- І. Мележа ў раскрыцці гістарычных лёсаў беларусаў;
- У. Караткевіча ў развіцці гістарычнага жанру ў беларускай літаратуры;
- М. Савіцкага ў мастацкім адлюстраванні подзвігу савецкіх людзей і партызанскага руху на тэрыторыі БССР у гады Вялікай Айчыннай вайны;
- В. Турава і М. Пташука ў развіцці беларускага кінематографа.

***Падрыхтуйце паведамленне па адной з наступных тэм:***

1. Індустрыяльнае развіццё БССР ва ўмовах навукова-тэхнічнай рэвалюцыі: асаблівасці і вынікі.
2. Дэмакратызацыя грамадска-палітычнага жыцця ў БССР: ад дэсталінізацыі да перабудовы.
3. Беларускія «афганцы»: выкананне інтэрнацыянальнага абавязку і канстытуцыйнага абавязку перад Радзімай.
4. Асвятленне ўнутранага свету чалавека і яго паводзін у творах беларускай літаратуры і мастацтва.
5. Беларуская літаратура і мастацтва ў другой палове 1950-х — 1980-я гг.: сувязь сучаснасці з гістарычнай мінуўшчынай.




# СТАНАЎЛЕННЕ І ЎМАЦАВАННЕ ДЗЯРЖАЎНАГА СУВЕРЭНІТЭТУ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

## § 18. Станаўленне і развіццё Рэспублікі Беларусь

### Вучэбная задача

Вызначыць асноўныя этапы, кірункі станаўлення суверэннай Рэспублікі Беларусь, дасягненні ў гэтым працэсе.

### Успомніце

Што азначае паняцце «мадэрнізацыя»?

### Стужка часу

**27 ліпеня 1990 г.** Прыняцце Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце БССР.

**25 жніўня 1991 г.** Наданне статусу канстытуцыйнага закона Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце БССР.

**19 верасня 1991 г.** Зацвярджэнне новай назвы нашай краіны — Рэспубліка Беларусь — і яе дзяржаўных сімвалаў.

**8 снежня 1991 г.** Спыненне існавання СССР. Стварэнне Садружнасці Незалежных Дзяржаў.

**15 сакавіка 1994 г.** Прыняцце Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь — Дзень Канстытуцыі.

**1994 г., 2001 г., 2006 г., 2010 г.** Абранне Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнкі.

**1995 г.** Рэспубліканскі рэферэндум па пытаннях дзяржаўнага статусу беларускай і рускай моў, новай дзяржаўнай сімволікі (герба і сцяга), эканамічнай інтэграцыі з Расіяй, паўнамоцтваў Прэзідэнта.

**1995 г.** Стварэнне Мытнага саюза Рэспублікі Беларусь з Расіяй і Казахстанам.

**1996 г., 2001 г., 2006 г, 2010 г.** Вызначэнне асноўных напрамкаў сацыяльна-эканамічнага развіцця Рэспублікі Беларусь на Першым, Другім, Трэцім, Чацвёртым Усебеларускіх народных сходах.

**2 красавіка 1996 г.** Падпісанне Дагавора аб стварэнні Супольніцтва Рэспублікі Беларусь і Расійскай Федэрацыі. Абвяшчэнне 2 красавіка Днём яднання народаў Беларусі і Расіі.

**24 лістапада 1996 г.** Прыняцце на рэспубліканскім рэферэндуме новай рэдакцыі Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь са змяненнямі і дапаўненнямі. Перанясенне Дня Незалежнасці Рэспублікі Беларусь (Дня Рэспублікі) з 27 на 3 ліпеня.

**2 красавіка 1997 г.** Утварэнне Саюза Беларусі і Расіі.

**Снежань 1999 г.** Падпісанне Беларуссю і Расіяй Дагавора аб стварэнні Саюзнай дзяржавы.

**2000 г.** Стварэнне з удзелам Беларусі Еўразійскага эканамічнага супольніцтва (ЕўрАзЭС).

**2002 г.** Падпісанне Беларуссю Статута Арганізацыі Дагавора аб калектыўнай бяспецы (АДКБ).

**2004 г.** Прыняцце на рэспубліканскім рэферэндуме папраўак у Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь, звязаных з тэрмінам паўнамоцтваў адной асобы, якая выбрана Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь.

**2007 г.** Падпісанне Дагавора аб стварэнні адзінай мытнай тэрыторыі і фарміраванні Мытнага саюза паміж Беларуссю, Расіяй і Казахстанам.

**2009 г.** Пачатак удзелу Рэспублікі Беларусь у праграме «Усходняе партнёрства».

**2009 г.** Абвяшчэнне Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Года роднай зямлі.

**2010 г.** Абвяшчэнне Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Года якасці.

**2011 г.** Падпісанне Беларуссю, Расіяй і Казахстанам Дэкларацыі аб еўразійскай эканамічнай інтэграцыі.

**2011 г.** Абвяшчэнне Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Года прадпрымальнасці.

**Абвяшчэнне дзяржаўнага суверэнітэту Рэспублікі Беларусь.** У другой палове 1980-х гг. працэс перабудовы дапоўніўся нечакана для ўлады ўзнікненнем і развіццём на абшарах СССР моцных нацыянальных рухаў. Гэта паскорыла выспяванне і афармленне ў рэспубліцы ідэі *дзяржаўнага суверэнітэту* — палітычнай незалежнасці і самастойнасці дзяржавы ва ўнутранай і знешняй палітыцы, якая не дапускае замежнага ўмяшання. Пачаткам рэалізацыі гэтай ідэі стала прыняцце Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце БССР і наданне ёй канстытуцыйнага статусу. Большасць насельніцтва БССР заставаліся прыхільнікамі захавання СССР, перабудаванага на дэмакратычных асновах. Тым не менш незавершанасць працэсу дэмакратызацыі ў палітычнай галіне, немагчымасць рэфармавання цэнтралізаванай планавай эканомікі прывялі ў рэшце рэшт да спынення ў 1991 г. існавання СССР. На постсавецкай прасторы ўзнікла Садружнасць Незалежных Дзяржаў (СНД). З гэтага моманту ў навейшай гісторыі Беларусі пачалося станаўленне суверэннай дзяржавы. Узнікла неабходнасць карэннай перабудовы палітычнай сістэмы, вызначэння стратэгіі і тактыкі сацыяльна-эканамічных пераўтварэнняў.

Рэспубліка Беларусь была прызнана міжнароднай супольнасцю як суверэнная дзяржава, якая ўдзельнічала ў стварэнні Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. Наша рэспубліка абвясціла свой бяз'ядзерны статус, вывела са сваёй тэрыторыі ядзерную зброю. Знешнепалітычны курс краіны характарызуецца няўдзелам у ваенных групоўках і ва ўзброеных канфліктах. Рэспубліка Беларусь праводзіць шматвектарны знешнепалітычны курс ва ўмовах *глабалізацыі* — працэсу складвання сусветнага рынку капіталаў, тавараў, паслуг, інфармацыі, устанаўлення ўзаемасувязей паміж рознымі краінамі ў эканамічнай, палітычнай, культурнай і іншых галінах.

**Этапы і кірункі развіцця Рэспублікі Беларусь.** Для пераадолення крызісу, узмоцненага распадам СССР, неабходна было вызначыцца з выбарам мадэлі будучага грамадскага і эканамічнага развіцця Рэспублікі Беларусь. Для гэтага патрэбны былі моцная ўлада і палітычная воля кіраўніцтва. Увядзенне ў Рэспубліцы Беларусь у 1994 г. інстытута прэзідэнцкай улады паклала пачатак новаму этапу развіцця нашай краіны. Перад Прэзідэнтам як кіраўніком дзяржавы паўстала задача распрацаваць і рэалізаваць праграму выводу краіны з крызісу і яе далейшага развіцця. На мяжы XX і XXI стст. гэта задача стала лёсавызначальнай для Беларусі.

Варта ўлічваць, што лагічная мадэль станаўлення новых суверэнных дзяржаў на постсавецкай прасторы, згодна з аналізам вынікаў параўнальных сацыялагічных даследаванняў, мае тры этапы свайго развіцця. На першым — пошукавым — этапе ў першай палове 1990-х гг. ва ўмовах сацыяльных катаклізмаў і незадаволенасці большасці жыхароў умовамі свайго жыцця, а таксама радыкальнага супрацьстаяння розных палітычных груповак у нашай краіне былі сфарміраваны дзяржаўныя структуры кіравання і новыя палітычныя інстытуты ўлады. Сучасны — стабілізацыйны — этап накіраваны на ўмацаванне аўтарытэту ўлады на падставе прагназуемых дзеянняў органаў дзяржаўнага кіравання і паступовае паляпшэнне жыцця грамадзян, а таксама рост узроўню бяспекі і спакою ў грамадстве. Наступны этап будзе характарызавацца ўстойлівым развіццём грамадства, высокім узроўнем і якасцю жыцця.

**Станаўленне і развіццё палітычнай сістэмы.** У першай палове 1990-х гг. важнае месца займала праблема ўзаемаадносін паміж выканаўчай, заканадаўчай і судовай галінамі ўлады. Гэта праблема была звязана з ажыццяўленнем прынцыпу падзелу ўлад. Гэты прынцып, які разам з прынцыпам вяршэнства закону прадугледжвае абавязковае выкананне ўсімі дзяржаўнымі органамі і службовымі асобамі законаў, а таксама роўнасць усіх людзей перад законам і рэалізацыю іх правоў і свабод, складае прыкметы прававой дзяржавы. Згодна з Канстытуцыяй 1994 г. Рэспубліка Беларусь была абвешчана прававой дзяржавай.

З мэтай забеспячэння будаўніцтва ў Рэспубліцы Беларусь прававой дзяржавы і дзейснага функцыянавання ўсіх галін улады **24 лістапада 1996 г.** быў праведзены рэспубліканскі *рэферэндум* — усенароднае галасаванне. На ім народ як адзіная крыніца ўлады ў Рэспубліцы Беларусь выказаўся за прыняцце новай рэдакцыі Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь са змяненнямі і дапаўненнямі. Кіраўніком дзяржавы з’яўляецца Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь. Прадстаўнічы і заканадаўчы орган улады — Парламент — Нацыянальны сход Рэспублікі Беларусь. Выканаўчую ўладу ў нашай краіне ажыццяўляе Урад — Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь. Судовая ўлада належыць судам розных узроўняў.

Шлях да packet пераўладкавання грамадска-палітычнага жыцця ў краіне быў няпросты. Ён патрабаваў згуртаванасці і агульных намаганняў улады і народа. Лозунгам, з якім выступіў Прэзідэнт, стаў наступны: «За моцную і квітнеючую Беларусь». Эфектыўная дзейнасць прэзідэнцкай улады грунтуецца на волевыяўленні выбаршчыкаў, якія на рэспубліканскім рэферэндуме 2004 г. прагаласавалі па пытанні тэрмінаў паўнамоцтваў Прэзідэнта.

**Распрацоўка беларускай мадэлі сацыяльна-эканамічнага развіцця.** Пасля распаду СССР кожная былая саюзная рэспубліка стала незалежнай краінай са сваёй нацыянальнай грашовай сістэмай і павінна была шукаць свой выхад з эканамічнага крызісу пачатку 1990-х гг. У Беларусі былі распрацаваны праграмы пераходу ад каманднa-адміністрацыйнай сістэмы кіравання народнай гаспадаркай да рынчнай эканомікі. Былі ўведзены рыначныя цэны на пераважную большасць тавараў і паслуг, дазволена індывідуальная працоўная дзейнасць; адбылося станаўленне прад-

прымальніцкіх, банкаўскіх і камерцыйных структур, а таксама пачалася прыватызацыя — раздзяржаўленне, перадача асобных аб'ектаў з дзяржаўнай формы ўласнасці ў прыватную.

У працэсе вызначэння шляхоў сацыяльна-эканамічнага развіцця Беларусі пад кіраўніцтвам Прэзідэнта была абрана мадэль сацыяльна арыентаванай рыначнай эканомікі. Яна ўлічвае таварна-грашовыя рыначныя адносіны і неабходнасць захавання дзяржаўнага рэгулявання з мэтай абароны інтарэсаў насельніцтва. Асноўныя напрамкі сацыяльна-эканамічнага развіцця Рэспублікі Беларусь у 1996—2000 гг. і на перыяд 2001—2005 гг. былі абмеркаваны на Першым і Другім Усебеларускіх народных сходах. Пры рэалізацыі гэтай мадэлі выбар быў зроблены на карысць дзяржаўнага рэгулявання. Вызначальным стаў улік сацыяльна-эканамічных і геапалітычных асаблівасцей Беларусі, якія склаліся на тэрыторыі рэспублікі ў савецкі перыяд, а таксама вопыту рэфармавання эканомікі ў краінах Усходняй Еўропы і СНД.

На Трэцім і Чацвёртым Усебеларускіх народных сходах быў узяты арыенцір на далейшы рост дабрабыту насельніцтва на аснове інавацыйнага развіцця і павышэння канкурэнтаздольнасці нацыянальнай эканомікі, а таксама стварэння дзяржавы, зручнай для жыцця людзей. Прынцыповай рысай беларускай мадэлі сацыяльна-эканамічнага развіцця стала актыўная роля дзяржавы ва ўдасканаленні эканомікі з захаваннем моцнай сацыяльнай палітыкі.

Асаблівая ўвага надаецца ўмацаванню адносін Беларусі з краінамі Садружнасці Незалежных Дзяржаў, і перш за ўсё інтэграцыі з Расіяй. Збліжэнне Беларусі і Расіі ў эканамічнай і палітычнай галіне стала неабходным пасля знікнення з палітычнай карты свету СССР і разбурэння былых народнагаспадарчых сувязей. Пра паглыбленне працэсу інтэграцыі Беларусі і Расіі сведчыць падпісанне ў **1999 г.** Дагавора аб стварэнні Саюзнай дзяржавы.

На рубяжы стагоддзяў у межах рэалізацыі ідэі эканамічнай інтэграцыі было ўтворана Еўразійскае эканамічнае супольніцтва (ЕўрАзЭС), а затым адбылося падпісанне Дагавора аб стварэнні адзінай мытнай тэрыторыі і фарміраванні Мытнага саюза паміж Беларуссю, Расіяй і Казахстанам. ЕўрАзЭС з'яўляецца інтэграцыйным аб'яднаннем на постсавецкай прасторы, якое найбольш дынамічна развіваецца.

**Этапы развіцця Рэспублікі Беларусь у 1991—2010 гг.**

| 1991—1996 гг. | 1996—2010 гг. |
|---|---|
| Афармленне суверэнітэту Рэспублікі Беларусь.<br>Прыняцце Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.<br>Спробы пераадолення крызісных з'яў, выкліканых распадам СССР | Прыняцце новай рэдакцыі Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь са змяненнямі і дапаўненнямі згодна з вынікамі рэспубліканскага рэферэндуму 1996 г.<br>Станаўленне і рэалізацыя мадэлі сацыяльна арыентаванай рыначнай эканомікі |

**Кірункі развіцця Рэспублікі Беларусь у 1991—2010 гг.**

| Грамадска-палітычнае жыццё | Сацыяльна-эканамічнае развіццё | Знешнепалітычны курс |
|---|---|---|
| Выспяванне ідэі дзяржаўнага суверэнітэту і абвяшчэнне суверэннай Рэспублікі Беларусь.<br>Спыненне існавання СССР і стварэнне СНД.<br>Канстытуцыйнае афармленне інстытута прэзідэнцкай улады ў Рэспубліцы Беларусь.<br>Паступовае станаўленне прававой дзяржавы і рэалізацыя прынцыпаў падзелу ўлад і вяршэнства закону | Увядзенне рыначных цэн, дазвол арэнды і індывідуальнай працоўнай дзейнасці, пачатак прыватызацыі.<br>Распрацоўка мадэлі сацыяльна арыентаванай рыначнай эканомікі.<br>Паступовае фарміраванне перадумоў для пераходу ад індустрыяльнага грамадства да інфармацыйнага | Імкненне Рэспублікі Беларусь стаць бяз'ядзернай зонай і нейтральнай дзяржавай.<br>Падтрыманне працэсу захавання бяспекі ў Еўропе.<br>Умацаванне адносін Беларусі з краінамі СНД.<br>Развіццё працэсу інтэграцыі Беларусі і Расіі, а таксама ў межах Еўразійскага эканамічнага супольніцтва |

Кожны грамадзянін нашай рэспублікі мае права выбару сваёй будучыні ў працэсе мадэрнізацыі, звязанай з выспяваннем перадумоў пераходу ад індустрыяльнага да *інфармацыйнага грамадства*. Гэта грамадства, у якім у выніку ўкаранення дасягненняў навукова-тэхнічнай рэвалюцыі ў вытворчасць змяняецца характар працы. Вызначальную ролю набывае навука і тэхніка ў працэсах вытворчасці інфармацыі, якая неабходна для жыццядзейнасці грамадства. Інфармацыя і веды разглядаюцца ў якасці важнейшага фактару сацыяльна-эканамічнага развіцця. Мадэрнізацыя для Беларусі азначае пераход ад індустрыяльнай эканоміці-

мікі да постындустрыяльнага этапа яе развіцця. Плануецца, што ў аснове эканомікі будуць знаходзіцца не буйная канвеерная прамысловая вытворчасць, а вытворчасць тэхналогій, сфера паслуг, уключаючы вытворчасць праграмных IT-прадуктаў, развітая сістэма адукацыі і навуковых даследаванняў. Такім чынам, чакаецца рэалізацыя такога сцэнарыя пераходу да інфармацыйнага грамадства, які прадугледжвае сінтэз мадэрнізацыі існуючага індустрыяльнага сектара з навукаёмістым высокатэхналагічным асяроддзем.

***Паняцці і тэрміны, якія трэба засвоіць:*** *дзяржаўны суверэнітэт, рэферэндум, глабалізацыя, інфармацыйнае грамадства.*

### ПЫТАННІ І ЗАДАННІ

1. Назавіце этапы станаўлення суверэннай Рэспублікі Беларусь.
2. Пералічыце прыкметы прававой дзяржавы. Выкарыстайце свае веды па грамадазнаўстве.
3. Ахарактарызуйце мадэль сацыяльна арыентаванай рыначнай эканомікі.
4. У чым заключаецца сэнс лозунга «За моцную і квітнеючую Беларусь» і як ён можа быць рэалізаваны?
5. Растлумачце, якім чынам працэс глабалізацыі паўплываў на вызначэнне асноўных прынцыпаў знешняй палітыкі суверэннай Рэспублікі Беларусь.
6. Ахарактарызуйце асноўныя кірункі сацыяльна-эканамічнага развіцця, грамадска-палітычнага жыцця, знешняй палітыкі Рэспублікі Беларусь у 1991—2010 гг.
7. Якой вам як грамадзянам Рэспублікі Беларусь бачыцца будучыня нашай дзяржавы?

## § 19. Станаўленне дзяржаўнага суверэнітэту

### Вучэбная задача

Вызначыць, у чым заключалася афармленне дзяржаўнага суверэнітэту Рэспублікі Беларусь.

### Успомніце

Калі быў створаны СССР?

**Рух за дзяржаўны суверэнітэт.** Пераход у другой палове 1980-х гг. да перабудовы грамадства на дэмакратычных асновах і паступовае аслабленне саюзнай улады абумовілі неабходнасць

вырашэння нацыянальнай праблемы. Пакуль улада СССР заставалася моцнай, нацыянальнае пытанне лічылася вырашаным. Рэспублікі, згодна з Канстытуцыяй СССР, абвяшчаліся раўнапраўнымі і незалежнымі. Аднак іх рэальная незалежнасць адсутнічала. На самай справе ва ўмовах існавання аднапартыйнай сістэмы яны знаходзіліся ў поўным падначаленні саюзнай уладзе і цэнтральным партыйным органам.

Ва ўмовах эканамічнага крызісу і наспявання крызісных з'яў у нацыянальна-дзяржаўнай сферы актывізаваўся рух за атрыманне саюзнымі рэспублікамі рэальнага дзяржаўнага суверэнітэту.

### ГІСТАРЫЧНАЯ ДАВЕДКА

Ужо ў 1990 г. Літва, Эстонія і Латвія прынялі законы аб аднаўленні дзяржаўнай незалежнасці. У гэтым жа годзе Вярхоўны Савет Грузіі скасаваў Дагавор ад 30 снежня 1922 г. аб стварэнні СССР паміж БССР, УССР, РСФСР і ЗСФСР (Закаўказскай Сацыялістычнай Федэратыўнай Савецкай Рэспублікай). 12 чэрвеня 1990 г. была прынята Дэкларацыя аб суверэнітэце РСФСР. Услед за Расіяй на працягу некалькіх месяцаў дэкларацыі аб суверэнітэце прынялі Узбекістан, Малдова, Украіна, Туркменія, Арменія, Таджыкістан, Казахстан.

Узмацненне руху за незалежнасць саюзных рэспублік садзейнічала актыўнай падтрымцы ідэі суверэнітэту ў Беларусі. **27 ліпеня 1990 г.** Вярхоўны Савет БССР прыняў Дэкларацыю аб дзяржаўным суверэнітэце Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. У ёй БССР абвяшчалася суверэннай дзяржавай (**). Дата прыняцця гэтай Дэкларацыі была абвешчана Днём Незалежнасці Рэспублікі Беларусь (Днём Рэспублікі).

Паміж дзевяццю рэспублікамі СССР вяліся перагаворы аб прыняцці новага Саюзнага дагавора. Беларусь была адной з найбольш актыўных прыхільніц гэтага дагавора. Ідэю захавання СССР на аснове заключэння новага Саюзнага дагавора падтрымала і большасць насельніцтва СССР. У сакавіку 1991 г. на рэферэндуме — усенародным галасаванні — 76,4 % ад колькасці грамадзян СССР, што прымалі ўдзел у выбарах, выказаліся за захаванне Саюза. У БССР за захаванне Саюза ССР прагаласавала 82,7 % насельніцтва.

ГІСТАРЫЧНЫ ДАКУМЕНТ

З улікам вынікаў рэферэндуму Вярхоўны Савет БССР прыняў пастанову «Аб канцэпцыі Саюзнага дагавора», у якой прадугледжвалася: «1. Прызнаць мэтазгодным уваходжанне Беларускай ССР у склад Саюза ССР з улікам пераўтварэння яго ў сапраўды дэмакратычную прававую дзяржаву, заснаваную на добраахвотным аб'яднанні раўнапраўных саюзных рэспублік. 2. Лічыць неабходным удзел Беларускай ССР у падрыхтоўцы Саюзнага дагавора».

За дзень да падпісання гэтага дагавора, 19 жніўня 1991 г., у Маскве часткай кіраўніцтва КПСС і краіны быў арганізаваны так званы путч. Яго мэтай было захаванне СССР і адхіленне ад улады М. С. Гарбачова. Выступленне правалілася.

**Белавежскае пагадненне. Стварэнне СНД.** Пасля жнівеньскіх падзей працэс афармлення суверэнітэту рэспублікі значна паскорыўся. **25 жніўня 1991 г.** быў прыняты Закон «Аб наданні статусу канстытуцыйнага закона Дэкларацыі Вярхоўнага Савета БССР аб дзяржаўным суверэнітэце Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі». На наступны дзень, 26 жніўня, Вярхоўны Савет БССР прыняў Закон «Аб забеспячэнні палітычнай і эканамічнай самастойнасці БССР». З гэтага часу прамое ўмяшанне саюзнай улады ў дзейнасць рэспублікі спынілася. **19 верасня 1991 г.** Вярхоўны Савет прыняў рашэнне аб змене назвы Беларускай ССР на Рэспубліку Беларусь, а ў скарочаным варыянце — Беларусь.

18 кастрычніка 1991 г. быў прыняты Закон «Аб грамадзянстве Рэспублікі Беларусь». *Грамадзянства* — прававая прыналежнасць асобы да дзяржавы — стала неад'емнай часткай дзяржаўнага суверэнітэту Беларусі.

Прэзідэнт Расійскай Федэрацыі Б. М. Ельцын, Прэзідэнт Украіны Л. М. Краўчук і Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. С. Шушкевіч **8 снежня 1991 г.** абвясцілі на сустрэчы ў Белавежскай пушчы: «Саюз ССР як суб'ект міжнароднага права і геапалітычная рэальнасць спыняе сваё існаванне». Адначасова адбылося падпісанне Пагаднення аб стварэнні *Садружнасці Незалежных Дзяржаў* (СНД), якая ўяўляе сабой міжурадавую рэгіянальную арганізацыю. Дасягнутыя дамоўленасці атрымалі назву *Белавежскага пагаднення*.

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **10 снежня 1991 г.** прыняў пастанову, якая скасавала Дагавор аб утварэнні СССР ад 30 снежня 1922 г., і ратыфікаваў Пагадненне аб стварэнні СНД. Яно было зацверджана таксама Вярхоўнымі Саветамі Расійскай Федэрацыі і Украіны. Заснавальнікі СНД запрасілі ўсе іншыя рэспублікі былога СССР уступіць у Садружнасць.

### ГІСТАРЫЧНАЯ ДАВЕДКА

21 снежня 1991 г. у склад СНД увайшлі 11 краін (акрамя Грузіі і трох прыбалтыйскіх рэспублік). 25 снежня 1991 г. першы Прэзідэнт СССР М. С. Гарбачоў падаў у адстаўку, а на наступны дзень, 26 снежня, Вярхоўны Савет СССР юрыдычна прызнаў факт распаду гэтай дзяржавы.

Па стане на снежань 2005 г. у склад СНД увайшлі 12 краін: Азербайджан, Арменія, Беларусь, Грузія (выйшла ў 2008 г.), Казахстан, Кыргызстан, Малдова, Расійская Федэрацыя, Таджыкістан, Туркменістан, Узбекістан, Украіна. Цэнтрам СНД быў выбраны Мінск.

***Пункт гледжання.*** Распад СССР і ўзнікненне СНД былі ўспрыняты ў грамадстве неадназначна, бо адбіліся на лёсе кожнага грамадзяніна па-рознаму. З аднаго боку, распад СССР прывёў да падзення ўзроўню жыцця насельніцтва і да шматлікіх нацыянальных канфліктаў у рэгіёнах былога СССР. З другога боку, ён садзейнічаў афармленню незалежнасці рэспублік. Распад СССР і стварэнне СНД спарадзілі ў розных грамадскіх колах жорсткія спрэчкі аб тым, «хто вінаваты». Адзінага погляду на гэта пытанне няма. Спыненне існавання СССР было найперш вынікам яго ўнутранага грамадска-палітычнага і сацыяльна-эканамічнага крызісу ў 1970—1990-я гг., што лічыцца аб'ектыўным фактарам. Сваю ролю адыгралі і суб'ектыўныя фактары ўнутранага і знешняга тыпу. Сярод іх — мадэрнізацыйная палітыка КПСС і ліквідацыя яе манаполіі на ўладу, што адкрыла шлях да распаду Савецкага Саюза.

**Прыняцце Канстытуцыі і ўвядзенне пасады Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.** Важнае значэнне для замацавання суверэнітэту рэспублікі мела прыняцце Вярхоўным Саветам **15 сакавіка 1994 г.** Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь. Рэспубліка Беларусь была абвешчана ўнітарнай дэмакратычнай сацыяльнай прававой дзяр-

жавай. *Унітарная дзяржава* — гэта форма дзяржаўнага ўтварэння, пры якой тэрыторыя дзяржавы не мае ў сваім складзе федэратыўных адзінак (рэспублік, штатаў і да т. п.), а падзяляецца на адміністрацыйна-тэрытарыяльныя адзінкі (вобласці, губерні, раёны і да т. п.). У дэмакратычнай дзяржаве забяспечваюцца правы чалавека, а адзіная крыніца дзяржаўнай улады — народ. Гэта палажэнне занатавана ў Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь. У сацыяльнай дзяржаве галоўным з'яўляецца стварэнне ўмоў для свабоднага і годнага развіцця асобы. *Прававая дзяржава* — гэта дзяржава, дзе рэалізуецца прынцып падзелу ўлад на заканадаўчую і выканаўчую, якія ўзаемна кантралююцца, і незалежную судовую. У прававой дзяржаве існуе таксама прынцып вяршэнства закону, абавязковае яго выкананне ўсімі дзяржаўнымі органамі і службовымі асобамі, роўнасць усіх людзей перад законам, забеспячэнне правоў і свабод грамадзян.

| Этапы афармлення дзяржаўнага суверэнітэту Беларусі |
|---|
| Прыняцце Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі — 27 ліпеня 1990 г. |
| Наданне статусу канстытуцыйнага закона Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце БССР — 25 жніўня 1991 г. |
| Прыняцце Закона «Аб забеспячэнні палітычнай і эканамічнай самастойнасці БССР» — 26 жніўня 1991 г. |
| Зацвярджэнне назвы нашай дзяржавы — Рэспубліка Беларусь — і яе дзяржаўных сімвалаў — 19 верасня 1991 г. |
| Прыняцце Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь — 15 сакавіка 1994 г. |

Згодна з Канстытуцыяй, якая заснавана на прынцыпе падзелу заканадаўчай, выканаўчай і судовай улад, Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь з'яўляўся найвышэйшым прадстаўнічым пастаянна дзеючым і адзіным заканадаўчым органам дзяржаўнай улады Рэспублікі Беларусь. Кіраўніком дзяржавы і выканаўчай улады стаў Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь. Яго паўнамоцтвы ўключаюць найважнейшыя пытанні жыццядзейнасці краіны: ахову суверэнітэту, нацыянальнай бяспекі і тэрытарыяльнай цэласнасці Рэспублікі Беларусь, забеспячэнне палітычнай і эканамічнай стабільнасці, захаванне правоў і свабод грамадзян.

ГІСТАРЫЧНЫ ПАРТРЭТ

**Аляксандр Рыгоравіч Лукашэнка (нарадзіўся ў 1954 г.).** Ураджэнец гарадскога пасёлка Копысь Аршанскага раёна. Скончыў гістарычны факультэт Магілёўскага педагагічнага інстытута, Беларускую сельскагаспадарчую акадэмію. Праходзіў службу ў пагранічных войсках і Савецкай арміі. Працаваў на камсамольскай і партыйнай рабоце, на адказных пасадах у аграпрамысловым комплексе. У 1990—1994 гг. — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. З 1994 г. Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь. Паслядоўна прытрымліваецца курсу на эканамічныя і сацыяльныя пераўтварэнні з мэтай умацавання беларускай дзяржаўнасці і паляпшэння дабрабыту народа. Ініцыятар стварэння Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі. У 2001 г., 2006 і 2010 гг. пераабраны Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь. Галоўнакамандуючы Узброенымі Сіламі Рэспублікі Беларусь. З 1997 г. — старшыня Нацыянальнага алімпійскага камітэта Беларусі.



У **1994 г.** адбыліся прэзідэнцкія выбары, якія сталі першымі дэмакратычнымі выбарамі ў найноўшай гісторыі Беларусі. У выніку правядзення прэзідэнцкіх выбараў пасля другога тура першым Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь быў абраны А. Р. Лукашэнка. За яго прагаласавала 80,3 % выбаршчыкаў.

**Рэспубліканскі рэферэндум 1995 г. і яго вынікі.** Важную ролю ў працэсе станаўлення і замацавання дзяржаўнага суверэнітэту адыграў рэспубліканскі рэферэндум, праведзены па ініцыятыве Прэзідэнта **14 мая 1995 г.** Прэзідэнт атрымаў падтрымку грамадзян па ўсіх пытаннях, вынесеных на агульнанароднае абмеркаванне: аб наданні рускай мове статусу, роўнага з беларускай («за» прагаласавалі 83,3 % удзельнікаў рэферэндуму); аб устанаўленні новых Дзяржаўнага сцяга Рэспублікі Беларусь і Дзяржаўнага герба Рэспублікі Беларусь («за» — 75,1 %); аб адабрэнні дзеянняў Прэзідэнта, накіраваных на эканамічную інтэграцыю з Расійскай Федэрацыяй («за» — 83,3 %); аб унясенні змен у Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь 1994 г., якія даюць магчымасць Прэзідэнту датэрмінова спыніць паўнамоцтвы Вярхоўнага Савета ў выпадку сістэматычнага або грубага парушэння Канстытуцыі («за» — 77,7 %).

**Дзяржаўная сімволіка Рэспублікі Беларусь.** Вярхоўны Савет Беларускай ССР 19 верасня 1991 г. у выніку галасавання зацвердзіў Дзяржаўны герб «Пагоня» і сцяг з трыма бела-чырвона-белымі гарызантальнымі палосамі. Многія жыхары Беларусі выказвалі незадавальненне адносна такой сімволікі па прычыне таго, што яна ўжывалася са згоды акупацыйных улад на захопленай нямецка-фашысцкімі войскамі тэрыторыі Беларусі ў час Вялікай Айчыннай вайны. Па ініцыятыве Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь на рэспубліканскі рэферэндум 14 мая 1995 г. было вынесена пытанне: «Ці падтрымліваеце Вы прапанову аб устанаўленні новых Дзяржаўнага сцяга і Дзяржаўнага герба Рэспублікі Беларусь?». 3,6 млн (75 %) выбаршчыкаў падтрымалі дадзеную прапанову. Быў прыняты новы Дзяржаўны герб. У ім, як і ў папярэднім гербе БССР, захаваліся снапы каласоў, якія абрамляюцца чырвонай стужкай. У цэнтры замест сярпа і молата знаходзіцца абрыс Рэспублікі Беларусь у промнях сонца, замест назвы БССР — Рэспубліка Беларусь. Новы сцяг уяўляе сабой палотнішча з дзвюма гарызантальнымі чырвонай і зялёнай палосамі і размешчаным злева беларускім арнаментам чырвонага колеру на белым фоне.

Штогод у другую нядзелю мая ў нашай краіне адзначаецца Дзень Дзяржаўнага сцяга і Дзяржаўнага герба. 9 мая разам з Дзяржаўным сцягам узнімаецца чырвоны сцяг — сцяг Перамогі савецкага народа ў Вялікай Айчыннай вайне.

У 1995 г. былі зацверджаны дзяржаўныя ўзнагароды Рэспублікі Беларусь, у тым ліку Палажэнні аб званні «Герой Беларусі», ордэнах Айчыны, Францыска Скарыны. Першым Героем Беларусі стаў у 1996 г. ваенны лётчык Уладзімір Карват. Цаной уласнага жыцця ён адвёў палаючы самалёт убок ад в. Вялікае Гацішча




Дзяржаўны герб Рэспублікі Беларусь



Дзяржаўны сцяг Рэспублікі Беларусь


Медаль Героя Беларусі



Ордэн Айчыны І-й ступені



Ордэн Францыска Скарыны


У. М. Карват

Баранавіцкага раёна і выратаваў жыцці многіх людзей. За мужнасць і гераізм, праяўленыя пры выкананні воінскага абавязку, падпалкоўнік У. М. Карват удастоены (пасмяротна) вышэйшай ступені адзнакі Рэспублікі Беларусь. Яна прысвойваецца за выключныя заслугі перад дзяржавай і грамадствам, звязаныя з подзвігам, здзейсненым у імя свабоды, незалежнасці і росквіту Беларусі. Гэта як воінская, так і працоўная ўзнагарода.

***Вызначым асноўнае ў змесце параграфа.*** У цэлым першая палова 1990-х гг. з'явілася найбольш складаным перыядам у гісторыі суверэннай Рэспублікі Беларусь. Эканамічны крызіс негатыўна ўплываў на сацыяльную сферу. У грамадстве панавала пачуццё нявызначанасці і няўпэўненасці ў заўтрашнім дні. Разам з тым істотна павысілася палітычная актыўнасць насельніцтва. Гэта быў час накаплення першага палітычнага вопыту, набыцця палітычнай культуры, першых цяжкіх крокаў у будаўніцтве ўласнай дэмакратычнай дзяржавы. У 1991 г. быў юрыдычна аформлены выхад Беларусі са складу СССР. У першай палове 1990-х гг. адбылося прававое афармленне дзяржаўнага суверэнітэту Рэспублікі Беларусь, якая была абвешчана ўнітарнай дэмакратычнай сацыяльнай прававой дзяржавай. Гэта стала вызначальнай вяхой у жыцці беларускага народа, які з'яўляецца носьбітам суверэнітэту і адзінай крыніцай дзяржаўнай улады ў рэспубліцы. Згодна з Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь, прынятай 15 сакавіка 1994 г., быў заснаваны інстытут прэзідэнцтва. Увядзенне пасады Прэзідэнта стала новым этапам у развіцці беларускай дзяржаўнасці. У адпаведнасці з вынікамі рэферэндуму

1995 г. была вызначана сучасная дзяржаўная сімволіка Рэспублікі Беларусь.

***Паняцці і тэрміны, якія трэба засвоіць:*** *грамадзянства, Белавежскае пагадненне, Садружнасць Незалежных Дзяржаў, унітарная дзяржава, прававая дзяржава.*

## ДАДАТКОВЫ МАТЭРЫЯЛ

**** Вытрымкі з Дэкларацыі Вярхоўнага Савета БССР аб дзяржаўным суверэнітэце Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі 27 ліпеня 1990 г.**

«Вярхоўны Савет Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі, выказваючы волю народа Беларускай ССР, ... урачыста абвяшчае поўны дзяржаўны суверэнітэт Беларускай ССР як вяршэнства, самастойнасць і паўнату дзяржаўнай улады рэспублікі ў межах яе тэрыторыі, правамоцнасць яе законаў, незалежнасць рэспублікі ў знешніх зносінах і заяўляе аб рашучасці стварыць прававую дзяржаву.

*Артыкул 1.* Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка — суверэнная дзяржава, якая ўсталявана на аснове ажыццяўлення беларускай нацыяй яе неад'емнага права на самавызначэнне, дзяржаўнасці беларускай мовы, вяршэнства народа ў вызначэнні свайго лёсу...

*Артыкул 2.* Грамадзяне Беларускай ССР усіх нацыянальнасцей складаюць беларускі народ, які з'яўляецца носьбітам суверэнітэту і адзінай крыніцай дзяржаўнай улады ў рэспубліцы...»

*Вызначце, у чым заключаецца гістарычнае значэнне прыняцця Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце БССР.*

## ПЫТАННІ І ЗАДАННІ

1. Дайце азначэнні наступных паняццяў: *дзяржаўны суверэнітэт, грамадзянства, унітарная дзяржава, прававая дзяржава, рэферэндум*. Выкарыстайце свае веды па грамадазнаўстве.
2. Складзіце лагічны ланцужок гістарычных падзей, якія сведчылі аб працэсе афармлення дзяржаўнага суверэнітэту Беларусі. Выкарыстайце дакументы № 79, 80 хрэстаматыі.
3. Вызначце, як ажыццяўляўся прынцып падзелу ўлад згодна з Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь 1994 г. і якая форма рэспублікі была заканадаўча замацавана.

4. Высветліце, што абазначаюць элементы сучаснай дзяржаўнай сімволікі Рэспублікі Беларусь.
5. Растлумачце, чаму грамадзянства з'яўляецца неад'емнай часткай дзяржаўнага суверэнітэту Рэспублікі Беларусь.
6. Раскрыйце прычынна-выніковую сувязь паміж распадам СССР і стварэннем СНД. Якую ролю ў гэтым адыграла Белавежскае пагадненне?
7. Дакажыце, што прыняцце Закона «Аб забеспячэнні палітычнай і эканамічнай самастойнасці БССР» паспрыяла далейшаму ўмацаванню дзяржаўнага суверэнітэту рэспублікі.
8. У БССР на рэферэндуме ў сакавіку 1991 г. за захаванне СССР прагаласавала больш за 82 % выбаршчыкаў. Растлумачце, чаму волевыяўленне народа не было рэалізавана.
9. Правядзіце дыскусію па абмеркаванні пытання аб аб'ектыўных і суб'ектыўных фактарах спынення існавання СССР.
10. Растлумачце, чаму ў асобных жыхароў нашай краіны існуе імкненне «вярнуцца назад у СССР». Як вы адносіцеся да гэтага імкнення?

## § 20—21. Грамадска-палітычнае жыццё ў другой палове 1990-х гг. — пачатку XXI ст.

**Вучэбная задача**

Вызначыць, як быў рэалізаваны ў нашай рэспубліцы ў працэсе станаўлення прававой дзяржавы прынцып падзелу ўлад і забяспечана ўнутрыпалітычная стабільнасць.

**Успомніце**

Што азначае паняцце «прававая дзяржава»?

**Умацаванне палітычнай сістэмы ў Рэспубліцы Беларусь. Рэспубліканскі рэферэндум 1996 г. і яго вынікі.** Утварэнне ў 1991 г. суверэннай дзяржавы — Рэспублікі Беларусь — выклікала неабходнасць афармлення яе нацыянальнай дзяржаўнасці. Перш за ўсё патрабавалася стварыць дзейсную палітычную сістэму, якая грунтавалася б на прынцыпе падзелу ўлад. Будаўніцтва прававой дзяржавы ў Рэспубліцы Беларусь было звязана з рэалізацыяй гэтага прынцыпу. Згодна з Канстытуцыяй, прынятай 15 сакавіка

1994 г. Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь, Парламент з’яўляўся адзіным заканадаўчым органам дзяржаўнай улады ў Рэспубліцы Беларусь. Прэзідэнт, выбары якога адбыліся ў 1994 г., абвяшчаўся кіраўніком дзяржавы і выканаўчай улады. Судовая ўлада была прадстаўлена судамі, у тым ліку і Канстытуцыйным Судом. Аднак функцыі розных галін улады аказаліся недакладна вызначанымі.

У сярэдзіне 1990-х гг. наспела неабходнасць дакладнага вызначэння паўнамоцтваў Прэзідэнта, Урада і Парламента, бо назіраўся пэўны дысбаланс узаемаадносін паміж рознымі галінамі ўлады. Станаўленне прэзідэнцкай (выканаўчай) вертыкалі ўлады і імкненне дэпутатаў Парламента (Вярхоўнага Савета) захаваць свой статус, да якога яны прызвычаіліся за папярэднія гады, выклікала востры палітычны крызіс. У Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь група дэпутатаў стала дабівацца абмежавання паўнамоцтваў Прэзідэнта. У той жа час сам Вярхоўны Савет аказаўся няздольным каардынаваць дзейнасць розных дзяржаўных структур. У абставінах, якія склаліся, варта было індывідуалізаваць сацыяльную і палітычную адказнасць вышэйшага кіраўніцтва за сваю дзейнасць. Для вываду краіны з крызісу патрэбна была моцная прэзідэнцкая ўлада, перавагамі якой сталі б хуткае рэагаванне на сітуацыю, прыняцце і рэалізацыя найбольш рацыянальных рашэнняў.


Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнка падпісвае Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь са змяненнямі і дапаўненнямі, прынятымі на рэферэндуме 24 лістапада 1996 г.

Важную ролю ў вырашэнні супрацьстаяння паміж заканадаўчай і выканаўчай галінамі ўлады адыграў рэспубліканскі рэферэндум, праведзены **24 лістапада 1996 г.** Яго мэтай стала ўдакладненне артыкулаў Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, прысвечаных ажыццяўленню прынцыпу падзелу ўлад. Згодна з канстытуцыйным палажэннем адзінай крыніцай дзяр-

жаўнай улады ў Рэспубліцы Беларусь з'яўляецца народ. Таму па прапанове Прэзідэнта Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь звярнуўся непасрэдна да народа.

На галасаванне былі вынесены два праекты абноўленай Канстытуцыі, прапанаваныя адзін — Прэзідэнтам, другі — часткай дэпутатаў Вярхоўнага Савета (фракцыямі аграрыяў і камуністаў). Праект Канстытуцыі, прапанаваны Прэзідэнтам, прадугледжваў пашырэнне яго паўнамоцтваў як кіраўніка дзяржавы. У альтэрнатыўным дэпутацкім праекце ўвогуле не прадугледжвалася пасада Прэзідэнта, інстытут прэзідэнцтва ліквідаваўся і прапанавалася вяртанне да парламенцкай рэспублікі (**1). Па сутнасці, галасаванне адказвала на пытанне аб тым, каго падтрымае беларускі народ. Вынікі рэферэндуму сталі сведчаннем шырокай падтрымкі насельніцтвам Беларусі курсу Прэзідэнта, накіраванага на пераадоленне палітычнага крызісу ў краіне.

За прыняцце Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь 1994 г. са змяненнямі і дапаўненнямі (новая рэдакцыя Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь), прапанаванымі Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнкам, прагаласавала 70,4 % выбаршчыкаў. Праект Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь падтрымала 7,9 % выбаршчыкаў. Большасць выбаршчыкаў (88,2 %) прагаласавала таксама за прапанову Прэзідэнта аб перанясенні Дня Незалежнасці Рэспублікі Беларусь (Дня Рэспублікі) з 27 на **3 ліпеня** — дзень вызвалення Мінска ад гітлераўскіх захопнікаў.

Большая частка насельніцтва нашай рэспублікі палічыла, што для беларускага народа больш значнымі з'яўляюцца падзеі, звязаныя з вызваленнем Радзімы ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Гэтым беларускі народ пацвердзіў імкненне да захавання незалежнасці сваёй краіны, гатоўнасць абараняць яе, як гэта ўласціва ўсім свабодалюбівым народам.

Прапанова Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па абмежаванні прэзідэнцкіх паўнамоцтваў на рэферэндуме была адхілена. Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь са змяненнямі і дапаўненнямі, прынятымі на рэспубліканскім рэферэндуме 24 лістапада 1996 г., уступіла ў сілу (**2).

Прэзідэнцкі варыянт Канстытуцыі, які быў прыняты на рэспубліканскім рэферэндуме, стварыў новую мадэль дзяржаўнага ладу Беларусі. У ім найбольш паслядоўна замацавана рэалізацыя

прынцыпу падзелу ўлад, адноўлена раўнавага яе трох галін, баланс паміж абавязкамі і правамі кіраўніка дзяржавы, павышаны статус выканаўчай улады ў сістэме дзяржаўных органаў.

***Пункт гледжання.*** Сучасная палітычная сістэма Беларусі сфарміравалася з улікам як савецкага, так і еўрапейскага вопыту кіраўніцтва і палітычнага лідарства. Усталяваная мадэль кіравання шмат у чым адлюстроўвала настроі, якія існавалі ў савецкіх грамадзян напярэдадні перабудовы. Яны чакалі змен у палітычным і сацыяльна-эканамічным становішчы, але пры гэтым не жадалі карэннай ломкі ўкладу жыцця, які склаўся. З набыццём суверэнітэту адбыліся змены ў функцыянаванні палітычнай сістэмы. Так, напрыклад, на ўсіх узроўнях кіраўніцтва ўзрасла канцэнтрацыя ўладных паўнамоцтваў і пашырылася прамое народаўладдзе праз правядзенне альтэрнатыўных выбараў, рэферэндумаў, Усебеларускіх сходаў. Зніклі атрыбуты савецкай сістэмы — аднапартыйнасць і адзіна правільная партыйна-дзяржаўная ідэалогія. Адбылася значная персаніфікацыя ўлады ў асобе Прэзідэнта, які з'яўляецца цэнтрам прыняцця палітычных рашэнняў. Вырасла новая генерацыя грамадзян, якія нарадзіліся ў суверэннай дзяржаве.

**Канстытуцыя і асновы дзяржаўнага ладу суверэннай Рэспублікі Беларусь.** Згодна з Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь (са змяненнямі і дапаўненнямі, прынятымі на рэспубліканскім рэферэндуме 24 лістапада 1996 г.) Кіраўніком дзяржавы з'яўляецца Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь. Ён лічыцца гарантам Канстытуцыі, правоў і свабод чалавека і грамадзяніна Рэспублікі Беларусь. Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь гарантуе рэалізацыю асноўных кірункаў унутранай і знешняй палітыкі, прадстаўляе Рэспубліку Беларусь у адносінах з іншымі дзяржавамі і міжнароднымі арганізацыямі. Прэзідэнт прымае меры па ахове суверэнітэту Рэспублікі Беларусь, яе нацыянальнай бяспекі і тэрытарыяльнай цэласнасці, ажыццяўляе пасрэдніцтва паміж органамі дзяржаўнай улады. Прэзідэнт займае асобае месца ў сістэме раздзялення ўлад: у арганізацыйных адносінах ён не ўключаны ні ў адну з галін улады. Прэзідэнт выступае арбітрам паміж рознымі палітычнымі сіламі. Разам з тым кіраўнік дзяржавы валодае шырокім колам паўнамоцтваў у галіне выканаўчай улады. У Канстытуцыі таксама прадугледжаны ўдзел Прэзідэнта ў ажыццяўленні заканадаўства.

Прэзідэнт мае права выдаваць дэкрэты, якія маюць сілу законаў і з'яўляюцца абавязковымі для выканання на ўсёй тэрыторыі Беларусі.

Прадстаўнічы і заканадаўчы орган улады — Парламент — *Нацыянальны сход Рэспублікі Беларусь.* За Парламентам замацаваны функцыі абмеркавання і прыняцця законаў, дзяржаўнага бюджэту, кантроль за выкананнем бюджэту. Законы, прынятыя Парламентам, рэгулююць усе найважнейшыя сферы дзяржаўнага і грамадскага жыцця. Нацыянальны сход складаецца з дзвюх палат — *Палаты прадстаўнікоў* і *Савета Рэспублікі.* Выбранне дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў ажыццяўляецца ўсім насельніцтвам рэспублікі, якое валодае выбарчымі правамі і падзяляецца на адпаведныя акругі. Савет Рэспублікі з'яўляецца палатай тэрытарыяльнага прадстаўніцтва. Яго члены выбіраюцца ад абласцей, г. Мінска, а таксама назначаюцца Прэзідэнтам.

Выканаўчую ўладу ў нашай краіне ажыццяўляе Урад — *Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь.* У сваёй дзейнасці ён падпарадкаваны Прэзідэнту і адказны перад Парламентам. Урад складаецца з Прэм'ер-міністра, намеснікаў Прэм'ер-міністра і міністраў.

Судовая ўлада належыць судам і ажыццяўляецца незалежна ад заканадаўчай і выканаўчай улады. Судовая сістэма Рэспублікі Беларусь уключае Вярхоўны Суд Рэспублікі Беларусь, абласныя, Мінскі гарадскі, раённыя (гарадскія), а таксама ваенныя суды. Да гаспадарчых судоў адносяцца Вышэйшы Гаспадарчы Суд Рэспублікі Беларусь, гаспадарчыя суды абласцей і прыраўнаваныя да іх суды, гаспадарчыя суды гарадоў і раёнаў. Кантроль за канстытуцыйнасцю прававых актаў у дзяржаве ажыццяўляе Канстытуцыйны Суд Рэспублікі Беларусь.

Згодна з новай рэдакцыяй Канстытуцыі пацвярджаецца, што Рэспубліка Беларусь з'яўляецца ўнітарнай дэмакратычнай сацыяльнай прававой дзяржавай. Яна падзяляецца на адміністрацыйна-тэрытарыяльныя адзінкі — вобласці, кожная з якіх не мае статусу самастойнага дзяржаўнага ўтварэння. Разам з тым вобласці валодаюць пэўнай самастойнасцю ў вырашэнні многіх пытанняў, спалучаюць агульнадзяржаўныя інтарэсы з інтарэсамі мясцовага насельніцтва.

У новай рэдакцыі Канстытуцыі Рэспубліка Беларусь абвешчана *сацыяльнай дзяржавай.* Гэта значыць, што асноўнай мэтай

Рэспублікі Беларусь з'яўляецца стварэнне ўмоў для свабоднага і годнага развіцця асобы, рэалізацыі яе інтарэсаў, якія адлюстраваны ў законных формах і ў суадносінах з інтарэсамі грамадства, нацыі і дзяржавы. Гэта адна з самых адметных рыс Канстытуцыі.

**Выбары Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь і рэспубліканскі рэферэндум 2004 г.** Умацаванню стабільнасці ў краіне садзейнічала правядзенне ў **2001 г.** выбараў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, якія мелі альтэрнатыўны характар, бо ў іх прынялі ўдзел тры кандыдаты на дадзеную пасаду. 75,6 % выбаршчыкаў аддалі свае галасы за А. Р. Лукашэнку, які быў абраны Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь на другі тэрмін.

Сведчаннем умацавання ўнутрыпалітычнага становішча Рэспублікі Беларусь, адзінства яе народа на рубяжы XX—XXI стст. сталі вынікі рэспубліканскага рэферэндуму **17 кастрычніка 2004 г.** Пытанне, якое было вынесена на агульнанароднае абмеркаванне: «Ці дазваляеце Вы першаму Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь Лукашэнку А. Р. удзельнічаць у якасці кандыдата ў Прэзідэнты Рэспублікі Беларусь у выбарах Прэзідэнта і ці прымаеце частку першую артыкула 81 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь у наступнай рэдакцыі: "Прэзідэнт выбіраецца на пяць год непасрэдна народам Рэспублікі Беларусь на аснове ўсеагульнага, свабоднага, роўнага і прамога выбарчага права пры тайным галасаванні"?», — падтрымала 79,4 % ад ліку грамадзян, якія былі ўнесены ў спісы для галасавання. На аснове вынікаў галасавання з артыкула 81-га Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь была выключана яго другая частка: «Адна і тая ж асоба можа быць Прэзідэнтам не больш за два тэрміны».

### ГІСТАРЫЧНАЯ ДАВЕДКА

На выбарах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, якія адбыліся ў **2006 г.**, у галасаванні прынялі ўдзел 92,9 % выбаршчыкаў. Сярод чатырох кандыдатур, якія прымалі ўдзел у выбарах, за А. Р. Лукашэнку прагаласавала 83 % выбаршчыкаў, што складае больш за 5,5 млн грамадзян нашай краіны. Такім чынам, у выніку выбараў на пасаду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь быў абраны А. Р. Лукашэнка.

У прэзідэнцкіх выбарах **2010 г.** удзельнічала 10 кандыдатаў на пасаду Кіраўніка дзяржавы. Сярод 90,6 % выбаршчыкаў, якія прынялі ўдзел у галасаванні, 79,6 % аддалі свае галасы за дзеючага Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнку.

ГІСТАРЫЧНЫ ДАКУМЕНТ

Выступаючы з навагоднім зваротам да беларускага народа 31 снежня 2010 г., А. Р. Лукашэнка падкрэсліў:

«...я перш за ўсё жадаў бы звярнуцца да абсалютнай большасці беларускага народа. Менавіта дзякуючы вам я маю ўнікальную магчымасць... увайсці ў дамы беларусаў... з віншаваннямі і пажаданнямі міру і дабра.

Свае віншаванні я таксама адрасую нашай меншасці. ...вас успрымаю як неад'емную частку нашага грамадства, са сваімі мэтамі, поглядамі і імкненнямі. Вы маеце свой пункт гледжання, асобае разуменне... развіцця нашай краіны. Гэта ваша права, якое адняць у вас ніхто не можа.

...ваша меркаванне нам неабыякава... Мы будзем шукаць шляхі да вашага розуму і вашых сэрцаў, бо інакш немагчыма аб'яднаць грамадства, захаваць краіну і вырашыць задачы, якія стаяць перад намі».

**Асновы ідэалогіі беларускай дзяржавы.** *Ідэалогія беларускай дзяржавы* — гэта сукупнасць ідэй і ідэалаў, якія адлюстроўваюць нацыянальна-гістарычныя традыцыі і каштоўнасці беларускага народа, адпавядаюць мэтам і асаблівасцям развіцця беларускага грамадства. Прававой асновай ідэалогіі беларускай дзяржавы з'яўляецца Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь. Палітычнай асновай ідэалогіі лічыцца прынцып падзелу ўлад, палітычны плюралізм і народаўладдзе. Эканамічную аснову ідэалогіі беларускай дзяржавы складае беларуская мадэль сацыяльна-эканамічнага развіцця і такія паняцці, як праца і ўласнасць. Светапоглядную аснову ідэалогіі беларускай дзяржавы складае агульнанацыянальная (нацыянальна-дзяржаўная) ідэя, якая грунтуецца на ўсведамленні народам сваёй дзяржаўнасці і першаснасці нацыянальных інтарэсаў, а таксама такія паняцці, як незалежнасць, стабільнасць, дабрабыт. Вызначэнне агульнанацыянальнай ідэі спалучае ў сабе агульначалавечыя каштоўнасці з нацыянальна-дзяржаўнымі інтарэсамі Рэспублікі Беларусь. Сацыяльна-гуманістычная аснова ідэалогіі беларускай дзяржавы прадугледжвае рэалізацыю прынцыпаў сацыяльнай справядлівасці і сацыяльнай роўнасці, апору на развіццё чалавечага патэнцыялу і сацыяльны прагрэс. Культурна-гістарычная аснова ідэалогіі беларускай дзяржавы абапіраецца на гістарычныя формы дзяржаўнасці на тэрыторыі Беларусі і беларускай дзяржаўнасці ў XX ст., на духоўнасць і самабытнасць беларускага народа, яго патрыятызм і грамадзянскасць, міралюб-

ства і талерантнасць. Геапалітычная аснова ідэалогіі беларускай дзяржавы грунтуецца на прынцыпе нейтралітэту, міжнародным супрацоўніцтве і нацыянальнай бяспецы.

Для беларускага грамадства найважнейшымі ідэалагічнымі арыенцірамі з'яўляюцца традыцыйныя каштоўнасці: працавітасць і пачуццё абавязку, спачуванне і ўзаемадапамога, павага да старэйшых і клопат пра дзяцей, вера і патрыятызм.

ГІСТАРЫЧНЫ ДАКУМЕНТ

З прамовы А. Р. Лукашэнкі на цырымоніі ўступлення на пасаду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Верасень 2001 г.:

«Нас усіх павінна аб'ядноўваць любоў да Радзімы... У нас ёсць кансалідуючая грамадства адзіная ідэя — пабудаваць моцную і квітнеючую Беларусь, жыць у міры і згодзе, супрацоўнічаць з усімі краінамі і народамі.

Беларусь — адкрытая, дэмакратычная, еўрапейская дзяржава са сваёй гісторыяй, багатай культурай, працавітым і дружалюбным народам. Нам не трэба чужога. Свой дастатак мы ствараем самі, сваёй працай, энергіяй, інтэлектуальнымі сіламі.

...Час прыйшоў не раскідваць, а збіраць каменне, каб будаваць храм — нашу адзіную Айчыну, нашу Беларусь.

Дзеля гэтага нам патрэбна паглыбіць у грамадстве атмасферу паразумення, узаемадапамогі, міласэрнасці і добразычлівасці. Гэта святыя маральныя каштоўнасці, да якіх стагоддзямі заклікае людзей хрысціянская вера...»

**Палітычныя партыі і грамадскія аб'яднанні.** На 1 студзеня 2011 г. у Беларусі зарэгістравана 15 палітычных партый, 36 прафесіянальных саюзаў, звыш 2300 грамадскіх аб'яднанняў (сярод іх звыш 200 міжнародных, каля 700 рэспубліканскіх, астатнія — мясцовыя), 75 фондаў, у тым ліку 8 міжнародных. Утварэнне палітычных партый і грамадскіх аб'яднанняў сведчыць пра глыбокія змены ў грамадска-палітычным жыцці і развіцці дэмакратыі.

Сярод дзеючых партый можна ўмоўна вылучыць некалькі палітычных кірункаў.

Найбольшымі па колькасці членаў з'яўляюцца партыі камуністычнага кірунку — Камуністычная партыя Беларусі (КПБ), Партыя камуністаў Беларуская (ПКБ). Камуністычная партыя Беларусі абвясціла сябе пераемніцай КПСС і вызначыла свае мэты і задачы. Яны заключаюцца ў арыентацыі грамадства на сацыялістычны шлях развіцця, які вядзе да стварэння бяскласавага гра-

мадства сацыяльнай справядлівасці, адраджэнні на добраахвотнай аснове дзяржаўнага саюза савецкіх народаў.

Паміж дзвюма камуністычнымі партыямі ідуць спрэчкі па пытаннях палітычнага і сацыяльна-эканамічнага развіцця нашай краіны. Разам з тым іх прыхільнікі ў сваёй большасці падтрымліваюць асноўныя напрамкі цяперашняй дзяржаўнай палітыкі ў сучаснай Беларусі, рэформы ў інтарэсах чалавека працы, развіццё інтэграцыйных працэсаў з Расіяй. ПКБ у 2009 г. была перайменавана ў Беларускую партыю левых «Справядлівы мір».

Сацыял-дэмакратычны кірунак прадстаўляюць Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Грамада) і інш. Гэтыя партыі выступаюць за пераадоленне крызісных з'яў у эканоміцы, сацыяльную абарону інтарэсаў розных груп насельніцтва.

Ліберальны кірунак складаюць Аб'яднаная грамадзянская партыя і інш. АГП выступае за прыярытэт прыватных інтарэсаў, мінімізацыю ролі дзяржавы ў эканамічным жыцці грамадства, шырокамаштабную прыватызацыю дзяржаўнай уласнасці, у знешнепалітычнай сферы арыентуецца на Захад.

Да нацыянальна-дэмакратычнага кірунку адносіцца Партыя БНФ. У сваёй дзейнасці яна прытрымліваецца ідэі нацыянальна-культурнага адраджэння беларусаў. Частка прыхільнікаў гэтай партыі вызначаецца антыкамуністычнай накіраванасцю.

Большасць існуючых партый значнага ўплыву на палітычнае жыццё краіны не маюць. Гэта ў пэўнай ступені тлумачыцца тым, што з моманту ўзнікнення шматпартыйнасці галоўныя задачы развіцця нашай краіны былі звязаны з кансалідацыяй грамадства, забеспячэннем умоў для ўстойлівага сацыяльна-эканамічнага развіцця, чаму міжпартыйная барацьба не спрыяла.

Актыўна ўдзельнічае ў палітычных кампаніях рэспубліканскае грамадскае аб'яднанне «Белая Русь», утворанае ў 2007 г. Яно па стане на 2011 г. налічвала ў сваіх радах больш за 130 тыс. чалавек. Гэта аб'яднанне мае за мэту садзейнічаць дасягненню грамадскай згоды ў справе пабудовы моцнай і квітнеючай Беларусі, а таксама сацыяльна справядлівага грамадства, заснаванага на патрыятычных і маральна-духоўных каштоўнасцях беларускага народа.

Грамадзяне нашай рэспублікі на добраахвотнай аснове дзеля абароны сваіх працоўных правоў і інтарэсаў аб'ядноўваюцца ў прафесійныя саюзы, якія ўдзельнічаюць у распрацоўцы і рэаліза-

цыі сацыяльна-эканамічнай палітыкі дзяржавы. Агульная колькасць членаў Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі на пачатку 2007 г. складала звыш 4 млн чалавек, а ў складзе прафсаюзаў налічвалася больш за 93 % працоўных.

У 2002 г. быў утвораны Беларускі рэспубліканскі саюз моладзі (БРСМ), які з'яўляецца пераемнікам лепшых традыцый камсамола Беларусі і самым буйным аб'яднаннем моладзі, якое падтрымліваецца дзяржаўнай уладай Беларусі. Мэта БРСМ заключаецца ў стварэнні ўмоў для ўсебаковага развіцця моладзі, раскрыцця яе творчага патэнцыялу, садзейнічанні фарміраванню ў Беларусі грамадзянскай супольнасці. Па стане на 2010 г. рады БРСМ налічвалі каля 500 тыс. чалавек. Масавым дзіцячым грамадскім аб'яднаннем з'яўляецца Беларуская рэспубліканская піянерская арганізацыя. Яна заклікана дапамагчы кожнаму піянеру стаць грамадзянінам і сваімі справамі і ўчынкамі прыносіць карысць сабе, сям'і, Радзіме. Асноўныя прынцыпы ўдзельнікаў арганізацыі — справа, дабро, Радзіма, справядлівасць.

Актыўна дзейнічае адна з самых шматлікіх у краіне арганізацый — Беларускае грамадскае аб'яднанне ветэранаў, утворанае ў 1987 г. У сакавіку 2012 г. у яго складзе налічвалася 1,9 млн ветэранаў, у тым ліку 1,6 млн ветэранаў працы, 200 тыс. — Узброеных Сіл, 30,5 тыс. — Вялікай Айчыннай вайны.

Значную работу праводзіць Беларускае таварыства аховы прыроды. За сорак гадоў свайго існавання яно актыўна садзейнічала фарміраванню ў насельніцтва рэспублікі экалагічнага светапогляду, беражлівых адносін да прыроды, ахове жывёл і раслін, якія занесены ў Чырвоную кнігу.

Сярод шматлікіх фондаў найбольшую вядомасць мае Беларускі фонд міласэрнасці і здароўя. Ён з'яўляецца членам адпаведнага міжнароднага фонду, а таксама Еўрапейскага саюза суполак міласэрнасці, аказвае дапамогу сацыяльна неабароненым слаям насельніцтва. У знак прызнання выключных прафесійных якасцей вышэйшай узнагароды Міжнароднага камітэта Чырвонага Крыжа — медаля Флорэнс Найтынгейл — першай сярод медыцынскіх сясцёр міласэрнасці ў СНД удастоена ў 2008 г. Н. Блізнюк, якая 42 гады самаадданa працуе на гэтай пасадзе. У 2011 г. гэту ўзнагароду, што з'яўляецца вышэйшым сімвалам міжнароднага прызнання заслуг медыцынскіх сясцёр, атрымала сястра міласэрнасці Беларускага аб'яднання Чырвонага Крыжа Л. Лелікава.

Палітычныя партыі, грамадскія арганізацыі, органы мясцовага самакіравання, сродкі масавай інфармацыі, сям'я — гэта элементы грамадзянскай супольнасці, якая паступова фарміруецца ў нашай краіне. *Грамадзянская супольнасць* уяўляе сабой такі тып узаемаадносін паміж дзяржавай і грамадствам, пры якім правы грамадзян абаронены законам і ўлада перадае частку сваіх функцый мясцовым органам самакіравання. Кожнаму грамадзяніну ў нашай дзяржаве згодна з Канстытуцыяй гарантуюцца свабода поглядаў і ўдзел у вырашэнні дзяржаўных спраў. Таму кожны чалавек можа свядома зрабіць свой выбар ва ўзаемаадносінах з уладай: выкарыстаць права выбару свайго прадстаўніка ў мясцовы Савет дэпутатаў або Нацыянальны сход, удзельнічаць у рэферэндуме, падтрымаць пэўную палітычную партыю. Неад'емным элементам нацыянальнай мадэлі грамадзянскай супольнасці сталі Усебеларускія народныя сходы, якія лічацца пазапарламенцкай формай народнага самакіравання. Усебеларускія сходы ўвасабляюць у сабе гістарычны вопыт правядзення народных вечаў у Полацку і Тураве і сучасныя тэндэнцыі народаўладдзя (дэмакратызму). Усебеларускія сходы з'яўляюцца таксама формай справаздачы ўлады перад народам і кантролю грамадзянамі дзейнасці дзяржаўнага кіраўніцтва.

**Узаемаадносіны дзяржавы і рэлігійных канфесій.** Кожны грамадзянін Рэспублікі Беларусь мае права самастойна вызначаць свае адносіны да рэлігіі, прытрымлівацца пэўнага веравызнання або не вызнаваць ніякага. У Беларусі па стане на 1 студзеня 2010 г. налічвалася больш за 3 тыс. рэлігійных суполак, якія прадстаўлялі 25 канфесій і рэлігійных напрамкаў. У сучаснай поліканфесійнай структуры суполкі Беларускай Праваслаўнай Царквы складаюць каля 48 %, а Рымска-каталіцкай царквы — каля 16 %. Увогуле да хрысціянства адносіцца 20 рэлігійных напрамкаў з 25.

Першае месца па колькасці вернікаў і прыходаў займае Беларуская Праваслаўная Царква. Да 1992 г. у Беларусі былі адноўлены і заснаваны епархіі. Яны ўвайшлі ў склад заснаванага ў 1990 г. Беларускага Экзархата Рускай Праваслаўнай Царквы. Кіраўніцтва ажыццяўляе Сінод на чале з Мітрапалітам Мінскім і Слуцкім, Патрыяршым Экзархам усяе Беларусі Філарэтам. Мітрапаліт Філарэт узначальвае Інстытут тэалогіі імя святых Мяфодзія і Кірыла Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, заснава-

ны ў 2004 г. За свой шматгадовы ўклад у духоўнае адраджэнне беларусаў, умацаванне дружбы і братэрскіх сувязей паміж народамі, развіццё міжканфесійнага дыялогу ўдастоены звання «Герой Беларусі» (**3).


Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі Філарэт

Першаснасць праваслаўнай агульнасці і гістарычных каранёў беларускага і рускага народаў, з якой вырастае палітыка, была адзначана ў час візіту ў Беларусь у 2009 г. Свяцейшага Патрыярха Маскоўскага і ўсяе Русі Кірыла. Ён падкрэсліў, што сімвалам адзінай духоўнай рэальнасці з'яўляецца адзін з трох Сафійскіх сабораў, пабудаваны ў Полацку. Гэта адзінства забяспечвае суверэнітэт нашых дзяржаў і нашу нацыянальную дзяржаўную годнасць.

Адносіны дзяржавы і канфесій вызначаны Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь. Пры гэтым улічваецца ўплыў рэлігійных арганізацый на фарміраванне духоўных, культурных і дзяржаўных традыцый беларускага народа. Таму больш цесныя адносіны ў нашай дзяржавы склаліся з Беларускай Праваслаўнай Царквой. Сваёй дзейнасцю яна спрыяе ўмацаванню адзінства роднасных усходнеславянскіх народаў — беларускага, рускага і ўкраінскага, садзейнічае аднаўленню парушаных паміж імі ў выніку распаду СССР сувязей.

Акрамя праваслаўнай, актыўна дзейнічаюць такія традыцыйныя канфесіі, як рымска-каталіцкая, пратэстанцкая, уніяцкая, іўдзейская, мусульманская і інш. З 1988 г. пачалася рэгістрацыя каталіцкіх парафій як у заходніх, так і ва ўсходніх раёнах Беларусі. Рымска-каталіцкай царкве былі вернуты адабраныя раней дзяржавай культавыя будынкі, узрасла агульная колькасць дзеючых касцёлаў. Кіруючымі структурамі Рымска-каталіцкай царквы ў Беларусі сталі створаныя Папам Рымскім Янам Паўлам II Гродзенская, Пінская, Мінска-Магілёўская, Віцебская дыяцэзіі (**4). У 1996 г. адбылося адкрыццё першага Сінода Рымска-каталіцкай царквы ў Беларусі. У стадыі абмеркавання знаходзіцца праект Пагаднення паміж Беларуссю і Святым Прастолам, што дазволіць нашай краіне ў поўнай меры супрацоўнічаць з Рымска-



Архіепіскап Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі Тадэвуш Кандрусевіч

каталіцкай царквой. Наладжванню канфесійнага праваслаўна-каталіцкага дыялогу спрыяе дзейнасць ураджэнца Гродзеншчыны Архіепіскапа Мітрапаліта Мінска-Магілёўскай архіепархіі-мітраполіі, Апостальскага Адміністратара Пінскай рымска-каталіцкай епархіі Тадэвуша Кандрусевіча.

Важнай з'явай у канфесійнай палітыцы Рэспублікі Беларусь стала адкрыццё ўніяцкай абшчыны. У 1990 г. у Мінску была зарэгістравана першая ўніяцкая парафія. Значна пашырыліся дзейнасць і ўплыў пратэстанцкіх абшчын. Асаблівую ўвагу яны надаюць духоўнай рабоце з падлеткамі і моладдзю. Адбываецца адраджэнне іўдзейскай канфесіі, якая падзялілася на абшчыны артадаксальнага і прагрэсіўнага іўдаізму. Пашырылася колькасць мусульманскіх абшчын. У 1994 г. адбыўся Першы Усебеларускі з'езд мусульман, на якім было створана Мусульманскае рэлігійнае аб'яднанне Рэспублікі Беларусь.

Новыя ўзаемаадносіны, што склаліся паміж дзяржавай і рэлігійнымі арганізацыямі, удасканаленне і паслядоўнае выкананне рэлігійнага заканадаўства па пытаннях свабоды сумлення і веравызнання спрыялі фарміраванню якасна новай канфесіянальнай сітуацыі ў краіне. Сучасная Беларусь — адна з нешматлікіх краін, дзе няма канфліктаў на рэлігійнай глебе. Усе канфесіі дзейнічаюць ва ўмовах стабільнасці, міру, павагі і даверу паміж сабой.

***Вызначым асноўнае ў змесце параграфа.*** Паступовае станаўленне Рэспублікі Беларусь як прававой дзяржавы адбывалася праз рэалізацыю прынцыпу падзелу ўлады паміж яе заканадаўчай і выканаўчай галінамі. Канстытуцыйнае замацаванне палітычнай сістэмы Рэспублікі Беларусь адбылося ў выніку выбару, зробленага беларускім народам на рэспубліканскіх рэферэндумах 1995, 1996, 2004 гг. Гэта забяспечыла стабільнасць у развіцці нашага грамадства, яго паступальнае развіццё, збліжэнне інтарэсаў беларускай дзяржавы і ўсіх яе грамадзян. У нашай краіне паступова фарміруюцца элементы грамадзянскай супольнасці. Прынцыпова новыя рысы набыло ўзаемадзеянне ўлады і шматлікіх рэлігійных канфесій.

***Паняцці і тэрміны, якія трэба засвоіць:*** *Нацыянальны сход Рэспублікі Беларусь, Палата прадстаўнікоў, Савет Рэспублікі, Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь, сацыяльная дзяржава, ідэалогія беларускай дзяржавы, грамадзянская супольнасць.*

## ДАДАТКОВЫ МАТЭРЫЯЛ

****1.** З пастановы Вярхоўнага Савета «Аб правядзенні рэспубліканскага рэферэндуму ў Рэспубліцы Беларусь і мерах па яго забеспячэнні» 1996 г. змяшчаліся наступныя пытанні, якія былі ініцыяваны Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь:

1. Перанесці Дзень Незалежнасці Рэспублікі Беларусь (Дзень Рэспублікі) з 27 на 3 ліпеня — Дзень вызвалення Беларусі ад гітлераўскіх захопнікаў у Вялікай Айчыннай вайне.
2. Прыняць Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь 1994 г. са змяненнямі і дапаўненнямі (новая рэдакцыя Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь), прапанаванымі Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнкам.
3. Ці выступаеце Вы за свабодную, без абмежаванняў, куплю і продаж зямлі?
4. Ці падтрымліваеце Вы адмену смяротнага пакарання ў Рэспубліцы Беларусь?

Пытанні, якія былі ініцыяваны дэпутатамі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь:

5. Прыняць Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь 1994 г. са змяненнямі і дапаўненнямі, прапанаванымі дэпутатамі фракцый камуністаў і аграрыяў.
6. Ці выступаеце Вы за тое, каб кіраўнікі мясцовых органаў выканаўчай улады выбіраліся непасрэдна жыхарамі адпаведнай адміністрацыйна-тэрытарыяльнай адзінкі?
7. Ці згодны Вы, што фінансаванне ўсіх галін улады павінна ажыццяўляцца галосна і толькі з дзяржаўнага бюджэту?

Пытанні, прадугледжаныя пунктамі 1, 2, 5, 6, былі вынесены на рэферэндум, рашэнні якога з'яўляліся канчатковымі і мелі абавязковую сілу на ўсёй тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, а пытанні, прадугледжаныя пунктамі 3, 4, 7, выносіліся на кансультатыўны рэферэндум, рашэнні якога мелі рэкамендацыйны характар.

*Вызначце, якімі матывамі кіравалася большасць насельніцтва нашай рэспублікі, што падтрымала на рэспубліканскім рэферэндуме пра-*

*панову Прэзідэнта аб перанясенні Дня Незалежнасці Рэспублікі Беларусь (Дня Рэспублікі) з 27 на 3 ліпеня.*

****2. Вытрымкі з Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь 1994 г. са змяненнямі і дапаўненнямі (новая рэдакцыя)**

*Артыкул 1.* Рэспубліка Беларусь — унітарная дэмакратычная сацыяльная прававая дзяржава...

*Артыкул 2.* Чалавек, яго правы, свабоды і гарантыі іх рэалізацыі з'яўляюцца найвышэйшай каштоўнасцю і мэтай грамадства і дзяржавы...

*Артыкул 6.* Дзяржаўная ўлада ў Рэспубліцы Беларусь ажыццяўляецца на аснове падзелу яе на заканадаўчую, выканаўчую і судовую...

*Артыкул 79.* Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь з'яўляецца Кіраўніком дзяржавы, гарантам Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, правоў і свабод чалавека і грамадзяніна...

*Артыкул 90.* Парламент — Нацыянальны сход Рэспублікі Беларусь з'яўляецца прадстаўнічым і заканадаўчым органам Рэспублікі Беларусь.

Парламент складаецца з дзвюх палат — Палаты прадстаўнікоў і Савета Рэспублікі.

*Артыкул 91.* Склад Палаты прадстаўнікоў — 110 дэпутатаў. Выбранне... ажыццяўляецца... на аснове ўсеагульнага, свабоднага, роўнага, прамога выбарчага права пры тайным галасаванні.

Савет Рэспублікі з'яўляецца палатай тэрытарыяльнага прадстаўніцтва...

*Артыкул 106.* Выканаўчую ўладу ў Рэспубліцы Беларусь ажыццяўляе Урад — Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь — цэнтральны орган дзяржаўнага кіравання...

*Артыкул 109.* Судовая ўлада ў Рэспубліцы Беларусь належыць судам.

*Як рэалізаваны прынцып падзелу ўлады паміж яе заканадаўчай і выканаўчай галінамі згодна з Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь?*

****3. Культурна-гістарычнае асяроддзе**

Адным са старэйшых пастыраў Беларускай Праваслаўнай Царквы быў ураджэнец Віцебшчыны протаіерэй Віктар Бекарэвіч (1915—2002 гг.). 40 гадоў свайго жыцця правёў на Вілейшчыне ў вёсцы Латыгаль. Самастойную царкоўную дзейнасць пачаў яшчэ ў 1935 г. У час Вялікай Айчыннай вайны разам з сям'ёй знаходзіўся ў сваім прыходзе і вёў службу. Аказваў дапамогу партызанам і ваеннапалонным чырвонаармейцам,

якія збеглі з лагера, нягледзячы на тое, што за гэта пагражаў расстрэл. Пасля заканчэння вайны і да 1955 г. Латыгальская царква была адзінай у Беларусі, дзе адбываліся хрэсныя ходы. З 1960 г. у часы правядзення палітыкі ваяўнічага атэізму ўзначальваў прыход на Вайсковых могілках у Мінску. Будучы настаяцелем храма Святога Благавернага Вялікага Князя Аляксандра Неўскага, не дапусціў яго закрыцця. І храм, і могілкі — гэта месца, дзе непарыўна злучыліся дзве гераічныя старонкі гісторыі. На сценах царквы размешчаны мемарыяльныя пліты з імёнамі 118 воінаў-беларусаў, загінуўшых пры вызваленні Балгарыі ад турэцка-мусульманскага ўладарніцтва ў час руска-турэцкай вайны 1877—1878 гг. На могілках пахавана больш за 500 савецкіх афіцэраў, салдат, партызан, загінуўшых у час вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. А галоўным сэнсам жыцця айца Віктара стала 66-гадовае служэнне Богу і людзям, Айчыне і Праваслаўнай Царкве.



Протаіерэй Віктар Бекарэвіч

****4. Культурна-гістарычнае асяроддзе**

Ля вытокаў адраджэння Рымска-каталіцкай царквы ў Беларусі стаяў першы беларускі кардынал Казімір Свёнтак (1914—2011 гг.). Закончыўшы Вышэйшую духоўную акадэмію імя Фамы Аквінскага ў Пінску ў 1939 г., ён распачаў сваю службу ў Пружанах. Пасля ўз'яднання Заходняй Беларусі з БССР у час праследаванняў Царквы быў арыштаваны і 2 месяцы правеў у камеры смертнікаў у брэсцкай турме. Вынесены яму смяротны прысуд выканаць не паспелі — распачаліся баявыя дзеянні Вялікай Айчыннай вайны. У 1944 г. быў ізноў арыштаваны і асуджаны на 10 гадоў лагераў — на цяжкую фізічную працу, якую называлі ў тыя гады смерцю ў растэрміноўку ці сухім расстрэлам. Праводзіў тайныя службы нават знаходзячыся ў лагерах. У 1954 г. вярнуўся да дзейнасці святара ў Пінску. У 1991—2006 гг. узначальваў Мінска-Магілёўскую рымска-каталіцкую епархію,



Першы беларускі кардынал Казімір Свёнтак

быў Апостальскім Адміністратарам Пінскай рымска-каталіцкай епархіі (1991—2011). Дзякуючы яго намаганням вернікам быў вернуты касцёл Святых Сымона і Алены (Чырвоны касцёл) у Мінску, пачала працу Пінская вышэйшая духоўная семінарыя. У 1994 г. Папа Рымскі надаў яму сан кардынала, а ў 2004 г. прысудзіў тытул «Сведка веры», які маюць толькі некалькі чалавек у свеце.

## ПЫТАННІ І ЗАДАННІ

1. Дайце азначэнні наступным паняццям: *сацыяльная дзяржава, ідэалогія беларускай дзяржавы, грамадзянская супольнасць.*
2. Падрыхтуйце, карыстаючыся рэкамендаванай літаратурай, паведамленне пра асновы ідэалогіі беларускай дзяржавы і змест агульнанацыянальнай ідэі. Правядзіце дыскусію па гэтых пытаннях.
3. Растлумачце, чым была выклікана неабходнасць правядзення рэспубліканскага рэферэндуму, які адбыўся 24 лістапада 1996 г. Выкарыстайце дакумент № 82 хрэстаматыі.
4. Вызначце, якія прынцыпова важныя змяненні былі ўнесены ў Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь 1994 г. па выніках рэспубліканскага рэферэндуму 1996 г.
5. Вызначце сутнасць розных кірункаў, да якіх адносяцца палітычныя партыі, што існуюць у Беларусі.
6. Ахарактарызуйце Рэспубліку Беларусь як унітарную дэмакратычную прававую сацыяльную дзяржаву.
7. Ахарактарызуйце ўзаемаадносіны паміж дзяржавай і канфесіямі.
8. Дакажыце дзейснасць канстытуцыйнага палажэння аб тым, што народ з'яўляецца адзінай крыніцай улады ў Рэспубліцы Беларусь.
9. Якой вы хацелі б бачыць праграму Беларускага рэспубліканскага саюза моладзі, каб яна была сугучнай з вашымі жыццёвымі інтарэсамі?
10. Вызначце, у чым заключаецца пераемнасць і гістарычная роля Усебеларускіх сходаў.

# § 22—23. Асноўныя напрамкі сацыяльна-эканамічнага развіцця

**Вучэбная задача**

Вызначыць, у чым заключаецца сутнасць беларускай мадэлі сацыяльна-эканамічнага развіцця і вынікі яе рэалізацыі.

**Успомніце**

Што азначае паняцце «сацыяльная дзяржава»?

**Эканамічнае становішча Рэспублікі Беларусь у першай палове 1990-х гг. Пошук шляхоў пераходу да рынку.** Беларусь у час распаду СССР і ўтварэння СНД была адной з самых індустрыяльна развітых рэспублік. Яна лідзіравала сярод краін СНД па паказчыках даходу на душу насельніцтва. Крызіс у беларускай эканоміцы пачаўся пазней, чым у іншых рэспубліках СССР. Толькі ў 1991 г. у выніку падзення вытворчасці адбылося зніжэнне *валавага ўнутранага прадукту*, які ўяўляе сабой кошт выпрацаванага ўнутры краіны на працягу года канчатковага прадукту (прадукцыі, тавараў, паслуг).

З распадам СССР адбыўся разрыў адзінай эканамічнай прасторы, што мела адмоўны вынік для краін СНД. Эканамічныя сувязі паміж былымі савецкімі рэспублікамі разбурыліся. Адбылося падзенне ўзроўню паказчыкаў прамысловай вытворчасці і сельскай гаспадаркі. Гэта прывяло да рэзкага зніжэння даходаў насельніцтва, яго грашовыя зберажэнні абясцэніліся ў сувязі з высокай інфляцыяй.




Грашовыя адзінкі Рэспублікі Беларусь. *1990-я гг.*

Спыніць такія праявы эканамічнага крызісу ў ходзе рэалізацыі кур-

су на паскарэнне сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны ў гэты перыяд не атрымалася. Ва ўмовах распаду СССР кожная былая саюзная рэспубліка павінна была шукаць свой выхад з крызісу. Таму прыярытэтным кірункам дзейнасці Урада Беларусі стаў пошук шляхоў пераадолення крызісных з'яў і аднаўлення гаспадарчых сувязей паміж былымі савецкімі рэспублікамі на новай рыначнай аснове. З гэтай нагоды была распрацавана праграма пераходу ад каманднa-адміністрацыйнай сістэмы кіравання народнай гаспадаркай да рыначнай эканомікі.

*Рыначная сістэма эканамічных адносін* забяспечвае эфектыўнае функцыянаванне гаспадаркі на аснове зацікаўленасці таваравытворцаў у атрыманні прыбытку. Вызначальнай рысай рыначных адносін з'яўляецца арыентацыя на попыт спажыўцоў ва ўмовах пастаяннага перавышэння прапановы тавараў. Гэта выклікае канкурэнцыю (спаборніцтва) таваравытворцаў за рынак збыту сваёй прадукцыі, вымушае іх дабівацца высокай якасці тавараў і паслуг, улічваць новыя тэхнічныя дасягненні (**1).

У пачатку 1990-х гг. праявамі рыначных адносін у Беларусі сталі ўвядзенне свабодных цэн на пераважную большасць тавараў і паслуг, дазвол арэнды і індывідуальнай працоўнай дзейнасці, станаўленне прадпрымальніцкіх, банкаўскіх і камерцыйных структур. Пачалося правядзенне *прыватызацыі* — раздзяржаўлення, перадачы аб'ектаў з дзяржаўнай уласнасці ў прыватную.

Аднак рэфармаванне народнай гаспадаркі ў гэты перыяд праводзілася павольна, непаслядоўна, недастаткова прадумана і неэфектыўна. За 1991—1994 гг. выпуск прамысловай прадукцыі скараціўся больш чым на 30 %. Рэзка знізіліся даходы насельніцтва, якія не адпавядалі неабходным расходам на тавары і прадукты першай неабходнасці. У 1994 г. за мяжой пражытачнага мінімуму апынулася больш за 60 % насельніцтва.

**Распрацоўка беларускай мадэлі сацыяльна-эканамічнага развіцця. Сацыяльна арыентаваная рыначная эканоміка**. У сувязі з ахапіўшым краіну глыбокім эканамічным крызісам і гіперінфляцыяй галоўнай задачай Урада ў сярэдзіне 1990-х гг. стала ажыццяўленне праграмы вываду эканомікі краіны з крызісу. У 1996 г. была распрацавана Нацыянальная стратэгія ўстойлівага развіцця Рэспублікі Беларусь да 2010 г. Пры *ўстойлівым развіцці* задавальненне патрэб цяперашняга пакалення адбываецца без ушчам-

лення магчымасцей будучых пакаленняў. У **1996 г.** на Першым Усебеларускім народным сходзе былі зацверджаны «Асноўныя напрамкі сацыяльна-эканамічнага развіцця Рэспублікі Беларусь на 1996—2000 гады». У якасці галоўных задач вылучаліся рост экспарту беларускіх тавараў, будаўніцтва жылля для жыхароў горада і вёскі, забеспячэнне насельніцтва прадуктамі харчавання. Галоўны напрамак дзейнасці ў галіне эканомікі вызначыў і Урад Рэспублікі Беларусь.

ГІСТАРЫЧНЫ ДАКУМЕНТ

У праграме дзейнасці Урада Рэспублікі Беларусь, прынятай у 1997 г., адзначалася: «У якасці нацыянальнай мадэлі развіцця Рэспублікі Беларусь вызначана сацыяльна арыентаваная рыначная эканоміка, якая павінна спалучаць... перавагі рыначнай канкурэнцыі і эфектыўнай сістэмы сацыяльнай абароны, ідэі рыначнага самарэгулявання і дзяржаўнага кіравання».

*Сацыяльна арыентаваная рыначная эканоміка* ў якасці беларускай мадэлі развіцця мае свае характэрныя рысы. Сярод іх — суіснаванне дзяржаўнага і прыватнага сектараў эканомікі; прыватызацыя як сродак пошуку тых, хто зацікаўлены ў доўгатэрміновым развіцці прадпрыемстваў з сацыяльнай абаронай іх працаўнікоў; павышэнне канкурэнтаздольнасці айчынных тавараў; забеспячэнне эканамічнай бяспекі дзяржавы; павышэнне матэрыяльнага дабрабыту насельніцтва; развіццё эканамічных сувязей з краінамі СНД.

У эканамічнай палітыцы першапачаткова была зроблена стаўка не на падтрыманне дробнага і сярэдняга бізнесу, а на захаванне і мадэрнізацыю буйных прадпрыемстваў, што захаваліся з часоў СССР. Важнае значэнне мела дзяржаўнае фінансаванне буйных прамысловых прадпрыемстваў і калгасаў. Дзякуючы намаганням улады ўдалося прадухіліць «абвальную» прыватызацыю, што адбывалася ў іншых краінах СНД. У Беларусі прыватызацыя праводзілася з мэтай укаранення ў вытворчасць эфектыўных метадаў кіравання прадпрыемствамі.

Прыватны сектар эканомікі быў падпарадкаваны дзяржаўным інтарэсам. На пачатак 2001 г. у Беларусі было зарэгістравана больш як 60 тыс. прадпрыемстваў з недзяржаўнай формай уласнасці і амаль 200 тыс. індывідуальных прадпрымальнікаў. Прадпрыем-

ствы з недзяржаўнай уласнасцю ў гэты перыяд выпускалі каля 40 % прамысловай прадукцыі.

Найбольш значныя вынікі былі дасягнуты ў будаўніцтве, якое разглядалася як прыярытэтны кірунак развіцця эканомікі.

Праводзілася дзяржаўная палітыка, накіраваная на абарону інтарэсаў насельніцтва, аказанне дапамогі тым, хто адчуваў у ёй патрэбу, у прыватнасці пенсіянерам і малазабяспечаным грамадзянам. Ставілася задача паляпшэння ўмоў аховы здароўя і атрымання адукацыі.

Быў распрацаваны курс на правядзенне эканамічнай *інтэграцыі* Беларусі — збліжэння і аб'яднання ў адзінае цэлае ў эканамічнай сферы з краінамі СНД і ў першую чаргу з Расіяй. На долю Расіі прыходзілася палова знешнегандлёвага абароту Беларусі. Неабходнасць інтэграцыі для Беларусі была абумоўлена эканамічнымі і гістарычнымі абставінамі і накіроўвалася на аднаўленне постсавецкай эканамічнай прасторы дзеля захавання традыцыйных рынкаў збыту беларускай прадукцыі. Адным з рашаючых фактараў інтэграцыі з'яўлялася сыравінная і энергетычная залежнасць Беларусі.

Выкананне асноўных напрамкаў сацыяльна-эканамічнага развіцця Рэспублікі Беларусь на 1996—2000 гг. дазволіла нашай краіне першай на постсавецкай прасторы пераадолець крызісныя тэндэнцыі ў эканоміцы і аднавіць у 2000 г. узровень вытворчасці прамысловай прадукцыі 1990 г. Разам з тым заставалася невырашанай праблема структурнай перабудовы прамысловасці, дзе адбывалася вымыванне высокатэхналагічнай прадукцыі, павелічэнне долі стратных прадпрыемстваў, нарошчванне аб'ёмаў вытворчасці ва ўмовах адсутнасці попыту на яе і затаварванне складоў.

Увогуле, у другой палове 1990-х гг. рэалізоўвалася стратэгія эканамічнага развіцця, арыентаваная на аднаўленне пазіцый Беларусі ў эканамічнай галіне, дасягнутых яшчэ ў савецкі час. Для рэалізацыі гэтай стратэгіі выкарыстоўвалася, галоўным чынам, сістэма планавання, якая грунтавалася на вызначэнні дзяржавай планавых сацыяльна-эканамічных паказчыкаў, рэгуляванні цэнаўтварэння. Гэта азначала, што ў аснове беларускай мадэлі эканамічнага развіцця знаходзілася наяўнасць эфектыўнай дзяржаўнай улады, якая вызначала асноўныя кірункі развіцця эканомікі, забяспечвала сацыяльную справядлівасць і грамадскі парадак у краіне.


Найважнейшыя аб'екты прамысловасці, транспарту, адукацыі, культуры і спорту, створаныя ў Беларусі ў 1990—2006 гг.
Беларускі ўчастак газапровода «Ямал — Заходняя Еўропа» (пачатак будаўніцтва — 1997 г., пачатак эксплуатацыі — 1999 г.)
Граніцы
Рэспублікі Беларусь
абласцей
Мурагі
Полацк
Наваполацк
Віцебск
Міжнародны фестываль мастацтваў «Славянскі базар» (з 1992 г.)
Паставы
Мемарыяльны ансамбль воінам Беларускай пагранічнай акругі, загінуўшым у першыя дні Вялікай Айчыннай вайны (2004)
Смаргонь
Гісторыка-культурны комплекс «Лінія Сталіна» (2005)
Орша
з Расіі
Маладзечна
Спартыўны комплекс «Сілічы» (2005)
Ліда
Заслаўе
МІНСК
Магілёў
Лідскі замак
Мірскі замак
(каталіцкая)
Гродна
Нёман
Навагрудак
Баранавічы
Нясвіж
ВНУ
Дняпро
Бярэзіна
у краіны Зах. Еўропы
Жыровічы
(праваслаўная)
Нясвіжскі замак
Храм-помнік ахвярам Чарнобыля (праваслаўная царква, эвакуіраваная з зоны адсялення)
Іванава
Пінск
Брэст
(каталіцкая)
Тураў
Прыпяць
Рэчыца
Гомель
Вытворчасць
аўтобусаў, тралейбусаў, трамваяў
міні-трактароў
будаўніча-дарожных машын
тэлевізараў з вадкакрышталічнымі экранамі
DVD-прайгравальнікаў
мікрахвалевых печаў
пральных машын
Адзінкавая вытворчасць асабліва складанай тэхнікі (сумесна з Расіяй)
суперкамп'ютар
касмічны апарат (спадарожнік)
Помнікі архітэктуры, па рэстаўрацыі якіх праведзена значная работа
Лідскі замак
адкрыты ў 2005 г.
Мірскі замак
занесены ў спіс Сусветнай спадчыны ЮНЕСКА
Асобныя помнікі дзеячам беларускай гісторыі і культуры
Асобныя помнікі воінам-афганцам
Вышэйшыя навучальныя ўстановы
дзяржаўныя
недзяржаўныя
Баранавіцкі дзяржаўны ўніверсітэт, Палескі дзяржаўны ўніверсітэт
Профіль іншых ВНУ
медыцынскі
радыётэхнічны
камерцыі, фінансаў, кіравання і права
сувязі
авіяцыйны
экалагічны
камандна-інжынерны (МНС)
духоўная семінарыя
Жаночы інстытут «Энвіла»

**Рэалізацыя беларускай мадэлі сацыяльна-эканамічнага развіцця.** Пераадоленне крызісу 1990-х гг. дазволіла вывесці краіну ў першым дзесяцігоддзі XXI ст. на шлях устойлівага развіцця. У **2001 г.** на Другім Усебеларускім народным сходзе былі прыняты асноўныя палажэнні Праграмы сацыяльна-эканамічнага развіцця Рэспублікі Беларусь на 2001—2005 гг. Гэтыя гады сталі найважнейшым этапам у дасягненні стратэгічнай мэты сацыяльна-эканамічнага развіцця — павышэння дабрабыту народа і набліжэння ўзроўню яго жыцця да ўзроўню жыцця насельніцтва эканамічна развітых еўрапейскіх дзяржаў (**2). Стратэгічным курсам стаў лозунг «За моцную і квітнеючую Беларусь». Выкананне праграмы вывела нашу краіну на шлях эканамічнага росту, тэмпы якога перавышалі аналагічныя паказчыкі вядучых краін СНД. Так, па вытворчасці мяса, малака, бульбы на душу насельніцтва наша краіна ў 2005 г. стала лідарам у СНД.

### ГІСТАРЫЧНАЯ ДАВЕДКА

За выключныя заслугі ў сацыяльна-эканамічным развіцці краіны шэраг грамадзян былі ўдастоены звання «Герой Беларусі». Сярод іх — генеральны дырэктар вытворчага аб'яднання «БелАЗ» П. П. Марыеў (2001 г.). «БелАЗ» уваходзіць у лік вядучых сусветных канцэрнаў па вытворчасці кар'ернай тэхнікі. Заводу належыць каля 30 % сусветнага рынку кар'ерных самазвалаў. Тут выраблены самазвал грузападымальнасцю 360 тон, распрацаваны беспілотны 130-тонны самазвал, які кіруецца аператарам на адлегласці.

Званне «Герой Беларусі» атрымаў у 2006 г. Генеральны канструктар па аўтамабільнай тэхніцы Рэспублікі Беларусь М. С. Высоцкі, які атрымаў на Захадзе паважлівае імя Майкл Грузавік. Яго імя шырока вядома ў галіне машынабудавання. Пры яго ўдзеле створана шэсць пакаленняў магістральных аўтапаяздоў «МАЗ», якія адпавядаюць патрабаванням міжнародных стандартаў і прызначаны для выкарыстання на транскантынентальных транспартных калідорах.

Старшыня праўлення Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь (па стане на 2006 г.) П. П. Пракаповіч быў узнагароджаны медалём Героя Беларусі за ўклад у забеспячэнне ўстойлівых тэмпаў эканамічнага развіцця. Вышэйшай ступені адзнакі былі ўдастоены працаўнікі сельскагаспадарчай вытворчасці. Першым Героем Беларусі сярод прадстаўнікоў аграрнай сферы стаў у 2001 г. старшыня сельскагаспадарчага вытворчага кааператыва «Агракамбінат “Сноў”» Нясвіжскага раёна М. А. Карчміт. Ён пераняў слаўную эстафету ад свайго папярэдніка, старшыні створанага ў 1951 г. і вядомага ва ўсім Савецкім Саюзе калгаса імя Калініна, Героя Сацыялістычнай Працы Я. В. Аляксанкіна, які кіраваў калгасам 37 гадоў. «Агракамбінат “Сноў”», створаны ў 1994 г., стаў сапраўднай візітоўкай агра-




Магістральны грузавік «МАЗ»




360-тонны самазвал «БелАЗ»

прамысловага комплексу нашай краіны. На працягу 22 гадоў, з 1972 па 1995 г., узначальваў аграпрамысловы калгас-камбінат «Прагрэс» А. І. Дубко, які стаў Героем Сацыялістычнай Працы. Затым працаваў старшынёй Гродзенскага абласнога выканаўчага камітэта. За выключныя заслугі перад дзяржавай і грамадствам Аляксандр Дубко ўдастоены звання «Герой Беларусі» (пасмяротна). Званне Героя Беларусі атрымаў у 2006 г. старшыня сельскагаспадарчага вытворчага кааператыва «Прагрэс-Верцялішкі» Гродзенскага раёна В. А. Равяка, які на аснове дасягненняў свайго славутага папярэдніка вывеў прадпрыемства ў лік лепшых у краіне, ператварыўшы яго ў школу перадавога гаспадарчага вопыту. Сярод аграрыяў, удастоеных звання «Герой Беларусі» у 2001 г., быў старшыня сельскагаспадарчага прадпрыемства «Кастрычнік» Гродзенскага раёна В. І. Крамко, які ўзначальваў прадпрыемства 25 гадоў. Яго любімая фраза — «Усё пачынаецца ад зямлі». У яго быў пастаянны клопат — «каб зямля радзіла і працаўнікі жылі ў дастатку».

Прынятая Трэцім Усебеларускім народным сходам у **2006 г.** Праграма сацыяльна-эканамічнага развіцця Рэспублікі Беларусь на 2006—2010 гг. была накіравана на забеспячэнне сацыяльна-эканамічнага развіцця нашай краіны ў рамках паступовага пераходу да постындустрыяльнага інфармацыйнага грамадства. Галоўнай мэтай такога развіцця застаецца далейшы рост дабрабыту насельніцтва на аснове павышэння канкурэнтаздольнасці эканомікі і стварэння дзяржавы, зручнай для жыцця людзей. Дэвіз пяцігодкі — «Дзяржава для народа». У 2006 г. была прынята адпаведная Дырэктыва Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь № 2 «Аб мерах па далейшай дэбюракратызацыі дзяржаўнага апарату». 2010 г. быў абвешчаны Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Годам якасці. Гэта азначала, што асноўнымі прыярытэтамі у выкананні планаў пяцігодкі сталі якасць тавараў і паслуг, якасць кіравання і якасць жыцця людзей.



У час работы Трэцяга Усебеларускага народнага сходу. Ветэран Вялікай Айчыннай вайны, Герой Савецкага Саюза Р. К. Дзянісенка разам з дэлегатамі сходу. *2006 г.*

Вынікамі развіцця нашай краіны ў 2006—2010 гг. сталі высокія тэмпы росту валавага ўнутранага прадукту. Больш 10 % гадавога прыросту дала прамысловасць. Па тэмпах росту вытворчасці асноўных відаў сельскагаспадарчай прадукцыі ў разліку на душу насельніцтва Беларусь займала ў гэтыя гады першае месца сярод краін СНД. Выконвалася праграма будаўніцтва аграгарадкоў, ажыццяўлялася Дзяржаўная праграма адраджэння і развіцця вёскі на 2005—2010 гг. Яе мэта заключалася ва ўдасканаленні аграпрамысловага комплексу за кошт прыцягнення ў аграрную галіну рэсурсаў прамысловых прадпрыемстваў, айчыннага капіталу і тэхналагічнага пераасняшчэння сельскагаспадарчай вытворчасці. Трэба адзначыць, што меры дзяржавы па падтрымцы сельскай гаспадаркі, у тым ліку фінансавыя, прымаліся ў складаных умовах, звязаных з дыспарытэтам цэн і рэзкім ростам іх на энерганосьбіты з пачатку 2007 г. Так, калі ў 1990 г., прадаўшы 1 т малака, можна было купіць 3,6 т паліва, то ў 2007 г. для таго, каб купіць 1 т паліва, патрэбна было прадаць 4 т малака. У 1990 г., каб купіць зерняўборачны камбайн, неабходна было прадаць 160 т зерня, а ў 2007 г. — каля 2 тыс. т. У гэтых умовах важную ролю набыло выкананне Дзяржаўнай праграмы ўстойлівага развіцця вёскі, разлічанай на 2011—2015 гг. Яна арыентавана на паступовае сацыяльна-эканамачнае развіццё вёскі і паляпшэнне яе дэмаграфічнай сітуацыі на аснове павышэння эканамічнай эфектыўнасці аграпрамысловага комплексу, развіцця прадпрымальніцкай ініцыятывы, дасягненне збалансаванасці ўнутранага харчовага рынку, нарошчвання экспартнага патэнцыялу, павышэння даходаў сельскага насельніцтва.

Значныя поспехі былі дасягнуты ў сацыяльнай сферы. Інтэнсіўна адбывалася будаўніцтва жылля. Узровень рэгіструемага беспрацоўя, максімум якоганазіраўся ў 2003 г. (3,1 % ад эканамічна актыўнага працаздольнага насельніцтва) знізіўся ў 2010 г. да са-

цыяльна дапушчальнай мяжы ў 0,9 %. Узровень беднасці з 47 % у 1999 г. знізіўся да 6 % у 2008 г. Так, па даных ААН, у Беларусі на 2 долары ў дзень у 2007 г. пражывала менш 2 % насельніцтва. Па абагуленых паказчыках сацыяльна-эканамічнага развіцця, звязаных з індэксам развіцця чалавечага патэнцыялу (ахова і стан здароўя, стан адукацыі і ўзровень пісьменнасці) Беларусь у 2010 г. заняла 61-е месца, а па індэксе дабрабыту — 54-е месца сярод 182 краін свету, апярэдзіўшы ўсе краіны СНД. У 2011 г. Беларусь па індэксе чалавечага развіцця аказалася на 65 месцы сярод 187 краін свету, уваходзячы ў групу краін з высокім узроўнем чалавечага развіцця. У гэтай жа групе краін, напрыклад, Расія — на 66 месцы, Казахстан — на 68, Украіна — на 76 месцы. (**3)

На шэрагу паказчыкаў сацыяльна-эканамічнага развіцця адмоўна адбіўся сусветны фінансава-эканамічны крызіс, які адбыўся ў 2008 г. Перад пачаткам крызісу тэмпы росту беларускай эканомікі складалі амаль па 10 % на працягу трох гадоў. Аднак у 2009 г. адносна 2008 г. яны запаволіліся, знізіліся паказчыкі экспарту айчынных тавараў. Ва ўмовах валютнага крызісу і нестабільнасці валют была праведзена *дэвальвацыя* беларускага рубля — паніжэнне яго курса ў адносінах да замежных валют. Рэзкае зніжэнне курса рубля было выклікана дыспарытэтам (розніцай) цэн на тавары ўнутры краіны і па-за яе межамі, г. зн. Беларусь купляла за мяжой значна больш, чым прадавала.

Эканоміка нашай краіны апынулася ў «нажніцах» рэзкага росту цэн на энерганосьбіты і неабходнасці падтрымкі аб'ёмаў вытворчасці і продажу айчынных тавараў на экспарт. Рост валавага ўнутранага прадукту выкарыстоўваўся для забеспячэння будаўніцтва жылля, тэхналагічнага абнаўлення і рэканструкцыі вытворчасці. Для гэтага ва ўмовах дэфіцыту ўласных сыравінных рэсурсаў іх прыходзілася набываць за кошт увозу нафты, газу, сыравіны і матэрыялаў, камплектуючага абсталявання, што выклікала адмоўнае сальда (розніцу паміж коштам экспарту і імпарту) у знешнім гандлі.

У сярэдзіне 2011 г. узнік востры дэфіцыт валюты, які насіў пераважна ўнутраны характар. Утварыўся відавочны дысбаланс паміж прадукцыйнасцю працы і памерамі заробкаў, сутнасць якога заключалася ў тым, што насельніцтва стала атрымліваць больш, чым зарабляла. Пры гэтым з кожных 100 заробленых рублёў толькі 5 пераводзілася на грашовыя зберажэнні ў банках. Замест

набыцця на заробленыя сродкі айчынных тавараў, спажыўцы аддавалі перавагу імпартным таварам, для чаго пераводзілі грашовыя сродкі ў валюту, купляючы яе ў банках. У выніку валютныя рэзервы краіны зменшыліся, склалася множнасць абменных курсаў валюты. Для яе пераадолення была праведзена яшчэ адна дэвальвацыя беларускага рубля ў адносінах да замежных валют. Ва ўмовах значнай дэвальвацыі абменнага курсу беларускага рубля рэзка выраслі тэмпы інфляцыі. Урадам быў распрацаваны шэраг мер па выхаду на адзіны абменны курс валюты і пераадоленні сацыяльных наступстваў сітуацыі, якая склалася.

**Прыярытэты сацыяльна-эканамічнага развіцця Рэспублікі Беларусь.** Перспектывы сацыяльна-эканамічнага развіцця на 2011—2015 гг. вызначаны ў адпаведнай праграме, прынятай на Чацвёртым Усебеларускім народным сходзе ў **2010 г.** Галоўнай мэтай з'яўляецца рост дабрабыту і паляпшэнне ўмоў жыцця насельніцтва на аснове ўдасканалення сацыяльна-эканамічных адносін, інавацыйнага развіцця і павышэння канкурэнтаздольнасці нацыянальнай эканомікі.

Прыярытэтным напрамкам развіцця Беларусі вызначана развіццё *чалавечага капіталу*. Пад ім разумеецца сукупнасць ведаў, уменняў, навыкаў, якія выкарыстоўваюцца для задавальнення разнастайных патрэб чалавека і грамадства. Чалавечы капітал — гэта інтэлект, здароўе, веды, творчая праца, якасць жыцця. Развіццё чалавечага капіталу прадугледжвае павышэнне ўзроўню дабрабыту, рост нараджальнасці, павелічэнне працягласці жыцця, умацаванне здароўя, павышэнне якасці адукацыі. Беларусь да 2015 г. павінна ўвайсці ў лік першых 50 краін свету з найвышэйшым індэксам развіцця чалавечага патэнцыялу.

Сярод прыярытэтаў — стварэнне новых навукаёмістых высокатэхналагічных імпартазамяшчальных вытворчасцей; павышэнне эфектыўнасці аграпрамысловага комплексу; устойлівае развіццё рэгіёнаў у адпаведнасці з Дзяржаўнай праграмай развіцця малых і сярэдніх гарадоў; рост экспарту айчынных тавараў; будаўніцтва якаснага і даступнага жылля. Стымуляванне прадпрымальніцтва і дзелавой ініцыятывы ажыццяўляецца праз пераход ад дазваляльнага да заяўляльнага прынцыпу пры рэгістрацыі суб'ектаў гаспадарчай дзейнасці. Ствараюцца ўмовы для павелічэння колькасці *інвестыцый*, г. зн. укладання капіталаў у галіны эканомікі ці

прадпрыемствы з мэтай атрымання прыбытку. Паляпшэнне інвестыцыйнага клімату звязана з магчымасцю набыцця інвестарамі кантрольных пакетаў акцый прадпрыемстваў і кампаній.

Рэалізацыя плана сацыяльна-эканамічнага развіцця абапіраецца на выкарыстанне патэнцыялу моцнай дзяржавы, якая выступае гарантам абароны прыватнай уласнасці і ініцыятарам пераўтварэнняў. Значным крокам на гэтым шляху стала прыняцце Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь у снежні 2010 г. Дырэктывы № 4 «Аб развіцці прадпрымальніцкай ініцыятывы і стымуляванні дзелавой актыўнасці ў Рэспубліцы Беларусь». Згодна з Дырэктывай былі вызначаны правілы вядзення бізнесу, накіраваныя на паляпшэнне дзелавога клімату, фарміраванне канкурэнтнага асяроддзя, насычэнне рынку таварамі і паслугамі, зніжэнне падатковай нагрузкі на прадпрымальнікаў. Прымаліся меры па паслядоўнай эканамічнай лібералізацыі ўмоў ажыццяўлення гаспадарчай дзейнасці, ліквідацыі празмернага ўмяшальніцтва дзяржаўных органаў у дзейнасць індывідуальных прадпрымальнікаў, што было скіравана на фарміраванне паўнавартаснага партнёрства прыватнай і дзяржаўнай форм уласнасці па наступным прынцыпе: канкурэнцыя — усюды, дзе магчыма; дзяржаўнае рэгуляванне — там, дзе неабходна. 2011 г., у якім доля малога і сярэдняга прадпрымальніцтва складала каля 20 % у валавым унутраным прадукце краіны, быў абвешчаны Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Годам прадпрымальнасці (**4).

Такім чынам, беларуская мадэль сацыяльна-эканамічнага развіцця ў сваёй эвалюцыі набыла наступныя характэрныя рысы. Па-першае, гэта структурная перабудова эканомікі, якая прадугледжвае павелічэнне долі галін з высокай ступенню перапрацоўкі зыходнай сыравіны і матэрыялаў, выкарыстаннем сучасных тэхналогій. Па-другое, павышэнне якасці эканамічнага росту за кошт мадэрнізацыі асноўных сродкаў вытворчасці і эканамічных адносін, павелічэння канкурэнтаздольнасці і эфектыўнасці эканомікі. Па-трэцяе, лібералізацыя эканомікі і прадпрымальніцкай ініцыятывы. Па-чацвёртае, стварэнне прывабнага інвестыцыйнага клімату.

Галоўнае месца ў планах на перспектыву адводзіцца *эканоміцы ведаў*, накіраванай на стварэнне і вывад на рынак прынцыпова новых відаў тавараў і паслуг. Эканоміка ведаў разглядаецца як база, фундамент інфармацыйнага грамадства і вышэйшы этап

развіцця інавацыйнай эканомікі. Працэс развіцця такой эканомікі заключаецца ў павышэнні якасці чалавечага капіталу і якасці жыцця, у вытворчасці высокіх тэхналогій.

**Дзяржаўная маладзёжная палітыка.** У нашай краіне па стане на 1 студзеня 2011 г. пражывалі 2 млн 345 тыс. чалавек ва ўзросце ад 14 да 31 года. Такім чынам, кожны чацвёрты жыхар Беларусі адносіўся да катэгорыі «моладзь». У Рэспубліцы Беларусь прыняты шэраг дакументаў і праграм, якімі вызначаюцца асноўныя кірункі маладзёжнай палітыкі. Указамі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь былі зацверджаны дзяржаўныя праграмы «Моладзь Беларусі» і «Маладыя таленты Беларусі» на 2006—2010 гг. Праграмы мелі на мэце забяспечыць паўнавартасны прававы і сацыяльны статус маладым грамадзянам рэспублікі. Прымаліся меры для паляпшэння жыллёвых умоў маладых сем'яў праз магчымасць атрымання імі доўгатэрміновых крэдытаў на будаўніцтва жылля за кошт сродкаў дзяржаўнага бюджэту. Дзейнічала сістэма працаўладкавання маладых людзей з гарантыяй першага рабочага месца, забеспячэннем занятасці выпускнікоў і пераадолення іх беспрацоўя, падтрымкай руху студэнцкіх атрадаў. Удасканальвалася сістэма падтрымкі ўдзелу маладых вучоных у даследчыцкай працы, развіцця творчага патэнцыялу таленавітай моладзі. Былі створаны і дзейнічаюць спецыяльны фонд Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па сацыяльнай падтрымцы адораных навучэнцаў і студэнтаў і спецыяльны фонд па падтрымцы таленавітай моладзі. Ствараліся належныя ўмовы працы і быту рабочай моладзі, умовы для замацавання маладых спецыялістаў у вёсцы і будаўніцтва для іх жылля, развіцця маладзёжных прадпрымальніцтва і фермерскіх гаспадарак. Падтрымкай дзяржавы карысталіся дзіцячы і маладзёжны спорт і турызм.

***Вызначым асноўнае ў змесце параграфа.*** На мяжы XX і XXI стст. у нашай краіне пачаўся пераход ад індустрыяльнага да постындустрыяльнага этапу развіцця. У гэты перыяд перспектывы развіцця эканомікі Беларусі як еўрапейскай краіны звязаны з эфектыўным выкарыстаннем навукова-тэхнічнага, прамысловага, інтэлектуальнага патэнцыялу. Вызначальнай рысай гэтага пераходу з'яўляецца распрацоўка і рэалізацыя беларускай

мадэлі сацыяльна арыентаванай рыначнай эканомікі. Гаспадарка краіны прайшла шлях ад пераадолення крызісных з'яў да прыняцця і рэалізацыі курсу на паслядоўную эканамічную лібералізацыю. Выбар шляху эканамічнага развіцця адбываўся ва ўмовах супрацоўніцтва з еўрапейскімі краінамі, краінамі СНД і інтэграцыі з Расіяй.

***Паняцці і тэрміны, якія трэба засвоіць:*** *валавы ўнутраны прадукт, рынначная сістэма эканамічных адносін, прыватызацыя, устойлівае развіццё, сацыяльна арыентаваная рыначная эканоміка, інтэграцыя, дэвальвацыя, чалавечы капітал, інвестыцыі, эканоміка ведаў.*

## ДАДАТКОВЫ МАТЭРЫЯЛ

### **1. Культурна-гістарычнае асяроддзе

Значны ўклад у развіццё эканамічнай навукі ўнес ураджэнец Пінска, лаўрэат Нобелеўскай прэміі 1971 г. у галіне эканомікі Сайман Сміт (Кузнец) (1901—1985). Толькі ў 2003 г. мы дакладна даведаліся пра беларускія карані гэтага амерыканскага вучонага. Ён вучыўся ў Пінскім гарадскім рэальным вучылішчы, выпускніком якога быў і першы Прэзідэнт Ізраіля Хаім Вейцман. Апынуўшыся ў ЗША, на працягу больш чым 30 гадоў С. Сміт праводзіў даследаванні па вывучэнні валавага нацыянальнага прадукту, выкладаў у амерыканскіх універсітэтах. У эканоміцы агульнапрынятым стала паняцце «цыкл Кузняца», што азначае 20-гадовы перыяд ваганняў хуткага і маруднага эканамічнага росту. Ён стаў першаадкрывальнікам ролі чалавечага фактару ў развіцці эканомікі. Вучоны на вялікім эмпірычным матэрыяле правёў параўнальна-гістарычнае даследаванне эканамічнага развіцця шэрагу краін.

### **2. З перадвыбарнай праграмы Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнкі. Жнівень 2001 г.

«Мы не паддаліся спакусе разбурыць створанае пакаленнямі, ісці па крайне балючым і небяспечным шляху "шокавай тэрапіі", на якім чалавека падсцерагаюць беспрацоўе, галеча і адчай...

Мэты — рэзкае павышэнне дабрабыту народа і набліжэнне яго да ўзроўню эканамічна развітых еўрапейскіх дзяржаў шляхам паступовага, эвалюцыйнага руху наперад, заснаванага на палітычнай і сацыяльна-эканамічнай стабільнасці грамадства. Убудоўванне беларускай эканомікі

ў сістэму сусветных гаспадарчых сувязей пад кантролем грамадства і дзяржавы, падтрыманне навуковага патэнцыялу».

*Вызначце, у чым заключаецца стратэгія сацыяльна-эканамічнага развіцця Беларусі.*

****3. Вынікі сацыяльна-эканамічнага развіцця Рэспублікі Беларусь за 2006—2010 гг.**

| Паказчыкі | У супастаўляльных цэнах, 2010 г. у % да 2005 г. | |
|---|---|---|
| | Праграмныя паказчыкі | Ацэнка выканання |
| Валавы ўнутраны прадукт | 146—155 | 146 |
| Прадукцыя прамысловасці | 143—151 | 144 |
| Прадукцыя сельскай гаспадаркі | 134—145 | 123 |
| Вытворчасць спажывецкіх тавараў | 150—157 | 158 |
| Рэальныя грашовыя даходы насельніцтва | 149—156 | 175 |
| Рознічны тавараабарот | 157—165 | 191 |

*Вызначце, у чым заключаліся прычыны няпоўнага выканання праграмных паказчыкаў развіцця ў галіне сельскай гаспадаркі.*

****4. З Паслання Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнкі беларускаму народу і Нацыянальнаму сходу. Красавік 2009 г.**

«Мы ўзялі курс на эканамічную лібералізацыю. Шмат чаго ў гэтым напрамку ўжо зроблена. Зняты празмерныя адміністрацыйныя бар’еры для ўваходу бізнесу на ўнутраны рынак. Абмежавана празмернае рэгуляванне прадпрымальніцкай дзейнасці. Зніжана падатковая нагрузка... Паступова адыходзіць у мінулае суцэльнае рэгуляванне цэн. Адменена дэкляраванне прыбыткаў буйных укладчыкаў банкаў...

Укараняюцца сістэмы краіннага маркетынгу з мэтай паспяховага прасоўвання прадукцыі айчынных вытворцаў на знешнія рынкі... Нашы намаганні па лібералізацыі эканомікі ўжо прыносяць вынікі. Так, па класіфікацыі Сусветнага банка, у мінулым годзе (2008) Беларусь заняла чацвёртае месца ў першай дзясятцы краін-рэфарматараў».

*Прааналізуйце мерапрыемствы дзяржавы, накіраваныя на лібералізацыю эканамічных адносін.*

## ПЫТАННІ І ЗАДАННІ

1. У 1994 г. толькі што выбраны Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь распачаў пасяджэнне Урада з наступнага пытання: «Вы ведаеце, што такое рыначная эканоміка, вы ўмееце працаваць ва ўмовах рынку?» Тады гатовага адказу на гэта пытанне яшчэ не было. Адкажыце сёння на гэта пытанне.
2. Чаму пасля распаду СССР эканоміка Беларусі апынулася ў цяжкім становішчы? Якую ролю ў яго пераадоленні адыграла эканамічная інтэграцыя?
3. Назавіце мерапрыемствы, звязаныя з пошукам шляхоў пераходу да рыначнай эканомікі ў пачатку 1990-х гг.
4. У чым заключаюцца асаблівасці правядзення прыватызацыі ў Беларусі?
5. Пералічыце найбольш значныя працоўныя дасягненні, арганізатары і ўдзельнікі якіх былі ўдастоены звання «Герой Беларусі».
6. Ахарактарызуйце беларускую мадэль сацыяльна-эканамічнага развіцця. У чым заключаецца яе сутнасць і характэрныя рысы?
7. Вызначце асноўныя кірункі і прыярытэты беларускай мадэлі сацыяльна-эканамічнага развіцця ў другой палове 1990-х гг. — пачатку XXI ст. і асноўныя этапы яе рэалізацыі. Выкарыстайце адпаведныя дадатковыя матэрыялы.
8. Як вы разумееце, што такое эканоміка ведаў і для чаго яна патрэбна?
9. Ахарактарызуйце асноўныя кірункі дзяржаўнай маладзёжнай палітыкі.
10. Выкажыце свае адносіны да перспектыў развіцця нашай краіны па шляху эканамічнай лібералізацыі.

# § 24—25. Знешнепалітычная дзейнасць

### Вучэбная задача

Вызначыць асноўныя прынцыпы і кірункі знешнепалітычнай дзейнасці Рэспублікі Беларусь на мяжы XX—XXI стст.

### Успомніце

1. У чым заключалася роля А. А. Грамыкі як дзяржаўнага дзеяча ў станаўленні і развіцці савецкай знешняй палітыкі? 2. Што азначаюць паняцці «суверэнітэт», «інтэграцыя», «глабалізацыя», «устойлівае развіццё»?

**Фарміраванне і прыярытэты знешнепалітычнага курсу Рэспублікі Беларусь.** Набыццё суверэнітэту абумовіла пачатак новага этапу ў знешнепалітычнай і міжнароднай дзейнасці Беларусі. У Дэ-

кларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі, прынятай **27 ліпеня 1990 г.** Вярхоўным Саветам БССР, за беларускім народам было замацавана неад'емнае права на самавызначэнне. Дэкларацыя абвясціла Беларусь раўнапраўным і незалежным членам сусветнага супольніцтва. Калі ў жніўні 1991 г. Дэкларацыя набыла канстытуцыйны статус, Беларусь стала ажыццяўляць самастойную знешнюю палітыку.

Асноўныя прынцыпы знешняй палітыкі былі замацаваны ў Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь 1994 г. са змяненнямі і дапаўненнямі, прынятымі на рэферэндуме **24 лістапада 1996 г.**

### ГІСТАРЫЧНЫ ДАКУМЕНТ

Артыкул 18-ы Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь: «Рэспубліка Беларусь у сваёй знешняй палітыцы зыходзіць з прынцыпаў роўнасці дзяржаў, непрымянення сілы або пагрозы сілай, непарушнасці межаў, мірнага ўрэгулявання спрэчак, неўмяшання ва ўнутраныя справы і іншых агульнапрызнаных прынцыпаў і нормаў міжнароднага права».

Асноўнымі прыярытэтамі знешняй палітыкі Рэспублікі Беларусь з'яўляюцца: інтэграцыя ў сусветнае супольніцтва як раўнапраўнай, суверэннай, незалежнай дзяржавы; усемагчымае садзеянне будаўніцтву новай сусветнай і еўрапейскай сістэмы бяспекі; шматбаковае міжнароднае супрацоўніцтва; актыўны ўдзел у рабоце міжнародных арганізацый.

Амаль усе краіны свету (па стане на 2008 г. — 164) прызналі Рэспубліку Беларусь як незалежную дзяржаву і ўстанавілі з ёй дыпламатычныя адносіны. Сведчаннем трываласці яе міжнароднага становішча ўжо з першых гадоў незалежнасці стала членства ў міжнародных арганізацыях.

У 1992 г. Рэспубліка Беларусь першай з краін СНД падпісала Заключны акт Нарады па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе, а таксама Парыжскую хартыю для новай Еўропы. Такім чынам, наша дзяржава стала членам Арганізацыі па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе (АБСЕ). У дзейнасці АБСЕ гуманітарныя функцыі маніторынгу (назірання) за правядзеннем выбараў, развіццём дэмакратычных інстытутаў і абаронай правоў сталі пераважаць над эканоміка-экалагічнымі і ваенна-палітычнымі функцыямі. Пры гэтым не выпрацаваны аднолькавыя для ўсіх і ўзгодненыя ўсімі ўдзель-

нікамі арганізацыі стандарты выбараў, захоўваюцца візавыя абмежаванні для ўсходнееўрапейскіх краін, ядзерныя дзяржавы — удзельнікі АБСЕ не прадставілі няядзерным краінам безумоўныя гарантыі іх бяспекі, суверэнітэту і тэрытарыяльнай цэласнасці.

Тэрыторыя Беларусі стала свабоднай ад ядзернай зброі. Наша краіна імкнецца набыць статус *нейтральнай дзяржавы*. Знешнепалітычны курс такой краіны характарызуецца няўдзелам ва ўзброеных канфліктах (войнах). Беларусь далучылася да Дагавора аб звычайных узброеных сілах у Еўропе, які рэгулюе іх колькасць і размяшчэнне. Рэспубліка Беларусь далучылася да міжнародных дагавораў аб скарачэнні і абмежаванні стратэгічных наступальных узбраенняў, нераспаўсюджванні ядзернай зброі. У выніку ўся ядзерная зброя, якая размяшчалася раней на тэрыторыі Беларусі, была выведзена за яе межы. Беларусь разам з Украінай сталі першымі ў свеце дзяржавамі, якія добраахвотна адмовіліся ад валодання ядзернай зброяй, сталі ўдзельніцамі Міжнароднага дагавора аб нераспаўсюджванні ядзернай зброі.

У 1998 г. наша краіна стала ўдзельнікам *Руху недалучэння* — знешнепалітычнага курсу, накіраванага на недалучэнне да шматбаковых ваенных саюзаў пасля Другой сусветнай вайны. Беларусь, якая панесла найвялікшыя страты ў гады вайны, разглядае гэты рух у якасці інструмента ўстанаўлення раўнапраўнага дыялогу паміж дзяржавамі свету з рознымі палітычнымі і сацыяльнымі сістэмамі.

**Дзейнасць Беларусі ў Арганізацыі Аб’яднаных Нацый (ААН).** Беларусь з самага пачатку сваёй знешнепалітычнай дзейнасці пацвердзіла прыхільнасць да прынцыпаў Статута ААН і Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека. У Рэспубліцы Беларусь функцыянуюць 11 прадстаўніцтваў праграм, агенстваў і арганізацый сістэмы ААН. Сярод іх Дзіцячы фонд міру, Міжнародная арганізацыя працы, Упраўленне Вярхоўнага камісара ААН па справах бежанцаў, Сусветная арганізацыя аховы здароўя і інш. Беларусь прадстаўлена ў 14 выбарчых органах устаноў сістэмы ААН, з’яўляецца членам больш чым 50 спецыялізаваных устаноў сістэмы ААН.

Наша краіна ўлічвае рэкамендацыі «Парадку дня на XXI стагоддзе». Гэты дакумент быў прыняты на канферэнцыі ААН па навакольным асяроддзі і развіцці ў Рыа-дэ-Жанэйра ў 1992 г. з

удзелам прадстаўнікоў 179 краін свету. У ім прадугледжваецца праграма сусветнага супрацоўніцтва з мэтай гарманізацыі ўзаемаадносін паміж чалавекам і прыродай. Замацаваная ў гэтым дакуменце канцэпцыя ўстойлівага развіцця набыла статус важнейшага прынцыпу існавання чалавецтва. Беларусь атрымала міжнародную дапамогу па лініі ААН, якая прыняла спецыяльную рэзалюцыю «Міжнароднае супрацоўніцтва ў справе змякчэння і пераадолення наступстваў аварыі на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі».

Дзейнасць Беларусі ў межах ААН накіравана на замацаванне міжнародных механізмаў раззбраення. Так, у 1998 г. па прапанове беларускай дэлегацыі была прынята рэзалюцыя «Рэгіянальнае раззбраенне», якая прадугледжвае рэалізацыю беларускай ініцыятывы стварэння ў Цэнтральнай і Усходняй Еўропе прасторы, свабоднай ад ядзернай зброі.

Разам з прадстаўнікамі 189 дзяржаў Беларусь у 2000 г. падпісала на саміце ў Нью-Ёрку Дэкларацыю тысячагоддзя. Гэта базавы дакумент, накіраваны на дасягненне да 2015 г. мэт, звязаных з паляпшэннем становішча чалавека, пераадоленнем беднасці, галечы і голаду, умацаваннем здароўя, устанаўленнем міру і ўмацаваннем бяспекі, аховай навакольнага асяроддзя, абаронай правоў і дэмакратыі. У прыватнасці, прадугледжваецца ўвядзенне ўсеагульнай пачатковай адукацыі, забеспячэнне роўнасці правоў мужчын і жанчын, скарачэнне дзіцячай смяротнасці і паляпшэнне аховы мацярынства, барацьба са СНІДам і іншымі захворваннямі, забеспячэнне экалагічнай устойлівасці, фарміраванне глабальнага партнёрства.


Помнік-званіца «Звон Нагасакі» як напамін аб ахвярах ядзерных катастроф. Устаноўлены перад касцёлам Святых Сымона і Алены ў Мінску

З мэтай рэалізацыі Дэкларацыі тысячагоддзя ААН па ініцыятыве Беларусі прыняла ў 2010 г. Глабальны план дзеянняў па барацьбе з гандлем людзьмі, для прадухілення чаго наша краіна прадпрымае вялікія намаганні.

Беларусь выступае за рэфармаванне дзейнасці ААН, накіраванае на павышэнне яе патэнцыялу ў рэагаванні на сучасныя выклікі і пагрозы.

ГІСТАРЫЧНЫ ДАКУМЕНТ

На пасяджэнні сесіі Генеральнай Асамблеі ААН у 2005 г. Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнка адзначыў:

«ААН — гэта мы.

Менавіта мы з вамі павінны ўзяць лёс планеты ў свае рукі.

Мы з вамі павінны зразумець, што аднапалярны свет — гэта свет аднalінейны. Больш таго — аднамерны.

Мы з вамі павінны ўсвядоміць: разнастайнасць шляхоў да прагрэсу — сталая каштоўнасць нашай цывілізацыі. Толькі яна забяспечвае стабільнасць у свеце.

Свабода выбару шляху развіцця — галоўная ўмова дэмакратычнага ўладкавання свету. Дзеля гэтага і стваралася наша Арганізацыя.

...Калі мы пагодзімся адзін з адным у гэтым, галоўным, то мы ажыццявім прынцыпы шматпалярнасці, разнастайнасці, свабоды выбару...

Тады і ААН стане арганізацыяй па-сапраўднаму аб’яднаных нацый...»

**Умацаванне сувязей Рэспублікі Беларусь з краінамі СНД.** З самага пачатку, праводзячы шматвектарны знешнепалітычны курс, Рэспубліка Беларусь надавала асаблівую ўвагу ўмацаванню адносін з краінамі Садружнасці Незалежных Дзяржаў. З сярэдзіны 1990-х гг. прыярытэтным кірункам і асновай нашай знешняй палітыкі стала аднаўленне на раўнапраўнай і ўзаемавыгаднай аснове сувязей з дзяржавамі, якія раней уваходзілі ў склад СССР, найперш з Расіяй і Украінай (**1). У 1993 г. Беларусь далучылася да Дагавора аб стварэнні сістэмы калектыўнай бяспекі СНД з агаворкай, што беларускія ваеннаслужачыя не будуць удзельнічаць у баявых дзеяннях па-за межамі Беларусі. У **2002 г.** кіраўнікі Беларусі, Расіі, Арменіі, Казахстана, Кыргызстана, Таджыкістана падпісалі Статут *Арганізацыі Дагавора аб калектыўнай бяспецы* (АДКБ). Гэта міжурадавая рэгіянальная ваенна-палітычная арганізацыя шасці дзяржаў, якая мае абарончую накіраванасць і заснавана на прыярытэце палітычных сродкаў па прадухіленні і ліквідацыі ваенных канфліктаў. Беларусь разглядае АДКБ як інструмент умацавання стабільнасці на постсавецкай прасторы. У АДКБ назапашваецца вопыт узаемадзеяння ўзброеных сіл, аб чым сведчыць правядзенне сумеснага беларуска-



Эмблема Садружнасці Незалежных Дзяржаў

расійскага аператыўна-стратэгічнага вучэння «Захад — 2009». На саміце АДКБ у 2010 г. была актуалізавана задача стварэння дзейснай сістэмы рэагавання на крызісныя сітуацыі. Краіны АДКБ супрацоўнічаюць па пытаннях барацьбы з незаконным абаротам наркотыкаў, падтрымліваюць адна другую на міжнароднай арэне пры адстойванні сваіх нацыянальных інтарэсаў.

У **1995 г.** Рэспубліка Беларусь стала членам Мытнага саюза з Расіяй і Казахстанам. Мытны саюз у **2000 г.** быў пераўтвораны ў новае інтэграцыйнае аб'яднанне — *Еўразійскае эканамічнае супольніцтва* (ЕўрАзЭС) з удзелам Беларусі, Казахстана, Кыргызстана, Расіі, Таджыкістана, Узбекістана (з 2006 г.). ЕўрАзЭС уяўляе сабой міжурадавую рэгіянальную эканамічную арганізацыю, прызначаную для фарміравання агульных знешніх мытных граніц дзяржаў-удзельніц, выпрацоўкі адзінай знешнеэканамічнай палітыкі адносна тарыфаў, цэн і іншых складаючых функцыянавання агульнага рынку. ЕўрАзЭС з'яўляецца найбольш дынамічна развіваючымся інтэграцыйным аб'яднаннем на постсавецкай прасторы. Для нашай краіны з яе развітым прамысловым патэнцыялам і перавагай перапрацоўчых галін прамысловасці ўдзел у ЕўрАзЭС прадстаўляе вялікі рынак збыту такой прадукцыі, як трактары, грузавыя аўтамабілі, халадзільнікі, мэбля і інш.

У **2007 г.** адбылося падпісанне Дагавора аб стварэнні адзінай мытнай тэрыторыі і фарміраванні Мытнага саюза паміж Беларуссю, Расіяй і Казахстанам. У 2010 г. у выніку шматлікіх намаганняў у межах Мытнага саюза адбылося падпісанне пакета дакументаў, якія сталі асновай




Сустрэча кіраўнікоў дзяржаў — удзельніц ЕўрАзЭс і АДКБ. Мінск, *2006 г.*

для фарміравання нарматыўнай прававой базы па стварэнні Адзінай эканамічнай прасторы. Быў падпісаны шэраг трохбаковых дагавораў аб стварэнні адзінай мытнай тэрыторыі і мытным кодэксе Мытнага саюза, бестэрміновае пагадненне аб зняцці мытных пошлін на нафту і нафтапрадукты, якія пастаўляюцца з Расіі ў Беларусь. З пачаткам дзеяння Мытнага саюза як наднацыянальнага органа ўтвараецца агульны рынак тавараў, рабочай сілы і капіталаў з вялізнай тэрыторыяй і насельніцтвам каля 170 млн чалавек, на якім любы тавар можа свабодна перамяшчацца паміж трыма краінамі без мытнага афармлення.

У **2011 г.** Прэзідэнты Беларусі, Расіі і Казахстана падпісалі Дэкларацыю аб еўразійскай эканамічнай інтэграцыі. Такім чынам, у працэсе інтэграцыі быў абазначаны пераход ад дзеючага Мытнага саюза да фарміравання Адзінай эканамічнай прасторы і далей да стварэння на яе аснове да 2015 г. Еўразійскага эканамічнага саюза (па аналогіі з Еўрапейскім саюзам).

**Развіццё ўзаемаадносін паміж Беларуссю і Расіяй.** Асаблівае месца займаюць узаемаадносіны паміж Беларуссю і Расіяй. На шляху яднання двух народаў і краін пройдзена шмат этапаў. Іх пачаткам стала падпісанне ў 1995 г. Дагавора аб дружбе, добрасуседстве і супрацоўніцтве Беларусі і Расіі. У маі **1995 г.** на рэспубліканскім рэферэндуме большасць беларускіх выбаршчыкаў выказалася за паглыбленне інтэграцыі з Расіяй. Насельніцтвам Беларусі быў падтрыманы курс на паступовае збліжэнне і выраўноўванне ўзроўняў эканамічнага развіцця краін.

Далейшаму паглыбленню адносін паміж Беларуссю і Расіяй паспрыяў падпісаны **2 красавіка 1996 г.** Дагавор аб стварэнні Супольнасці Беларусі і Расіі. **2 красавіка 1997 г.** быў створаны *Саюз Беларусі і Расіі.* Гэты дзень быў абвешчаны Днём яднання народаў Беларусі і Расіі. Саюз Беларусі і Расіі стаў мадэллю міждзяржаўнага аб'яднання з больш высокай, у параўнанні з СНД, ступенню палітычнай і эканамічнай інтэграцыі.

Працэс збліжэння Беларусі і Расіі быў прадоўжаны ў снежні 1998 г., калі ў Маскве адбылося падпісанне Дагавора аб роўных правах грамадзян і Пагаднення аб стварэнні роўных умоў суб'ектам гаспадарання дзвюх краін. Чарговым этапам у працэсе збліжэння Беларусі і Расіі стаў падпісаны **8 снежня 1999 г.** Дагавор аб стварэнні Саюзнай дзяржавы. Дагавор прадугледжвае не механічнае зліццё дзвюх дзяржаў ці паглынанне адной дзяржавы дру-



Сустрэча Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнкі з Прэзідэнтам Расійскай Федэрацыі У. У. Пуціным у час правядзення Савета калектыўнай бяспекі АДКБ. *Масква, снежань, 2012 г.*

гой, а іх аб'яднанне для рэалізацыі ўзаемавыгадных задач пры захаванні за Беларуссю і Расіяй статусу суб'ектаў міжнароднага права.

Шлях стварэння Саюзнай дзяржавы — працэс аб'ектыўны і адпавядае інтарэсам двух братніх народаў. На гэтым шляху распрацоўваюцца ўзаемапрымальныя варыянты вырашэння пытанняў па забеспячэнні роўных правоў беларусаў у Расіі і расіян у Беларусі на ўдзел у гаспадарчай дзейнасці, атрыманне адукацыі, медыцынскай дапамогі, набыццё нерухомасці, працаўладкаванне, выбар месца пражывання. Наладжваецца дзейнасць Парламенцкага Сходу Саюза Беларусі і Расіі, які зацвярджае гадавыя бюджэты Саюза і распрацоўвае Канстытуцыю Саюза Беларусі і Расіі. Пры гэтым беларуска-расійскае міждзяржаўнае аб'яднанне грунтуецца на прынцыпах суверэннай роўнасці дзяржаў-удзельніц, добраахвотнасці, добрасумленнага выканання ўзаемных абавязацельстваў.

| **Развіццё інтэграцыйнага працэсу паміж Беларуссю і Расіяй** | | |
|---|---|---|
| Стварэнне Супольнасці Рэспублікі Беларусь і Расійскай Федэрацыі<br>2 красавіка 1996 г. | Стварэнне Саюза Беларусі і Расіі<br>2 красавіка 1997 г. | Дагавор паміж Беларуссю і Расіяй аб стварэнні Саюзнай дзяржавы<br>8 снежня 1999 г. |

**Шматвектарнасць знешняй палітыкі Беларусі.** Кіраўніцтва Рэспублікі Беларусь паслядоўна адстойвае яе дзяржаўны суверэнітэт, зыходзячы з таго, што кожная дзяржава ва ўмовах фарміравання шматполюснага свету мае права на выбар уласнага шляху развіцця на аснове самабытнасці і менталітэту свайго народа, яго культуры і ідэнтыфікацыі (**2). Беларусь выбрала стратэгію «роўнай набліжанасці» да Усходу і Захаду, што дае нашай краіне шанс эфектыўна выкарыстоўваць выгаднае геапалітычнае стано-

вішча і транзітны патэнцыял для збалансаванага ўзаемадзеяння са сваімі блізкімі суседзямі і краінамі далёкага замежжа.

У ліку галоўных задач знешняй палітыкі Рэспублікі Беларусь — фарміраванне на новай аснове адносін з дзяржавамі Цэнтральнай і Усходняй Еўропы. Найважнейшым напрамкам знешнепалітычнай дзейнасці з'яўлялася супрацоўніцтва Рэспублікі Беларусь з такімі арганізацыямі, як Савет Еўропы, а таксама Еўрапейскі Саюз, у які ў 2004 г. увайшлі нашы суседзі — Прыбалтыйскія рэспублікі і Польшча. У 2009 г. Беларусь была прынята ў Савет дзяржаў Балтыйскага мора са статусам назіральніка. У 2010 г. дасягнуты пагадненні паміж Беларуссю і членамі Еўрасаюза — Латвіяй і Літвой — аб спрошчаным парадку ўзаемных паездак жыхароў прыгранічных тэрыторый, што набліжае вырашэнне пытання аб зняцці візавых бар'ераў паміж нашай краінай і ЕС.

Пасля правядзення рэферэндуму 1996 г. узровень палітычных адносін Беларусі з Захадам знізіўся. У 1997 г. міністры замежных спраў краін Еўрапейскага Саюза прынялі рашэнне аб «замарожванні» кантактаў з Беларуссю на палітычным узроўні. Аднак відавочна, што з прычыны геапалітычнага становішча Беларусі ў цэнтры Еўропы без удзелу нашай краіны не могуць быць паспяхова вырашаны еўрапейскія праблемы нелегальнай міграцыі, гандлю людзьмі, наркатрафіка, бяспекі граніц. Нягледзячы на палітычнае дыстанцыраванне ад Захаду, праграмы эканамічнага супрацоўніцтва з Рэспублікай Беларусь прадоўжыліся. ЕС з'яўляецца адным з ключавых гандлёва-эканамічных партнёраў Беларусі, які займае другую пазіцыю пасля Расіі. Вялікую дапамогу ў справе аздараўлення беларускіх дзяцей з тэрыторый, пацярпелых ад наступстваў Чарнобыльскай катастрофы, аказвае, у прыватнасці, Італія, дзе за апошнія 20 гадоў адпачыла больш за 500 тыс. дзяцей.

Адносіны Беларусі з краінамі Захаду і Еўрасаюзам маюць неабмежаваны патэнцыял, які можа быць рэалізаваны на аснове прызнання ўзаемных інтарэсаў на ўсёй агульнаеўрапейскай прасторы, перш за ўсё ў эканамічнай сферы. На гэтай падставе Беларусь у **2009 г.** увайшла разам з Украінай, Грузіяй, Арменіяй, Азербайджанам у створанае ў гэтым годзе пад эгідай Еўрасаюза *Усходняе партнёрства*. Аднак гэты праект пакуль што мае больш сімвалічны характар, чым практычны.

Наша краіна зыходзіць з таго, што ні адна з дзяржаў, у тым ліку краіны НАТА, на сучасны момант не з'яўляецца для нас патэнцыяльным праціўнікам. Беларусь яшчэ ў 1995 г. у якасці краіны-партнёра далучылася да праграмы НАТА *«Партнёрства дзеля міру»,* у якой, акрамя краін — членаў НАТА, удзельнічае 17 дзяржаў. Гэта праграма накіравана на стварэнне партнёрства як пастаяннага элемента структуры еўрапейскай бяспекі. У 1998 г. пачала работу місія Рэспублікі Беларусь пры НАТА. Наша краіна не выступае супраць уключэння ў НАТА новых членаў, у тым ліку нашых суседзяў Польшчы і Прыбалтыйскіх рэспублік, але настойвае на неабходнасці рэфармавання гэтай арганізацыі.

### ГІСТАРЫЧНЫ ДАКУМЕНТ

На ўрачыстым пасяджэнні сесіі Генеральнай Асамблеі ААН у 1995 г. Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнка зазначыў:

«Галоўнае — не дапусціць новага расколу свету. У сувязі з гэтым мы лічым, што пашырэнне НАТА тоіць у сабе непрадказальныя вынікі для будучыні Еўропы...

Я цвёрда перакананы, што на парозе трэцяга тысячагоддзя трэба думаць не аб пашырэнні ваенна-палітычных саюзаў, не аб размяшчэнні ядзернай зброі і не аб павелічэнні ваенных арсеналаў. Наадварот, мы павінны імкнуцца ліквідаваць саму магчымасць узнікнення войнаў, паменшыць або наогул знішчыць запасы ядзернай зброі...»

У 2002 г. Савет НАТА зацвердзіў Індывідуальную праграму партнёрства Рэспублікі Беларусь і НАТА. Яе прыярытэтнымі напрамкамі вызначаны ўзаемадзеянне пры ліквідацыі наступстваў надзвычайнага становішча, кіраванне крызіснымі сітуацыямі, кантроль над узброенымі сіламі і абарончымі структурамі. Пасля падзей 11 верасня 2001 г. у Нью-Ёрку актывізавалася роля Беларусі ў міжнароднай дзейнасці, накіраванай на барацьбу з тэрарызмам.

Заходні вектар знешняй палітыкі Беларусі мае перспектыву гарманізацыі адносін, звязаную з аднаўленнем узаемнага даверу і разбурэннем негатыўных стэрэатыпаў супрацьстаяння. Сусветны фінансава-эканамічны крызіс у пэўнай ступені падарваў мінулы ідэалагічны дагматызм (аднабаковае, схематычнае, закасцянелае мысленне, якое не ўлічвае канкрэтныя ўмовы развіцця) краін Еўрасаюза ў адносінах да Беларусі і прымусіў шукаць альтэрна-

тыўныя шляхі развіцця, звяртаючы ўвагу на беларускую сацыяльна-эканамічную мадэль. Рэспубліка Беларусь выступае за Еўропу без раздзяляльных межаў, якая пабудавана на аснове калектыўнай адказнасці за будучыню ўсіх еўрапейскіх народаў, на замацаванні рэгіянальнай стабільнасці і бяспекі.

Наша краіна таксама супрацоўнічае з краінамі Азіяцка-Ціхаакіянскага рэгіёна, Афрыкі і Лацінскай Амерыкі, арабскімі дзяржавамі. Беларусь з сярэдзіны 1990-х гг. устанавіла стратэгічныя партнёрскія адносіны з Кітаем, што паспрыяла глыбокай мадэрнізацыі асобных галін беларускай прамысловасці і сельскай гаспадаркі, развіццю лагістычнага патэнцыялу Беларусі. Асобае месца ў гэтым партнёрстве мае фінансавы аспект, звязаны з кітайскімі інвестыцыямі ў беларускую эканоміку. Беларусь стала першай краінай у Еўропе, гандаль якой з Кітаем пераведзены на нацыянальныя валюты, а сам гандаль паступова замяняецца вытворчай кааперацыяй. Так, рэалізаваны шэраг сумесных праектаў. Сярод іх — развіццё мабільнай сувязі і сумесны выпуск мадэмаў, мадэрнізацыя электрастанцый, выпуск складанабытавой тэхнікі на сумесным прадпрыемстве «Мідэа-Гарызонт», электрыфікацыя аднаго з участкаў беларускай чыгункі. Згодна з дасягнутымі пагадненнямі з удзелам кітайскага капіталу прадугледжваецца будаўніцтва новых вытворчасцяў на цэментавых заводах, завода па выпуску бялёнай цэлюлозы для вытворчасці паперы, жылога раёна «Чайнатаўн» і пяцізоркавай гасцініцы ў Мінску, мадэрнізацыя Нацыянальнага аэрапорта «Мінск-2», стварэнне Кітайска-Беларускага індустрыяльнага парка на 600 тыс. працоўных месцаў. У Кітаі створаны прадпрыемствы па зборцы, збыце і сэрвісным абслугоўванні кар’ерных самазвалаў «БелАЗ», трактароў «Беларус», кормаўборачнай тэхнікі. На Сусветнай выставе «ЭКСПА-2010» у Шанхаі Беларусь была прадстаўлена сваім нацыянальным павільёнам, які наведала больш за 5 млн чалавек.

У Лацінскай Амерыцы галоўныя партнёры Беларусі — Бразілія і Куба. Пачынаючы з 2005 г., па ўзрастаючай развіваюцца ўзаемаадносіны паміж Беларуссю і Венесуэлай. Па двухбаковай дамоўленасці наша краіна атрымала венесуэльскую нафту, у здабычы якой прымаюць удзел беларускія спецыялісты. У Венесуэлу, якая раней доўгія дзесяцігоддзі з’яўлялася сыравінным прыдаткам ЗША, прыйшлі беларускія тэхналогіі будаўніцтва жылля, ства-

раецца вытворчасць аўтамабільнай і сельскагаспадарчай тэхнікі (МАЗаў, БелАЗаў і трактароў).

Па стане на 2008 г. Рэспубліка Беларусь з'яўлялася членам 69 міжнародных міжурадавых арганізацый. Дзякуючы шматлікім ініцыятывам у рамках міжнародных арганізацый, Беларусь стала шырока вядома ў свеце як міралюбівая дзяржава — прыхільніца міжнароднага права і раўнапраўнага супрацоўніцтва з усімі краінамі свету. Удзел Беларусі ў рабоце міжнародных арганізацый спрыяе далучэнню нашай краіны да працэсу глабалізацыі — утварэння сусветнага рынку капіталаў, тавараў, паслуг, інфармацыі, усталявання сусветных сувязей у эканамічнай, палітычнай, культурнай галінах ва ўмовах фарміравання постындустрыяльнага (інфармацыйнага) грамадства.

**Развіццё міжнароднага эканамічнага супрацоўніцтва Рэспублікі Беларусь.** Знешнеэканамічныя сувязі Беларусі як суверэннай дзяржавы набылі якасна новы характар. У складзе СССР яна толькі пастаўляла прадукцыю на знешні рынак, а сам гандаль ажыццяўляўся саюзнымі ўстановамі. Атрымаўшы незалежнасць, Рэспубліка Беларусь стала раўнапраўным партнёрам у міжнародным эканамічным супрацоўніцтве. Перад ёй паўстала задача ўтварэння спрыяльных знешніх умоў для эфектыўнай інтэграцыі беларускай эканомікі ў сусветную гаспадарку.

У такіх абставінах асаблівае значэнне набыла праблема больш эфектыўнага выкарыстання традыцыйных рынкаў збыту ў Расіі і краінах СНД. З распадам СССР беларускія прадпрыемствы страцілі крыніцу неабходнай для іх сыравіны і рынкі збыту сваёй прадукцыі. Па гэтай прычыне яе сабекошт значна павялічыўся, што прывяло да скарачэння прамысловай і сельскагаспадарчай вытворчасці. Таму Беларусь стала праводзіць курс на ўмацаванне эканамічнага ўзаемадзеяння краін СНД. У выніку на мяжы стагоддзяў доля краін СНД у агульным аб'ёме знешняга гандлю Беларусі складала каля 70 %.

Аднак на шляху эканамічнага ўзаемадзеяння краін СНД узнікла і шмат цяжкасцей. Перш за ўсё, наладжваць эканамічнае супрацоўніцтва на постсавецкай прасторы даводзілася ва ўмовах эканамічнага крызісу і распаду СССР. Акрамя таго, з-за тэхнічнага адставання прадпрыемстваў іх прадукцыя ў большасці была неканкурэнтаздольнай на знешнім рынку. Становішча ўскладня-

лася жорсткай залежнасцю Беларусі ад паставак энерганосьбітаў і сыравінных рэсурсаў, недахопам уласных фінансавых сродкаў.

У 1993 г. Беларусь падала заяўку на ўступленне ў Сусветную гандлёвую арганізацыю. СГА створана з мэтай лібералізацыі міжнароднага гандлю і рэгулявання гандлёва-палітычных адносін паміж яе 153 дзяржавамі-ўдзельніцамі, на долю якіх прыходзіцца 97 % сусветнага гандлёвага абароту (па стане на 2008 г.). З 2010 г. у перамовах па ўступленні ў СГА Расія, Беларусь і Казахстан сталі выступаць у межах Мытнага саюза (Расія ў 2011 г. была прынята ў СГА).

Беларусь імкнулася пашырыць гандлёвыя сувязі з краінамі далёкага замежжа, перш за ўсё з еўрапейскімі. Па стане на 2008 г. Беларусь заключыла 60 пагадненняў аб двухбаковым гандлёва-эканамічным супрацоўніцтве. У адпаведнасці з імі 40 краін прадставілі імпарту з нашай краіны рэжым найбольшага спрыяння. Больш за ўсё вывозілася ў заходнія краіны трактароў, халадзільнікаў, калійных угнаенняў, баваўняных тканін. У 2010 г. адбыліся XIII Мінскі форум і Беларускі інвестыцыйны форум у Франкфурце-на-Майне, якія садзейнічалі далейшаму ўмацаванню беларуска-германскіх адносін, бо ФРГ з'яўляецца прыярытэтным партнёрам Беларусі ў Еўропе. Вядучымі гандлёва-эканамічнымі партнёрамі Беларусі з'яўляюцца таксама Расія, Украіна, Польшча, Латвія, Літва, Італія, Кітай, Індыя, Венесуэла, Іран, В'етнам, дзяржавы Персідскага заліва.

Важнае месца ў знешнеэканамічнай дзейнасці належыць утварэнню сумесных з замежнымі фірмамі прадпрыемстваў. Вядомасць у нашай краіне набыла прадукцыя прадпрыемства «Белвест», створанага Віцебскай абутковай фабрыкай сумесна з нямецкай фірмай «Саламандар», і інш. Сувязі з замежнымі партнёрамі ўстанавілі аб'яднанні «БелаўтаМАЗ», «Мінскі трактарны завод», «Палімір», «Атлант» і інш. Аднак шырокага і раўнапраўнага эканамічнага супрацоўніцтва Беларусі з заходнімі краінамі не склалася па прычыне нізкай канкурэнтаздольнасці большасці беларускіх тавараў, а таксама з-за імкнення замежных прадпрымальнікаў вывозіць з Беларусі пераважна сыравіну і прадукты харчавання, а не прамысловыя тавары.

Значна павялічылася колькасць сумесных і замежных прадпрыемстваў. Калі ў 1992 г. у Беларусі было зарэгістравана 201 су-




меснае і 8 замежных прадпрыемстваў, то праз 8 гадоў — адпаведна 1816 і 1332 прадпрыемствы.

У пачатку XXI ст. доля выпрацаванай прадпрыемствамі з удзелам замежнага капіталу прадукцыі склала каля 10 % выробленай у краіне. Найбуйнейшымі краінамі, якія ўкладвалі свае капіталы ў Беларусі, з'яўляліся Нідэрланды, Германія, ЗША. Падтрымку Беларусі аказваў Еўрапейскі банк рэканструкцыі і развіцця.

Як краіна з пераходнай эканомікай, Беларусь паступова набывае прывабнасць для ўкладвання (інвестыцый) замежнага капіталу.

***Вызначым асноўнае ў змесце параграфа.*** Суверэнная Беларусь вызначылася з асноўнымі прынцыпамі і прыярытэтамі сваёй шматвектарнай знешняй палітыкі. Краіна стала тэрыторыяй свабоднай ад ядзернай зброі і імкнецца набыць статус нейтральнай дзяржавы. Ва ўмовах пераходу ад двухполюснага да шматполюснага свету Рэспубліка Беларусь замацавала свой суверэнітэт. Прыярытэтным кірункам у знешняй палітыцы на мяжы тысячагоддзяў стала ўмацаванне інтэграцыйных сувязей з Расіяй у межах Саюзнай дзяржавы і гандлёва-эканамічнае супрацоўніцтва з краінамі СНД у межах Еўразійскага эканамічнага супольніцтва. Шляхі яднання братніх беларускага і рускага народаў і ўтварэння Саюзнай дзяржавы звязаны са стварэннем адзінай эканамічнай прасторы ў межах Мытнага саюза. Адбывалася паступовая інтэграцыя нашай краіны ў еўрапейскую прастору. Вырашалася праблема ўмацавання энергетычнай бяспекі краіны праз пераадоленне яе аднабаковай залежнасці ад імпартных паставак сыравіны, а таксама праблема шырокага прыцягнення ў эканоміку краіны замежнага капіталу (інвестыцый) і высокіх тэхналогій. Умацоўваліся навуковыя і культурныя сувязі рэспублікі з усімі краінамі свету.

***Паняцці і тэрміны, якія трэба засвоіць:*** *нейтральная дзяржава, Арганізацыя Дагавора аб калектыўнай бяспецы, Еўразійскае эканамічнае супольніцтва, Саюз Беларусі і Расіі, Усходняе партнёрства, «Партнёрства дзеля міру», Саюзная дзяржава.*

## ДАДАТКОВЫ МАТЭРЫЯЛ

****1. З перадвыбарнай праграмы Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнкі. Верасень 2001 г.**

«Нашы перспектывы ў свеце

Беларусь — у цэнтры Еўропы, і яна будзе жыць у адзінай Еўропе, у міры і згодзе з усімі суседзямі.

Знешняя палітыка беларускай дзяржавы будзе заснавана на прынцыпах шматвектарнасці і захавання нормаў міжнароднага права.

Саюзныя адносіны з братняй Расіяй — асноўны прыярытэт знешнепалітычнай дзейнасці кіраўніцтва Беларусі.

Мы будзем будаваць самыя трывалыя адносіны з нашымі суседзямі і краінамі Садружнасці Незалежных Дзяржаў.

Адначасова мы адкрыты для ўсебаковага і раўнапраўнага супрацоўніцтва з усімі дзяржавамі свету. Нам важна і выгадна выкарыстоўваць каштоўны вопыт і дапамогу ААН, Еўрасаюза, Міжнароднага валютнага фонду, Сусветнага банка, Еўрапейскага банка рэканструкцыі і развіцця і іншых міжнародных арганізацый і аб’яднанняў.

Але будаваць свае адносіны з усімі дзяржавамі і міжнароднымі арганізацыямі мы будзем толькі зыходзячы з нацыянальных інтарэсаў, на аснове роўнасці і ўзаемнай павагі».

*У чым заключаецца шматвектарны знешнепалітычны курс Рэспублікі Беларусь?*

****2. З выступлення Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнкі на Чацвёртым Усебеларускім народным сходзе. Снежань 2010 г.**

«Статус “перакрыжавання”, якім геапалітычна надзелена Беларусь, мы разумеем як звязуючае звяно, артэрыю паміж Захадам і Усходам. Але не як бар’ер, буфер ці санітарны кардон і ніякім чынам не прахадны двор.

Мы не маем намеру выбіраць паміж Еўрасаюзам і Расіяй... У нас уласнае месца ў Еўропе ... свае геапалітычная ідэнтычнасць і нацыянальныя інтарэсы...

Найбольш аптымальнай для нас з’яўляецца стратэгія роўнай набліжанасці да Усходу і Захаду».

*Вызначце, у чым заключаецца геапалітычная ідэнтычнасць Беларусі і як яна спалучаецца з нацыянальнымі інтарэсамі.*

## ПЫТАННІ І ЗАДАННІ

1. Вызначце, што сведчыць аб тым, што Рэспубліка Беларусь імкнецца стаць нейтральнай дзяржавай.
2. Пералічыце асноўныя прынцыпы знешняй палітыкі Рэспублікі Беларусь.
3. Якія кірункі знешнепалітычнай дзейнасці Рэспублікі Беларусь з’яўляюцца прыярытэтнымі і чаму?
4. Раскрыйце прычынна-выніковую сувязь паміж наступствамі чарнобыльскай катастрофы і прыняццем «Парадку дня на XXI стагоддзе».
5. Растлумачце, у чым заключаюцца перспектывы ўдзелу Беларусі ў Еўразійскім эканамічным супольніцтве.

**6.** Вызначце, якую ролю адыгрывае Рэспубліка Беларусь у дзейнасці ААН ва ўмовах пераходу ад двухполюснага да шматполюснага свету. Выкарыстайце адпаведны дадатковы матэрыял.
**7.** Падрыхтуйце паведамленне аб выкананні Беларуссю Дэкларацыі тысячагоддзя.
**8.** Ахарактарызуйце этапы і вынікі інтэграцыйнага працэсу паміж Беларуссю і Расіяй.
**9.** Ахарактарызуйце ўзаемаадносіны Беларусі з еўрапейскімі краінамі.
**10.** Ахарактарызуйце знешнеэканамічныя сувязі Беларусі з пункту гледжання вырашэння праблем энергетычнай бяспекі і прыцягнення замежных інвестыцый і тэхналогій.
**11.** Дакажыце, што знешняя палітыка рэспублікі мае шматвектарны характар, і растлумачце чаму.
**12.** Вызначце, якія перспектывы маюцца ў развіцці міжнароднага супрацоўніцтва ў галіне вышэйшай адукацыі.

## § 26—27. Развіццё адукацыі, навукі і культуры

### Вучэбная задача

Вызначыць, у чым заключаецца ўклад адукацыі, навукі і культуры ў павышэнне канкурэнтаздольнасці беларускай нацыі і стварэнне нацыянальных брэндаў.

### Успомніце

1. Якія мэты ў галіне адукацыі вызначаны ў Дэкларацыі тысячагоддзя? 2. Што такое чалавечы капітал?

**Культура Беларусі ва ўмовах дзяржаўнага суверэнітэту.** Набыццё дзяржаўнага суверэнітэту абумовіла новы этап у развіцці нацыянальнай культуры. Яна разглядаецца як неад'емная складаючая суверэнітэту дзяржавы (**1). Упершыню былі прыняты законы, якія вызначылі месца культуры ў жыццядзейнасці дзяржавы. У іх ліку законы «Аб культуры», «Аб ахове гісторыка-культурнай спадчыны», «Аб бібліятэчнай справе», «Аб музеях і музейным фондзе» і інш. У 1997 г. заснаваны Фонд Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы культуры і мастацтва. З 1997 г. прысуджаецца прэмія «За духоўнае адраджэнне», а з 1998 г. — спецыяльная прэмія Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у галіне культуры, навукі і педагагічнай дзейнасці. Штогод, пачынаючы з

1994 г., у нашай краіне адзначаецца Дзень беларускага пісьменства, які стаў па-сапраўднаму нацыянальным святам і значнай падзеяй культурнага жыцця.

У адпаведнасці з Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь **2009 г.** быў абвешчаны ў нашай краіне Годам роднай зямлі, што накіравана на зберажэнне і памнажэнне нацыянальнай духоўнай і культурнай спадчыны і традыцый беларускага народа. У 2010 г. распачалася акцыя «Культурная сталіца Беларусі». Гэта своеасаблівы аналаг праекта «Культурная сталіца Еўропы», які праводзіцца сярод краін — удзельніц Еўрасаюза. Культурнай сталіцай Беларусі ў 2010 г. стаў старажытны Полацк, які раней атрымаў статус Нацыянальнага гісторыка-культурнага музея-запаведніка. У 2011 г. культурнай сталіцай Беларусі быў абвешчаны Гомель, а ў 2012 г. — старажытны Нясвіж.

Важнае значэнне ў нацыянальна-культурным адраджэнні Беларусі мела стварэнне спрыяльных умоў для развіцця беларускай мовы. У 1990 г. Вярхоўны Савет прыняў Закон «Аб мовах у Беларускай ССР». Ён абвясціў беларускую мову дзяржаўнай. У Законе прадугледжвалася права свабоднага карыстання рускай мовай як мовай міжнацыянальных зносін, свабоднае развіццё і ўжыванне іншых нацыянальных моў. Прынятае ў 1994 г. Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь заканадаўча замацавала дзяржаўны статус беларускай мовы. У пачатку 1990-х гг. беларуская мова пачала больш шырока ўжывацца ў дзяржаўным справаводстве і ва ўстановах адукацыі. Па ініцыятыве Прэзідэнта на рэспубліканскі рэферэндум 14 мая 1995 г. было вынесена пытанне аб статусе рускай мовы ў Беларусі. Большасць насельніцтва выказалася за наданне роўных правоў беларускай і рускай мовам. Палажэнне аб існаванні дзвюх раўнапраўных дзяржаўных моў у рэспубліцы было замацавана ў новай рэдакцыі Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, прынятай на рэспубліканскім рэферэндуме 24 лістапада 1996 г. Па выніках перапісу насельніцтва ў 1999 г. беларускую мову назвалі роднай 73,7 % жыхароў Беларусі, а ў 2009 г. — 53 %.

У канцы XX ст. паўстала пытанне аб беларускім правапісе, бо істотна змяніўся слоўнікавы склад беларускай мовы, лексіка папоўнілася шматлікімі запазычаннямі. Гэта прывяло да значнага парушэння адзінства правапісных норм сучаснай беларускай літаратурнай мовы. Патрабавалася пазбегнуць арфаграфічнага раз-

набою ў пісьмовай беларускай мове. У 2009 г. быў прыняты Закон «Аб правілах беларускай арфаграфіі і пунктуацыі», накіраваны на забеспячэнне адзінства правапісных норм беларускай мовы (**2).

**Развіццё нацыянальнай сістэмы адукацыі.** У 1991 г. Вярхоўны Савет прыняў Закон «Аб адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь». У ім адзначалася, што кожнаму грамадзяніну гарантуецца магчымасць атрымання адукацыі, якая адпавядала б яго патрабаванням і здольнасцям. За гады незалежнасці ў Рэспубліцы Беларусь склалася і працуе эфектыўная нацыянальная сістэма адукацыі, якая дазваляе рэалізаваць канстытуцыйнае права грамадзян на атрыманне якаснай адукацыі. Па стане на 2010 г. у Беларусі функцыянуе больш за 9 тыс. устаноў адукацыі, якія прадстаўляюць усе ўзроўні адукацыі, дзе навучаецца і выхоўваецца больш за 2 млн дзяцей і моладзі. Дасягнуты высокі ўзровень пісьменнасці моладзі 15—24 гадоў, які складае 99,8 %. Згодна з Дэкларацыяй тысячагоддзя рэалізавана мэта забеспячэння ўсеагульнай пачатковай адукацыі.

У 1999 г. урадам Беларусі была прынята Праграма развіцця нацыянальнай сістэмы адукацыі да 2010 г. Распачаўся паступовы пераход базавай школы на 10-гадовы тэрмін абавязковага навучання. У 2008 г. у адпаведнасці з Дэкрэтам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь «Аб асобных пытаннях агульнай сярэдняй адукацыі» адбыліся эвалюцыйныя змены, звязаныя з пераходам агульнай сярэдняй адукацыі да 11-гадовага тэрміну навучання замест 12-гадовага, рашэнне аб увядзенні якога было прынята раней. Сярэдняя адукацыя з'яўляецца сёння адным з галоўных звёнаў у забеспячэнні ўстойлівага сацыяльна-эканамічнага развіцця нашай краіны.

Прафесійна-тэхнічная адукацыя разам з атрыманнем агульнай сярэдняй адукацыі прадугледжвае падрыхтоўку навучэнцаў больш чым па 400 прафесіях.

Установы сярэдняй спецыяльнай адукацыі ажыццяўляюць падрыхтоўку кадраў сярэдняй кваліфікацыі для народнай гаспадаркі і культуры.

На мяжы стагоддзяў працягвае дынамічна развівацца вышэйшая адукацыя, якая стала масавай. Калі ў 1990 г. на кожныя 10 тыс. насельніцтва Беларусі прыходзілася 185 студэнтаў, то ў сярэдзіне 2011 г. — 467. На пачатак 2010/2011 навучальнага года прыём абітурыентаў вялі 45 дзяржаўных і 10 прыватных устаноў, якія забяспечваюць атрыманне вышэйшай адукацыі. У вышэйшай

школе, якая мае дзве ступені, укараняецца кампетэнтнасны падыход да падрыхтоўкі спецыялістаў. Першая ступень забяспечвае падрыхтоўку дыпламаваных спецыялістаў па профілі навучання. Другая ступень вышэйшай адукацыі (магістратура) арыентавана на падрыхтоўку да навуковай і навукова-педагагічнай дзейнасці.

Паступова ствараюцца пэўныя перадумовы для далучэння Беларусі да *Балонскага працэсу*, арыентаванага на збліжэнне і гарманізацыю сістэм вышэйшай адукацыі краін Еўропы з мэтай стварэння адзінай адукацыйнай прасторы. Удзельнікамі гэтага працэсу з'яўляюцца 47 краін, у тым ліку Расія, Украіна, Малдова, Грузія, Арменія, Азербайджан, Казахстан. Балонскі працэс закладвае міжнародныя стандарты для атрымання дыплома аб вышэйшай адукацыі, што звязана з рэалізацыяй самімі студэнтамі ўласнай індывідуальнай траекторыі навучання. У справе збліжэння адукацыйных сістэм вялікая роля надаецца павышэнню якасці адукацыі, увядзенню рэйтынгавай сістэмы ацэнкі і распрацоўцы крэдытаў (заліковых акадэмічных адзінак), ролі самастойнай работы студэнтаў і іх арыентацыі на вырашэнне прафесійна-арыентаваных праблем. Сведчаннем акадэмічнай мабільнасці стала навучанне замежных студэнтаў у беларускіх установах вышэйшай адукацыі. У 2008/2009 навучальным годзе іх колькасць дасягнула 7,5 тыс. чалавек, якія прадстаўлялі 87 краін свету.

Прадпрымаюцца таксама намаганні па гарманізацыі беларускай і іншых сістэм адукацыі ў межах СНД, Саюзнай дзяржавы, ЕўрАзЭС, у тым ліку звязаныя з узаемапрызнаннем дакументаў аб адукацыі, падрыхтоўкай спецыялістаў. У прыватнасці, адкрыты і паспяхова працуе Беларуска-расійскі ўніверсітэт у Магілёве. Распрацоўваецца нацыянальная сістэма менеджменту якасці адукацыйных устаноў, якая стварае ўмовы для набліжэння нацыянальнай сістэмы адукацыі да міжнародных стандартаў.

У 2011 г. уступіў у сілу «Кодэкс аб адукацыі». Згодна з Кодэксам дзяржаўная палітыка ў галіне адукацыі грунтуецца на прынцыпах прыярытэту агульначалавечых каштоўнасцей, правоў чалавека, гуманістычнага характару адукацыі, забеспячэння роўнага доступу да атрымання адукацыі, падтрымкі і развіцця адукацыі з улікам задач сацыяльна-эканамічнага развіцця нашай краіны. Гэты дакумент стварае адзіны цэласны механізм заканадаўчага рэгулявання пытанняў, якія звязаны з функцыянаваннем

усіх узроўняў адукацыі, забяспечвае сістэматызацыю і ўпарадкаванне прававых норм у сферы адукацыі. Так, у агульнай сярэдняй адукацыі замацаваны 11-гадовы перыяд навучання, пяцідзённы вучэбны тыдзень, 10-бальная шкала ацэньвання ведаў. У нашай краіне рэалізуецца прынцып бесперапыннай адукацыі «Адукацыя не на ўсё жыццё, адукацыя праз усё жыццё».

Адукацыя разглядаецца сёння як галоўны рэсурс развіцця чалавечага капіталу і канкурэнтаздольнай эканомікі. Таму ўсё больш цеснымі становяцца сувязі паміж установамі вышэйшай адукацыі і рознымі галінамі беларускай эканомікі. Рэалізуецца ідэя стварэння бізнес-інкубатараў як звяна паміж установамі вышэйшай адукацыі і прадпрыемствамі, у якіх студэнты набываюць практычны вопыт выкарыстання ведаў дзеля задавальнення канкрэтных патрэб навукаёмістых вытворчасцяў. Адкрыты новыя спецыяльнасці, звязаныя з падрыхтоўкай кадраў у галіне лагістыкі, для работы на атамнай электрастанцыі.

Патэнцыял развіцця нашай краіны звязваецца са станаўленнем *грамадства ведаў* як наступнага этапу ў развіцці інфармацыйнага грамадства. У грамадстве ведаў вызначальнай рысай становіцца пераважная роля навукі і тэхнікі ў працэсах вытворчасці інфармацыі, неабходнай для жыццядзейнасці людзей, веды ператвараюцца ў важнейшы фактар грамадскага развіцця. Важную ролю набываюць аналітычныя здольнасці чалавека, звязаныя з пошукам неабходнай інфармацыі, фармуляваннем праблем і гіпотэз, вырашэннем складаных задач. Падрыхтоўка да жыцця ў інфармацыйнай прасторы патрабуе авалодвання камп'ютарнымі тэхналогіямі і добрага ведання замежных моў. У выніку рэалізацыі дзяржаўнай праграмы «Комплексная інфарматызацыя адукацыйнай сістэмы Рэспублікі Беларусь на 2007—2010 гг.» значна палепшыўся паказчык забяспечанасці школ камп'ютарамі. У 2009 г. нагрузка на адзін камп'ютар склала 22 вучні, а 80 % школ атрымалі доступ у інтэрнэт.

Росту адукацыйнага патэнцыялу краіны садзейнічае дзейнасць 4,6 тыс. бібліятэк. У 2006 г. адбылося ўрачыстае адкрыццё Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, якая ўяўляе сабой найбуйнейшы інфармацыйны і культурны цэнтр. Яна з'яўляецца часткай інтэлектуальнага скарбу нашай планеты і своеасаблівым сімвалам (брэндам) сучаснай Беларусі. Яе фонд налічвае 9 млн кніг, якія

ўнесены ў электронны каталог. Падобныя каталогі па стане на 2011 г. маюць толькі 20 % нацыянальных бібліятэк свету, а на постсавецкай прасторы ён ёсць у адкрытым доступе ў інтэрнэце толькі на сайце Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі (**3).

**Развіццё беларускай навукі.** Стабілізацыя сацыяльна-эканамічнага становішча ў нашай краіне з сярэдзіны 1990-х гг. пачала аказваць станоўчы ўплыў на навуку. Палепшылася дзяржаўная сістэма кіравання гэтай галіной, створана сістэма падрыхтоўкі навуковых і навукова-педагагічных кадраў. Асаблівая ўвага ў апошнія гады надаецца распрацоўцы прыярытэтных навуковых кірункаў, якія садзейнічаюць развіццю навукова-тэхнічнага прагрэсу. Для гэтага ў Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі арганізаваны інстытуты: хіміі новых матэрыялаў, малекулярнай і атамнай фізікі, Аб'яднаны інстытут праблем інфарматыкі і інш. У нашай краіне працуе адзін з лепшых на постсавецкай прасторы Цэнтр святлодыёдных і оптаэлектронных тэхналогій. Цэнтр сістэм ідэнтыфікацыі наладзіў вытворчасць інтэгральных мікрасхем для рэалізацыі метаду радыёчастотнай ідэнтыфікацыі, які ў хуткім будучым замяніць штрыхавы код, што выкарыстоўваецца ў гандлі, транспарце, медыцыне, сацыяльнай сферы ўжо на працягу 30 год. Вучоныя нашай краіны ажыццявілі шмат важных навуковых даследаванняў практычна ва ўсіх галінах ведаў.



Ж. І. Алфёраў

У 2000 г. лаўрэатам Нобелеўскай прэміі па фізіцы стаў ураджэнец Беларусі Ж. І. Алфёраў. Яго вынаходніцтвы ў галіне сучасных інфармацыйных тэхналогій, у прыватнасці вынаходніцтвы хуткіх транзістараў, лазерных дыёдаў, інтэгральных мікрасхем-«чыпаў», дазволілі зрабіць звычайнымі такія рэчы, як прайгравальнік кампактдыскаў, пульт дыстанцыйнага кіравання, сонечныя батарэі, мабільныя тэлефоны. Ж. І. Алфёраў узнагароджаны ордэнам Францыска Скарыны, стаў ганаровым грамадзянінам Віцебска.

У 2007 г. адбыўся Першы з'езд вучоных Беларусі, на якім былі падведзены вынікі папярэдняга развіцця навукі і вызначаны яе задачы ў аспекце выканання Дзяржаўнай праграмы інавацыйнага развіцця Рэспублікі Беларусь на 2007—

2010 гг. *Інавацыя* ўяўляе сабой комплексны мэтанакіраваны працэс стварэння, распаўсюджвання і выкарыстання навеўвядзенняў з пераўтварэннем іх у прадукцыю і вывядзеннем яе на рынак для камерцыйнага выкарыстання. Інавацыйнае развіццё звязана са стварэннем, распаўсюджваннем і выкарыстаннем на практыцы новых метадаў, методык, тэхналогій, праграм і інш. з мэтай павышэння ўзроўню жыцця і дабрабыту людзей. Інавацыя — гэта заўсёды канчатковы вынік інтэлектуальнай дзейнасці чалавека, які вядзе да якаснага павышэння эфектыўнасці вытворчасці і з'яўлення тавараў і паслуг з новымі спажывецкімі якасцямі.

У кірунку інавайцыйнага развіцця значнасць набылі беларускія напрацоўкі ў галіне інфармацыйных тэхналогій. У сусветны рэйтынг самых высокапрадукцыйных вылічальных сістэм уключаны суперкамп'ютар «СКІФ», створаны ў выніку беларуска-расійскага партнёрства ў галіне высокіх тэхналогій. Прадукцыйнасць СКІФа знаходзіцца ў дыяпазоне ад 10 млн да некалькіх трыльёнаў аперацый за секунду. У 2005 г. Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь падпісаны Дэкрэт аб стварэнні Парка высокіх тэхналогій (ПВТ). Ён прызначаны для развіцця беларускай навукі, укаранення інфармацыйных тэхналогій у прамысловасць, а таксама для экспарту праграмнага забеспячэння за межы краіны. Заказчыкамі праграмнага прадукту ПВТ з'яўляюцца кампаніі 50 краін свету. У ПВТ, у прыватнасці, распрацавана сістэма спадарожнікавай навігацыі, праграма якой будзе выкарыстоўвацца ў якасці своеасаблівага гіда ў час правядзення зімовай Алімпіяды ў Сочы і чэмпіяната свету па хакеі ў Мінску ў 2014 г. Фактычна можна сцвярджаць, што ў беларускай эканоміцы створана паўнацэнная ІТ-галіна. У 2011 г. пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь створаны Савет па развіцці інфармацыйнага грамадства. Яго дзейнасць накіравана на каардынацыю супрацоўніцтва паміж рознымі органамі і ўстановамі пры ажыццяўленні дзяржаўнай інфармацыйнай палітыкі, на стварэнне адзінай сістэмы аказання дзяржаўных паслуг у электроннай форме. Савет прадугледжвае рэгуляванне ў сферы інфармацыйна-камунікацыйных тэхналогій.

У нашай краіне прынята рашэнне аб развіцці касмічнай галіны. Пры гэтым дзяржава арыентавалася на тых высакакласных спецыялістаў, якія яшчэ ў часы Савецкага Саюза шмат рабілі для асваення космасу. У 2012 г. на касмадроме Байканур адбыўся


А. Навіцкі

паспяховы запуск беларускага касмічнага апарата, у стварэнні якога ўдзельнічалі сотні прадпрыемстваў Беларусі і Расіі. Такім чынам, наша краіна прыступіла да стварэння самастойнай сістэмы дыстанцыйнага зандзіравання Зямлі, якая дазволіць аператыўна атрымліваць неабходную інфармацыю з космасу. У гэтым жа годзе да міжнароднай касмічнай станцыі стартавала чарговая экспедыцыя на чале з камандзірам карабля ўраджэнцам Беларусі А. Навіцкім.

Значных поспехаў, дзякуючы сучасным навуковым распрацоўкам, дабілася беларуская медыцына, у прыватнасці, у галіне транспланталогіі. У нашай краіне праводзяцца аперацыі, якія ў свеце робяцца ў адзінкавых краінах. У Цэнтры трансплантапогіі і клетачных біятэхналогій у Мінску выкарыстоўваецца распрацаванае ў ПВТ праграмнае забеспячэнне, прызначанае для вядзення рэгістраў донараў касцявога мозга і ствалавых клетак. Створаны эксперыментальныя ўзоры лазераў, якія не саступаюць лепшым сусветным аналагам, прызначаныя для лячэння хвароб вачэй (**4).

Вялікую культурную і навуковую каштоўнасць маюць даследаванні вучоных-гуманітарыяў. Сярод іх — выданні «Энцыклапедыя гісторыі Беларусі» (у 6 т.), «Беларусы» (у 8 т.), «Вялікае Княства Літоўскае» (у 3 т.), «Гісторыя беларускага мастацтва» (у 6 т.), біябібліяграфічны слоўнік «Беларускія пісьменнікі» (у 6 т.) і інш. Вучоныя-гісторыкі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі сумесна са сваімі калегамі праводзяць актыўную даследчыцкую працу па выкананні Дзяржаўных праграм навуковых даследаванняў па гісторыі беларускай нацыі, дзяржаўнасці і культуры. Гісторыкі-археолагі Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі склалі ўнікальны збор гістарычных звестак і археалагічных матэрыялаў, якія тычацца Нацыянальнага парку «Прыпяцкі» з моманту з'яўлення першага чалавека на тэрыторыі Беларусі і да сучаснасці.

Нацыянальна-культурнаму адраджэнню ў суверэннай Беларусі ў значнай ступені спрыяе вяртанне забытых або забароненых імён дзеячаў навукі і культуры. Адноўлены ў памяці народа прозвішчы выдатных беларускіх вучоных-гісторыкаў: В. Ю. Ластоўскага, які ў 1910 г. упершыню выдаў «Кароткую гісторыю Бела-

русі» на беларускай мове; У. М. Ігнатоўскага, аўтара «Кароткага нарыса гісторыі Беларусі»; М. В. Доўнар-Запольскага, чыя «Гісторыя Беларусі», падрыхтаваная яшчэ ў 1920-я гг., выдадзена толькі ў наш час.

**Новы этап у развіцці беларускай літаратуры.** На мяжы стагоддзяў беларускія пісьменнікі імкнуліся ўносіць свой уклад у асэнсаванне ўсіх тых працэсаў, якія адбываліся ў беларускім грамадстве. Шлях да новай літаратуры, якая стала служыць усяму беларускаму грамадству, а не адной партыі, як гэта было раней, звязаны з асэнсаваннем новых тэм. Сярод іх — беларуская нацыянальная ідэя. Яна грунтуецца на прызнанні самабытнасці беларускай нацыі, яе адвечным імкненні да свабоды, справядлівасці, набыцці ўласнай дзяржаўнасці. Сучасная беларуская літаратура знаходзіцца ў пошуку адказу на пытанні: хто мы? Што мы за нацыя — беларусы? Адкуль і куды ідзём? Што нас чакае ў будучыні? Своеасаблівай спробай адказу стала пасмяротная кніга паэзіі розных гадоў П. Панчанкі «Зямля ў мяне адна», вершы Н. Гілевіча, якія выйшлі асобнай кніжкай пад назвай «Незалежнасць».

У літаратуры з'явіліся тэмы, прысвечаныя культурна-гістарычнай спадчыне беларускага народа. Шэраг пісьменнікаў звярнуўся да слаўнага мінулага Бацькаўшчыны. Сярод іх Л. Дайнека. Яго раманы «Меч князя Вячкі», «След ваўкалака», «Жалезныя жалуды» прысвечаны першаму дзяржаўнаму ўтварэнню ўсходніх славян на тэрыторыі Беларусі — Полацкаму княству — і перыяду фарміравання Вялікага княства Літоўскага.

Як і раней, у беларускай літаратуры прысутнічае тэма вясковага жыцця. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі В. Адамчык раманам «Голас крыві брата твайго» скончыў тэтралогію пра трагічны лёс заходнебеларускай вёскі ў даваенныя і ваенныя часы. Народны пісьменнік Беларусі лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі І. Чыгрынаў раманамі «Вяртанне да віны» і «Не ўсе мы згінем» завяршыў пенталогію — эпічнае палатно пра вёску Верамейкі і верамейкаўцаў, іх жыццё і змаганне ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Праблемы сучаснай вёскі разглядае Г. Далідовіч у рамане «Заходнікі».

У творах беларускіх пісьменнікаў асэнсоўваецца жыццё людзей у забруджаных пасля чарнобыльскай катастрофы раёнах Беларусі. Пытанні выратавання насельніцтва пацярпелых ад аварыі

тэрыторый і аказання гуманітарнай дапамогі Беларусі звязаны ў творах з вырашэннем глабальнай экалагічнай праблемы. Жыццёвыя лёсы тых, хто пацярпеў ад катастрофы, адлюстраваны ў рамане І. Шамякіна «Злая зорка», у кнізе беларускай пісьменніцы С. Алексіевіч «Чарнобыльская малітва (Хроніка будучыні)».

Беларускіх пісьменнікаў цікавяць пачуцці сучаснага чалавека, які апынуўся ў складаных жыццёвых умовах. Гэтай тэматыцы прысвечаны творы старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі (з 2005 г.) М. Чаргінца. У рамане «Вам — заданне» паказана небяспечная служба супрацоўнікаў міліцыі ў гады Вялікай Айчыннай вайны і ў мірны час. У раманах «Тайна Чорных Гор» і «Сыны» расказваецца аб знаходжанні кантынгенту савецкіх войск у Афганістане, дзе ў 1980-я гг. служыў і аўтар.

**Выяўленчае мастацтва.** Мяжа стагоддзяў вызначылася зваротам беларускага мастацтва да агульначалавечых і нацыянальных каштоўнасцей. Значная частка мастакоў адлюстроўвае ў сваіх творах гістарычныя падзеі, якія падаюцца ў нацыянальна-рамантычным выглядзе, звязаным са зваротам да гістарычнага мінулага і паэтызацыяй традыцыйных рысаў нацыянальнай культуры. Такая, напрыклад, галерэя партрэтаў Радзівілаў, замалёўкі архітэктурных помнікаў Нясвіжа, якія зроблены У. Стальмашонкам.

Творчасць беларускіх мастакоў прасякнута любоўю да роднага краю і свайго народа. Сярод іх — палатно «Вяртанне на радзіму» лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь М. Селешчука, пейзажы народнага мастака Беларусі, класіка сучаснага беларускага жывапісу, ветэрана Вялікай Айчыннай вайны, кавалера ордэна Ф. Скарыны Л. Шчамялёва «Зіма ў Навагрудку», «Лета ў Астрашыцкім» і інш. (**5).

Аўтарам цыкла партрэтаў дзеячаў беларускай культуры, у тым ліку трыпціха «За зямлю, за волю», прысвечанага К. Каліноўскаму, стваральнікам вітражоў у касцёле Святых Сымона і Алены з'яўляецца народны мастак Беларусі Г. Вашчанка. Ім на тэму Чарнобыля створана палатно «Мой дом — мой боль».

Мастаком А. Кішчанкам у 1995 г. зроблены габелен «Чарнобыль», які знаходзіцца ў будынку ААН у Нью-Ёрку. Статус гісторыка-культурнай спадчыны прысвоены «Габелену стагоддзя», які ўнесены ў Кнігу рэкордаў Гінеса. На ім адлюстраваны больш за 80 вядомых палітыкаў і дзеячаў культуры XX ст. Габелен быў

уручную вытканы на Барысаўскім камбінаце прыкладнога мастацтва, яго плошча складае 266 м$^2$, а вага — 286 кг. А. Кішчанка даў пачатак адраджэнню габелена як віду дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, вядомага на Беларусі яшчэ з XVIII ст.



Габелен стагоддзя. Фрагмент. Мастак А. Кішчанка. *1995 г.*

**Тэатральнае і музычнае жыццё.** Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Я. Купалы, будынак якога рэканструяваны, часткова рэстаўраваны і набліжаны да лепшых узораў архітэктуры XIX ст., з'яўляецца адным з цэнтраў нацыянальна-культурнага жыцця ў нашай краіне. Сярод тэатральных пастановак, прысвечаных гістарычнай тэматыцы, вызначаецца спектакль «Князь Вітаўт» А. Дударава. Лёс Барбары Радзівіл паказаны ў яго спектаклі «Чорная панна Нясвіжа». Яшчэ адной гістарычнай п'есай А. Дударава ў яго своеасаблівым трыпціху стала «Ядзвіга». Жанчыне ў гісторыі прысвечаны спектакль купалаўскага тэатра паводле гістарычнай драмы І. Чыгрынава «Звон — не малітва», у цэнтры якога — лёс полацкай князёўны Рагнеды. Падзеям калектывізацыі прысвечана п'еса У. Бутрамеева «Страсці па Аўдзею». Рэжысёр М. Пінігін стварыў спектакль «Тутэйшыя» паводле твора Я. Купалы. У ім адлюстраваны складаны для беларускага народа перыяд пачатку 1920-х гг., калі германская акупацыя змянілася польскай. У купалаўскім тэатры ў 2011 г. адбылася прэм'ера спектакля «Выкраданне Еўропы», створанага рэжысёрам М. Пінігіным на аснове п'ес XVIII ст., аўтарам якіх з'яўляецца Францішка Уршуля Радзівіл.

Значнай падзеяй у тэатральным жыцці нашай краіны стаў спектакль «Раскіданае гняздо» паводле твора Я. Купалы на сцэне Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя М. Горкага. У спектаклі выяўляюцца розныя бакі беларускага характару: цярплівасць, сардэчнасць, мяккасць, з аднаго боку, і рашучае жаданне «людзьмі звацца» — з другога. Пастаноўка «Пане Каханку»

ў стылі мастацкай выдумкі прысвечана Каралю Станіславу Радзівілу, вядомаму ў гісторыі XVIII ст. пад мянушкай «Пане Каханку».

У Беларускім рэспубліканскім тэатры юнага гледача пастаўлены спектакль А. Дударава «Палачанка». Для гэтага тэатра ім была створана сцэнічная варыяцыя паводле паэмы М. Гусоўскага «Песня пра зубра».

На сцэне Беларускага Дзяржаўнага тэатра оперы і балета была пастаўлена опера кампазітара У. Солтана «Дзікае паляванне караля Стаха» паводле твора У. Караткевіча. Гістарычнаму мінуламу беларускага народа прысвечаны балет «Страсці» («Рагнеда») А. Мдзівані, пастаўлены ў 1995 г. В. Елізар’евым. Спектакль прызнаны лепшай балетнай пастаноўкай свету ў 1996 г. Вялікі ўклад у развіццё беларускага тэатральнага мастацтва ўнеслі рэжысёры В. Раеўскі, Б. Луцэнка, акцёры С. Станюта, М. Яроменка, Р. Янкоўскі і інш. У 2011 г. у рэканструяваным будынку Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Рэспублікі Беларусь упершыню ў гісторыі беларускага тэатральнага мастацтва адбылася цырымонія ўручэння Нацыянальнай тэатральнай прэміі.

Шырокую вядомасць набыў Дзяржаўны канцэртны аркестр Беларусі пад кіраўніцтвам М. Фінберга. У ім сабраны лепшыя музыканты краіны. Галоўны кірунак творчасці калектыву звязаны з адраджэннем музычнай спадчыны і папулярызацыяй беларускай музыкі.



Будынак Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Рэспублікі Беларусь

Неад'емная частка музычнага жыцця краіны — фестывалі нацыянальнага музычнага мастацтва. Стаў традыцыйным фестываль беларускай песні і паэзіі ў Маладзечне. Набылі папулярнасць міжнародны музычны фестываль «Славянскі базар» у Віцебску, міжнародны фестываль духоўнай (хрысціянскай) музыкі «Магутны Божа» ў Магілёве, фестываль «Звіняць цымбалы і гармонік» у Паставах, фестываль духавой музыкі «Беларускія фанфары» ў Баранавічах і інш. Хлопчыкі і дзяўчынкі з Беларусі паспяхова выступаюць на міжнародным дзіцячым конкурсе «Еўрабачанне», што дало магчымасць правесці яго ў 2010 г. у Мінску.

У 2002 г. па выніках праведзенага конкурсу Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь быў зацверджаны Дзяржаўны гімн нашай рэспублікі. Сцяг, герб і гімн — гэта наша дзяржаўная сімволіка. Аўтарам музычнай рэдакцыі застаўся кампазітар Н. Сакалоўскі — адзін з аўтараў Дзяржаўнага гімна БССР, што існаваў з 1955 г. Тэкст гімна на словы М. Клімковіча быў дапрацаваны У. Карызнам. Дзяржаўны гімн Рэспублікі Беларусь уяўляе сабой музычна-паэтычны твор, які заклікае да аб'яднання ўсіх жыхароў нашай краіны, чый агульны дом — Рэспубліка Беларусь.

**Беларускае кіно.** У апошняе дзесяцігоддзе XX ст. створаны цыкл гісторыка-культурных дакументальных кінафільмаў. Сярод іх «Ягайла» і «Вітаўт» (аб'яднаныя назвай «Пастка для зубра»), «Сымон Будны. Паэма», «Сімяон Полацкі», «Крыж Ефрасінні Полацкай». Майстры дакументальнага кіно звярталіся да асвятлення дзейнасці К. Каліноўскага («Ліст да нашчадкаў» і «Жыві ў свабодзе»), І. Буйніцкага («Сцежка, сцежачка, дарога»), М. Шагала («Засталася душа яго тут»), Я. Купалы («Знойдзеш Бацькаўшчыну блізка»). У шэрагу дакументальных стужак знайшла адлюстраванне чарнобыльская тэматыка. Тэлефільм «Імгненні радасці» распавядае пра хворых дзяцей, што знаходзяцца ў бальніцы пасля чарнобыльскай аварыі.

На рубяжы стагоддзяў стужкі, знятыя на кінастудыі «Беларусьфільм», паступова атрымліваюць сярод гледачоў усё большую папулярнасць. Сярод іх кінастужка «Анастасія Слуцкая», прысвечаная аднаму з эпізодаў айчыннай гісторыі. Падзеі вайны адлюстроўваюць кінастужка «У жніўні 44-га...», кінадрама «Дняпроўскі рубеж», баевікі «Снайпер» і «Зброя адплаты», фільм «У чэрвені 41-га», гісторыка-псіхалагічная драма «Ваўкі». У 2010 г. выйшаў

на шырокі экран фільм «Брэсцкая крэпасць» — першы кінапраект Саюзнай дзяржавы. Замацаванню міжнародных сувязей і аўтарытэту беларускага кіно служыць міжнародны кінафестываль «Лістапад», які штогод праводзіцца ў Мінску. Яго гран-пры ў 2012 г. атрымаў фільм «У тумане», зняты па аднайменнай аповесці В. Быкава, які адлюстроўвае ваенныя падзеі 1942 г. на акупіраванай нямецка-фашысцкімі захопнікамі тэрыторыі Беларусі. Гэты фільм у 2012 г. удастоены таксама спецыяльнага прыза міжнароднай федэрацыі кінапрэсы на 65-м Канскім кінафестывалі.

**Ушанаванне гістарычных асоб і дзеячаў культуры. Аднаўленне помнікаў архітэктуры.** Асаблівасцю новага этапа ў развіцці нацыянальнай культуры стала вяртанне нашага народа да сваіх гістарычных каранёў, ушанаванне памяці аб дзейнасці гістарычных асоб і творчасці дзеячаў культуры.

Па праектах беларускіх скульптараў быў створаны шэраг скульптурных кампазіцый і помнікаў гістарычным асобам і дзеячам культуры: Рагнедзе і Ізяславу ў Заслаўі; Ефрасінні Полацкай у Полацку і капліца ў яе памяць у Рэчыцы; Кірылу Тураўскаму ў старажытным Тураве; полацкаму князю Усяславу Брачыславічу (Чарадзею) у Полацку і князю Давыду ў Давыд-Гарадку; Ф. Скарыну ў Мінску побач з будынкам Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі; Сімяону Полацкаму і Францішцы Уршулі Радзівіл у Полацку; пісьменніку першай паловы XIX ст. Я. Баршчэўскаму ў вёсцы Мурагі Віцебскай вобласці; А. Міцкевічу ў Мінску; аўтару акварэльных замалёвак Н. Ордзе ў г. Іванава Брэсцкай вобласці; Ф. Багушэвічу ў Смаргоні, мастаку Я. Драздовічу ў Мінску; аўтару паланеза «Развітанне з Радзімай» Міхалу Клеафасу Агінскаму ў Маладзечне; М. Шагалу ў Віцебску, дзе ствараецца яго квартал; У. Караткевічу ў Оршы. З'явіўся першы ў краіне помнік вучонаму-гісторыку М. Доўнар-Запольскаму на яго радзіме ў Рэчыцы. Па ўзоры заходнееўрапейскіх універсітэтаў дворык Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта ўпрыгожылі скульптуры славутых асветнікаў Ефрасінні Полацкай і Кірылы Тураўскага, аўтара паэмы «Песня пра зубра» М. Гусоўскага, першадрукара Ф. Скарыны, асветнікаў С. Буднага і В. Цяпінскага. Брэсцкім майстрам М. Кузьмічом у 1997 г. адноўлена хрысціянская святыня, страчаная ў гады Вялікай Айчыннай вайны, — створана копія крыжа Ефрасінні Полацкай.

Па рашэнні ЮНЕСКА Мірскі замкава-паркавы комплекс і архітэктурна-культурны комплекс былой рэзідэнцыі Радзівілаў у Нясвіжы ўнесены ў Спіс сусветнай культурнай спадчыны. Яны з'яўляюцца аднымі з самых каштоўных гісторыка-культурных аб'ектаў у нашай краіне і яе своеасаблівымі брэндамі.

ГІСТАРЫЧНАЯ ДАВЕДКА

У 2010 г. адбылося ўрачыстае адкрыццё адноўленага Мірскага замка. Яго актыўная рэстаўрацыя пачалася з 2003 г. і абышлася дзяржаве ў суму больш за 90 млрд рублёў — грошы, параўнальныя з бюджэтам будаўніцтва Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі. Сёння Мірскі замак — не толькі гістарычная рэканструкцыя з элементамі розных архітэктурных стыляў ад готыкі да класіцызму, але і сучасны турыстычны аб'ект. У 39 экспазіцыйных залах замка прадстаўлены ўнікальныя ўзоры мэблі XVII ст., калекцыі зброі, рыцарскіх даспехаў і старажытных музычных інструментаў, зборы твораў жывапісу і мастацкіх прадметаў быту, вырабленых на радзівілаўскіх мануфактурах. Адрэстаўравана таксама капліца-пахавальня адных з уладальнікаў замка — князёў Святаполк-Мірскіх. Наступны этап рэстаўрацыі прадугледжвае рэканструкцыю гістарычных паркаў. Распрацавана і фінансуецца дзяржаўная праграма «Замкі Беларусі», згодна з якой прадугледжваецца аднаўленне да 2018 г. 38 гістарычных помнікаў, сярод якіх Навагрудскі, Крэўскі, Лідскі, Гальшанскі замкі і інш. Паступова аднаўляюцца рэзідэнцыя княжацкага роду Сапегаў у Ружанах, дзе адкрыта музейная экспазіцыя, палацава-паркавы комплекс Тызенгаўза ў Паставах. Распачаты рэстаўрацыйныя работы ў палацы Пуслоўскіх у Косаве, помніка неагатычнай архітэктуры XIX ст., які размяшчаецца побач з адноўленай сядзібай, дзе нарадзіўся Т. Касцюшка.

Пад кіраўніцтвам заслужанага архітэктара Беларусі Л. Левіна распрацаваны праект стварэння ў Віцебску шагалаўскага квартала (вытворча-турыстычнага комплексу) на вуліцы, дзе знаходзіцца Дом-музей сусветна вядомага мастака XX ст. М. Шагала, радзімай якога з'яўляецца Беларусь.

У адноўленым будынку Марыінскага кафедральнага касцёла ў Мінску, дзе на працягу паўстагоддзя пасля Вялікай Айчыннай вайны знаходзілася спартыўнае таварыства «Спартак», пры фінансавай падтрымцы дзяржавы адноўлены ўнікальны фрэскавы роспіс XVIII ст.

Падобна археалагічнаму музею, створанаму на месцы гарадзішча старажытнага Бярэсця, рэалізуецца праект Нацыянальнага гісторыка-археалагічнага цэнтра, на базе якога будзе праца-

ваць музей Мінска. Тут будзе адноўлена частка захаваўшагася Менскага замчышча XII ст., што дазволіць убачыць рэшткі пасялення, з якога пачыналася сучасная сталіца Беларусі.

У 2012 г. пачаў працаваць Музей сучаснай беларускай дзяржаўнасці, экспазіцыя якога адлюстроўвае гісторыю станаўлення Рэспублікі Беларусь і яе сучаснае развіццё. Сярод экспанатаў музея — указы Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, матэрыялы рэспубліканскіх рэферэндумаў, узоры дзяржаўных узнагарод, юбілейныя і памятныя манеты Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь, навейшыя распрацоўкі беларускіх вучоных, узнагароды беларускіх спартсменаў-алімпійцаў, мультымедыйныя прэзентацыі і інш. Яны ў сваёй сукупнасці адлюстроўваюць аблічча нашай краіны, жыхары якой за адносна кароткі прамежак гістарычнага часу пабудавалі суверэнную дзяржаву.

**Дасягненні беларускіх спартсменаў.** Вынікі выступленняў на міжнародных спаборніцтвах беларускіх спартсменаў сведчаць аб дасягненнях нашай краіны ў развіцці фізічнай культуры. Шмат увагі і дзяржаўнай падтрымкі ўдзяляецца шэрагу відаў спорту, сярод якіх хакей, футбол, вялікі тэніс, біятлон і інш.

Упершыню Рэспубліка Беларусь была прадстаўлена самастойнай нацыянальнай камандай на XXVI Алімпійскіх гульнях у 1996 г. Залатыя медалі тады заваявала К. Хадатовіч (акадэмічнае веславанне, байдарка-адзіночка). Яна была таксама прызёрам яшчэ трох Алімпійскіх гульняў, лепшай спартсменкай Беларусі ў 1996 і 1999 гг.



В. Шчэрба

Чатырохразовым бронзавым прызёрам па спартыўнай гімнастыцы на XXVI Алімпійскіх гульнях стаў В. Шчэрба — шасціразовы пераможца папярэдняй Алімпіяды 1992 г. у Барселоне. В. Шчэрба стаў 14-разовым чэмпіёнам свету, прызнаны лепшым спартсменам свету ў 1991—2000 гг. Шчэрба як уладальнік шасці залатых медалёў, заваяваных на адной алімпіядзе (1992 г., Барселона, Іспанія), занесены ў Кнігу рэкордаў Гінеса. У 2001 г. ордэнам Айчыны II ступені ўзнагароджаны І. Іванкоў — неаднаразовы пераможца міжнародных спаборніцтваў па спартыўнай гімнастыцы, абсалютны чэмпіён свету ў

1994, 1997 гг., абсалютны чэмпіён Беларусі ў 1993—2000 гг.

У 2001 г. лепшай спартсменкай Беларусі была прызнана Я. Карольчык — чэмпіёнка XXVII Алімпійскіх гульняў па штурханні ядра. На XXVIII Алімпійскіх гульнях у 2004 г. беларускія атлеты заваявалі 15 медалёў. Сярод іх — залаты медаль — Ю. Несцярэнка (бег на 100 м). На XXIX Алімпійскіх гульнях у 2008 г. у Пекіне нашы алімпійцы заваявалі 19 медалёў, сярод якіх ужо 4 залатыя. Першае ў гісторыі суверэннай Беларусі золата на XXI зімовых Алімпійскіх гульнях 2010 г. у Ванкуверы атрымаў фрыстайліст А. Грышын, для якога гэта алімпіяда стала чацвёртай.



М. Мірны і В. Азаранка

На XXX Алімпійскіх гульнях 2012 г. у Лондане два новыя сусветныя рэкорды ўстанавіў беларускі стралок С. Мартынаў. Тэнісістка В. Азаранка, якая ўпершыню ў гісторыі беларускага тэнісу ў 2012 г. стала першай ракеткай свету, разам з М. Мірным змагла перамагчы гаспадароў тэніснага корта. Упершыню ў гісторыі суверэннай Беларусі ў плаванні, дзе ў нас раней не было алімпійскіх узнагарод, чэмпіёнка свету 2011 г. у плаванні на 100 м вольным стылем А. Герасіменя заваявала адразу два сярэбраныя медалі.

Значнай спартыўнай падзеяй стала адкрыццё шматфункцыянальнага спартыўнага комплексу «Мінск-Арэна». Тут пабудавана адна з буйнейшых у Еўропе лядовых пляцовак, якая прыме ўдзельнікаў чэмпіяната свету па хакеі 2014 г. А сам комплекс з'яўляецца трэцім па ўмяшчальнасці крытым стадыёнам у Еўропе і самым вялікім у СНД, бо разлічаны на 15 тыс. гледачоў.

***Вызначым асноўнае ў змесце параграфа.*** Сучасная мадэрнізацыя адукацыйнай сістэмы, арыентаваная на падрыхтоўку высокакваліфікаваных спецыялістаў, звязана з яе пераўтварэннем у фактар устойлівага сацыяльна-эканамічнага развіцця нашай краіны. Беларуская навука паступова становіцца рухальнай сілай інавацыйнага развіцця. Створаныя нацыянальныя сістэмы адука-

цыі і навукі з'яўляюцца падмуркам для паступовага і паспяховага ўваходжання нашай краіны ў інфармацыйнае грамадства.

Моўная сітуацыя ў нашай краіне характарызуецца існаваннем дзяржаўнага двухмоўя, калі беларуская і руская мовы маюць статус дзяржаўных. У галіне беларускай мовы ўдасканальваюцца існуючыя правілы арфаграфіі і пунктуацыі, каб забяспечыць адзінства яе правапісных норм.

Нацыянальная культура сёння разглядаецца як краевугольны камень у падмурку дзяржаўнага суверэнітэту і станаўлення канкурэнтаздольнай беларускай нацыі. Вызначальнай рысай у развіцці мастацтва з'яўляецца нацыянальна-культурнае адраджэнне. Адлюстраванне ў беларускай літаратуры і мастацтве гістарычнай тэматыкі садзейнічае асэнсаванню сучаснасці ў спалучэнні з традыцыямі гістарычнага мінулага, выхаванню нацыянальнай ідэнтычнасці і самасвядомасці беларусаў. Мы — нашчадкі культурна-гістарычнай спадчыны сваіх продкаў. Яе веданне дазваляе нам лічыць сябе беларусамі, ганарыцца нашым мінулым і будаваць сваю будучыню.

***Паняцці і тэрміны, якія трэба засвоіць:*** *грамадства ведаў, інавацыя, Балонскі працэс.*

## ДАДАТКОВЫ МАТЭРЫЯЛ

****1. З выступлення Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнкі на Чацвёртым Усебеларускім народным сходзе. Снежань 2010 г.**

«Культура фарміруе дух нацыі! Вось чаму на першы план паўстала задача... захавання і ўзмацнення культурных і ідэалагічных асноў дзяржавы і грамадства.

...трэба прызнаць, што патэнцыял нацыянальнай культуры недастаткова выкарыстоўваецца для фарміравання і замацавання міжнароднага іміджу краіны.

Неабходна працаваць над стварэннем культурна-гістарычных брэндаў, якія маглі б ярка, пазітыўна і поўна прадставіць нашу краіну за мяжой. У нас ёсць што паказаць і чым здзівіць замежных гасцей».

*Прапануйце, карыстаючыся сваімі ведамі па гісторыі Беларусі, культурна-гістарычныя брэнды і абгрунтуйце свой выбар.*

****2. З выступлення дырэктара Інстытута мовазнаўства імя Я. Коласа НАН Беларусі А. А. Лукашанца на Першым з'ездзе вучоных Беларусі. Лістапад 2007 г.**

«У XXI стагоддзе беларуская мова ўвайшла з цэлым комплексам праблем, якія тычацца як асаблівасцей развіцця яе сістэмы, так і ролі і месца ў камунікатыўнай прасторы беларускага грамадства...

З аднаго боку, сістэма нацыянальнай беларускай мовы на працягу ўсяго мінулага стагоддзя паслядоўна і дынамічна развівалася, прайшла шлях ад пачатковага этапу фарміравання літаратурных норм да высокаразвітай літаратурнай мовы, здольнай паспяхова абслугоўваць усе камунікатыўныя патрэбнасці сучаснага грамадства...

З другога боку, развіццё і ўдасканаленне сістэмы беларускай літаратурнай мовы суправаджаецца паступовым выцясненнем яе з найбольш значных і ўплывовых сфер зносін. Яе роля зведзена да мінімуму ў такіх грамадскіх сферах, як дзяржаўнае кіраванне, справаводства, вышэйшая адукацыя, навука. А менавіта гэтыя сферы выкарыстання мовы ў сённяшнім грамадстве вызначаюць яе прэстыж».

*Ахарактарызуйце ролю і месца беларускай мовы ў камунікатыўнай прасторы сучаснага беларускага грамадства.*

****3. Культурна-гістарычнае асяроддзе**

Будынак Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі ўяўляе сабой сапраўдны Храм кнігі. Пачынаецца ён са своеасаблівых «крылаў» — двух вялікіх рэльефаў, якія ўсталяваны па абодва бакі ад галоўнага ўвахода. Разам з помнікам Ф. Скарыну яны складаюць адзіны кампазіцыйны ансамбль. На крылах — заклік беларускага і ўсходнеславянскага першадрукара



Будынак Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі

«Каб быў дасканалы Божы чалавек», які прыведзены на 18 мовах, скарынаўскія выявы Сонца і Месяца, выказванні выдатных філосафаў і асветнікаў Беларусі, у тым ліку радкі Ф. Багушэвіча: «Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!» Фігуратыўныя рэльефы ўнутры будынка адлюстроўваюць гістарычныя сюжэты. Сярод іх рэльеф «Сказ аб Нясвіжы», які расказвае пра паходжанне гэтага старажытнага горада, яго ўладароў Радзівілаў, стварае вобразы С. Буднага і яго мецэната Мікалая Радзівіла Чорнага. Інтэр'ер бібліятэкі аздабляюць творы мастацтва. Гэта кампазіцыя мастака Г. Вашчанкі «Айчына», якая складаецца з чатырох частак, што адлюстроўваюць рамантычны Мірскі замак, гатычную Сынкавіцкую царкву-крэпасць, барочны Сафійскі сабор у Полацку, класічны палацава-паркавы ансамбль Румянцавых-Паскевічаў у Гомелі. На карціне мастака Л. Шчамялёва «Музычны Віцебск» прадстаўлены горад, які набыў у сучаснай Беларусі статус другой культурнай сталіцы. Мастак М. Данцыг намаляваў для бібліятэкі палатно «Мінск. XXI стагоддзе», у якім уключыў у гарадскі пейзаж сам будынак бібліятэкі. Увагу чытачоў бібліятэкі прыцягваюць асобы, адлюстраваныя на роспісах, прысвечаных абласцям нашай краіны і яе сталіцы. Брэстчыну прадстаўляюць К. Лышчынскі, Н. Орда і інш.; Віцебшчыну — Ефрасіння Полацкая, Сімяон Полацкі, Я. Драздовіч і інш.; Гомельшчыну — Кірыла Тураўскі, М. Доўнар-Запольскі і інш.; Гродзеншчыну — А. Міцкевіч, І. Фёдараў, Я. Чачот, Цётка і інш.; Магілёўшчыну — П. Мсціславец, У. Сыракомля, В. Дунін-Марцінкевіч і інш.; Міншчыну — С. Будны, Я. Купала, Я. Колас і інш.; Мінск — М. Гусоўскі, В. Ваньковіч, С. Манюшка, Ф. Багушэвіч, М. Багдановіч і інш.

*З імёнамі якіх людзей звязана для вас ваша малая Радзіма і з чаго яна для Вас пачынаецца?*


І. П. Антонаў

****4.** Значны ўклад у развіццё беларускай медыцыны ўнёс ураджэнец Віцебшчыны, народны ўрач Беларусі, акадэмік Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі Ігнацій Пятровіч Антонаў (нарадзіўся у 1922 г.). Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны, якую пачаў санінструктарам танкавага батальёна ў час Сталінградскай бітвы. Дапамагаў параненым у танкавай бітве пад Прохараўкай у

час наступлення на Курскай дузе. У складзе танкавага ўзвода пад камандаваннем М. Колычава вызваляў ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў Мінск падчас правядзення наступальнай аперацыі «Баграціён». За гады вайны вынес з поля боя на сваіх руках 128 параненых воінаў. Пасля вайны займаўся навукай, на працягу 36 гадоў узначальваў Беларускі навукова-даследчы інстытут неўралогіі, нейрахірургіі і фізіятэрапіі. За свае навуковыя дасягненні, што выкарыстоўваюцца для лячэння хворых ва ўсім свеце, як адна з выдатных асоб XX стагоддзя ўзнагароджаны медалём Гонару другога тысячагоддзя. Ганаровы грамадзянін г. Мінска.

****5.** Любоўю да роднага краю і яго людзей прасякнуты карціны вядомага сучаснага мастака Барыса Заборава (нарадзіўся ў 1935 г.). У 1980 г. ён пераехаў жыць з роднага Мінска ў Парыж, дзе і працуе апошнія трыццаць гадоў. У 2010 г. упершыню на Радзіме адбылася яго персанальная выстава. Наш зямляк вызначае тры свае Радзімы: Беларусь, дзе нарадзіўся, Расію, дзе вучыўся, і Францыю, дзе рэалізаваўся як мастак. Манера жывапісу Б. Заборава ўяўляе сабой стылізацыю карцін пад старыя фотаздымкі як вобразы мінулага, што стварае ўражанне жыцця ў гістарычным часе. У Еўропе мастацтва Б. Заборава атрымала шырокае прызнанне, а яго прозвішча называюць другім пасля М. Шагала.

*Падрыхтуйце паведамленне пра сучасных беларускіх мастакоў, у чыёй творчасці знаходзяць адлюстраванне матывы роднага краю і гістарычныя сюжэты.*

## ПЫТАННІ І ЗАДАННІ

1. Ахарактарызуйце моўную сітуацыю ў нашай краіне.
2. Якім чынам сістэма адукацыі ў нашай краіне забяспечвае развіццё чалавечага капіталу?
3. Як вы ацэньваеце свой узровень ведаў па гісторыі? Якім чынам можа спатрэбіцца вам веданне гісторыі?
4. Дакажыце, што развіццё беларускай навукі мае інавацыйны характар.
5. Складзіце табліцу «Адлюстраванне культурна-гістарычнай спадчыны Беларусі ў творах літаратуры і мастацтва».

| Тэатр | Жывапіс | Кіно | Скульптура |
|---|---|---|---|
| | | | |

6. Раскажыце аб гістарычных асобах і дзеячах культуры, якім устаноўлены помнікі ў Беларусі, у тым ліку ў вашай мясцовасці.
7. Вызначце, чаму дзеячы культуры звяртаюцца ў сваёй творчасці да тэмы Чарнобыля.
8. Вызначце, чаму дакументальныя кінафільмы пра К. Каліноўскага — «Ліст да нашчадкаў», «Жыві ў свабодзе» — і пра М. Шагала — «Засталася душа яго тут» — маюць такія назвы.
9. Якія з дасягненняў беларускіх спартсменаў выклікаюць у вас пачуццё гонару за нашу краіну?
10. Як вы разумееце тэзіс аб тым, што нацыянальная культура з'яўляецца падмуркам дзяржаўнага суверэнітэту?
11. Як бы вы адказалі на пытанні, што ставяць дзеячы нацыянальнай культуры ў сваіх творах: хто мы? Што мы за нацыя — беларусы? Адкуль і куды ідзём? Што нас чакае ў будучыні?

## Наш край

Тэмы праектнай дзейнасці
(па індывідуальным ці калектыўным выбары вучняў)

1. Працягніце стварэнне «Сямейнага альбома», у тым ліку на электроннай аснове, у якім магчыма адлюстраваць вашу ўласную гісторыю і гісторыю вашай сям'і, прадстаўленыя ў фотаздымках, зробленых у апошняе дзесяцігоддзе XX і першае дзесяцігоддзе XXI ст.
2. Правядзіце даследаванне па тэме «Лёс чалавека», якое раскрывае абставіны жыцця аднаго з вашых землякоў ва ўмовах распаду СССР і станаўлення суверэннай Рэспублікі Беларусь.
3. Працягніце збор калекцыі прадметаў (бытавых рэчаў, адзення, прадметаў хатняга ўжытку, кніг, электронных носьбітаў інфармацыі і г. д.), якія з'яўляюцца своеасаблівымі атрыбутамі пераходу ад індустрыяльнага да інфармацыйнага грамадства на мяжы XX—XXI стст. і адлюстроўваюць дасягненні ў развіцці эканомікі і культуры вашага рэгіёну, а таксама ўзровень жыцця яго насельніцтва. Складзіце адпаведныя каментарыі да гэтых прадметаў.
4. Падрыхтуйце артыкул для газеты ці часопіса або электроннага партала (блога) аб вырашэнні адной з актуальных праблем сучаснага сацыяльна-эканамічнага ці грамадска-палітычнага жыцця Рэспублікі Беларусь на прыкладзе вашага рэгіёну.

5. Падрыхтуйце пытанні для правядзення інтэрв'ю з адным са знакамітых землякоў, які вызначыўся ў сучасным сацыяльна-эканамічным, грамадска-палітычным ці духоўна-культурным жыцці вашага рэгіёну.
6. Правядзіце апытанне, прысвечанае вызначэнню адносін вашых землякоў да гістарычных падзей, звязаных з распадам СССР і станаўленнем суверэнітэту Рэспублікі Беларусь.
7. Распрацуйце брэнд (вызначце сімвал) вашага рэгіёну, які будзе адлюстроўваць яго гістарычны вопыт і садзейнічаць фарміраванню яго станоўчага іміджу.

## § 28. Вынікі развіцця Рэспублікі Беларусь як суверэннай дзяржавы *Урок абагульнення*

***Знайдзіце і растлумачце ключавое слова:***

- у вытрымцы з Дэкларацыі Вярхоўнага Савета аб дзяржаўным суверэнітэце Беларускай ССР ад 27 ліпеня 1990 г.:

«Вярхоўны Савет Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі... урачыста абвяшчае... самастойнасць і паўнату дзяржаўнай улады рэспублікі ў межах яе тэрыторыі, правамоцнасць яе законаў, незалежнасць рэспублікі ў знешніх зносінах...»;

- у вытрымцы з Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь 1994 г. са змяненнямі і дапаўненнямі, прынятымі на рэспубліканскім рэферэндуме 24 лістапада 1996 г.:

«*Артыкул 2.* Чалавек, яго правы, свабоды і гарантыі іх рэалізацыі з'яўляюцца найвышэйшай каштоўнасцю і мэтай грамадства і дзяржавы...

*Артыкул 3.* Адзінай крыніцай дзяржаўнай улады і носьбітам суверэнітэту ў Рэспубліцы Беларусь з'яўляецца народ. Народ ажыццяўляе сваю ўладу непасрэдна, праз прадстаўнічыя і іншыя органы ў формах і межах, вызначаных Канстытуцыяй...

*Артыкул 4.* Дэмакратыя ў Рэспубліцы Беларусь ажыццяўляецца на аснове разнастайнасці... ідэалогій і поглядаў»;

- у выступленні кіраўніка дэлегацыі Рэспублікі Беларусь С. М. Мартынава на пасяджэнні Савета НАТА ў лістападзе 2002 г.:

«Права народа самастойна, без баязлівага погляду на "замежнага дзядзьку", будаваць свой уласны нацыянальны дом і ўносіць

пры гэтым надзейны ўклад у будаўніцтва бяспечнага дома еўрапейскага.

...Беларусь... была ў ліку нешматлікіх краін, якія забяспечылі сапраўдную, а не галівудскую перамогу над нацызмам, без якой былі б немагчымы ААН, АБСЕ і НАТА... [Беларусь] першай і без якіх-небудзь умоў адмовілася ад ядзернай спадчыны СССР... знішчыла... больш звычайных узбраенняў, чым ЗША, Францыя і Вялікабрытанія, разам узятыя...

...мы штодня спыняем... лавіну наркотыкаў, якая нясецца на Захад, і спыняем сустрэчны паток кантрабанды зброі і ядзерных матэрыялаў для тэрарыстаў...

Гэта... уклад у бяспеку Еўропы...

...Мы страцілі ў мінулай вайне столькі сваіх сыноў і дачок, што гатовы зрабіць і зробім усё, каб не дапусціць новай трагедыі для свайго і іншых народаў...».

***Параўнайце:***

- асновы марксісцка-ленінскай ідэалогіі, якая існавала ў БССР, і асновы ідэалогіі Рэспублікі Беларусь;
- планавую, адміністрацыйна-камандную і сацыяльна арыентаваную рыначную мадэлі эканомікі;
- ролю камуністычнай партыі ў савецкім і сучасным беларускім грамадстве;
- знешнепалітычнае становішча БССР і Рэспублікі Беларусь.

***Прывядзіце гістарычныя факты, якія адлюстроўваюць:***

- працэс станаўлення ў нашай краіне прававой дзяржавы;
- канстытуцыйнае палажэнне аб тым, што адзінай крыніцай дзяржаўнай улады ў нашай рэспубліцы з'яўляецца народ;
- працэс фарміравання ў нашай краіне інфармацыйнага грамадства;
- працэс рэалізацыі ў нашай краіне мадэлі сацыяльна арыентаванай рыначнай эканомікі;
- развіццё ўзаемаадносін паміж Беларуссю і Расіяй пасля абвяшчэння імі суверэнітэту.

***Раскрыйце прычынна-выніковыя сувязі паміж гістарычнымі падзеямі, з'явамі, працэсамі:***

- распад СССР → развіццё інтэграцыі паміж Беларуссю і краінамі СНД;

- рэспубліканскі рэферэндум 1996 г. → рэалізацыя ў дзяржаўным кіраванні Беларусі прынцыпу падзелу ўлад;
- набыццё Беларуссю суверэнітэту → правядзенне Рэспублікай Беларусь самастойнага знешнепалітычнага курсу.

***Дакажыце, што:***

- увядзенне інстытута прэзідэнцтва спрыяла стварэнню ўмоў для замацавання суверэнітэту Рэспублікі Беларусь;
- у нашай краіне захоўваецца пераемнасць паміж рознымі пакаленнямі беларусаў, якія ўдзельнічалі ў будаўніцтве і абароне БССР і садзейнічаюць станаўленню суверэннай Рэспублікі Беларусь (выкарыстайце фотаздымак, зроблены ў час працы Трэцяга Усебеларускага народнага сходу);
- у нашай краіне дзяржаўнае рэгуляванне гаспадарчых адносін спалучаецца з іх эканамічнай лібералізацыяй;
- наша краіна стала тэрыторыяй, свабоднай ад ядзернай зброі, і прытрымліваецца прынцыпаў мірнага суіснавання;
- у нашай рэспубліцы захоўваецца гісторыка-культурная спадчына беларускага народа.

***Рашыце гістарычныя задачы:***

1. Існуе шэраг думак наконт прычын распаду СССР, састаўной часткай якога была БССР. Адны лічаць, што ў складзе СССР саюзныя рэспублікі, у тым ліку БССР, не валодалі сапраўдным суверэнітэтам. Таму іх імкненне да незалежнасці прывяло да знікнення з палітычнай карты свету Савецкага Саюза. Другія бачаць прычыны распаду СССР у падпісанні кіраўнікамі трох дзяржаў Белавежскага пагаднення. Правядзіце ў сваім класе абмеркаванне магчымых прычын распаду дзяржавы, у якой нарадзіліся і жылі вашы бацькі.

2. Згодна з канстытуцыямі савецкіх рэспублік пасада прэзідэнта не прадугледжвалася. Пасля ўтварэння незалежных дзяржаў на тэрыторыі былога СССР у кожнай з іх, у тым ліку ў Рэспубліцы Беларусь, была ўведзена дадзеная пасада. Растлумачце, чаму так адбылося.

3. На працягу першай паловы 1990-х гг. сярод жыхароў Беларусі было праведзена апытанне на тэму «Як вы ацэньваеце спыненне існавання СССР і рашэнне аб стварэнні СНД?». Азнаёмцеся з яго вынікамі, якія адлюстраваны ў табліцы, і растлумачце іх.

| Варыянты адказаў | 1991 г. | 1993 г. | 1994 г. | 1995 г. |
|---|---|---|---|---|
| Правільнае рашэнне, % | 69 | 48 | 10 | 6 |
| Няправільнае рашэнне, % | 10 | 29 | 66 | 68 |
| Цяжка адказаць, % | 21 | 23 | 24 | 26 |

4. Рашэнні Першага Усебеларускага народнага сходу можна коратка вызначыць як накіраваныя на экспарт беларускіх тавараў, будаўніцтва жылля, забеспячэнне насельніцтва прадуктамі харчавання. Праграма сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны, прынятая на Другім Усебеларускім народным сходзе, дадала да прыярытэтаў павышэнне дабрабыту народа, інтэграцыю беларускай эканомікі ў сістэму сусветных гаспадарчых сувязей, падтрыманне навуковага патэнцыялу. На Трэцім Усебеларускім народным сходзе прыярытэтныя кірункі развіцця былі вызначаны як павышэнне канкурэнтаздольнасці эканомікі; стварэнне дзяржавы, зручнай для жыцця людзей; павышэнне якасці тавараў і паслуг. Прапануйце ўласны варыянт сціслага вызначэння сутнасці праграмы развіцця Рэспублікі Беларусь, прынятай на Чацвёртым Усебеларускім народным сходзе.

5. Калі б Рэспубліка Беларусь добраахвотна не адмовілася ад валодання ядзернай зброяй, стаў бы яе міжнародны статус нейтральным? Свой адказ абгрунтуйце.

6. Чаму інстытут прэзідэнтскай улады з’яўляецца дзеяздольным для вырашэння актуальных праблем сацыяльна-эканамічнага і грамадска-палітычнага развіцця Рэспублікі Беларусь у працэсе ўмацавання яе суверэнітэту? Свой адказ растлумачце.

***Вызначце ролю гістарычных асоб і дзеячаў культуры:***

- Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у пераадоленні крызісных з’яў і стабілізацыі становішча ў нашай краіне;
- М. Высоцкага ў выкарыстанні машынабудаўнічага патэнцыялу нашай краіны ва ўзаемасувязі з яе трансгранічным становішчам;
- У. Мулявіна ў адраджэнні беларускай народнай песні і развіцці музычнага мастацтва ў Беларусі;
- А. Дударава ў адраджэнні культурна-гістарычнай спадчыны ў беларускім тэатральным мастацтве.

***Падрыхтуйце паведамленне па адной з наступных тэм:***

1. Дэмакратызацыя палітычнай сістэмы: ад усеўладдзя камуністычнай партыі да рэалізацыі ідэі прававой дзяржавы.

2. Дзяржаўны суверэнітэт: ад БССР да Рэспублікі Беларусь.

3. Беларуская мадэль сацыяльна арыентаванай рыначнай эканомікі: спалучэнне дзяржаўна-планавых і рыначных механізмаў рэгулявання гаспадарчых адносін.

4. Погляды гісторыкаў на распад СССР і яго ўплыў на жыццёвыя лёсы беларусаў.

5. Нацыянальна-культурнае адраджэнне: вяртанне да гістарычнай спадчыны.

6. Суверэнная Рэспубліка Беларусь: месца і роля на міжнароднай арэне.

7. Мой край на мяжы стагоддзяў: гістарычная спадчына і перспектывы развіцця.

## § 29. Наша гістарычная спадчына і перспектывы развіцця ў XXI ст. *Выніковае абагульненне*

**1.** Параўнайце прыкметы індустрыяльнага і інфармацыйнага грамадства.

У другой палове XX ст. дзякуючы самаадданай і добрасумленнай працы нашага народа ў Беларусі было пабудавана індустрыяльнае грамадства. На мяжы XX—XXI стст. выспяваюць перадумовы для яго пераходу да інфармацыйнага грамадства.

**2.** Дакажыце, што ў нашай краіне адбываецца пераход ад індустрыяльнага да інфармацыйнага грамадства.

**3.** Растлумачце, чаму пабудову інфармацыйнага грамадства звязваюць са станаўленнем эканомікі ведаў.

**4.** Што робіце асабіста вы для рэалізацыі лозунга «За моцную і квітнеючую Беларусь»?

**5.** Яшчэ ў часы існавання Полацкага княства ўзнікла традыцыя, калі веча выбірала князя. Гэтая традыцыя мае сваё прадаўжэнне і сёння. Яна рэалізуецца ў правядзенні рэспубліканскіх рэферэндумаў, выбараў дэпутатаў у мясцовыя Саветы і Парламент, выбараў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, Усебеларускіх народных сходаў. Згодна з Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь народ з'яўляец-

ца адзінай крыніцай дзяржаўнай улады ў нашай краіне. Вызначце, якую ролю адыгралі рэферэндумы ў стабілізацыі ўнутрыпалітычнага і сацыяльна-эканамічнага становішча ў Рэспубліцы Беларусь.

**6.** Ахарактарызуйце, якім чынам увасоблены ў жыцці нашай рэспублікі прынцыпы, якія з'яўляюцца прыкметамі прававой дзяржавы.

**7.** Як вы разумееце лозунг «Дзяржава для народа»: як дэмакратызацыю; як дэбюракратызацыю; як рэалізацыю грамадзянскіх правоў ці неяк інакш?

**8.** Спрагназуйце перспектывы фарміравання ў нашай краіне грамадзянскай супольнасці.

**9.** Адным з найбольш значных здабыткаў нашага народа стала стварэнне ўласнай дзяржаўнасці. Вашы дзяды і бацькі жылі ў Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспубліцы, якая ўваходзіла ў склад Саюза ССР. Вы нарадзіліся ў Рэспубліцы Беларусь і з'яўляецеся яе грамадзянамі. Яе дзяржаўны суверэнітэт — гэта найвялікшая каштоўнасць беларускага этнасу, якую нам трэба замацоўваць. Параўнайце дзяржаўны суверэнітэт БССР і Рэспублікі Беларусь. Вызначце агульнае і адрознае.

**10.** Ці можна вызначаць дзяржаўны суверэнітэт толькі як незалежнасць? Свой адказ абгрунтуйце.

**11.** Як вы ўспрымаеце дзяржаўны суверэнітэт Рэспублікі Беларусь: як гістарычны набытак; як уласную каштоўнасць; як грамадзянскі абавязак ці неяк інакш? Растлумачце свой адказ.

**12.** Выкананне якіх канстытуцыйных абавязкаў вамі звязваецца з замацаваннем дзяржаўнага суверэнітэту рэспублікі?

**13.** Вызначце гісторыка-культурную пераемнасць у дзяржаўных сімвалах нашай рэспублікі. Як вы разумееце тэзіс аб тым, што нацыянальная культура — фундамент дзяржаўнага суверэнітэту?

**14.** Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка стала адной з заснавальніц самай аўтарытэтнай і ўплывовай міжнароднай арганізацыі — ААН. Ва ўмовах дзяржаўнага суверэнітэту Рэспубліка Беларусь будуе свае адносіны з міжнароднай супольнасцю згодна з прынцыпам мірнага суіснавання. Наша краіна добраахвотна адмовілася ад ядзернай зброі і была абвешчана бяз'ядзернай дзяржавай. Вызначальным стаў курс рэспублікі на інтэграцыю з Расійскай Федэрацыяй. Сярод дзяржаўных святаў нашай краіны — Дзень яднання народаў Беларусі і Расіі, які адзначаецца 2 красавіка. Беларусь разам з Расіяй і Казахстанам пасту-

пова ўваходзіць у адзін з інтэграцыйных цэнтраў сучаснасці, якім з'яўляецца Еўразія. Параўнайце знешнепалітычны статус БССР і Рэспублікі Беларусь.

**15.** Вызначце этапы развіцця інтэграцыйнага працэсу паміж Беларуссю і Расіяй. У чым, на вашу думку, заключаюцца яго гістарычныя карані і перспектывы?

**16.** Вызначце месца і ролю нашай краіны ў сусветнай супольнасці ва ўмовах пераходу ад аднапалярнага да шматпалярнага свету, сусветнай глабалізацыі, еўрапейскай інтэграцыі.

**17.** Вызначце, якімі дасягненнямі ў духоўнай і матэрыяльнай культуры другой паловы XX — пачатку XXI ст. мы вядомы ў свеце. Якія нашы брэнды?

**18.** Кожнаму народу ў сучаснасці ўласціва мець сваю агульнацыянальную ідэю, а дзяржаве — ідэалогію. У Рэспубліцы Беларусь яны грунтуюцца на традыцыйных каштоўнасцях беларусаў і арыентаваны на кансалідацыю нашага грамадства, усведамленне народам сваёй нацыянальнай ідэнтычнасці і першаснасці нацыянальных інтарэсаў. У чым, на вашу думку, заключаецца наша нацыянальная ідэнтычнасць?

**19.** Вызначце, якім чынам у сучасным жыцці нашага грамадства рэалізуюцца такія традыцыйныя каштоўнасці, як сацыяльная справядлівасць і роўнасць.

**20.** Прапануйце і абгрунтуйце ўласны варыянт сціслага вызначэння сутнасці агульнанацыянальнай ідэі. Абмяркуйце яго з аднакласнікамі.

**21.** Якую ролю адыгрывае ў вашым жыцці сучасная беларуская мова.

**22.** Гістарычнае мінулае, якое вы вывучаеце ў школе, можа па-рознаму тлумачыцца гісторыкамі. Вельмі часта яны не знаходзяць адзінага пункта гледжання, што з'яўляецца натуральнай справай. А вось будучыня, якая чакае нас, будуецца ўжо сёння. І ад таго, як мы яе сабе ўяўляем, залежыць наша далейшае жыццё. Падзяліцеся сваімі думкамі наконт сваёй будучыні і перспектыў развіцця нашай краіны.

**23.** Як захоўваецца памяць аб продках у вашай сям'і? Што вы ведаеце аб іх укладзе ў развіццё нашай краіны ў другой палове XX ст.?

**24.** Што можаце зрабіць асабіста вы для развіцця чалавечага патэнцыялу нашай краіны і канкурэнтаздольнасці нашай нацыі?

## Слоўнік паняццяў і тэрмінаў

**Альтэрнатыва** — неабходнасць выбару паміж некалькімі супрацьлеглымі магчымасцямі ў палітыцы.

**Арганізацыя Дагавора аб калектыўнай бяспецы** (АДКБ) — міжурадавая рэгіянальная ваенна-палітычная арганізацыя Беларусі, Расіі, Арменіі, Казахстана, Кыргызстана, Таджыкістана, якая мае абарончую накіраванасць і заснавана на прыярытэце палітычных сродкаў па прадухіленні і ліквідацыі ваенных канфліктаў.

**Балонскі працэс** — працэс збліжэння і гарманізацыі сістэм адукацыі краін Еўропы з мэтай стварэння адзінай адукацыйнай прасторы вышэйшай адукацыі, які аформлены ў 1999 г. і ўключае ў сябе па стане на 2011 г. 47 краін-удзельніц.

**Белавежскае пагадненне** — міждзяржаўнае пагадненне аб спыненні існавання СССР і стварэнні СНД, падпісанае ў рэзідэнцыі Віскулі ў Белавежскай пушчы 8 снежня 1991 г. кіраўнікамі Расійскай Федэрацыі, Украіны, Беларусі.

**Ваенна-прамысловы комплекс —** абазначэнне аб'яднання абароннай прамысловасці, арміі і звязанага з імі дзяржаўнага апарату, а таксама навукі.

**Валавы ўнутраны прадукт** — кошт вырабленага ўнутры краіны на працягу года канчатковага прадукту (прадукцыі, тавараў, паслуг).

**Валюнтарызм** — дзейнасць, якая ажыццяўляецца без уліку аб'ектыўных законаў грамадскага развіцця на аснове суб'ектыўных жаданняў і адвольных рашэнняў.

**Выбары на альтэрнатыўнай аснове** — выбары, пры якіх на кожнае месца прэтэндуе некалькі кандыдатаў. Кожны кандыдат абавязаны сам удзельнічаць у выбарчай кампаніі са сваёй праграмай.

**Выканаўчы орган дзяржаўнай улады** — орган дзяржаўнай улады, які павінен выконваць законы і пастановы прадстаўнічых органаў улады.

**Вытворчыя адносіны** — узаемаадносіны, у якія ўступаюць людзі ў працэсе вытворчасці. Гэтыя адносіны залежаць ад таго, каму належыць права ўласнасці на сродкі вытворчасці.

**Галоснасць —** дэмакратычны прынцып, які забяспечвае адкрытасць работы органаў кіравання, даступнасць для грамадства звестак пра іх дзейнасць, у першую чаргу з дапамогай сродкаў масавай інфармацыі.

**Гаспадарчы разлік** — метад гаспадарання на сацыялістычным прадпрыемстве, пры якім даходы, што атрымлівае прадпрыемства ад рэалізацыі (продажу) сваёй прадукцыі, пакрываюць і перавышаюць яго выдаткі на вытворчасць. Пры гаспадарчым разліку прадпрыемства мае частковую гаспадарчую і фінансавую самастойнасць.

**Глабалізацыя** — складаны, living рознабаковы і супярэчлівы працэс складвання сусветнага рынку капіталаў, тавараў, паслуг, інфармацыі, устанаўлення ўзаемазалежных сувязей паміж рознымі асобамі і групамі людзей ва ўсіх відах іх дзейнасці (эканамічнай, палітычнай, культурнай) ва ўмовах фарміравання постындустрыяльнага (інфармацыйнага) грамадства.

**Грамадзянская супольнасць** — грамадскія структуры, якія ўзаемадзейнічаюць з дзяржавай, але незалежныя ад яе. Тып узаемаадносін паміж дзяржавай і грамадствам, пры якім правы грамадзян абаронены законам і ўлада перадае частку сваіх функцый мясцовым органам самакіравання.

**Грамадзянства** — прававая прыналежнасць асобы да дзяржавы.

**Грамадства ведаў** — этап у развіцці інфармацыйнага грамадства, на якім вызначальнай рысай лічыцца пераважная роля навукі і тэхнікі ў працэсах вытворчасці інфармацыі, неабходнай для жыццядзейнасці людзей, а веды пераўтвараюцца ў важнейшы фактар грамадскага развіцця.

**Дзяржава** — асноўны элемент палітычнай сістэмы грамадства; палітычная арганізацыя, якая накіроўвае і кантралюе сумесную дзейнасць, адносіны людзей, грамадскіх груп. Тэрытарыяльны, суверэнны саюз (аб’яднанне, супольнасць) грамадзян, утвораны з мэтай абароны іх жыцця, свабоды і маёмасці.

**Дзяржаўны бюджэт** — расклад грашовых даходаў і расходаў дзяржавы.

**Дзяржаўны суверэнітэт** — незалежнасць і самастойнасць дзяржавы ва ўнутранай і знешняй палітыцы, якая не дапускае замежнага ўмяшальніцтва.

**Дэвальвацыя** — афіцыйнае змяншэнне залатога зместу грашовай адзінкі альбо паніжэнне курса нацыянальнай валюты ў адносінах да замежнай валюты, метад стабілізацыі валюты пасля інфляцыі.

**Дэкларацыя** — дзяржаўны (канстытуцыйны) ці палітычны акт.

**Дэмакратызацыя** — распаўсюджванне і замацаванне форм дзяржаўнага ладу, заснаваных на прызнанні прынцыпаў народаўладдзя, свабоды, роўнасці грамадзян.

**Дэфіцыт** — недахоп, нястача чаго-небудзь, перавышэнне расходаў над даходамі.

**Еўразійскае эканамічнае супольніцтва** (ЕўрАзЭС) — міжурадавая рэгіянальная эканамічная арганізацыя, створаная ў 2000 г., у склад якой па стане на 2006 г. уваходзіць 6 дзяржаў Садружнасці Незалежных Дзяржаў. Прызначана для фарміравання агульных знешніх мытных граніц дзяржаў-удзельніц, выпрацоўкі адзінай знешнеэканамічнай палітыкі, тарыфаў, цэн і іншых складаючых функцыянавання агульнага рынку.

**Заканадаўчы орган дзяржаўнай улады** — орган дзяржаўнай улады, які распрацоўвае і прымае законы. Такім органам звычайна з'яўляецца парламент.

**Ідэалогія беларускай дзяржавы** — сукупнасць ідэй і ідэалаў, якія адлюстроўваюць нацыянальна-гістарычныя традыцыі і каштоўнасці беларускага народа, адпавядаюць мэтам і асаблівасцям развіцця беларускага грамадства.

**Інавацыя** — комплексны мэтанакіраваны працэс стварэння, распаўсюджвання і выкарыстання новаўвядзенняў з пераўтварэннем іх у прадукцыю (тавары і паслугі) і вывядзеннем яе на рынак для камерцыйнага выкарыстання.

**Інвестыцыі** — укладанне капіталаў у галіны эканомікі ці прадпрыемствы з мэтай атрымання прыбыткаў.

**Індустрыяльнае грамадства** — грамадства, для якога характэрныя падзел працы, спецыялізацыя вытворчасці і яе аўтаматызацыя, арыентацыя вытворчасці на рынак, навукова-тэхнічная рэвалюцыя, урбанізацыя.

**Інтэграцыя** — працэс і вынік узаемасувязі, узаемадзеяння, збліжэння і аб'яднання ў адзінае цэлае якіх-небудзь частак, элементаў, у прыватнасці краін і іх эканомік, грамадскіх і палітычных структур, партый, арганізацый і г. д.

**Інтэнсіўны шлях развіцця эканомікі** — шлях развіцця, звязаны з ростам вытворчасці на аснове паляпшэння якасных паказчыкаў, найперш за кошт павелічэння прадукцыйнасці працы на аснове ўкаранення ў вытворчасць дасягненняў навукі і тэхнікі.

**Інфармацыйнае грамадства** — грамадства, у якім у выніку навукова-тэхнічнай рэвалюцыі, стварэння камп'ютараў, рабатызацыі вытворчасці змяняецца характар працы. Вызначальную ролю набывае навука і тэхніка ў працэсах вытворчасці інфармацыі, якая неабходна для жыццядзейнасці грамадства і з'яўляецца крыніцай яго змяненняў, у тым ліку змены ладу жыцця. Паступова прыходзіць на змену індустрыяльнаму грамадству.

**Інфляцыя** — абясцэньванне грошай у выніку выпуску іх у абарачэнне без забеспячэння неабходнай колькасцю тавараў; падзенне пакупной здольнасці грошай.

**Калектывізацыя** — пераўтварэнне аднаасобных сялянскіх гаспадарак у буйныя сацыялістычныя гаспадаркі.

**Камунізм** — паводле вучэння марксізму, вышэйшая ступень грамадскага прагрэсу, якая прыходзіць на змену капіталізму. Для яго характэрныя грамадская ўласнасць, роўнасць людзей, сацыяльная справядлівасць, народаўладдзе, гуманізм.

**Канстытуцыя** — асноўны закон дзяржавы. У час існавання БССР былі прыняты Канстытуцыі 1919, 1927, 1937, 1978 гг. Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь прынята 15 сакавіка 1994 г. Новая рэдакцыя Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь са змяненнямі і дапаўненнямі прынята на рэспубліканскім рэферэндуме 24 лістапада 1996 г. Адпаведныя змены ўнесены па выніках рэспубліканскага рэферэндуму 2004 г.

**Канфесія** — рэлігійны кірунак, веравызнанне (веравучэнне), прыналежнасць да пэўнай царквы.

**Культ асобы** — узвялічванне ролі аднаго чалавека, прыпісванне яму вызначальнага ўплыву на ход гістарычных падзей (культ асобы Сталіна).

**Мадэрнізацыя** — працэс паступовага ўдасканалення грамадскіх адносін у ходзе станаўлення індустрыяльнага грамадства. Прыкметы мадэрнізацыі — індустрыялізацыя, урбанізацыя, дэмакратызацыя, развіццё навукі, адукацыі і культуры, абмежаванне ролі царквы, фарміраванне прававой дзяржавы і грамадзянскай супольнасці.

**Навукова-тэхнічная рэвалюцыя** — карэнныя змены вытворчасці, якія адбываюцца ў выніку пераўтварэння навукі ў непасрэдную вытворчую сілу, укаранення навуковых дасягненняў у вытворчасць.

**Нацыя** — устойлівая супольнасць людзей з пэўнай псіхалогіяй і нацыянальнай самасвядомасцю, якая гістарычна склалася, мае агульныя гаспадарчыя сувязі, адметную культуру і літаратурную мову, побыт, тэрыторыю сталага пражывання, уласную суверэнную дзяржаўнасць.

**Нацыянальны даход** — частка грамадскага прадукту, якая застаецца пасля вылічэння выдаткаў, затрачаных на яго вытворчасць, увесь аб'ём «чыстай» прадукцыі краіны.

**Нацыянальны сход Рэспублікі Беларусь** (Парламент) — прадстаўнічы і заканадаўчы орган улады, за якім замацаваны функцыі абмеркавання і прыняцця законаў, дзяржаўнага бюджэту, кантроль за выкананнем бюджэту. Складаецца з дзвюх палат — Палаты прадстаўнікоў і Савета Рэспублікі.

**Нейтральная дзяржава** — дзяржава, знешнепалітычны курс якой характарызуецца няўдзелам ва ўзброеных канфліктах (войнах) і ваенных саюзах.

**Палата прадстаўнікоў** — адна з палат Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь (Парламента), выбранне дэпутатаў якой ажыццяўляецца ўсім насельніцтвам рэспублікі, якое валодае выбарчымі правамі.

**Палітычная партыя —** палітычная арганізацыя, якая адлюстроўвае інтарэсы той ці іншай группы людзей і прымае ўдзел у палітычным жыцці грамадства, у барацьбе за ўладу.

**Палітычная сістэма грамадства —** сістэма, якая ўключае дзяржаву (органы дзяржаўнай улады і кіравання), палітычныя партыі, прафесійныя саюзы, рэлігійныя арганізацыі, творчыя саюзы і іншыя арганізацыі і рухі, што маюць палітычныя мэты.

**Парламенцкая апазіцыя** — група дэпутатаў, погляды якіх не супадаюць або супярэчаць думкам парламенцкай большасці ці ўлады.

**«Партнёрства дзеля міру»** — праграма НАТА, накіраваная на стварэнне партнёрства як пастаяннага элемента структуры еўрапейскай бяспекі. У праграме, акрамя краін — членаў НАТА, удзельнічае 17 дзяржаў, у тым ліку з 1995 г. Беларусь. Асноўныя кірункі супрацоўніцтва звязаны з узаемадзеяннем у справе нераспаўсюджвання зброі масавага знішчэння, пры ліквідацыі наступстваў надзвычайнага становішча, з кіраваннем крызіснымі сітуацыямі, ажыццяўленнем кантролю над узброенымі сіламі і абарончымі структурамі, з барацьбой з міжнародным тэрарызмам.

**Пасляваеннае аднаўленне** — перыяд развіцця, звязаны з пераадоленнем наступстваў ваенных разбурэнняў, нанесеных рэспубліцы ў час Вялікай Айчыннай вайны, аднаўленнем і далейшым развіццём розных галін народнай гаспадаркі БССР у гады чацвёртай пяцігодкі (1946—1950).

**Перабудова —** назва палітыкі, распачатай з сярэдзіны 1980-х гг. часткай кіраўніцтва СССР на чале з М. С. Гарбачовым, якая прывяла да значных змен ва ўнутрыпалітычным і міжнародным жыцці, звязаных з галоснасцю, дэмакратызацыяй, спробамі паскарэння тэмпаў развіцця эканомікі.

**Плюралізм** — наяўнасць розных поглядаў, думак, меркаванняў па пытаннях аб шляхах развіцця дзяржавы і грамадства. Увасабляецца ў шматпартыйнасці як форме дэмакратычнага ўладкавання грамадства.

**Прававая дзяржава** — дзяржава, у якой рэалізаваны прынцып падзелу ўлад на заканадаўчую і выканаўчую, што ўзаемна кантралююцца, і незалежную судовую. Прадугледжваецца прынцып вяршэнства законаў, абавязковае выкананне іх усімі дзяржаўнымі органамі і службовымі асобамі, роўнасць усіх людзей перад законам, забеспячэнне правоў і свабод грамадзян.

**Правы чалавека** — прызнаная і гарантаваная магчымасць ажыццяўляць пэўныя дзеянні па выбары чалавека і ў яго асабістых інтарэсах, а таксама прад'яўляць патрабаванні да дзеянняў іншых асоб.

**Прагрэс грамадства** — кірунак развіцця грамадства, пры якім адбываецца супярэчлівы, але паступовы рух грамадства ад простых і ніжэйшых форм сацыяльнага жыцця да больш складаных і высокіх.

**Прадукцыйнасць працы** — эфектыўнасць працы, якая вымяраецца колькасцю створанай за адзінку часу прадукцыі або велічынёй часу, затрачанага на вытворчасць адзінкі прадукцыі.

**Прамысловасць лёгкая** — прамысловасць перапрацоўчая, а таксама па вырабе тавараў народнага спажывання.

**Прамысловасць цяжкая** — вытворчасць сродкаў вытворчасці, перш за ўсё машынабудаванне, металаапрацоўка, электраэнергетыка і інш.

**Працадні** — адзінка ўліку працы калгаснікаў і размеркавання даходаў ад працы ў калгасах у 1930—1966 гг.

**Прыватызацыя** — раздзяржаўленне, пераход маёмасці з дзяржаўнай уласнасці ў прыватную або калектыўную.

**Прынцып партыйнасці** — патрабаванне да дзеячаў культуры прытрымлівацца ідэалогіі, якую праводзіць камуністычная партыя, зыходзіць з яе патрабаванняў і прадвызначэнняў.

**«Развіты сацыялізм»** — вызначэнне кіраўніцтвам КПСС этапу на шляху будаўніцтва камунізму ў СССР, які разглядаўся як найвышэйшае дасягненне сацыяльнага прагрэсу ў пачатку 1970-х гг.

**Рыначная сістэма эканамічных адносін** — сістэма, якая забяспечвае эфектыўнае функцыянаванне гаспадаркі на аснове суадносін паміж прапановай тавараў і попытам на іх з боку спажыўцоў.

**Рэабілітацыя** — аднаўленне добрага імя і правоў нявінна асуджаных.

**Рэпарацыі** — поўная ці частковая кампенсацыя, выплата матэрыяльных страт ад вайны дзяржавай, якая здзейсніла агрэсію, той краіне, якая пацярпела ад яе.

**Рэпатрыяцыя** — вяртанне на радзіму ваеннапалонных, палонных, бежанцаў, перасяленцаў, якія апынуліся за яе межамі ў выніку вайны, з аднаўленнем іх у правах грамадзянства.

**Рэпрэсіі** — меры пакарання, незаконныя судовыя праследаванні, якія ўжываюцца дзяржаўнымі органамі супраць людзей.

**Рэферэндум** — усенароднае галасаванне па найважнейшых пытаннях жыццядзейнасці краіны.

**Рэформа** — пераўтварэнне, змена, перабудова якога-небудзь боку эканамічнага і грамадскага жыцця пры захаванні асноў існуючага дзяржаўнага ладу.

**Рух недалучэння** — знешнепалітычны курс 118 дзяржаў свету (па стане на 2005 г.), выбраны імі пасля Другой сусветнай вайны і звязаны з недалучэннем да шматбаковых ваенных саюзаў, якія былі заключаны

ў кантэксце супрацьстаяння вялікіх дзяржаў. Крытэрыем удзелу ў гэтым руху з'яўляецца правядзенне незалежнай знешняй палітыкі, заснаванай на прызнанні неабходнасці суіснавання дзяржаў з рознымі палітычнымі і сацыяльнымі сістэмамі.

**Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь** (Урад) — цэнтральны орган дзяржаўнага кіравання, які ажыццяўляе выканаўчую ўладу, а ў сваёй дзейнасці падпарадкаваны Прэзідэнту і адказны перад Парламентам.

**Савет Рэспублікі** — адна з палат Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь (Парламента), якая з'яўляецца палатай тэрытарыяльнага прадстаўніцтва, члены якой выбіраюцца ад абласцей, г. Мінска, а таксама назначаюцца Прэзідэнтам.

**Савецкая грамадска-палітычная сістэма** — сістэма адносін у грамадстве, якая ўстанавілася ў СССР у 1920—1930-я гг.; характарызуецца поўным кантролем дзяржавы над грамадскім жыццём, існаваннем дзяржаўнай уласнасці на сродкі вытворчасці, панаваннем марксісцка-ленінскай ідэалогіі.

**Садружнасць Незалежных Дзяржаў** (СНД) — міжурадавая рэгіянальная арганізацыя, утвораная ў снежні 1991 г., у склад якой уваходзіць 11 дзяржаў — былых савецкіх рэспублік (па стане на 2008 г.).

**Самафінансаванне** — метад гаспадарання, пры якім прадпрыемства не атрымлівае фінансавых сродкаў з дзяржаўнага бюджэту, а зарабляе грошы самастойна, за кошт сваёй вытворчасці і рэалізацыі яе вырабаў.

**Сацыялістычны рэалізм** — мастацкі метад, які патрабаваў адлюстравання ў літаратуры і мастацтве рэалій жыцця, звязаных з будаўніцтвам савецкага сацыялістычнага ладу, у адпаведнасці з патрабаваннямі камуністычнай партыі.

**Сацыяльна арыентаваная рынкавая эканоміка** — мадэль эканамічнага развіцця, пры якой суіснуюць дзяржаўны і прыватны сектары эканомікі, а дзяржава адыгрывае вызначальную ролю ў рэгуляванні эканамічных працэсаў і фарміраванні ўмоў для забеспячэння патрэб насельніцтва.

**Сацыяльная дзяржава** — дзяржава, у якой кожнаму чалавеку гарантаваны годны ўзровень жыцця, створаны ўмовы для бесперашкоднай рэалізацыі канстытуцыйных правоў грамадзян на працу, сацыяльнае забеспячэнне, адукацыю, ахову свайго жыцця і здароўя.

**Саюз Беларусі і Расіі** — міждзяржаўнае аб'яднанне Рэспублікі Беларусь і Расійскай Федэрацыі з высокай ступенню палітычнай і эканамічнай інтэграцыі, утворанае 2 красавіка 1997 г.

**Сродкі вытворчасці** — сродкі, з дапамогай якіх ажыццяўляецца вытворчая праца людзей.

**Стагнацыя** — прыпыненне, застой у сацыяльна-эканамічным развіцці, у прыватнасці ў вытворчасці, гандлі і г. д.

**Суверэнітэт** — поўная незалежнасць ад іншых дзяржаў ва ўнутраных справах і знешняй палітыцы.

**Талерантнасць** — паводзіны людзей, для якіх характэрны цярпімасць, паважлівыя адносіны да прадстаўнікоў іншых рэлігійных канфесій, палітычных партый, грамадскіх арганізацый, а таксама чужых поглядаў, паводзін.

**Унітарная дзяржава** — форма дзяржаўнага ўтварэння, пры якой тэрыторыя дзяржавы не мае ў сваім складзе федэратыўных адзінак (рэспублік, штатаў і да т. п.), а падзяляецца на адміністрацыйна-тэрытарыяльныя адзінкі (вобласці, губерні, раёны і да т. п.).

**Устойлівае развіццё** — такое развіццё, пры якім задавальненне патрэб цяперашняга пакалення адбываецца без ушчамлення магчымасцей будучых пакаленняў.

**Усходняе партнёрства** — праект, афіцыйна прапанаваны ў 2009 г. Еўрапейскім саюзам для збліжэння ЕС з краінамі былога СССР, сярод якіх Украіна, Малдова, Азербайджан, Арменія, Грузія і Беларусь. Праграма аб'ядноўвае 33 дзяржавы, у тым ліку 27 членаў Еўрасаюза і 6 дзяржаў-партнёраў.

**Федэрацыя** — форма дзяржаўнага ўтварэння, пры якой федэратыўныя адзінкі, што ўваходзяць у склад дзяржавы (саюзныя рэспублікі, штаты і г. д.), маюць уласныя канстытуцыі і органы ўлады. Разам з гэтым у федэрацыі існуюць адзіныя канстытуцыя, органы ўлады, устанаўліваюцца адзіныя грамадзянства, грашовыя адзінкі і г. д.

**Хрушчоўская «адліга»** — публіцыстычны выраз, які выкарыстоўваецца для абазначэння перыяду перамен у грамадскім і культурным жыцці СССР другой паловы 1950-х — першай паловы 1960-х гг., звязаных са змякчэннем палітычнага рэжыму і пачаткам рэабілітацыі нявінна пацярпелых ад сталінскіх рэпрэсій.

**Цаліна** — неапрацаваныя, неараныя землі.

**Чалавечы капітал** — сукупнасць ведаў, уменняў, навыкаў, якія выкарыстоўваюцца для задавальнення разнастайных патрэб чалавека і грамадства.

**Эканоміка ведаў** — фундамент інфармацыйнага грамадства і вышэйшы этап развіцця інавацыйнай эканомікі, накіраванай на стварэнне і вывад на рынак прынцыпова новых відаў тавараў і паслуг. Працэс развіцця такой эканомікі заключаецца ў павышэнні якасці чалавечага капіталу і якасці жыцця, у вытворчасці высокіх тэхналогій.

**Экстэнсіўны шлях развіцця эканомікі** — шлях развіцця, звязаны найперш з павелічэннем колькасных, а не якасных паказчыкаў.

## Храналагічная табліца

| | |
|---|---|
| **1946—1950 гг.** | Пяцігодка аднаўлення і развіцця народнай гаспадаркі БССР. Будаўніцтва Мінскага аўтамабільнага і трактарнага заводаў, пачатак вытворчасці на іх |
| **1950—1970-я гг.** | Развіццё машынабудаўнічай прамысловасці. Стварэнне нафтахімічнай і радыётэхнічнай прамысловасці. Меліярацыя і хімізацыя сельскай гаспадаркі, стварэнне буйных адкормачных жывёлагадоўчых комплексаў у сельскай гаспадарцы |
| **1951 г.** | Зацвярджэнне Дзяржаўнага сцяга БССР |
| **1956—1965 гг.** | Дзейнасць К. Т. Мазурава на пасадзе Першага сакратара ЦК КПБ |
| **1965—1980 гг.** | Дзейнасць П. М. Машэрава на пасадзе Першага сакратара ЦК КПБ |
| **1978 г.** | Прыняцце Канстытуцыі БССР |
| **26 красавіка 1986 г.** | Аварыя на Чарнобыльскай АЭС |
| **27 ліпеня 1990 г.** | Прыняцце Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце БССР |
| **25 жніўня 1991 г.** | Наданне статусу канстытуцыйнага закона Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце БССР |
| **19 верасня 1991 г.** | Прыняцце Вярхоўным Саветам БССР рашэння аб змене назвы Беларуская ССР на Рэспубліка Беларусь (скарочана Беларусь) і зацвярджэнні новых дзяржаўных сімвалаў — герба «Пагоня» і бел-чырвона-белага сцяга |
| **8 снежня 1991 г.** | Стварэнне Садружнасці Незалежных Дзяржаў |
| **10 снежня 1991 г.** | Зацвярджэнне Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь Пагаднення аб стварэнні СНД і скасаванне Дагавора аб утварэнні СССР |
| **15 сакавіка 1994 г.** | Прыняцце Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь — Дзень Канстытуцыі |

| | |
|---|---|
| **1994 г.** | Абранне Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнкі |
| **1995 г.** | Рэспубліканскі рэферэндум па пытаннях дзяржаўнага статусу беларускай і рускай моў, новай дзяржаўнай сімволікі (герба і сцяга), эканамічнай інтэграцыі з Расіяй, паўнамоцтваў Прэзідэнта |
| **1995 г.** | Падпісанне пагаднення аб Мытным саюзе паміж Рэспублікай Беларусь, Расійскай Федэрацыяй, Казахстанам |
| **1996 г.** | Першы Усебеларускі народны сход |
| **2 красавіка 1996 г.** | Падпісанне Дагавора аб стварэнні Супольніцтва Рэспублікі Беларусь і Расійскай Федэрацыі. Абвяшчэнне 2 красавіка Днём яднання народаў Беларусі і Расіі |
| **24 лістапада 1996 г.** | Прыняцце на рэспубліканскім рэферэндуме новай рэдакцыі Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь са змяненнямі і дапаўненнямі. Перанясенне Дня Незалежнасці Рэспублікі Беларусь (Дня Рэспублікі) з 27 на 3 ліпеня |
| **2 красавіка 1997 г.** | Утварэнне Саюза Беларусі і Расіі |
| **Снежань 1999 г.** | Падпісанне Беларуссю і Расіяй Дагавора аб стварэнні Саюзнай дзяржавы |
| **2000 г.** | Стварэнне з удзелам Беларусі Еўразійскага эканамічнага супольніцтва (ЕўрАзЭС) |
| **2001 г.** | Другі Усебеларускі народны сход |
| **2001 г.** | Абранне Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнкі на другі тэрмін |
| **2002 г.** | Зацвярджэнне Дзяржаўнага гімна Рэспублікі Беларусь |
| **2002 г.** | Падпісанне Беларуссю Статута Арганізацыі дагавора аб калектыўнай бяспецы (АДКБ) |
| **2004 г.** | Прыняцце на рэспубліканскім рэферэндуме паправак у Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь, звязаных з тэрмінам паўнамоцтваў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь |
| **2006 г.** | Трэці Усебеларускі народны сход |
| **2006 г.** | Абранне Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнкі |

| | |
|---|---|
| **2007 г.** | Падпісанне Дагавора аб стварэнні адзінай мытнай тэрыторыі і фарміраванні Мытнага саюза паміж Беларуссю, Расіяй і Казахстанам |
| **2009 г.** | Пачатак удзелу Рэспублікі Беларусь у праграме «Усходняе партнёрства» |
| **2009 г.** | Абвяшчэнне Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Года роднай зямлі |
| **2010 г.** | Абвяшчэнне Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Года якасці |
| **2010 г.** | Чацвёрты Усебеларускі народны сход |
| **2010 г.** | Абранне Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнкі |
| **2010 г.** | Урачыстае адкрыццё аднаўленага Мірскага замка |
| **2011 г.** | Абвяшчэнне Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Года прадпрымальнасці |
| **2011 г.** | Падпісанне Беларуссю, Расіяй і Казахстанам Дэкларацыі аб еўразійскай эканамічнай інтэграцыі |

## Сінхранічная табліца

<table>
<tr><th>Гісторыя Беларусі</th><th>Сусветная гісторыя, у тым ліку гісторыя СССР і Расійскай Федэрацыі</th></tr>
<tr><td colspan="2">9 мая 1945 г. Перамога савецкага народа ў Вялікай Айчыннай вайне.<br>2 верасня 1945 г. Заканчэнне Другой сусветнай вайны.<br>1945 г. Стварэнне Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. Удзел БССР у заснаванні ААН.<br>Другая палова 1940-х гг. Пачатак «халоднай вайны» і станаўлення двухполюснага свету</td></tr>
<tr><td>1946—1950 гг. Пяцігодка аднаўлення разбуранай вайной народнай гаспадаркі БССР. Будаўніцтва Мінскага аўтамабільнага і трактарнага заводаў, пачатак іх вытворчай дзейнасці</td><td>1945 г. Аднаўленне дзяржаўнага суверэнітэту Польшчы.<br>1947 г. Прыняцце плана Маршала.<br>1949 г. Стварэнне НАТА. Расчляненне Германіі на ФРГ і ГДР. Стварэнне СЭУ</td></tr>
<tr><td colspan="2">Другая палова 1950-х — першая палова 1960-х гг. Палітыка «адлігі» у СССР і БССР</td></tr>
<tr><td>1950—1970 гг. Развіццё машынабудаўнічай, радыётэхнічнай, нафтахімічнай прамысловасці ў БССР. Меліярацыя і хімізацыя сельскай гаспадаркі. Развіццё мяса-малочнай жывёлагадоўлі.<br>1978 г. Прыняцце Канстытуцыі БССР</td><td>1955 г. Падпісанне Варшаўскага дагавора.<br>1956 г. «Будапешцкая восень».<br>1957 г. Стварэнне ЕЭС.<br>1961 г. Будаўніцтва Берлінскай сцяны.<br>1962 г. Карыбскі крызіс.<br>1968 г. «Пражская вясна».<br>1973—1975 гг. Нарада па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе</td></tr>
<tr><td colspan="2">1960—1970 гг. Першы ў свеце палёт у космас у 1961 г. грамадзяніна СССР Ю. А. Гагарына. Высадка амерыканскіх астранаўтаў у 1969 г. на паверхню Месяца. Удзел у 1970-х гг. у асваенні космасу ўраджэнцаў Беларусі П. Клімука, У. Кавалёнка.<br>Другая палова 1960-х — першая палова 1980-х гг. Паступовае наспяванне застойных з'яў у палітычным і эканамічным жыцці савецкага грамадства.<br>1979—1989 гг. Увод і знаходжанне савецкіх войскаў у Афганістане</td></tr>
</table>

<table>
<tr><th>Гісторыя Беларусі</th><th>Сусветная гісторыя, у тым ліку гісторыя СССР і Расійскай Федэрацыі</th></tr>
<tr><td colspan="2">1985—1991 гг. Палітыка перабудовы ў СССР. Курс на паскарэнне сацыяльна-эканамічнага развіцця.<br>Красавік 1986 г. Чарнобыльская катастрофа</td></tr>
<tr><td>27 ліпеня 1990 г. Прыняцце Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце БССР<br>25 жніўня 1991 г. Наданне статусу канстытуцыйнага закона Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце БССР.<br>19 верасня 1991 г. Прыняцце Вярхоўным Саветам БССР рашэння аб змене назвы Беларускай ССР на Рэспубліка Беларусь і зацвярджэнні новых дзяржаўных сімвалаў</td><td>1989—1990 гг. Пачатак дэмакратычных «аксамітных рэвалюцый» у краінах Цэнтральнай і Паўднёва-Усходняй Еўропы. Аб'яднанне Германіі. Распад сусветнай сістэмы сацыялізму. Заканчэнне «халоднай вайны».<br>1991 г. Спыненне дзейнасці СЭУ і Варшаўскага дагавора.<br>1992 г. Падпісанне дагавора аб стварэнні Еўрапейскага Саюза</td></tr>
<tr><td colspan="2">1990 г. Святкаванне па рашэнні ЮНЕСКА 500-годдзя з дня нараджэння беларускага і ўсходнеславянскага першадрукара Ф. Скарыны.<br>19—21 жніўня 1991 г. «Жнівеньскі путч» у СССР.<br>8 снежня 1991 г. Спыненне існавання СССР. Стварэнне СНД.<br>1992 г. Падпісанне Рэспублікай Беларусь у Хельсінкі Заключнага акта Нарады па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе. Абвяшчэнне Рэспублікі Беларусь бяз'ядзернай зонай і дзяржавай, якая імкнецца да нейтралітэту. Пачатак вываду з тэрыторыі Беларусі ядзернай зброі</td></tr>
<tr><td>15 сакавіка 1994 г. Прыняцце Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.<br>1994 г. Абранне Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнкі.<br>Май 1995 г. Рэспубліканскі рэферэндум па пытаннях дзяржаўнага статусу беларускай і рускай моў, новай дзяржаўнай сімволікі, эканамічнай інтэграцыі з Расіяй, паўнамоцтваў Прэзідэнта.<br>1996 г. Першы Усебеларускі народны сход.<br>24 лістапада 1996 г. Прыняцце на рэспубліканскім рэферэндуме Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь са змяненнямі і дапаўненнямі</td><td>1993 г. Канстытуцыйны падзел Чэхаславакіі і ўтварэнне Чэшскай і Славацкай Рэспублік.<br>1990-я гг. Распад фэдэратыўнай дзяржавы Югаславія</td></tr>
</table>

<table>
<tr><th>Гісторыя Беларусі</th><th>Сусветная гісторыя, у тым ліку гісторыя СССР і Расійскай Федэрацыі</th></tr>
<tr><td colspan="2">1995 г. Далучэнне Беларусі да праграмы НАТА «Партнёрства дзеля міру».<br>1995 г. Падпісанне Пагаднення аб Мытным саюзе паміж Рэспублікай Беларусь, Расійскай Федэрацыяй, Казахстанам<br>2 красавіка 1996 г. Падпісанне Дагавора аб стварэнні Супольніцтва Рэспублікі Беларусь і Расійскай Федэрацыі.<br>2 красавіка 1997 г. Утварэнне Саюза Беларусі і Расіі.<br>1999 г. Падпісанне Дагавора паміж Беларуссю і Расіяй аб стварэнні Саюзнай дзяржавы.<br>2000 г. Стварэнне Еўразійскага эканамічнага супольніцтва (ЕўрАзЭС).<br>2002 г. Падпісанне Беларуссю Статута Арганізацыі дагавора аб калектыўнай бяспецы (АДКБ)</td></tr>
<tr><td>2001 г. Другі Усебеларускі народны сход. Паўторнае абранне Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнкі<br>2004 г. Рэспубліканскі рэферэндум аб унясенні паправак у Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь, звязаных з тэрмінам паўнамоцтваў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.<br>2006 г. Трэці Усебеларускі народны сход.<br>Абранне Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнкі</td><td>1999 г. Прыняцце Польшчы ў НАТА.<br>2002 г. Увядзенне адзінай еўрапейскай валюты — еўра.<br>2004 г. Уваходжанне ў Еўрапейскі саюз Прыбалтыйскіх рэспублік і Польшчы</td></tr>
<tr><td colspan="2">2007 г. Падпісанне Дагавора аб стварэнні адзінай мытнай тэрыторыі і фарміраванні Мытнага саюза паміж Беларуссю, Расіяй і Казахстанам.<br>2009 г. Пачатак удзелу Рэспублікі Беларусь у праграме «Усходняе партнёрства»</td></tr>
<tr><td>2010 г. Чацвёрты Усебеларускі народны сход.<br>Абранне Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнкі</td><td></td></tr>
<tr><td colspan="2">2011 г. Падпісанне Беларуссю, Расіяй і Казахстанам Дэкларацыі аб еўразійскай эканамічнай інтэграцыі</td></tr>
</table>

## Метадычныя парады

### Як працаваць з вучэбным тэкстам па метадзе ключавога слова

1. Спачатку прачытайце ўвесь тэкст і вызначце ў ім адно ключавое слова, якое з'яўляецца цэнтральным паняццем.
2. Вызначце ў гэтым жа тэксце два прыметнікі, якія характарызуюць ключавое паняцце.
3. Потым вызначце тры дзеясловы, якія тлумачаць, што адбылося з ключавым паняццем.
4. Складзіце кароткую фразу (5—7 слоў), якая будзе служыць вывадам па змесце матэрыялу.
5. Выкажыце ўласныя адносіны да падзей, з якімі пазнаёміліся.

### Як параўноўваць гістарычныя падзеі

1. Правесці параўнанне — гэта значыць знайсці адрозненні і вызначыць падабенства.
2. Вызначце прыкметы, па якіх будзеце параўноўваць гістарычныя падзеі, і складзіце план параўнання.
3. Падбярыце факты, якія характарызуюць гістарычныя падзеі па кожным пункце плана, і афарміце параўнанне ў выглядзе наступнай табліцы:

| Прыкметы, па якіх параўноўваюцца падзеі | Гістарычныя падзеі | |
|---|---|---|
| | | |

4. Зрабіце вывад аб агульных рысах і адрозненнях гістарычных фактаў, якія параўноўваюцца.

### Як праводзіць доказ

1. Сфармулюйце тэзіс (палажэнне), які будзеце даказваць.
2. Падбярыце гістарычныя факты, з дапамогай якіх будзеце пацвярджаць тэзіс.

3. Лагічна і разважліва пабудуйце свой доказ. Звяжыце гістарычныя факты з тэзісам, які даказваеце.

4. Праверце, ці ўсе факты, неабходныя для доказу, вычарпаны.

### Як вывучаць розныя пункты гледжання

1. Высветліце, наконт якой гістарычнай падзеі сфармуляваны пункт гледжання (меркаванне).

2. Вызначце абгрунтаванасць тых аргументаў (довадаў), якія выкарыстаны пры фармулёўцы пункта гледжання.

3. Ці заўсёды пункт гледжання з'яўляецца аб'ектыўным або ён адлюстроўвае толькі асабістае меркаванне аўтара?

4. Высветліце фактары (умовы), якія паўплывалі на фарміраванне дадзенага пункта гледжання.

### Як раскрываць прычынна-выніковыя сувязі паміж гістарычнымі падзеямі

1. Вызначце, да якога гістарычнага часу адносяцца дадзеныя гістарычныя падзеі і якую гістарычную з'яву яны адлюстроўваюць.

2. Вызначце, якая з абазначаных гістарычных падзей з'яўляецца прычынай, а якая — вынікам.

3. Вызначце прыкмету, на падставе якой звязваюцца паміж сабой дадзеныя гістарычныя падзеі. У якасці такой прыкметы можа быць храналагічная або лагічная паслядоўнасць падзей у грамадска-палітычным, сацыяльна-эканамічным, культурным развіцці.

4. Высветліце фактары, якія абумовілі прычынна-выніковыя сувязі паміж дадзенымі гістарычнымі падзеямі.

### Як прымаць удзел у дыскусіі (абмеркаванні)

1. Уступайце ў размову, калі вам ёсць што сказаць ці ваша думка не супадае з іншымі меркаваннямі.

2. Разглядайце любую думку як пэўную гіпотэзу (здагадку), якую трэба праверыць, абгрунтаваць, даказаць. Нічога не прымайце на веру.

3. Памятайце, што найлепшы сродак доказу думкі і яе абвяржэння — дакладныя гістарычныя факты.

4. Пры выступленні імкніцеся гаварыць коратка, зразумела, выразна і сваімі словамі.

5. Не імкніцеся любымі сродкамі даказаць сваю правату і пры гэтым абавязкова абвергнуць іншую думку. Разам з тым, калі абгрунтавана даказана памылковасць вашага пункта гледжання, то неабходна пагадзіцца. Памятайце, што галоўнае ў дыскусіі — не перамога ў спрэчцы, а новыя веды.

6. Калі вы не выказалі ўласнай думкі, то ўсё ж не лічыце, што не ўдзельнічалі ў дыскусіі. Бывае карысным паслухаць выказванні іншых.

## Як падрыхтаваць паведамленне

1. Удакладніце тэму паведамлення, тэрміны яго падрыхтоўкі, у пісьмовым ці вусным выглядзе патрабуецца яго прадставіць і на які час пры адказе разлічваць, а таксама спіс рэкамендаванай літаратуры.

2. Складзіце план паведамлення.

3. Пры выкарыстанні рэкамендаванай літаратуры рабіце неабходныя выпіскі з пазначэннем назвы выкарыстанай кнігі і адпаведных старонак.

4. Пісьмова аформіце падабраны матэрыял.

5. Назву тэмы паведамлення, яго план, паняцці, імёны, даты, якія згадваюцца, можна загадзя запісаць на дошцы.

6. Прадугледзьце, якім чынам вы будзеце выкарыстоўваць пры агучванні паведамлення нагляднны матэрыял.

## Як падрыхтаваць даследчыцкі праект

1. Выберыце праблему даследвання, якая будзе адлюстравана ў тэме праекта, і абгрунтуйце яе актуальнасць (практычную значнасць).

2. Вызначце галоўную мэту (гіпотэзу) і паэтапныя задачы даследвання, якія звязаны з тымі палажэннямі, якія вам трэба будзе абараняць.

3. Складзіце план правядзення даследвання з размеркаваннем абавязкаў удзельнікаў праекта і тэрмінаў выканання заданняў.

4. Ахарактарызуйце ступень вывучанасці праблемы шляхам збору і аналізу даных крыніц і літаратуры.

5. Прадумайце метады даследвання, звязаныя са зборам неабходнай інфармацыі, яе сістэматызацыяй, абагульненнем і інтэрпрэтацыяй.

6. Падрыхтуйце мультымедыяпрэзентацыю праекта, у якой сцісла і цікава прадстаўце асноўныя структурныя кампаненты праекта з выкарыстаннем адпаведных графікаў, схем, табліц, дыяграм, ілюстрацый.

7. Спланіруйце парадак абароны праекта з улікам супастаўлення мэт, задач і вынікаў даследвання.

## Рэкамендаваная літаратура

*Адамушка, У. І.* Палітычныя рэпрэсіі 20—50-х гадоў на Беларусі / У. І. Адамушка. — Мінск, 1994.

*Антонович, С. В.* Пётр Машеров : Жизнь, судьба, память... / С. В. Антонович. — Минск, 2011.

*Басаў, А. Н.* Флагі Беларусі ўчора і сёння / А. Н. Басаў, І. М. Куркоў. — Мінск, 1994.

Беларусь : выбор пути. Национальный отчёт о человеческом развитии, 2000. — Минск, 2000.

Беларусь на мяжы тысячагоддзяў. — Мінск, 2000.

Беларусь : Народ. Государство. Время / редкол.: А. А. Каваленя [и др.]. — Минск, 2009.

Беларусы : Этнагеаграфія, дэмаграфія, дыяспара, канфесіі : атлас. — Мінск, 1996.

Беларусы : Сучасныя этнакультурныя працэсы / Г. І. Каспяровіч [і інш.] ; рэдкал. : А. І. Лакотка [і інш.]. — Мінск, 2009.

*Бригадин, П. И.* История Беларуси в контексте европейской истории : курс лекций / П. И. Бригадин. — Минск, 2007.

*Василевич, Г. А.* Белорусское государство на рубеже веков / Г. А. Василевич. — Минск, 2006.

*Верашчагіна, А. У.* Гісторыя канфесій на Беларусі ў другой палове XX стагоддзя / А. У. Верашчагіна, А. В. Гурко. — Мінск, 1999.

*Вішнеўскі, А. Ф.* Гісторыя дзяржавы і права Беларусі ў дакументах і матэрыялах. (Са старажытных часоў да нашых дзён) : вучэб. дапам. / А. Ф. Вішнеўскі, Я. А. Юхо / пад агул. рэд. праф. А. Ф. Вішнеўскага. — 2-е выд., дап. — Мінск, 2003.

Герб и флаг белорусской державы / сост. Э. М. Скобелев. — Минск, 1997.

Гістарычны шлях беларускай нацыі і дзяржавы / М. Біч, Р. Гарэцкі, У. Конан [і інш.]. — Мінск, 2007.

Гісторыя Беларусі XIX — пачатак XXI ст. / пад рэд. Я. К. Новіка. — Мінск, 2009.

Гісторыя Беларусі : у 6 т. / Л. Лыч [і інш.] ; рэдкал. : М. Касцюк [і інш.]. — Т. 6 : Беларусь у 1946—2009 гг. — Мінск, 2011.

Гісторыя Беларусі : канец XVIII ст. — 2002 г. : хрэстаматыя; 11 кл. / аўт.-склад. Я. К. Новік [і інш.] ; пад рэд. Я. К. Новіка. — Мінск, 2003.

Гісторыя Беларусі найноўшага часу ў дакументах і матэрыялах : хрэстаматыя / навук. рэд. А. Смалянчук. — Вільня, 2008.

Гісторыя беларускай дзяржаўнасці ў канцы XVIII — пачатку XXI ст. : у 2 кн. / А. А. Каваленя [і інш.] ; рэдкал. : А. А. Каваленя [і інш.]. — Мінск, 2011, 2012.

*Гусаков, В. Г.* Размышления о деревне, судьбах крестьянства и предпринимательства, перспективах развития белорусского сельского хозяйства / В. Г. Гусаков. — Минск, 2010.

250 асоб з Беларусі ў дыялогах культур. — Мінск, 2008.

Декларация тысячелетия. Организация Объединенных Наций. — Минск, 2000.

*Дробов, Л. Н.* Живопись Советской Белоруссии (1917—1975 гг.) / Л. Н. Дробов. — Минск, 1979.

*Зенькович, Н. А.* Чья Белоруссия? Границы. Споры. Обиды / Н. А. Зенькович. — М., 2002.

Иллюстрированная хронология истории Беларуси : С древности и до наших дней. — 3-е изд. — Минск, 2002.

*Иоффе, Э. Г.* Нобелевские лауреаты с белорусскими корнями / Э. Г. Иоффе, Ж. Э. Мазец. — Минск, 2008.

*Иоффе, Э. Г.* От Мясникова до Малофеева. Кто руководил БССР / Э. Г. Иоффе. — Минск, 2008.

История Беларуси (октябрь 1917 г. — начало XXI в.) / под ред. Я. И. Трещенка. — Минск, 2009.

История Беларуси в документах и материалах / авт.-сост. И. Н. Кузнецов, В. Г. Мазец. — Минск, 2000.

История Белорусской ССР. — Минск, 1977.

*Казлоў, Л.,* Беларусь на сямі рубяжах / Л. Казлоў, А. Цітоў. — Мінск, 1993.

*Касцюк, М. П.* Бальшавіцкая сістэма ўлады на Беларусі / М. П. Касцюк. — Мінск, 2000.

*Кравченко, П.* Беларусь на распутье. Записки дипломата и политика / П. Кравченко. — М., 2006.

*Костюк, М. П.* Социалистические ценности тружеников села : история, современность, перспективы / М. П. Костюк. — Минск, 1989.

*Круталевич, В. А.* На путях национального самоопределения : БНР — БССР — РБ / В. А. Круталевич. — Минск, 1995.

*Кузнецов, И. Н.* История государства и права Беларуси / И. Н. Кузнецов, В. А. Шелкопляс. — Минск, 1999.

Купала і Колас, вы нас гадавалі. Дакументы і матэрыялы : у 2 кн. / уклад. В. Селямнёў, В. Скалабан. — Кн. 2. Ч. 1 : 1939—2009. — Мінск, 2011.

*Лінднэр, Р.* Гісторыкі і ўлада : нацыятворчы працэс і гістарычная палітыка ў Беларусі XIX—XX стст. / Р. Лінднэр. — СПб, 2005.

*Лыч, Л.* Гісторыя культуры Беларусі / Л. Лыч. — Мінск, 2008.

*Марцелев, С. В.* К духовному расцвету : Исторический опыт развития белорусской советской культуры / С. В. Марцелев. — Минск, 1974.

*Медведев, Р.* Александр Лукашенко. Контуры белорусской модели / Р. Медведев. — М., 2010.

*Мельник, В. А.* Государственная идеология Республики Беларусь. Концептуальные основы / В. А. Мельник. — Минск, 2007.

*Мельник, В. А.* Основы идеологии белорусского государства / В. А. Мельник. — Минск, 2011.

«...Міласці Вашай просім», альбо Адзін год у навейшай гісторыі Беларусі, адлюстраваны ў лістах, заявах, скаргах і іншых формах звароту грамадзян : зборнік дакументаў / уклад. А. А. Гужалоўскі. — Мінск, 2006.

*Мяснікоў, А. Ф.* Сто асоб беларускай гісторыі : гістарычныя партрэты / А. Ф. Мяснікоў. — Мінск, 2008.

Мы — беларусы / уклад. Т. М. Бондар. — Мінск, 2003.

Нарыс гісторыі беларускай дзяржаўнасці : XX стагоддзе / М. П. Касцюк [і інш.]. — Мінск, 2008.

*Никитенко, П. Г.* Модель устойчивого социально-экономического развития Беларуси : проблемы формирования и эволюции / П. Г. Никитенко. — Минск, 2000.

Памяць : Гісторыка-дакументальныя хронікі гарадоў і раёнаў Беларусі. — Мінск, 1985—2004.

*Парашкоў, С. А.* Гісторыя культуры Беларусі / С. А. Парашкоў. — 2-е выд. — Мінск, 2004.

*Паречина, С. Г.* Концептуальные основы идеологии белорусского государства / С. Г. Паречина. — Минск, 2006.

Праздники и обряды в Белорусской ССР. — Минск, 1988.

*Пташук, М. Н.* Исповедь кинорежиссера : сценарий художественного фильма. Публикации. Воспоминания / М. Н. Пташук. — Минск, 2004.

*Савік, Л.* Космас беларуса : жыццяпіс Б. Кіта, асветніка, вучонага, патрыёта / Л. Савік. — Мінск, 1996.

*Сакович, В. С.* Сельское хозяйство Республики Беларусь в 1980—2007 гг. : тенденции развития / В. С. Сакович. — Минск, 2008.

*Сарокін, А. М.* На ростанях айчыннай гісторыі. Беларуская вёска : ад Дэкрэта да Кодэкса аб зямлі (1917—1990-я гады) / А. М. Сарокін. — Мінск, 1999.

*Сарокін, А. М.* Покліч роднай зямлі. Канстытуцыі Беларусі Савецкай эпохі / А. М. Сарокін. — Мінск, 2010.

*Сачанка, Б. І.* Беларуская эміграцыя / Б. І. Сачанка. — 2-е выд. — Мінск, 1991.

*Слука, А. Г.* Нацыянальная ідэя / А. Г. Слука. — Мінск, 2008.

*Снапкоўскі, У. Е.* Гісторыя знешняй палітыкі Беларусі : вучэб. дапам. : у 2 ч. / У. Е. Снапкоўскі. — Мінск, 2004.

*Снопковский, В. Е.* Белорусская ССР в ООН (1945—1985 гг.) / В. Е. Снопковский. — Минск, 1985.

Современная Беларусь : энциклопедический справочник : в 3 т. — Минск, 2006—2007.

*Фамін, В. М.* Гісторыя Беларусі : другая палова 1940-х гг. — пачатак XXI ст., 11 кл. : хрэстаматыя / В. М. Фамін, С. В. Паноў, Т. Ходзіна. — Мінск, 2009.

Хрестоматия по истории БССР (1917—1983) ; сост. А. П. Игнатенко [и др.]. — Минск, 1984.

Хрестоматия по истории БССР / сост. И. Е. Марченко ; под ред. И. С. Кравченко. — Ч. 2. — Минск, 1988.

Хрестоматия по истории Беларуси : в 2 ч. / сост. Я. И. Трещенок [и др.] ; под науч. ред. Я. И. Трещенка, М. И. Старовойтова. — Ч. 2. — Кн. 1 : 1917—1945 гг. — Минск, 2012.

Хрестоматия по истории Беларуси : в 2 ч. / сост. Я. И. Трещенок [и др.] ; под науч ред. А. А. Воробьева, Н. М. Пурышевой. — Ч. 2. — Кн. 2 : 1946 г. — начало XXI века. — Минск, 2012.

*Чигринов, П. И.* Очерки истории Беларуси / П. И. Чигринов. — Минск, 2006.

Ці ведаеце Вы гісторыю сваёй краіны? — Мінск, 1998.

*Цітоў, А. К.* Геральдыка Беларусі (ад пачаткаў — да канца XX стагоддзя) / А. К. Цітоў. — Мінск, 2007.

*Шалькевіч, В. Ф.* Гісторыя палітычнай і прававой думкі Беларусі / В. Ф. Шалькевіч. — Мінск, 2002.

*Шевцов, Ю.* Объединенная нация. Феномен Беларуси / Ю. Шевцов. — М., 2005.

*Шыдлоўскі, В.* Рысы майго пакалення / В. Шыдлоўскі. — Мінск, 2001.

*Шынкароў, В. В.* Беларускі палітычны слоўнік / В. В. Шынкароў, С. П. Раманава. — Мінск, 2011.

Энцыклапедыя гісторыі Беларусі : у 6 т. — Мінск, 1993—2003.

## Інтэрнэт-рэсурсы

| Назва партала, сайта | Электронны адрас |
|---|---|
| Афіцыйны інтэрнэт-партал Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь | http://president.gov.by |
| Інстытут гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі | http://history.by |
| Нацыянальная бібліятэка Беларусі | http://nlb.by |
| Цэнтральная навуковая бібліятэка імя Я. Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі | http://csl.bas-net.by |
| Архівы Беларусі | http://archives.gov.by |
| Асацыяцыя «Гісторыя і камп'ютар» | http://dcn-asu/internet/index.shtml |
| Віртуальны курс лекцый па гісторыі Беларусі | http://belarusianhistory.narod.ru |
| Беларускі гістарычны агляд | http://gw.lingvo.minsk.by |
| Часопіс «Беларуская думка» | http://beldumka.belta.by |
| Беларускі гістарычны часопіс | http://aiv.by |
| Часопіс «Гісторыя і грамадазнаўства» | http://aiv.by |
| Беларускі краявід | http://kraj.org |
| Беларусіка-Albaruthenica | http://gw.lingvo.minsk.by/mab/@book/index.htm |
| Гісторыя Беларусі. Асобы | http://tbm.org.by |
| Гісторыя Беларусі | http://albaruthenia.by |
| Міжнароднае грамадскае згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына» | http://zbsb.org |
| Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі | http://niab.belhost.by |
| Нацыянальны мастацкі музей Беларусі | http://museum.bsu.by |

# ЗМЕСТ

Вучэбнае выданне

**Фамін** Віталій Міхайлавіч
**Паноў** Сяргей Веніямінавіч
**Ганушчанка** Надзея Мікалаеўна

**ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ**
**другая палова 1940-х гг. — пачатак XXI ст.**

Вучэбны дапаможнік для 11 класа
ўстаноў агульнай сярэдняй адукацыі
з беларускай мовай навучання

Нач. рэдакцыйна-выдавецкага аддзела *Г. І. Бандарэнка*
Рэдактар *Л. Б. Сопат*
Мастацкія рэдактары *А. Г. Званароў, І. А. Усенка*
Вокладка мастака *І. А. Усенка*
Карэктары *К. В. Шобік, Н. І. Пархун, Н. М. Мамчыц*

Падпісана ў друк 19.06.2013. Фармат 70×90/16. Папера афсетная. Друк афсетны.
Ум. друк. арк. 16,97. Ул.-выд. арк. 13,86. Тыраж 22 700 экз. Заказ 1394

Навукова-метадычная ўстанова «Нацыянальны інстытут адукацыі»
Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь. ЛИ № 02330/0494469 ад 08.04.2009.
Вул. Караля, 16, 220004, г. Мінск

ААТ «Паліграфкамбінат імя Якуба Коласа». ЛП № 02330/0150496 ад 11.03.2009.
Вул. Каржанеўскага, 20, 220024, г. Мінск

(Назва і нумар установы агульнай сярэдняй адукацыі)

| Навучальны год | Імя і прозвішча вучня | Стан вучэбнага дапаможніка пры атрыманні | Адзнака вучню за карыстанне вучэбным дапаможнікам |
|---|---|---|---|
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |